# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

**3**

**(700) САКАВІК, 2012**

**Выдаецца з 1953 года**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 21 880 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 12030 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 27 680 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 8470 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся ДРОБАВА*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 12.03.2012. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,17. Тыраж 2466 экз. Заказ 681. Кошт нумара ў розніцу 12 300 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

*Аксана ЮЧКАВІЧ*

# «СУСТРЭЧА? СПАТКАННЕ!»

## СОН

Блукаю.
Там, дзе зямля развітваецца з днём,
Праводзячы сонца да сну,
Блукаю,
Дзе вецер пралятае хутчэй, чым заўсёды,
Бо менш яму там перашкод.
Блукаю,
Дзе магу верыць у аздараўленне вар'ятаў
Ці адкрыццё светам святых.
Блукаю.
І не хачу не блукаць,
Бо, блукаючы, шмат разважаю,
А развагі, як дурнап'ян
ці сон прыгожы,
Зацягваюць у небыццё.
Блукаю.
Закалыхваюся спевам сірэн.
Небяспека!
Трэба спыніцца.
І сонца ўжо казыча
сваімі прамянямі…
Ранак.

* * *

— Сустрэча?
— Спатканне.
— Прамова?
— Прызнанне.
— Твой позірк —
Світанне.
Твой голас —
Спяванне.
— Сустрэча?
— Спатканне.
З табою
Да рання!



***Аксана Ючкавіч нарадзілася ў 1989 годзе ў в. Параф'янава Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. У 2007 годзе паступіла ў БДУ на філалагічны факультэт, спецыяльнасць «Беларуская філалогія». На сённяшні дзень — студэнтка 5 курса. Друкавалася ў часопісе «Ave Maria».***

— Сустрэча?
— Спатканне
І радасць
Вітання
Ў наступныя
дні:
Спаткання,
Сустрэч
і нашай з табой цішыні
у нашыя светлыя дні…
— Сустрэча?
— Спатканне!
Навекі
каханне…

* * *

Зморшчыны
На твары старой і старога.
На вялай картоплі
і моркве,
на плашчыку Ягора малога
і чырвонай жаночай сукні.
Зморшчыны на лістах,
на руках, што вецер пакалечыў,
ля вачэй, якіх смех ці грэх
ці моцна, ці крыху
адмеціў.
Зморшчыны
І бачныя, і схаваныя,
і тугою на сэрцы створаныя.

## ТРЭБА ЗАСЛУЖЫЦЬ АГОНЬ

Папугая трэба было заслужыць,
Потым трэба было заслужыць котку,
Потым — лыжы пад ёлку
І новыя фарбы.
Скураныя боты на абцасах
І туфлі на абцасах.
Белыя красоўкі на высокай платформе,
І паездку ў летнік —
Усё заслужыць.
Гэта ў бацькоў заслужыць трэба было.
Прынамсі, так яны казалі.
Так ужо яны выхоўваць вырашылі.

І заслужыла.
І шчаслівая была.

У Бога таксама трэба заслужыць,
каб быць гатовым на новы падарунак,
каб прыняць яго з усёй адказнасцю.
Трэба было заслужыць агонь — прайсці этап удасканалення сябе.
І так было.
Аб чым просіш у Бога,
тое мусіш заслужыць.
Заслужыць — вельмі добра падрыхтавацца да прыняцця.
І толькі тады атрымаеш.
Бог павінен быць упэўнены, што з Яго падарункам не загубіш ані сябе, ані падарунак.
(А то дай дзіцяці агонь, і яно параніць рукі свае! А ты ж ужо прыгатуеш ежы,
абагрэеш жытло і будзеш пры агні спяваць песні і славіць Бога, абагаўляючы
свет, жыццё, каханне, веру — усё…)
І шчаслівым будзеш.

* * *

Ёсць прарокі.
Ёсць прадказальнікі.
Ёсць розныя вешчуны і ясназорцы.
А яшчэ ёсць тыя,
хто верыць.
І па веры іхняй
Ім даецца.

* * *

Пішу ліст да Бога, бо яго не трэба дасылаць.
Пішу верш Богу, бо яго не трэба друкаваць.
Пішу заўвагу Богу, бо яе не мушу выказваць.
Пішу прызнанне ў любові таксама Богу, бо не трэба чырванець.
Пішу шмат Богу, бо такім чынам не губляю час, які б аддала на наведванне
бацькоў, хворай суседкі, сяброўкі, брата, які запрасіў на піцу.
І падумалася: я пішу і занята, бо пішу Богу, а Бог мне ціха шэпча:
— Мне не патрэбна твая пісаніна, я стварыў цябе для жыцця, для іншых людзей.
Пішы пра іх і ім,
Пішы пра сваю радасць і горыч,
Дзяліся не са мной, а з людзьмі…

*Віталь БЫЛЬ*

*Апавяданні*

# КАНТРАКТ



***Віталь Быль нарадзіўся ў 1989 годзе ў Нясвіжы. Вучыцца на гістарычным факультэце БДУ. Друкаваўся ў раённай прэсе, зборніках раённага літаб'яднання «Валошкі» і мінскага абласнога літаб'яднання «Жывіца». Быў у ліку пераможцаў конкурсу «Слова Купалы да творчасці кліча» (2007).***

Вялізны рыжы кот ляніва вылізваў тоўстую мяккую лапу і, прыжмурыўшы вочы, мроіў пра міленькую беленькую котку з рэкламы кацінага корму, калі доктар Уільям Д. Рэмбальд тэхаскім тарнада ўварваўся ў сваю маленькую кватэрку на дваццаць трэцім паверсе гмаху тыповай гарадской забудовы. Шпульнуўшы партфелем у спалоханага ката, ён рэзкім нервовым рухам скінуў пакамечаны пінжак, паслабіў гальштук і з нагамі паваліўся на канапу, але доўга не праляжаў. Усхапіўшыся, забегаў па пакоі, ад сцяны да акна і назад. Кот, прыціснуўшы вушы, з высокай шафы падазрона пазіраў на гаспадара.

— Якое нахабства! — бушаваў той. — Не, яны сапраўдныя крэтыны! Нахабныя сквапныя крэтыны!

Рэмбальд спыніўся ля шафы.

— Ведаеш, — звярнуўся ён да ката, — тыя хлопцы поўныя алігафрэны. Здагадайся, што яны мне прапанавалі за мае геніяльныя распрацоўкі? Месца тэхнічнага дырэктара праекта!

Кату, відаць, не былі навінай такія размовы. Ён ужо супакоіўся і працягваў перарваную працэдуру.

— Але ж гэта прарыў! — працягваў вучоны. — Рэвалюцыя ў біятэхналогіі! Ды японцы не пашкадуюць і дзесяці мільярдаў за гэты цуд!

Кот не пярэчыў і толькі старанна цёр лапаю хітрую вусатую пыску.

— Не, патрыятызм у наш час — рэч нявыгадная, — зазначыў вынаходнік, адчуваючы, як на змену крыўдзе і абурэнню прыходзіць жаданне плюнуць на ўсё, заваліцца з бутэлькай халоднага піва на канапу ды пастрыкаць пультам па каналах.

— Кот, есці хочаш? — Рэмбальд пасунуўся на кухню, дастаў з лядоўні некалькі запацелых бутэлек піва (напояў у бляшанках ён чамусьці прынцыпова не прызнаваў). Як толькі грукнула дзверца лядоўні, пад нагамі адразу з'явіўся кот, аддана зазіраючы ў вочы.

— Не падлізвайся, я цябе карміў у полудзень, а корм, хлопча, дарагі, — пачаў было Уільям, але махнуў рукою: — На ўжо, еш. Цяпер мы будзем снедаць, абедаць і вячэраць на золаце! Япошкі добра заплацяць, гэта я табе гарантую…

Кот захрумсцеў кормам, а Уільям з бутэлькамі рушыў у пакой да жаданай канапы.

Але ўжо на парозе ён раптам спыніўся.

— Якога чорта! Я ж замкнуў дзверы! — здзіўлена мармытнуў, а ўголас прамовіў: — Містэр… як вас там, як вы тут апынуліся і што, чорт вазьмі, забыліся ў маёй кватэры?

У мяккім фатэле ля сцяны сядзеў невядомы. Ён, дарма што спёка і непрацоўны час, быў апрануты ў строгі чорны касцюм, пры такім жа строгім гальштуку і бялюткай кашулі. Уільяма моцна бянтэжылі яго цёмныя акуляры, якіх той не зняў нават у памяшканні, і чорныя скураныя пальчаткі. На з’яўленне гаспадара госць, здавалася, ніяк не адрэагаваў.

— У вас ёсць ордэр? — ужо не так рэзка пацікавіўся Рэмбальд, якому раптам цюкнула ў галаву: а ці не з ФБР ён, гэты піжон?

— Я не з ФБР, — рыпуча выгукнуў госць, ад чаго Рэмбальд уздрыгнуў. — Сядайце, нам трэба пагутарыць.

Уільям апусціўся на краёчак фатэля. Госць маўчаў, маўчаў і гаспадар.

— Мы даўно назіраем за вамі і вашымі распрацоўкамі, — нарэшце загаварыў чалавек у чорным, і Уільям ізноў уздрыгнуў. — Віншую вас, містэр Рэмбальд, вы далёка сягнулі ў сваёй дзейнасці. Нават вельмі далёка…

— Дзякую, — адказаў вучоны, адчуваючы, як уздоўж хрыбціны выступілі халодныя кропелькі поту. «Усё ясна — гэта рускія! Цяпер будзе схіляць да супрацоўніцтва, а потым дасць па галаве — і ачуняю я ў Сібіры…»

— Выбачайце, — прамовіў ён услых, намагаючыся гаварыць як мага цвярдзей, — але вы не назваліліся…

— Я вас супакою, — перабіў незнаёмы. — Масква, Пекін, Тэль-Авіў ды іншая экзотыка тут ні прычым. Давайце лепш пагаворым пра справы.

— Якія справы? — Рэмбальд ніяк не мог сабрацца з думкамі, якія разбрыдаліся ў розныя бакі.

— Мы з вамі разумныя дарослыя людзі. І вы, і мы ведаем вартасць вашых даследаванняў. У нас ёсць слушная прапанова…

Чалавек у чорным палез у кішэню пінжака і дастаў чэкавую кніжку.

— Вы хочаце купіць мае вынаходніцтвы? — спытаў вучоны.

— Не зусім. Вы цяпер называеце любую суму…

— Якую захачу? — недаверліва перабіў Рэмбальд.

— Але, якую ўпадабаеце. Хоць самую неверагодную. І за гэта знішчыце ўсе дакументы, файлы, праекты, доследныя ўзоры, абсталяванне — усё, што неяк звязана з вашымі распрацоўкамі. А затым доктар Уільям Д. Рэмбальд без следу знікае. З’яўляецца яшчэ адзін мільярдэр. Скажам, Джон Сміт ці як вам больш даспадобы… Далей вы зусім вольныя. Толькі адна ўмова: ніколі не будзеце займацца навукай. Што скажаце?

Рэмбальд нічога не адказаў. У гэты момант ён быў падобны да сектанта-фанатыка, якому сказалі, што Бога няма. Нарэшце ён выціснуў:

— В-вы г-гэта с-с-сур’ёзна?!

— Абсалютна. Які будзе ваш адказ?

— Мой адказ? Мой адказ будзе адмоўны! — ачуняўшы ад неспадзеўкі, гыркнуў Рэмбальд. — Пусціць кату пад хвост дзесяць гадоў напружанай працы?! Не, не працы — жыцця! Забіць сваё адзінае захапленне?! — ён ускочыў і забегаў па пакоі. — Не, лепш ужо да тоўстага Хітча тэхнічным дырэктарам!

— Дык значыць, вы адмаўляецеся, падумайце, за *любую* ўзнагароду выканаць нашы ўмовы?

Замест адказу раз'юшаны вучоны сунуў адтапыраны сярэдні палец чалавеку ў фатэлі проста ў твар. Госць крыху збялеў, падціснуў вусны.

— Ну, калі так катэгарычна, — працадзіў ён, — то раскрыем карты…

Незнаёмы рэзкім рухам зняў цёмныя акуляры. На аслупянелага Рэмбальда пазіралі малочна-белыя вочы з вузкімі вертыкальнымі, як у ката ці ў змяі, шчылінкамі-зрэнкамі.

— Вы, людзі, робіце поспехі, — ледзяным голасам з нейкім нязвыклым акцэнтам прагаварыла істота ў чорным касцюме. — Нам усё цяжэй вас кантраляваць. Ты — пагроза для ўсёй нашай сістэмы бяспекі.

— Хто гэта — «вы»? — спытаў Рэмбальд, адступаючы пад пранізлівым позіркам нечалавечых вачэй.

— Мы — Назіральнікі. Мы кантралюем вашу зямную цывілізацыю, каб вы не дасягнулі ўзроўню, небяспечнага для Хаўрусу Сямі. Так атрымалася, што вамі, мой дарагі Рэмбальд, зацікавіўся наш аддзел, бо вы далёка прасунуліся ў дзейнасці. Нават вельмі далёка…

— Што за Хаўрус Сямі? І навошта вы мне гэта распавядаеце? — Уільям упёрся спінай у сцяну, больш адступаць не было куды. А кляты незнаёмец усё бліжэй…

— Навошта распавядаю? Звычайна ў нябожчыкаў перад смерцю прарэзваецца такая цікаўнасць! Думаю, док, вы не будзеце выключэннем.

— Як гэта — выключэннем? Ш-што ўсё гэта значыць? — голас здрадзіў Рэмбальду, прагучала толькі здушанае сіпенне.

— Гэта значыць, што вядомы вучоны, шаноўны доктар Уільям Д. Рэмбальд заўтра не з'явіцца на працы, — з лёгкай усмешкай гаварыў госць. — Вашы супрацоўнікі патэлефануюць спачатку на хатні тэлефон, потым на мабільны, але трубку ніхто не возьме. А вечарам да вас заедзе ваш асістэнт (дарэчы, здольны і адданы хлопец, дарма вы яго не заўважалі!) і знойдзе шаноўнага доктара Уільяма Д. Рэмбальда ў пятлі з уласнага гальштука на трубе ацяплення. Вось тут, — ён балюча тыцнуў Рэмбальду ў грудзіну зацягнутым у чорную скуру пальцам, — будзе прышчэплена цыдулка: прашу вінаваціць у маёй смерці старога скнару Хітча, які не ацаніў геніяльнага вучонага, тытана думкі нашага часу, і далей у гэтым жа стылі.

— Я… я не хачу! — крыкнуў Рэмбальд, выслізгваючы па сцяне ад госця, што падышоў упрытык. — Я не дазволю! Я — свабодны грамадзянін Злучаных Штатаў Амерыкі!..

Маланкаю вучоны кінуўся да пісьмовага стала. Там, у ніжняй шуфлядзе, ужо колькі гадоў ляжаў стары добры паліцэйскі «кольт». На падлогу паляцелі спісаныя лісты паперы, старыя блакноты, канверты, часопісы…

Незнаёмец д'ябальскі рагатнуў.

— Мой дарагі Уільям, вы часам не гэта згубілі? — насмешліва крывячы вусны, прамовіў ён і далікатна, двума пальчыкамі, выцягнуў з-пад пінжака рэвальвер — яго, Рэмбальда, стары добры паліцэйскі «кольт» з ніжняй шуфляды! — Падазраю, ён вам больш не спатрэбіцца…

Рэвальвер пераляцеў цераз пакой, грукнуўся аб сцяну і ўпаў за канапу.

— Ведаеце, вы вельмі жвавы нябожчык! — пахваліў вучонага госць. — Але трэба брацца за справу, мяне чакаюць.

Госць сцягнуў з левай рукі чорную пальчатку. У Рэмбальда падкасіліся ногі, яму давялося абаперціся аб стол: пад пальчаткай была вузкая металёвая далонь

з тонкімі, доўгімі і бліскучымі пальцамі. Незнаёмы неяк задумліва, як хірург ці піяніст, паварушыў імі ў паветры, сагнуў і разагнуў па адным. Рэмбальд столькі разоў бачыў гэты жэст у танных трылерах, якімі, бывала, так захапляўся ў студэнцкія гады. Любіў ён некалі паказытаць нервы… Але цяпер аніяк не перамкнуць на іншы канал.

Чалавек у чорным нарэшце адарваўся ад сузірання дзейнасці сваёй механічнай кісці, шчыліны-зрэнкі зірнулі на скамянелага вучонага. Нешта меладычна дзынькнула, і з мезенца выскачыла тоненькая вострая іголачка.

— Зробім укольчык, і ты выканаеш усё, што трэба. Сам, без усялякага гвалту. Мы — гуманісты, мы прынцыпова супраць гвалту, — супакоіў чорны госць. Убачыўшы, як здрыгануўся Рэмбальд, ён ласкава дадаў: — Не бойся, абяцаю, што балюча не будзе. А цяпер дай левую руку. Калоць лепш за ўсё ў вену…

Рэмбальд рукі не даў. Залямантаваўшы, ён перакуліў на прышэльца цяжкі пісьмовы стол і рынуўся прэч з кватэры…

* * *

Зазвінеў тэлефон. Мільярдэр і сенатар ад штата Нью-Джэрсі, глыбокапаважаны містэр Хітч, які бесперапынна выціраў пот з ружовай лысіны, адразу пацягнуўся да апарата, але Корбэт спыніў яго. Тэлефон працягваў тоненька звінець. Пасля шостага званка Корбэт нарэшце падняў трубку.

— Ало!.. А, гэта вы, містэр Рэмбальд?.. Што? Вы згодны на нашы ўмовы? Але ж яшчэ гадзін шэсць таму вы не… Добра-добра, забудземся на старое… Значыць, вы гатовы перадаць нам усе вашы распрацоўкі?! Цудоўна, містэр Рэмбальд, цудоўна!.. Ахову? Я вас зразумеў: неадкладна ўзяць пад пільную ахову вашы лабараторыі. Але навошта?.. Добра, містэр Рэмбальд, усё будзе зроблена, як вы просіце. Заўтра падпішам паперы… Сёння? Але ўжо позна!.. Добра, добра, досыць, не трэба так хвалявацца… Што? Прыслаць машыну? А што з вашай? Ну-ну, супакойцеся. Дзе вы? Тэлефонная будка каля цэнтральнага паштамта? Ну, не развітваемся!

Трубка звонка лягла на месца. Корбэт адкінуўся на спінку крэсла і гучна, уздрыгваючы сухім хударлявым целам, ад душы зарагатаў. Рагатаў ён доўга, не гледзячы на містэра Хітча, які, забыўшыся на сваю звычайную суровасць і мільярдэрскую паважнасць, соўгаўся на месцы і часта выціраў бялюткай хусцінкай лысую галаву і твар.

— Што ён сказаў? — тармасіў Хітч свайго менеджара. — Ён згодны? На якіх умовах?

— Наш бедненькі Білі, — прамовіў, выціраючы слёзы, Корбэт, — цяпер у такім стане, што падпіша ўсё, што ні падсунеш. Вы ўжо збіраліся за яго тэхналогіі добра патрэсці свой партманет. А спатрэбілася ўсяго нічога: крыху вынаходлівасці і фантазіі, крыху спецэфектаў і адзін-адзінюткі таленавіты акцёр!

Яны супакоіліся, пазіралі праз велізарнае акно на сонца, якое агромністым барвовым НЛА хілілася да акіяна.

— Паслухайце, Корбэт, — задумліва прагаварыў містэр Хітч, — вы не ўяўляеце, як мяне ўразілі! Як жа вы ўсё гэта прыдумалі і арганізавалі?

— Хай гэта застанецца маім сакрэтам, — адгукнуўся Корбэт, пацягнуўшыся і неяк металёва хрумснуўшы суставамі.

# НЯБОЖЧЫК

Быць нябожчыкам мне спадабалася. Ляжыш сабе, агорнуты цішынёю і спакоем. Ніякай табе зямной мітусні: ані курсаў акцый, ані сваякоў — блізкіх і не вельмі, — ані футраў для жонкі, брыльянтаў для каханкі, ані язвы страўніка, гемарою… Душа сама сабою напаўняецца святлом і дабрынёю, а думкі ўзносяцца да аблачын, да анёлаў ды іншых з'яў свету вышняга. Дзіўлюся, чаму людзі так неахвотна кладуцца ў дамавіны! Відаць, тыя, хто гэта нарэшце спасціг, не могуць — ну аніяк! — падзяліцца сваім досведам з астатнімі?

Як бы там ні было, але быць нябожчыкам мне падабалася. Можа, справа тут яшчэ і ў тым, што труну я мог сабе прыдбаць найвышэйшага кшталту: прасторную, утульную, абабітую пяшчотна-мяккім зялёным аксамітам. Труна мусіць быць камфортней за кабінет, як добры аўтамабіль: салон, абрысы радуюць вока, а кожны, хто зірне, адразу разумее, з кім мае справу. Дык чаму не дазволіць сабе маленькай радасці — выправіцца на той свет не абы-як, а з шыкам?

Быў яшчэ адзін момант, які дазваляў мне зведваць асалоду. Рэдкі мярцвяк можа пахваліцца, што ён апоўначы пакіне магілу, жывы і здаровы, поўны энергіі, заявіцца на ўласнае пахаванне. А я магу. Не, я не вядзьмак, не зомбі, не вампір, хоць у жыцці чуў пра сябе і не такое. Я — звычайны рускі алігарх сярэдняй рукі...

Няважна, што ты алігарх ці міністр, слесар з завода падшыпнікаў, ці хоць наскрозь праспіртаваны сантэхнік, але дзень гэты настане. Рана ці позна. Расплюшчыш вочы на сваім металёвым ложку ці ў двухспальным ложку ў стылі Людовіка XIV, расплюшчыш... і раптам зразумееш: вакол адны падонкі. Жонка толькі лічыць твае грошы і дні да тваёй смерці. Каханкам даўно абрыдла тваё тоўстае цела. Праца — пераліванне з пустога ў парожняе, а адпачынак — з парожняга ў пустое. Ты сам ужо старая ламачына, якая цяжка, адышліва перакочваецца з месца на месца. А адным сонечным ранкам прыйдзе нехта, падчэпіць цябе на вілы, як калгаснік пласт конскага гною, і закіне ў яміну пад вялікім каменем з тваім партрэтам…

Апошні вобраз мне тады асабліва спадабаўся і не выходзіў з галавы цэлы дзень. Ад яго патыхала маім калгасным дзяцінствам, вясновым чарназёмам, зялёным спакоем сельскіх кладоў з невялікай драўлянай цэркаўкай. Я нават не ўтрымаўся і ў канцы дня распавёў усё гэта Эдзіку, свайму сакратару, дарадцу і наогул, сваёй правай руцэ ва ўсіх справах.

Эдзік усё ўважліва выслухаў.

— Іван Барысавіч, — сказаў ён сваім мяккім, але пругкім голасам, — я ведаю, што вам цяжка, але гэта ўсяго толькі невялікі прыступ дэпрэсіі. У вашыя гады гэта не дзіўна.

— Вось толькі не трэба адпраўляць мяне да псіхолагаў-псіхіятраў! Дармаеды яны і шарлатаны! Адно што ўмеюць языком мянціць. Можа, якім амерыкосам гэта і дапамагае, але што іх навука для нашай славянскай душы!

— Так, Іван Барысавіч, вы як заўсёды маеце рацыю, — пагадзіўся Эдзік і асцярожна прапанаваў: — Славянскай душы трэба размах, прастор. Дык, можа, Іван Барысавіч, махнуць вам на прыроду…

— Ага, лазня, самагонка, дзяўчаткі… — я грэбліва скрывіўся. — Ведаў бы ты, як гэта мне абрыдла! Мінула ўжо тая пара.

Эдзік задумаўся, бязгучна барабанячы пальцамі па люстранай паверхні стала.

— Як гэта ўсё мне абрыдла, — горка працягваў я. — Быў малады — не задумваўся: бачыў мэты, ведаў, чаго хачу, біўся, як мог і нават болей. А цяпер… Цяпер, здаецца, ёсць усё, да чаго так ірваўся, а паглядзі ж ты… Хоць бяры ды ў труну кладзіся.

Раптам я зразумеў, што гэта і ёсць старэчае бурчанне. Сапраўды, застаецца толькі выбраць найхарашэйшую дамавіну, чмокнуць Клаву на развітанне і легчы, склаўшы рукі крыжам.

Твар Эдзіка раптам заззяў.

— Іван Барысавіч, а чаму б вам не паспрабаваць легчы ў труну, як той казаў, пахавацца?

— Гэта ў якім сэнсе? — насупіўся я. — У цябе чорны гумар такі? Ты ўсё ж памятай, з кім гаворыш! Жартаўнік, блін.

— Не-не, Іван Барысавіч, вы мяне не так зразумелі. Я чытаў, што за мяжой ёсць такая забаўка — уласнае пахаванне. Зразумела, не напраўду, але паводле ўсіх правіл: паніхіда, катафалк, нават у зямлю закопваюць. Кажуць, вельмі дапамагае пры розных дэпрэсіях. Падвышае жыццёвы тонус.

Да мяне пацiху пачало даходзіць.

— Дык выходзіць, што мяне адпяюць, закапаюць, нап’юцца на маіх памінках, а я р-раз — і жывей за ўсіх жывых? От будзе пацеха!

Эдзік хацеў нешта сказаць, але я з нечаканай жвавасцю аббег стол, аблапіў хлопца і расчулена абслініў яму шчокі.

— Я заўсёды ведаў, што ты, Эдзік, — галава! Нездарма ж я цябе прыгрэў ды выкарміў! Даручаю гэтую аперацыю табе.

— Будзе зроблена, Іван Барысавіч!

— Ідзі, Эдзік, працуй. Грошай бяры, колькі спатрэбіцца. Мы з табою пакажам гэтым падонкам, што мараць паскакаць на маёй магіле!

Праз тры тыдні ўсё было гатова. Відаць, Эдзіка, як і мяне самога, гэтая задумка захапіла, бо ён падрыхтаваў усё так старанна, як бадай, толькі мая жонка пра маё сапраўднае пахаванне магла парупіцца. Пра гэтую аперацыю (эрудыт Эдзік нават назву прыдумаў — «Лазар-2») ведалі толькі я і ён, каб загадзя не псаваць свята людзям.

І вось цёплым цёмным майскім вечарам «Ягуар» грамадзяніна Івана Барысавіча Плотнікава, простага рускага алігарха сярэдняй рукі, на хуткасці 120 кіламетраў у гадзіну змёў хісткую абгародку шашы і, перакуліўшыся разы з чатыры па камяністым абрыве, ляснуўся ў мутныя воды ракі. Ад сутыкнення з ракой машына загарэлася, ірвануў бензабак. Праз гэта рэшткі грамадзяніна Плотнікава, якія ўдалося пааддзіраць з яго ўлюбёнага «Ягуара», давялося хаваць у закрытай труне. Гэта не зусім адпавядае старадаўняй праваслаўнай традыцыі, але, спадзяюся, «госці» былі не супраць. Я ж, наадварот, мог вельмі добра разгледзець іх твары.

Але што за галава гэты мой Эдзік! Як уваскрэсну, абавязкова дам яму падвышку. Гэта ж трэба, як арганізаваў мой адыход з жыцця! А якая ў мяне труна! Прасторная, утульная, абабітая зялёным аксамітам. Нават нечым нагадвае мой «Ягуар», няхай яму будзе добра там, у машынным раі. Але галоўнае — хітрая сістэма вентыляцыі і запас кіслароду на 10 гадзін. Дарэчы, я магу назіраць за тым, што дзеецца звонку: у труну ўманціравана спецыяльная відэасістэма. Зручна

ўладкаваўшыся, я кірую сакрэтнымі апаратарамі з невялікімі патаемнымі камерамі, сігналы з якіх паступаюць на бартавы камп'ютар майго «зоркалёта». Ляжу сабе, перамыкаю з адной камеры на другую, нібы з канала на канал.

Асабліва цікава было на грамадзянскай паніхідзе. Такога шоу я яшчэ не бачыў.

Вось на дрыготкіх нагах падыходзіць самотная Клава, мая маладая жоначка — бялявая лялька, прыгожая і калючая, як дзікая котка. Падышла і паваліласа на дамавіну, заходзячыся ад несуцешнага гора. Актрыса! Яна, пэўна, шчаслівая — зэканоміла на кілеры для любага мужа. Стаць заможнай удавою ў трыццаць гадоў — пра што яшчэ марыць сучаснай жанчыне? Два лакея-целаахоўніка пачціва падымаюць яе, адводзяць убок. Набліжаю камеру. У зацішным куточку Клава ўжо спакойна папраўляе макіяж.

А вось і сынок мой адзіны, ад першай жонкі, Вадзік. Як яго выцягнулі з кембрыджскіх пабаў? Гэты нават для прыліку не пажадаў удаваць засмучанага. Абыякава падышоў, хутка схіліўся, цмокнуў бацькаў партрэт на вечцы труны і пайшоў сабе далей. Адбыў абавязак. Добра, хоць не пазяхаў, і на тым дзякуй. Выгадаваў сынка… Уваскрэсну — задам ім чосу, як мае быць!

Ахвочых развітацца з маім прахам набралася нямала. Браты-бізнесоўцы, прыкормленыя чыноўнікі і журналюгі… Нават некалькі акул шоу-бізнесу. Усе ў дарагіх строгіх касцюмах, жонкі ў футрах і брыльянтах, усе ўрачыста-жалобныя і паважна-жалобныя, як прынята на такіх мерапрыемствах. Цырымонна праходзяць ля маёй труны, потым выказваюць спачуванні ўдаве. А Клаўка стараецца. На Эдзіку павісла знясілена, як тое паліто.

Раптам на труну нешта навалілася. Ага! Дык гэта Васька Бугаёў, або проста Бугай! Сам, уласнай персонай, у малінавым пінжаку, увесь у золаце, на шыі ланцугі ў два пальцы таўшчынёй — сапраўдны ветэран бандыцкіх дзевяностых! Эх, колькі мы з ім спраў наварочалі! Ты, Васёк, адзіная фізіяномія, якой я тут рады! А той разваліўся на труне і п'яна раве: «Ванька, браток, што ж ты, у жмурыкі? Толькі скажы, хто цябе так — я ж яго, гніду, у бетон закатаю, як тады, памятаеш?! Ты куды?! Гэта не па-пацанску! Братка-а, а як жа я?» Слязьмі заліваецца, лапаю ў пярсцёнках дубасіць па дамавіне, аж тая хадуном ходзіць. Нарэшце хлапцы пачціва адвялі свайго шэфа ўбок, і сакратар, вельмі падобны да майго Эдзіка, падсунуў яму бутэльку элітнай гарэлкі, якую Васька ўмомант апаражніў.

Мой верны памочнік парупіўся, каб цырымонія не зацягвалася. Барадаты поп адпеў мяне ў саборы, потым чорны катафалк з маім целам узначаліў жалобную калону шыкоўных машын, што рушыла ў бок могілак.

І нарэшце труна закалыхалася, як зыбка, апускаючыся ў магілу. Я адчуў лёгкі штуршок ад сустрэчы з зямлёй. Прыехалі! Вось якая яна, апошняя паркоўка… Па вечцы труны зашамацела, быццам гуллівы летні дождж, — прафесіяналы спраўна працавалі рыдлёўкамі, сумленна адпрацоўваючы ганарары. Неўзабаве на экране з'явіўся ўзгорак свежага жоўтага пяску, завалены рознакаліберным вянкамі. Удзельнікі пахавання купкамі павольна разышліся па сцяжынах да сваіх «Ролс-ройсаў» і «Мерседэсаў». Цяпер яны выправяцца піць і жэрці, пляткарыць і кпіць, а я застануся тут, у атачэнні цішыні і спакою. Мае жонкі і кампаньёны будуць грызціся за спадчыну, цкуючы, як бультэр'ераў на сабачых бойках, спрытных адвакатаў. Я той, каго некалі за жорсткасць называлі Ванькам-Бульдогам, будзе бездапаможна чакаць чарвякоў, якія зробяць яго зямлёй… Ах, як гэта прыгожа!

Паводле нашага плана, Эдзік з памагатымі прыйдзе ўваскрашаць мяне толькі

праз гадзіну, не раней. Хіліла да сну (кажуць, пасля хаўтур заўсёды так). Я выключыў экран, мікрафоны, зняў навушнікі. На мяне адразу навалілася густая цішыня і цемра. Спаць чамусьці перахацелася. Гэты замагільны змрок пачынаў усё больш і больш уздзейнічаць мне на нервы. «Што ж, — падумаў я, — дзякуй Богу, для VIP-нябожчыкаў прадугледжана асвятленне». Пальцы намацалі маленькі клыпажок. Пстрык — і, здаецца, стала нават цямней. Пстрыкнуў яшчэ, потым яшчэ і яшчэ — той самы эфект.

Я адчуў, што гальштук пачынае мяне душыць.

«Так, спакойна, гэта толькі маленькая тэхнічная непаладка. А можа, я проста не тое націснуў. Цяпер запушчу камп'ютар — пасвятлее, і я з усім разбяруся».

Я намацаў пульт, націснуў раз, другі, некалькі разоў — апаратура так і не падавала прыкмет жыцця.

Гальштук, відаць, і сапраўды задумаў задушыць мяне. Па лысіне пакаціліся дробныя кроплі.

«Гэй, братан, ты ж не панікуеш, праўда? У цябе ёсць мабіла. Звані хутчэй свайму Эдзіку. Хай ён, трасца яго матары, пасляшаецца!»

Я паслабіў звар'яцелы гальштук і выцягнуў з кішэні мабільнік, стараючыся не думаць: ці не здрадзіў і ён. На шчасце, ён застаўся адданы, і дамавіну асвяціла прывіднае святло. Набіраю з другой спробы Эдзікаў нумар.

— The subscriber is not available now. Please, call back later, — адказаў мне прыемны голас з добрым англійскім вымаўленнем. І так нумар за нумарам.

Я нервова шпульнуў мабільнік ды смачна, шматпавярхова вылаяўся. І раптам, нібыта ў адказ на маю лаянку, ажыў экран (во што рускі мат чыніць!). На мяне зірнуў твар Эдзіка.

— Эдзік, такую тваю дывізію! — рыкнуў я ў мікрафон. — Нешта мне тут не падабаецца. Давай, выцягвай адсюль хутчэй!

Эдзік маўчаў, толькі крыху плюшчыў вочы і ледзь заўважна ўсміхаўся.

— Ты што… — і тут я абсекся.

Камера нібы ад'ехала назад, і я ўбачыў… Не, мабыць мне ўсё ж гэта мроіцца! У салоне шыкоўнага «Ягуара» — двайніка таго, згарэлага з маімі парэшткамі, — на шырокім заднім сядзенні па-гаспадарску рассеўся мой гадаванец. У яго на каленях уладкавалася, абдымаючы Эдзіка за шыю, мая Клава.

— Так, я вас слухаю, Іван Барысавіч. Вы нешта хацелі мне сказаць? — звычайны пачціва-паслужлівы тон гучаў здзекам.

— Гэта самае… — я авалодаў сабою і пастараўся запусціць вобраз Ванькі-Бульдога. — Слухай сюды. Перадай маёй бабе, што яна больш не ўдава. Так што няхай цяпер жа злезе з цябе! А ты ляці сюды і адкопвай мяне, я змяніў план. Мухай!

Клава з Эдзікам зарагаталі. Эдзік праз смех сказаў:

— Дарагая, чула? Можа, злезеш з мяне?

У адказ Клава схілілася і павольна, дэманстратыўна ўпілася яму ў вусны.

Я хацеў выбухнуць лаянкай, але не змог, а толькі бездапаможна глядзеў на гэту неверагодную сцэну.

Эдзік, адарваўшыся ад вуснаў маёй жонкі, паправіў гальштук і звярнуўся да мяне.

— Іван Барысавіч, вы крыху памыляецеся. Клаўдзія Ігараўна ўжо суткі, як удава дэ-юрэ. А неўзабаве стане ёй і дэ-факта. Да гэтага яшчэ ёсць час, — ён зірнуў на гадзіннік, — гадзін гэтак пяць.

— Што ты пляцеш? Едзь да мяне, адкапай, тады і пагамонім.

— Прабачце, Іван Барысавіч, — Эдзікава ўхмылка ўсё шырэла, — але навошта вас адкопваць? Усе атрымалі, чаго хацелі: вы — спакой і цішыню, Клава — свабоду і грошы, а я, дзякуючы вашай бязмежнай шчодрасці, — увесь ваш бізнес. І вашу жонку.

— Слухай, ты! Кідай свае жартачкі! — я забарабаніў па сценах труны, быццам Эдзік мог гэта пачуць.

— Цішэй, цішэй, вам шкодна хвалявацца. Ну што вы так перажываеце! Паветра засталося аж на пяць гадзін — можна жыць і жыць. Ну, а пасля ўжо… — Эдзік развёў рукамі. — Спадзяюся, гэта будзе хутка.

Да мяне толькі цяпер дайшоў увесь сэнс ягоных слоў. Дух заняло, як пасля ўдару ў дыхавіцу.

— Ванюша-а, не сумуй! — Клава даслала мне паветраны пацалунак.

— Ах ты… Ах вы… Мяне замачыць уздумалі… Мяне… Ваўкі пазорныя, гніды!.. І ты, Эдзік… Ды я ж цябе, байструка, на сметніку знайшоў!..

— Ой, Іван Барысавіч, годзе вам… — скрывіўся Эдзік. — Навошта так груба. Вам жа цяпер туды, да Бога, а вы, шаноўны, лаецеся…

Я стаміўся лаяцца і прыціх.

— Ну, будзем развітвацца. Я б яшчэ што сказаў, але пра памерлых — або добра, або нічога. Так што бывайце! Прывітанне Люцыпару!..

— Ты што робіш, паскуднік! Я ж вас на шматкі парэжу! Эдзік! Эдзічка! Клаўка! Не! Я ўсё зраблю, што пажадаеце! Эдзічак, мілы! Я не хачу ТАК!!!

На маю істэрыку абыякава пазіраў цёмны экран.

Бясконцыя пяць гадзін, як пяць стагоддзяў, прамільгнулі ўмомант.

Я памёр. Шчыра.

*Аляксей АРЦЁМАЎ*

# ПАЧЫНАЕЦЦА РАДАСЦЬ, А З ЁЮ ВЯСНА...

* * *

Цемра шыбы залепіць, і дзень праміне,
Напляце павуцінку мароз на акне,
На дварэ заскрыгоча завея...
Сёння я ўпершыню цябе бачыў у сне —
Ты ў крыштальную далеч сышла ад мяне,
Дзе ад сцюжы ўвесь свет прамянее.

Сон мой хутка растаў, як сняжынка вясной.
Лямпа зноў асвятляе няўтульны пакой,
Дзесь за шыбай віецца дарога.
Кіну ўсё, каб напоўніць душу цеплынёй,
Развітаюся ўрэшце з самотай сваёй...
Толькі побач са мной — анікога.

Веру, зменіцца ўсё! Веру, будзе яшчэ
Шчасця міг, подых твой — за сняжынку лягчэй —
І каханне, адно, назаўсёды.
А пакуль маё сэрца завея сячэ
І на позірк халодных блакітных вачэй
Прамяняць я гатовы свабоду.



***Аляксей Арцёмаў нарадзіўся ў 1991 годзе ў Туле, дзе цяпер і жыве. Піша вершы на рускай мове з 2000 года, з 2008 года піша таксама па-беларуску. Займаецца мастацкім перакладам. Аўтар зборніка вершаў «Двойная звезда» (Тула, 2007—2008). Лаўрэат і прызёр тульскіх гарадскіх і абласных моладзевых літаратурных конкурсаў. Атрымаў прыз конкурсу імя Карласа Шэрмана (2009).***

**ЛЯЦІ, ВАЛАВОКА!**

Я чую, як недзе далёка
Маленькая птушка пяе.
Вітаю цябе, валавока,
Вітаю напевы твае.

Агромністы свет над табою,
Нябёсаў бясконцы абшар
І поўная шчасця й спакою
Адвечнай прыроды душа.

Даўно ў гарадах мітуслівых
Я марыў пра тыя сады,
Дзе грушы ды жоўтыя слівы,
Дзе цёпла й утульна заўжды.

Шукаў іх у град і залеву,
Дарэмна хадзіў па зямлі
І толькі птушыныя спевы
Надзеі згарэць не далі.

Адолею ўсе перашкоды,
Каб мрою нарэшце знайсці.
Да сонца на крылах свабоды
Ляці, валавока, ляці!

* * *

Сцізорык драпае кару...
Усё я зведаў, акрамя
Кахання. І калі памру,
На дрэве будзе жыць імя.

Хтось зможа ў парку гарадскім
Яго чытаць праз шмат гадоў.
Тых літараў гаючы дым
Дыхне, як водар палыноў.

Гаркавы пах былых надзей
Адчуе ўдумлівы чытач,
Унукаў, мабыць, прывядзе
Да помніка маіх няўдач.

І скажа ён: «Жывіце так,
Нягледзячы на ціск пакут,
Як той загадкавы дзівак,
Што літары надрапаў тут».

* * *

Мы ведаем па чутках пра вайну,
Яна дайшла да нас з пажоўклых
фота,
І памяці агонь душу крануў,
Бы вецер датыкнуўся да лістоты.

Хоць храбрых ачарні, хоць абялі,
Іх справы й словы з намі застануцца,
Як засталася ўсё ж на зямлі
Надзея на жыццё без рэвалюцый.

Чакае свет на мірную вясну,
Хтось верыць чалавецтву, нехта —
богу...
Мы ведаем па чутках пра вайну,
Вайна пра нас не ведае нічога.

* * *

Верхаводка ў промнях сонца,
Быццам срэбная манета...
Адкажы мне, ці бясконца
Будзе нас выпальваць лета?

Ды яшчэ пакуль далёка
Ад спякоты да спакою...
І нясцерпна рэжа вока
Сонца срэбнаю лускою.

* * *

Над гонямі плыве твая журба, як вецер,
Гарэць каралі зор над полагам лясоў.
Што здарылася, што? Якое ліхалецце
Тваю душу змагло занепакоіць зноў?

Ад холаду дрыжыш ты, крохкая, як голле,
І ловіш цень надзей і водбліскі святла,
Ды толькі ён, бадай, не вернецца ніколі —
Той лепшы дзень, калі шчасліваю была.

Наўкол жыццё кіпіць у шуме беспрычынным,
І за ракой мігцяць святочныя агні...
Не ветрык уначы кранае аблачыны —
Над гонямі журба плыве ўдалечыні.

**26 КРАСАВІКА**

Цёплы дзень. Адступіла дакучная слота.
У кафэ пачалі прадаваць шашлыкі.
Папяровыя змеі лятаюць над плотам,
Быццам вырвацца хочуць з дзіцячай рукі.

Аблачыны паўзуць. Вецер млявы, рахманы.
Зноў чуваць на дарозе машын гамана...
Так, нарэшце, сягоння не будзе падману —
Пачынаецца радасць, а з ёю вясна.

Зарыпелі арэлі — у парку адталым
Як заўжды бестурботна гуляе дзятва.
Я гляджу й пасміхаюся — трэба так мала
Тым, хто сёння расце, бы пад сонцам трава.

А хлапчук-красавік гучна грукае ў дзверы.
Разліваецца хваляй па целе святло.
І красуе жыццё — нават хочацца верыць,
Што Чарнобыля колісь даўно не было...

Паліна КАЧАТКОВА

# СНЫ І ЎСПАМІНЫ — УСЁ, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ

***Абразкі***



***Паліна Качаткова (Сцепаненка) нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы. Празаік, даследчык творчасці Максіма Багдановіча, музеязнаўца. Аўтар аповесці «Паэт. Аповесць пра Максіма Багдановіча» і зборніка навел «Начныя размовы». Друкавалася ў часопісе «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», калектыўным зборніку «Перад маімі вачыма».***

## ІНШАСВЕТ

Баюся вясновай сырой зямлі, у вадзе халоднай — нармальна, а зямля — іншае, у яе нетры, глыбіня, яна студзіць, кліча да магілы.

Красавік. Далёка ад нас пачаў дзейнічаць вулкан. Паплылі хмары. Над намі вулканічнае воблака. Я збірала каменне для свайго каменнага саду — хмара наляцела, закрыла сонца.

Страшна.

Я ў хаце схавалася і выйшла ў скайп.

У скайпе бяспечна, але не заўсёды.

Бяспечней за ўсё — спаць.

Сны і ўспаміны — усё, што ў мяне ёсць.

Мне сніўся іншасвет. І так ясна — быццам бы ў кіно — па кадрах. Спачатку сябра, які памёр. Ён сядзеў на белай мармуровай лаўцы, лаўка гэтая стаяла на вуліцы Леніна ў Мінску каля дома, дзе музей Броўкі. Пасля ён устаў, узяў мяне за руку. Рука ў яго была вельмі гарачая. І ў той жа момант проста на скрыжыванні ў асфальце ўзнік правал, мы спусціліся туды. Там было цёпла, але падаў снег. Вялікімі сняжынкамі. Снег таксама быў цёплы. І там быў шкляны купал — надбудова над яшчэ большым правалам. І меліся дзверы. Мы зайшлі туды. Там гучала музыка. Але як толькі мы туды зайшлі — музыка сцішылася. «Ну, вось, — сказаў мой спадарожнік, — як толькі мы куды-небудзь прыйдзем, усё заканчваецца». А ў сярэдзіне гэтага купала ўніз ішоў правал, а па сценах яго ладкаваліся нішы. У іх знаходзіліся вялікія лічынкі, некаторыя з заплюшчанымі вачыма, а некаторыя з крыху расплюшчанымі. Лічынкі былі спавітыя. Чалавекападобныя. Што далей?

Мы стаялі на самым краі гэтай прорвы, у якой не бачылася дна. Нішы з лічынкамі сыходзілі ўніз па спіралі. Лічынкі былі розныя, але неяк адчувалася, што яны жывыя, проста знаходзяцца ў розных стадыях развіцця. А пасля нічога — я прачнулася. Прамінула шмат гадоў, а адчуванне рэальнасці ўбачанага не знікае. І тое, як снег

падае, і бронзавая ручка дзвярэй ад памяшкання з празрыстым купалам. Быццам бы я ўсё гэта кранала і адчувала.

## ЦЫРУЛЬНІЦА

Цырульніца падстрыгала мяне і гаварыла, што цалкам задаволена сваім жыццём і не хоча ведаць, што будзе далей. Яна распавяла прыпавесць пра тое, што раней усе людзі ведалі, калі памруць. А пасля Бог спусціўся на Зямлю і ўбачыў мужыка, які рабіў агароджу з саломы, а на пытанне Бога, чаму ён так робіць, мужык адказаў, што ведае — жыць засталося да лета, таму не варта будаваць анічога трывалага. З тых часоў людзі не ведаюць, колькі ім наканавана.

І яшчэ цырульніца распавяла пра хлопца, які за паслугі расплаціўся каменьчыкамі ды апалымі лістамі з клёнаў. Выцягнуў з кішэні замест грошай і расплаціўся. Было гэта восенню, калі пачынаюцца розныя абвастрэнні. Але ўсё адно ёсць у гэтым нешта казачнае — грошы ператвараюцца ў такія непатрэбныя рэчы.

## ДНО РАКІ

Ехала ў кіеўскім цягніку з Мінска ў Гомель у вагоне, поўным, людзей. Пасажыры былі з Бабруйска, Жлобіна, Быхава, Гомеля. Цікава, што ўсе пашкадавалі заплаціць па 5 тысяч за бялізну, ды так і сядзелі паўночы — размаўлялі. Пра рознае. Па дарозе пенсіянер з Бабруйска і малады хлопец з Гомеля гаварылі пра эхалоты, да якіх яны прыцэньваліся ў Мінску. Пенсіянер з Бабруйска тлумачыў — навошта яму эхалот. У Беразіне водзяцца вялікія самы, у мінулым годзе адзін нават зацягнуў рыбака, які абматаў лескай руку, пад корч. Сом застаўся жывы, рыбак — не. На дне ракі шмат карчоў, паваленых дрэваў. Вадалазы, якія апускаюцца на дно, каб выцягнуць тапельцаў, бачаць пад карчамі агромністых замшэлых самоў і асцерагаюцца іх.

А я… Распавяду, як здабывала зімой пясок са дна ракі. Ён быў патрэбны для дрэнажу кветак. Я ўзяла вялікі сачок (дакладней, падсачнік для рыбы), абкруціла яго цэлафанавым пакетам, пайшла на заснежаны пляж, дзе купаюцца маржы.

Усё навокал блішчэла ад сонца — снег пераліваўся, лёдзік ззяў.

Але да пяску ў вадзе было ўсё адно далёка і глыбока.

Я легла на лёд і пачала вылоўліваць пясок.

Ён не даваўся, цэлафанавы пакет, поўны вады, быў цяжкі і не выцягваўся, я зрабіла ў ім дзіркі, каб вада выцякла. Разам з вадою выбягаў і пясок.

Рукі мерзлі, калені вымаклі.

Але ўрэшце я набрала палову маленькага вядзерца пяску і нават не ўтапіла ў Дняпры фотаапарат, чаго больш за ўсё баялася.

Ляжала на крызе, як цюлень, а мужчыны, якія пераходзілі рэчку, пазіралі на мяне няўцямна.

А я пыхцела і сапела.

Балансавала на краі панеўкі, стараючыся не саслізнуць у ваду.

Летам штодня праплываю каля кіламетра. Плыву па плыні пасярэдзіне ракі, бо баюся натрапіць у вадзе на страшных разлезлых тапельцаў. Але іх хутчэй да берага плынь прыбівае. І яшчэ — бліжэй да берага пада мною разы два праплылі аквалангісты — таксама непрыемна.

## САЎНА

Тэлефаную ў саўну, здымае трубку дзяўчына, хутка прамаўляе:
— Саўна «Дэльфін»...
— Вы працуеце?
Не зусім ўпэўнена адказвае:
— Так... толькі ваду ў нас адключылі...

## МУЖЧЫНСКІЯ ДЫ ЖАНОЧЫЯ…

Набыла і пасадзіла абляпіху Чуйскую. Прадаваў яе стары беларускамоўны аграном, які сказаў, што прывёз сваю першую абляпіху шмат гадоў таму з Алтая, з Чуйскага тракту.

— Ці чулі вы такую песню, — спытаў аграном: — Ёсць ля Чуйскага тракту дарога, многа ездзіць там шафяроў...

Абляпіху, каб былі ягады, трэба набываць парай — мужчынскі і жаночы атожылкі.

Каля дзеда-агранома на рынку стаяла кардонка з надпісам: «Абляпіха — 5 рублёў. Мужчынская асобіна бясплатна».

А мне ўсё жыццё здавалася, што «мужчынскія асобіны» больш каштоўныя, чым жаночыя.

Цёмным і цёплым восеньскім вечарам прыемна зайсці ў ювелірную краму — там так зіхцяць розныя ўпрыгожанні — ствараюць вясёлы настрой.

Чалавек кахае іншага чалавека, пакуль не скончацца гісторыі-аповеды. Пакуль адзін гаворыць, а другі слухае — каханне жыве. Калі гісторыі заканчваюцца і пачынаюць паўтарацца, слухач расчароўваецца і раздражняецца, а каханне памірае. Але знаходзіцца іншы чалавек, які яшчэ не чуў тых гісторый, і ўсё пачынаецца наноў.

## ВАНДРОЎНІК

Вераснёвай дажджлівай раніцай давялося прымаць Божага чалавека. Дождж ліў прамой сцяной, так што рэчка з акна не бачылася. Забрахаў сабака. Адчыняю, а — там, да ніткі прамоклы Вандроўнік. Вандроўнік і бард Андрэй Мельнікаў пад халодным дажджом праплыў на катамаране ад Смаленска да Оршы. Увесь водны шлях Андрэй быў з абразам Аршанскай Божай Маці на носе катамарана.

— Што гэта за вандроўка такая? — спытала я ў Андрэя.

— Гэта быў хросны сплаў — ад Смаленска да Оршы з іконай Аршанскай Божай Маці. Я набыў ікону ў храме святога Леаніда, які знаходзіцца ў Оршы на вуліцы Караткевіча. Калі падымацца ад Дняпра па вуліцы Караткевіча, то і трапляем да храма святога Леаніда. Менавіта там можна прыдбаць самых вялікіх памераў ікону Аршанскай Божай Маці.

— Хто яшчэ быў з табой?

— Мой старэйшы сын, два маіх хросных сыны, іх маці. Мы прыехалі ў Смаленск, сабралі там катамаран. Пераначавалі пры храме Вялікапакутніцы Варвары. Схадзілі

ва Успенскі сабор, атрымалі блаславенне ад настаяцеля айца Міхаіла на гэты сплаў. І 25 жніўня пачаўся сплаў. Трое сутак мы плылі ўпяцёх. Ікона была наперадзе катамарана ўвесь час.

— Трое сутак вы плылі ўпяцёх, але пасля пачаліся халодныя дажджы, і ты паплыў адзін. Дождж, холад…

— Так, каманду я адправіў… Трое сутак для іх абсалютна дастаткова — па іх сілах. А далей мне давялося ісці ў адзіноце. І тады гэты сплаў сапраўды стаўся Хросным. А да таго часу гэта ў пэўным сэнсе было вандраванне з элементамі нецаркоўнымі. Калі я застаўся адзін, то і прыйшла малітва. Калі б не малітва ды не Божая дапамога, маглі б атрымацца іншыя вынікі падарожжа.

— Што ты адчуваў, калі застаўся адзін на рацэ?

— Спачатку — стан, блізкі да адчаю. Сітуацыя такая: я паспрабаваў стартаваць… Вецер сустрэчны, катамаран зносіць назад, прасунуцца наперад немагчыма. Я пачаў маліцца і маліўся дастаткова доўга. Потым ноччу ўскочыў на катамаран, стартануў. У гэты момант поўнасцю адключыўся, бо пачала дзейнічаць Божая сіла, каб я здолеў давезці ікону.

## ГРЭХ

Узгадваю сваю памылку ці грэх… У 1991 годзе ў Яраслаўлі на могілках усталёўвалі помнік Адаму Ягоравічу Багдановічу (скульптар Павел Лук). Трэба было прыдумаць надпіс на надмагільны камень. Было два варыянты. У першым напісана, што тут пахаваны беларускі вучоны, этнограф і бацька паэта, а ў другім проста — бацька паэта. Тады ўсе мы былі пад уздзеяннем кнігі Міхася Стральцова «Загадка Багдановіча», у ёй быў створаны вобраз Адама Багдановіча — чалавека, які перашкаджае свайму сыну, не разумее яго геніяльнасці. Мы чыталі і верылі: Адам Багдановіч — толькі цень свайго геніяльнага сына. Адпрацаваўшы 8 гадоў у музеі Багдановіча, я зразумела, што вобраз з эсэ — літаратурны, далёкі ад рэальнасці. А ў 1991 годзе я выбрала другі надпіс: «Бацька паэта». Так і напісалі.

Праўда пра Адама Багдановіча да мяне дайшла падчас працы над яго мемуарамі, якія мы рыхтавалі да выдання ў 1994 годзе. Мемуары былі падрыхтаваны супрацоўнікамі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча і надрукаваны ў 1994 годзе. (Богданович А. Мои воспоминания // Нёман. 1994). Васіль Быкаў назваў мемуары Адама Багдановіча лепшай публікацыяй года. У выглядзе кнігі мемуары не выдадзены да гэтага часу.

## «МАЁ КЕТМАНДУ»

На турыстычных сайтах Беларусь называюць краінай лясоў і азёр. Сярод лясоў і азёр Нарачанскага краю жыве Віёла і яе сям'я. Прыехалі яны з Казахстана, дзе не было ні дрэў, ні азёр, толькі стэп з цюльпанамі.

Віёла перакладаецца з лацінскай мовы як «фіялка». Віёла працуе настаўніцай замежнай мовы ў школе, ёсць у яе на возеры любімае месца, сюды яна прыходзіць пасля ўрокаў. На возеры мы сустракаемся з ёю. Яна пачынае свой аповед, гаворыць па-беларуску.

Возера ўвечары свеціцца. Возера — вялікая цёмна-сіняя плоская талерка з водбліскамі заходу сонца. Бясшумныя птушкі, гаманкія чароты і безуважліва-зманлівае святло з-пад вады. Віёла гаворыць пра свой ад'езд з Казахстана: «Мы жылі без святла, цяпла і вады. Электрычнасць давалі на 2—3 гадзіны ў суткі, звычайна ўначы. Расійскіх каналаў больш не трансліравалі, казахскіх яшчэ не было, таму і тэлевізар ператварыўся ў тумбачку. Талоны, беспрацоўе, печкі-буржуйкі ў гарадскіх кватэрах, маразы да 30 і ваўкі, якія прыйшлі з Урала…»

Віёла распавяла, што прыехала ў Беларусь падлеткам разам з маці, братам, сястрой ды бабуляй. Яна мае сярод продкаў немцаў, інгушэй, украінцаў і рускіх — ніводнай кроплі беларускай крыві.

Лясная дарога. Па ёй Віёла ідзе да свайго вясковага дома і расказвае пра тое, як пачала вывучаць беларускую мову (яна хацела вывучыць мову краіны, якая прыняла іх сям'ю, якая падабалася ёй).

Беларускую мову Віёла старанна вывучала, але чамусьці нідзе не чула. Дзяўчына выходзіла на вуліцы Магілёва і блукала па іх у пошуках мовы. Толькі аднойчы жанчына звярнулася да яе на «трасянцы», што надзвычай усцешыла дзяўчыну — «Вось яна, беларуская мова».

Чэрвень — і ўсё навокал квітнее. Сярод гэтай прыроднай прыгажосці дзяўчына распавядае пра тое, якія пачуцці агарнулі яе ў Беларусі. Віёла адчула сябе кветкай, якую перасадзілі ў новую глебу — расквітнела. Яна вельмі добра фіксавала ўсе адметнасці беларускага жыцця, а бабуля казала, што «ў Беларусі сонца не з таго боку ўзыходзіць».

Віёла на прыродзе рыхтуе малодшую сястру да паступлення ў лінгвістычны інстытут. Яны складаюць дыялогі па-англійску пра навакольны край. Паміж сабой гавораць па-руску. З іх размовы выразна чуваць, што Віёла гаворыць на літаратурнай рускай мове, а яе малодшая сястра — з выразным беларускім акцэнтам.

На аўтобусным прыпынку Віёла чакае вясковы аўтобус, які адвязе яе на працу ў Мядзел. Гэты аўтобус аб'язджае вёскі і забірае людзей ў райцэнтр. Дарога, па якой Віёла адпраўляецца на працу, вельмі маляўнічая. Пры дарозе стаіць адзінокае дрэва…

Людзі ў аўтобусе гавораць пра клопаты, якімі поўніцца іхняе жыццё. Віёла выглядае сярод іх «нетутэйшай».

Познім вечарам Віёла ў вясковай хаце заходзіць у інтэрнэт, размяшчае ў сваім жывым дзённіку карцінку — дарога на працу, адзінокае дрэва, і робіць запіс: «Гэта маё Кетманду. Я жыву ў Кетманду. А калі вы спытаеце, дзе маё Кетманду, то маё Кетманду ў тысячах кропках па ўсёй зямлі».

Віёла піша: «Часам Лёс рыхтуе Чалавеку тое, з чым ён не ў сілах змірыцца. І тады чалавек кажа лёсу "не" і адмаўляецца прымаць непазбежнае. Але ад Лёсу яшчэ ніхто не ўцёк. І ўсё ж Чалавек бяжыць ад свайго непазбежнага, ад прызначанага. А Лёс нясецца наўздагон. Чалавек жа бяжыць і бяжыць, і ў выніку апынаецца над безданню. Далей ходу няма. А ў спіну ўжо дыхае Лёс. Тады Чалавек паварочваецца да яго, глядзіць у вочы і разумее, што прыйдзецца перажыць усё, што яму прыгатавана. Але Лёс таксама глядзіць у вочы чалавечыя і разумее, што прыйдзецца змірыцца з планамі Чалавека».

## ФІНАЛ

Я з’ехала ў Мінск. І не магу яшчэ разабрацца: ці шкадую пра гэта. Шкадую пра Мінск, ці пра сваё былое жыццё, якое не вернеш, ці назаўсёды я з’ехала? Думаю — наколькі ж літаратура адрозніваецца ад рэальнага жыцця. Пісьменнікі ды паэты… У творах настальгуюць па вёсцы, супрацьпастаўляюць яе тлумнаму гораду, дзе і людзі не такія добрыя, і паветра не такое чыстае, карацей, жыць вельмі кепска. Пры гэтым Горад — гэта заўсёды Мінск, не Бабруйск, не Гомель ці Орша. А хто з’ехаў з тлумнага Мінска ў меншы горад, у вёску? Не ведаю нікога. Правінцыя — сінонім непаспяховасці.

…Пад самымі вокнамі дома з’явілася магілка, выкладзеная па баках каменьчыкамі, з крыжам, зробленым з дзвюх галінак, перавязаных дротам. Нехта пахаваў коціка ці сабачку...

Свабода — гэта калі ніхто не дурыць табе галаву. Адзінота — шлях да свабоды.

## ВОСЕНЬ. РАДДОМ. ЛІПЫ

Лістапад. Мышы збягаюцца на зіму ў дом, каты на іх палююць. У мышэй мызкі, як хобаты, напэўна, земляройкі, а выглядаюць, нібы мутанты.

Чысціла сажалку перад зімою — там столькі казюраў (гэта рачок такі, з якога апасля нараджаецца страказа. Казюра драпежная — два гады жыве на дне перад тым, як скінуць абалонку ды расправіць крылы і паляцець. Летам буду назіраць за пераўвасабленнем казюры ў страказу.

Паўночы на гары раддома палілі феерверкі. Выбух, неба ў агнях. Пасля брэх сабак. Так цяпер адзначаюць нараджэнне дзіцяці.

Наш дом стаіць унізе, ля ракі. А на гары — радзільны дом. У дзяцінстве ён быў крыніцай страхаў, як і могілкі. Час ад часу бабуля казала: «Вось, пачаў дымець крэматорый», і хутка зрывала бялізну з вяровак. І тады з труб кацельні ішоў такі густы дым… Казалі, што там спальваюць дзяцей, якія нарадзіліся мёртвымі. Больш таго, там спальваюць жанчын — ну, гэта мы самі ўжо, пэўна, дадумвалі. Хадзілі чуткі, што ёсць жанчыны, якія паміраюць, нараджаючы дзяцей. Нават бачылі, як адну такую выносілі пад прасцінай. Побач радзільні было вельмі страшна хадзіць, таму што здавалася, вось-вось панясуць яшчэ адну. Там яшчэ мелася пральня. Мы малымі хадзілі туды. Я прыдумала, што гэта месца, дзе трупы складваюць. Мы зазірнулі туды і ўбачылі кучу прасцін з крывёю. А гэта ж была пральня, куды звозілі бальнічную бялізну. Як мы напалохаліся тады, як уцякалі…

Апрача радзільнага дома на нашай вуліцы ёсць бровар, фабрыка глуханямых «Ніць», царква святога Леаніда, пачатак дарог Беларусі (такое месца з адзнакай — колькі да якога горада кіламетраў), дом, які належаў сям’і класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча ды яшчэ пара дамоў.

І ліпы, пра якія пісаў Караткевіч: «Ліпы старыя ў бліскучых латах, як вартавыя вартуюць сады».

Ліпы пасадзілі ў 1914 годзе, калі пачыналася Першая сусветная вайна, але, калі іх саджалі, то ніхто не ведаў, што вайна пачнецца. Садоўнік высадзіў у гонар Новага 1914 года 14 ліп.

У лістападзе апалае з дрэў лісце ўжо зусім сухое. Жыцця ў ім няма ніколечкі. Сухая лістота засцілае панадворак і залятае ў дом. Сухі ліст на верандзе падобны да мёртвай мышыны…

## ЧОРНАЕ ЛІСЦЕ

Прачнулася ад таго, што вецер рэзка адчыніў фортку, разам з ветрам у пакой заляцелі чорныя, мокрыя ліпавыя лісты. Вецер пачаўся з вечара, і ўсю ноч дом нагадваў карабель з ветразямі, ролю якіх выконваў цэлафан, якім забіты вокны і дзверы мансарды (няма грошай, каб паставіць вокны і дзверы). Цэлафан надзімаўся, калаціўся, а на Дняпры біліся хвалі аб бераг. Складвалася ўражанне, што мы плывём некуды разам з домам. Раніцай фортка рэзка адчынілся. Вецер уварваўся ў хату разам з чорным лісцем. Я выйшла ў мокры, халодны сад і ўбачыла, што вецер паваліў плот. Цяпер нас нічога не аддзяляе ад ракі. Нешта трывожыць. А вецер не сціхае. І чорнае лісце лётае па садзе. Мокрае. Толькі вельмі моцны вецер здольны ўзняць яго ў паветра. Мокрае лісце мусіла ляжаць на зямлі і прыкрываць сабою кветкі на клумбах да вясны. А лісце мы прыбіраем увесну.

## «ГЭТА МАЕ ЛІПЫ…»

Колькі сябе памятаю, заўсёды з’яўляліся людзі, якія хадзілі ды казалі, што трэба гэтыя ліпы спілаваць. Вось так гулялі па беразе і казалі: «…ліпы трэба спілаваць, бо дрэвы не даюць святла. Яны зваляцца на дах, і пад імі нічога не расце, бо ліпы высмоктваюць сокі з зямлі». Апрача ворагаў у ліп была абаронца і захавальніца. Яна кляла ўсіх, хто нешта робіць ліпам. Нават не шкоднае дрэвам. Збіраў ліпавыя кветкі з іх напрыканцы чэрвеня — пачатку ліпеня. Кляла і тых, хто жыве ў хатах пад ліпамі. Сівая бабуля хадзіла па беразе і ўсім казала: «Гэта мае ліпы! Мой бацька іх саджаў».

*Таццяна БУДОВІЧ*

# ШЧАСЛІВАЯ ТУТ І ЦЯПЕР



***Таццяна Будовіч нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Скончыла Інстытут сучасных ведаў і завочнае аддзяленне гістфака БДУ. Працуе ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. Друкавалася ў газетах «Чырвоная змена», «Наша ніва», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Полымя». Выдала зборнік паэзіі «Дуэль паглядаў».***

* * *

Рыжая зорка, тая,
што ўлетку вісела
па-над ускрайкам лесу,
рыжая зорка, тая,
што клікала да змагання,
сэрца твайго адчаем
промні свае паіла
і заблукала ў небе
вачэй тваіх,
стаўшы стратай
для лесу таго…
чужога.

* * *

Без мяча, без сякеры
Уваходжу я ў цемру,
каб зрабіць падуладнай
мне любую хімеру.
Я не маю для ўдару
ані месца слабога,
ані месца жывога
я не маю для ўдару.
І таму я мацнейшы
за ўсе страхі сусвету,
бо не маю што страціць
у штодзённасці гэтай.

* * *

Гэта восень дарэшты мая,
ад каралаў на дне адзіноты
да вышынь, дзе плывуць самалёты,
крэсляць неба жывы акіян.

Гэта восень дарэшты мая,
да драбніцы. Наяве і ўпотай,
толькі *тут і цяпер*, а не потым
безнадзейна шчаслівая я.

* * *

***В.***

кававая сляза
гэткая драбяза
дзе замест болю снег
на камяністым дне
зрэнкам глядзець адтуль
у твары скульптур пакуль
парасткі прарастуць
скрозь вачніцы і каламуць
кавы яшчэ налі
калі
падаюць матылі
скрозь вадзяную столь
і адступае боль

* * *

канчаецца лета шкада
а хтосьці збірае ў дарогу рэчы
і рукі кладуцца яму на плечы
ды што яны могуць аддаць

слабы недаспелы цень свой
чаканне з паштовымі галубамі
…міжволі крануцца плячэй рукамі
застанься
застанься
са мной

* * *

ты стаў для мяне ключом
якім я адамкнула дзверы
ні ношаю ні плячом
ні салодкай маной ні верай

назад не шукаем дарог
даспадобы бадзяжнае «шчасце»
а вецер варушыць саспелы быльнёг
пад абцасы баіцца ўпасці

* * *

твае заплюшчаныя вейкі
ў далонях плюшавых маркоты
глядзяць унутр сваёй самоты
пакуль мяняе батарэйкі
за даляглядам часу *сёння*
і ноч за сном пайшла ў куфэрак
сярод прывідаў і хімераў
ды абіраеш ты бяссонне

* * *

кола мусіць
замкнуцца
апасці аблокі долу
а ты ўсміхнуцца
бабуля мая
жывая
бабуля мая
восень
і я
на сходах
якія вядуць
да сонца
мой шлях дадому
мяне там чакаеш ты
мусіць замкнуцца кола
скрозь тоўшчу асфальта
прабіцца
парастак кволы

* * *

***В.***

вершы твае
на кухні маёй халоднай
з каваю спажываю
штучным цяплом канфорак
і цішыня ажывае
радыёхвалі сэрца
ратуюць нас
ад сябе

* * *

белыя гнёзды аблокаў
нябесныя птушаняты
лета
запомні мяне шчаслівай
*тут і цяпер*

Святлана ДЗЯНІСАВА

# ЖАНОЧЫЯ АПАВЯДАННІ

## ГРУШАВЫ КАМПОТ

У прыкметы яна не верыла, але кожным разам, калі адчувала паблізу пах сушаных у печцы груш, думала: «Ну вось, зараз ізноў здарыцца нешта такое, з-за чаго прыйдзецца плакаць». Гэтыя сушаныя ў печцы грушы былі для яе некалі найлепшым ласункам. Цёмныя, нібы падмарожаная восеньская лістота, якой заўсёды хапала пад суседскім клёнам, і зморшчаныя, што твар векавога дзеда Натоля, якога можна было сустрэць штовечар ля старога калодзежа. Як дзіўна пахлі яны, калі знаходзіліся ў печы! А потым? Як хацелася хутчэй схапіць хоць адну, калі бабуля з пашанаю ставіла на прыпечак вялізную гарачую патэльню! Ды трэба ж было чакаць, пакуль астынуць тыя грушы і стануць зусім сухія. А тады толькі «хвосцікі» ад іх заставаліся ды маленечкія гузікі-носікі. А бабуля гарэзліва ўсміхалася, калі даставала з-за печы яшчэ поўны мех такіх самых сушаных груш.

Гэта было некалі, зусім даўно. Так даўно, што, здаецца, і не было ніколі. Нібы проста яна недзе пра тое прачытала. У якім-небудзь модным жаночым часопісе. Бо цяпер няма ў яе жыцці ні бабулі, ні печы, ні такіх груш. Стаіць у шафцы цэлая бляшанка сушанай садавіны, так званы сухі кампот, у якім і яблыкі, і шыпшына, і слівы, і нават абляпіха з глогам. Ёсць там і грушы, але зусім не такія. Яны парэзаны на кавалачкі, нібы ўсё яе дзяцінства на асобныя, зусім не звязаныя паміж сабою, успаміны.

* * *

— Ой, як смачненька пахне! — залапаталі ў тры галасы дзеці. — Мама, а праўда, смачна пахне?

— Вельмі смачна, — адказала яна, усміхнуўшыся і весела падхапіўшы на рукі самага маленькага, які ледзь не паваліўся на прыступках, бо ішоў задраўшы галаву — уяўляў сябе лісянём.

Пахла і сапраўды вельмі смачна.



***Святлана Дзянісава нарадзілася ў 1972 годзе ў Гродне. Па адукацыі біёлаг. З мастацкімі творамі выступала ў часопісе «Маладосць» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Працавала намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Женский журнал», цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».***

Нічога дзіўнага — заўтра маецца быць свята, і нехта ўжо распачаў да яго прыгатаванні. За дзвярыма якойсьці кватэры пячэцца пірог ці нават торт. Яны таксама па дарозе з дзіцячага садка накупілі шмат чаго такога, што можа ў хуткім часе стварыць і не такія пахі.

І гэта яна ўнюхала адразу ж, як толькі пераступіла парог пад'езда — у кагосьці варыцца грушавы кампот. Пах яго ніякія ванілін і карыца заглушыць не маглі. Ці гэты пах ёй толькі здаўся? Мо і так. Бо ўжо здаралася такое неаднаразова. Гэта, напэўна, з кожным калі-нікалі адбываецца. Проста пачынаеш адчуваць пах таго, чаго на самай справе нідзе паблізу няма і быць не можа. Звычайнае жаданне з'есці смачненькае, асабліва, калі даймае голад. Есці яна хацела, гэта праўда. Але ж добра ведала і сваю звычку ўлоўліваць час ад часу неіснуючыя пахі, і гэтую амаль прыкмету: водар грушавага кампоту — да расчаравання і слёз.

— А хто будзе мне дапамагаць?

— Я-я-я! — пракрычаў малеча, высока падняўшы ручкі.

— А што рабіць? — асцярожненька запытаў старэйшы.

Сярэдні ж разважліва завёў:

— Дапамагаць — значыць аказваць камусьці дапамогу. Калі хочацца, па свайму жаданню.

— А калі яна вельмі-вельмі патрэбна, гэтая дапамога? Тады жаданне ні пры чым?

— Ну, тады, канечне ж, ні пры чым, — прадоўжыў гарэза. — А табе вельмі патрэбна мая дапамога, мама?

— Вельмі-вельмі, — адказала яна, прыжмурыла вочы і пагладзіла хлопчыка па галаве.

— Тады я згодзен дапамагаць табе. На выпадак, калі ў цябе нешта не атрымаецца, я буду тут як тут. Я ж ратавальнік!

— Не, я ратавальнік! — голасна запярэчыў малодшанькі, тупнуўшы ножкай.

— Ты не ўмееш яшчэ дапамагаць як след, падрасці трэба. Праўда, мама?

Дзеці працягвалі спрачацца да самай кватэры, а яна ўявіла сабе, як пройдзе заўтрашні дзень.

На сняданне ўсе збяруцца за сталом у зале. Ніхто да апошняга моманту не будзе ведаць, чым паласуецца. Гэта яе задумка. Старэйшы, як звычайна, хітрым кацянём будзе хадзіць ля яе, каб першым даведацца, з чаго складзецца сняданне, і потым пацяшацца з малых: «Ха-ха-ха, мама гатуе яечню з лягушкамі. І гарбату з дзьмухаўца». Але на гэты раз і сам нічога не ўгледзіць. Няма чаго, сюрпрыз ёсць сюрпрыз. Яна вырашыла вечарам, калі ўсе палягуць у ложкі, завесці цеста і паставіць на ноч у лядоўню, а раніцай застанецца толькі наляпіць піражкоў і спячы іх. Сюрпрыз павінен быць ў тым, што кожны атрымае на сваю талерку піражкі з такім начыннем, якое больш за ўсе любіць: маленечкі — з павідлам, сярэдненькі — з пячоначкай, старшанькі... О, гэты дасціпны старшанькі, яму... з лягушак!

Яна паглядзела на канапаты тварык аматара жартачак і ледзь не засмяялася. Не, няхай яму будуць піражкі з салодкім тварагом — самыя смачныя. Застаецца тата хлопчыкаў. Яму больш падабаюцца не печаныя, а смажаныя на алеі. З мясам. Так яна і зробіць. А потым яны ўсе разам пойдуць куды-небудзь. Дзеці даўно просяцца ў заапарк. Вось і добра. Або можна зазірнуць у госці да сяброў. Ці паспець і тое, і другое. Вядома ж, свята. А дома іх будуць чакаць прысмакі — шакаладны торт з цукровымі вішнямі, якія яна павінна яшчэ паспець спячы, і шматпавярховы дэсерт з марожанага.

* * *

— Татачка, ты ўжо дома? — хорам запыталі дзеці яшчэ з парога, бо адразу ж убачылі вялізныя татавы боты.

— Дома, дома, башавэлкі, — данеслася да іх з кухні.

Голас гучаў весела, яна гэта адразу ж прыкмеціла, але насуперак усялякай логіцы — ніколькі не ўзрадавалася. Проста ціха ўвайшла ў кухню з прадчуваннем расчаравання. І прадчуванне гэта спраўдзілася.

— Заўтра з самай раніцы — на рыбалку, — задаволена прагаварыў ён, паціраючы рукі. — Ты павінна разбудзіць мяне а чацвёртай гадзіне. Слухай, а няма ў нас яшчэ крыху ваніліну? Я ў падкормку ўвесь высыпаў. О-о-о, як пахне, — і ён прыпаў носам да жудаснай мешанкі з пярловых круп, пакрышанага батона і сланечнікавага лушпіння. Напэўна, там мелася яшчэ шмат чаго. — Рыба будзе задаволена.

— Тата, ты зловіш рыбіну? — зацікавіўся маленькі. — Вось такую? — і ён як мог растапырыў ручкі.

— Мо нават і такую, — адказаў яму ўзнёслым тонам тата. — А што? Вось мама дасць нам яшчэ ваніліну, дык мы такія прысмакі зробім гэтай рыбіне, што яна ні за што не захоча пад карчом сядзець.

— І паплыве да цябе?

— А куды яна дзенецца. Канечне, паплыве.

— Тата, а ты можаш злавіць месяц?

— Які месяц? Той, што на небе?

— Так.

— Звычайны апельсінавы месяц з неба, — дадаў сярэдні хлопчык. — Бывае, што ён плавае ў возеры, як сапраўдная рыбіна. Ёсць, праўда, яшчэ бананавы месяц. Але нам патрэбен апельсінавы.

— Што ж вы з ім рабіць будзеце?

— Нешта прыдумаем, — упэўнена адказалі хлопчыкі. — Ты толькі злаві. Запомні — апельсінавы.

Ён ціха ўсміхаўся ў чорныя, але ўжо добра прыўкрашаныя сівізною вусы, не перастаючы збірацца: перабіраў рыбацкія прылады і пакаваў патрэбнае ў вялізны руказак. Раз-пораз пра што-небудзь у яе пытаўся — ці не чула яна, якое на заўтра перадавалі надвор'е, ці не бачыла, куды ён падзеў свой рыбацкі ручнік, ці не ведае часам, якой гарбаты лепш насыпаць у тэрмас, ці не забылася, што яго трэба разбудзіць. Потым прыгатаванні далучыліся да тэлефонных перагавораў. Такі самы небарака на супрацьлеглым канцы тэлефоннай лініі дапытваўся, што лепш насыпаць у падкормку і як апрануцца.

Больш за ўсё зараз ёй хацелася куды-небудзь сысці, каб нічога гэтага не бачыць і не чуць. І каб не пахла пад носам ні састарэлым рукзаком, ні нават ванілінам.

— Ну вось табе і свята, — прагаварыла яна, зайшоўшы ў ванну, каб хоць чым-небудзь заняць рукі. Схапіла колькі дзіцячых кашулек, кінула ў тазік, наліла вады, сыпанула пральнага парашку. — А ты хіба не ведала? Э-эх, дурное. Свята захацелася, сямейную цеплыню табе падавай! А вось як. Вось табе цеплыня. На што ты разлічвала? Што з табою і з дзецьмі цікавей, чым на возеры якім ці на рэчцы? Наіўная! І калі ты перастанеш ужо спадзявацца на нешта? Калі паветраныя замкі перастанеш будаваць? Якое гэта свята вы разам калі праводзілі, га? Успомні, дурніца?

Яна распраміла спіну і паглядзела на сябе ў люстэрка. Зусім яшчэ маладзенькі твар перасеклі ручаінкі слёз, і ад гэтага ён здаўся амаль дзіцячым. Напэўна, такім гэты тварык і быў, калі яны пазнаёміліся. Зноў павярнула галаву да тазіка. Пральны парашок пах лімонам, яна гэта добра ведала, ды і надпіс на скрынцы мог у любы момант запэўніць. Але ёй здавалася, што пахне ў ванне толькі сушанымі грушамі.

Так — смачна і радасна — пахла ў бабулінай хаце ў той дзень, калі яна прывяла яго знаёміцца. Бабуля прыняла жаніха ўнучкі ветліва, але як накрывалі на стол, паклікала з сабою ўварыўню — за салёнымі гурочкамі. «Неварты ён цябе, унучачка», — сказала тады яна.

Бабуля нейкім чынам заўсёды ўсё ведала. Гэтая думка наведвала яе ўжо не адзін раз за такое не вельмі яшчэ доўгае, але і не сказаць каб кароткае, жыццё. З бабуляй можна было параіцца па любым пытанні, яе парады заўсёды былі да месца і да часу. Без гэтых парад яна адчувала б сябе напалову бездапаможнай. І яна раілася. Заўсёды. Нават пыталася ў бабулі, у якую сукенку лепш апрануцца для таго ці іншага выпадку. І апраналася так, як раіла бабуля. Мо таму, што густы дзвюх жанчын, зусім ужо старой і зусім яшчэ маладзенькай, заўсёды супадалі. Толькі адзін раз у жыцці яна не прыслухалася да бабулінай парады…

* * *

За дзвярыма пачулася дзіцячая валтузня. Яна выйшла з ванны.

— А хто гэта плача? — запыталася, гледзячы, як маленькі трэ кулачкамі вочкі.

— Гэта я плачу, мама.

— А навошта?

— Не ведаю.

— А хочаш, мы пойдзем да паліцы, возьмем вялікую кніжку з матылямі і будзем іх разглядаць.

— Хачу, мама.

— А заўтра мы возьмем брацікаў і пойдзем у заапарк.

— У заапарк? Ура, ура, ура, — зашчабяталі хорам дзеці, нават у маленькага вочкі праясніліся.

— Цур, я бяру з сабою батон, — прапанаваў старэйшы, падняўшы руку.

— А я буду зноў дражніць філіна, — закрычаў сярэдні.

Усе дружна ўспомнілі, як апошні раз у заапарку размаўлялі з разумнай птушкай, і як яна адказвала ім:

— Угу? — казалі дзеці.

— Угу! — паўтараў філін.

Узрадаваныя хлопчыкі наперабой выкрыквалі свае ўспаміны.

— А памятаеце, як аднаго дзядзьку дзікае кураня за палец ушчыкнула?

— Ой, там жа тыгр ёсць!

— І вярблюд!

— І дыназаўры!

— Якія яшчэ дыназаўры?! Яны даўно перасяліліся ў іншую галактыку. Праўда, мама?

Яна светла ўсміхалася, гледзячы на радасныя тварыкі сваіх дзяцей.

— Як шкада, што тата нічога гэтага не бачыў, — засмуціўся сярэдні хлопчык. — А заўтра зноў не ўбачыць. Бедненькі татка.

— Яму трэба ехаць на рыбалку, разумееш? — дзелавіта прамовіў малодшы. — Гэта ж важная справа. Так, мама?

— А ён праўда зловіць вялізную рыбіну? — запытаў старэйшы.

— А як ты думаеш? — весела прагаварыла яна ў адказ. — Канечне, зловіць.

— Таму што наш тата ўсё можа?

— Канечне. Ваш тата ўсё можа, бо ён жа ваш тата, — адказала яна, гладзячы маленькія галоўкі кожнаму па чарзе.

— І значыць, месяц ён нам таксама зловіць! Ура-а-а!

Малыя радасна падбеглі да бацькі.

— Тата, мы заўтра пойдзем глядзець філіна, нашага знаёмага. А ты прывязеш нам апельсінавы месяц. Абяцаеш?

## ЛІХТАРЫКІ

Распластацца на роўным месцы — гэта трэба ўмець. І каб хто папытаўся, чаго яе панесла тым шляхам, якім ніколі не хадзіла. А-а-а, бо сяброўкі па працы хвалілі ўчора гэтую новую дарогу: хоць і даўжэй трохі, але ж затое не па выбітым асфальце, не па калдобінах, а па роўненькай, адна ў адну, тратуарнай плітцы. Наслухалася на сваю галаву. От жа ж!...

Седзячы цяпер на сваім рабочым месцы, яна ўжо некалькі разоў ахалоджвала раны на каленях мокрай насоўкай. Глядзела на гэтыя «ліхтарыкі» і чамусьці ўспамінала сваё поўнае прыгод і здарэнняў дзяцінства. Ніводнае лета не абыходзілася без таго, каб не пасадзіць сабе на калені такія вось «ліхтарыкі». Бывала нават, што не паспее адзін «камплект» зажыць, як ужо новы паверсе ўладкоўваецца. І што гэта за ногі такія?!

Яна падыходзіла да краніка, ахалоджвала насоўку, дзьмула на раны і выцірала тыльнымі бакамі далоняў слёзы, што так і набягалі з вачэй на шчокі, быццам тая вада з краніка ў насоўку. Не, ёй не было настолькі балюча, каб плакаць. Яна нават і сама не ведала, чаму плача. Ну, распласталася, як малое дзіця. Ну, паранілася, вядома ж, бо людзі, калі падаюць, амаль заўсёды нешта сабе шкодзяць. Урэшце, няма чаго хадзіць, задраўшы галаву. І трэба ж, малой была — ніколі з-за гэтых каленцаў не плакала, цярпела. А цяпер — чацвёрты дзясятак пайшоў, нібыта самы час румзаць па ўсялякіх дробязях. От жа ж, дурніца!..

Не, яна сама сябе не падмане. Як бы ёй гэтага ні хацелася. Апошні раз такія вось «ліхтарыкі» ззялі на яе каленцах гадоў мо дваццаць таму. І цяпер яна нібыта перанеслася ў той час…

А гэта ж ён і прыдумаў — «ліхтарыкі». А потым яна зразумела, што для таго, хто ёй даражэй за ўсіх на свеце, яна — так сабе, не вельмі значная асоба, не важней за іншых. Дзе ён цяпер? Невядома… І ведаць няма чаго!

Офіс пачаў ужо запаўняцца — крокамі на абцасах, шапаценнем поліэтыленавых пакетаў, бразгатаннем ключоў і ляскатам дзвярэй. Да ўсяго гэтага дададуцца перазвоны лыжачак аб кубкі і апетытнае сёрбанне — работнікі пачнуць дзень з кавы. І зноў нехта будзе скардзіцца на мужа, які аніяк не ўцяміць, што выносіць смецце — самы што ні ёсць мужчынскі занятак. Зноў некаму будзе шкада грошай, ахвяраваных на падарунак свякрусе, бо трэба ж было ёй нарадзіцца ў такі дзень, што папярэдняя зарплата ўжо растрачана, а новай яшчэ не давалі. А яна зноўку

будзе сядзець і думаць. Пра тое, што людзі самі не ведаюць, чаго хочуць, бо калі б яна была мужавай жонкай, дык, далібог, не турбавала б яго такімі дробязямі, як смецце. Увогуле, яна думала, што жонкі лепшай, чым яна, знайсці нельга. Бяда толькі ў тым, што яна не жонка. А жонкі — вось яны, іншыя. Сядзяць, п'юць каву, дзьмухаюць у кубкі. Яна таксама дзьмухае, але не ў кубак, а на калені. Ёй трэба рэкламны макет распрацоўваць, і мо нават не адзін, а яна сядзіць, «ліхтарыкі» песціць.

Зазвінеў тэлефон.

— Рэкламнае агенцтва. Добрай раніцы.

На тым канцы, напэўна, сказалі нешта незвычайнае, бо яна ўбачыла, як калега маляўніча затрапятала павекамі, потым заплюшчыла на колькі імгненняў вочы і толькі пасля гэтага адказала:

— Ведаеце што, малады чалавек, перш чым тэлефанаваць нам, трэба добра засвоіць адзін факт: у нашым горадзе далёка не адно рэкламнае агенцтва! Дзякуй Богу, што так, але больш нідзе вам не прапануюць не запамінаць назву кампаніі, каб потым пераблытаць яе з іншай. Не, вы зноў не адгадалі. Рэкламнае агенцтва без назвы — гэта не пра нас. Мы так завемся — «Рэкламнае агенцтва». Што вы кажаце? У квадраце? Ну, няхай будзе ў квадраце. А цяпер хуценька скажыце мне, што вы збіраецеся прадаваць.

Калега яшчэ некалькі хвілін слухала, падтаквала, нешта ўдакладняла, на некага спасылалася, зноў маляўніча трапятала павекамі і нават паціскала плячыма, усміхаючыся невядома каму. Хутчэй за ўсё — самой сабе. Калі калега ўрэшце паклала тэлефонную трубку на месца, у офісе ўсталявалася такая цішыня, што было чуваць, як муха лётае. Першай схамянулася супрацоўніца з валасамі колеру чырвонага дрэва. Яна паставіла на стол кубак з недапітай кавай, нахіліла галаву набок і прагаварыла:

— Дзяўчаты, давайце прайсы перапішам.

— А з кім ты размаўляла? — звярнулася да калегі з трапяткімі павекамі супрацоўніца ў кепі. — Гэта была жанчына? Ці мужчына?

— Здагадайцеся, — загадкавым голасам вымавіла тая, што прыняла званок ад новага кліента.

— Ну, калі так, то мужчына, — запэўнілася супрацоўніца з валасамі колеру чырвонага дрэва.

— І сумнявацца няма чаго, — дадала яшчэ адна, у сукенцы з кветкамі. — Жанчына ніколі не будзе кідаць грошы на вецер.

— Чаму на вецер? Гэтыя грошы атрымае наша кампанія.

— І мы, нарэшце, купім кава-машыну.

— Не, лепш я атрымаю прэмію, а каву згодна заварваць у кубку.

— А я згодна на кава-машыну, толькі такую, каб капучына атрымлівалася.

— А што ён прадаваць збіраецца, га?

— І што, ён так і сказаў — маўляў, заплачу ў тры разы больш, чым гэта каштуе?

— І нават не спытаў, якія ў нас расцэнкі.

— Фантастычны мужчына. Хачу яго пабачыць.

— Пабачыш. Ён сказаў, што будзе тут праз пятнаццаць хвілін.

У офісе зноў усталявалася цішыня. І пасярод гэтай цішыні раптам нехта ўсхліпнуў. Гэта была яна, з вачыма, поўнымі слёз, і з сэрцам, якое паспелі разбярэдзіць успаміны. Яна не чула ні працягу размовы з загадкавым кліентам, ні разважанняў

калег, ні мухі, якая раптам перастала поўзаць па шыбе і прыціхла, відаць, ад велічнасці моманту.

Дзверы тым часам адчыніліся. Зайшла дырэктарка і сказала:

— У нас новы кліент. Кантракт трэба падпісаць сёння. Тэрмінам на год.

— На год?!

Гэта прагучала як адзін голас, хоць вымаўлялася і той, што зусім нядаўна прыняла цікавы званок ад невядомага мужчыны, і той, што фарбавала валасы ў колер чырвонага дрэва, і той, якая выбрала на сёння сукенку з кветкамі.

— На год. І зварыце кавы.

Дырэктарка пайшла.

— Жалезныя нервы, — канстатавала дзяўчына ў кветкі.

— Кава-машыну ўсё ж, напэўна, купім, — усміхнулася чырвонавалосая.

— Толькі капучына каб варыла, — дадала тая, што ў кепі.

А яна і не чула, як да яе стала наблізіліся супрацоўніцы. І таму нават уздрыгнула, калі над галавой прагучала:

— Ты чуеш? Нашаму рэкламнаму агенцтву свецяць вялікія грошы. А ты чаму такая? Заплаканая нейкая. Што здарылася?

— Пячэ вельмі, — адказала яна, хутка выціраючы шчокі. — Не магла трываць, — сказала гэта як мага больш спакойным голасам. — Павалілася вось, пакуль на работу ішла. Па вашай хвалёнай новай дарозе, — гэта яна ўжо з усмешкай, але ўсё роўна з вільготнымі вачыма.

Калега ў кепі нават зрабіла некалькі крокаў назад, каб ацаніць тое, што сталася.

— Нічога сабе фары, — сказала яна, вяртаючыся на месца.

— Ліхтарыкі, — чамусьці палічыла патрэбным паправіць пацярпелая.

І нашто, калі папытацца, ёй гэта спатрэбілася? Дурніца дурніцай… Яна не магла стрымацца і зноў горка заплакала. Галасна, паклаўшы рукі на стол, а зверху — галаву.

— Не, калі так балюча, дык ты плач, канечне. Няхай будзе на здароўе. Толькі здаецца мне, што нешта здарылася. Ты не цярпі, а лепш раскажы нам. Мы абавязкова табе дапаможам, чуеш?

Дзіўна, але яна раптам узяла сябе ў рукі. Не сказаць, што ў яе скончыліся слёзы, проста няёмка стала перад калектывам. Ды і працаваць ужо час.

— Вось і добра. Ты ведаеш, хто да нас прыйдзе?

— Багаты дзівак.

— Здурнелы кліент. Дарэчы, што ён збіраецца прадаваць?

— А я вам не сказала? — дзяўчына з прыгожымі доўгімі вейкамі шчыра здзівілася. — Лейкапластыр.

— О, я ж казала, што дапаможам. Не плач, дзяўчынка, вось прыйдзе дзівакаваты дзядзька з пластырам, ён цябе выратуе.

— А потым яшчэ і жэніцца. А што, як у казцы.

— Не балбачыце вы абы-што, давайце лепш працаваць. Дзядзька, дарэчы, да нас ужо мо і не дойдзе, яго дырэктарка перахапіла.

— Дырэктарка перахапіла такога цудоўнага жаніха? А навошта ён ёй? У яе ж, здаецца, свой ёсць.

— Ёсць то ёсць, але гандляр пластырам не пашкодзіць. Аказваецца, гандляваць пластырам — вельмі выгодная справа.

— Цікава, а што ён такое незвычайнае будзе заказваць, калі плоціць ажно ў тры разы больш?

Сяброўкі перазірнуліся. Думак наконт гэтага ні ў кога не было.

Дзверы тым часам адчыніліся, і на парозе з’явіўся мужчына гадоў пад сорак.

— Гэта тут робяць рэкламныя макеты?

— Так, тут. Праходзьце, калі ласка, — запрасіла мужчыну тая, што стаяла бліжэй да дзвярэй, з валасамі колеру чырвонага дрэва.

— Вам каву з цукрам ці без? — паклапацілася другая, у квяцістай сукенцы.

— Ведаеце, а гэта я з вамі размаўляла, — падышла да кліента дзяўчына з адметнымі вейкамі.

— А гэта праўда, што кантракт з намі вы хочаце заключыць на цэлы год? — пацікавілася жанчынка ў кепі.

— Так, праўда. Але калі мая мэта не будзе дасягнута, я магу папрасіць вас працаваць з маім таварам і далей. Ведаеце, у мяне адметны пластыр. Ён загойвае раны, а не толькі ахоўвае іх. Гэта таму, што на яго паверхню нанесены спецыяльны лекавы склад. У мяне, калі хочаце, ёсць з сабою ўся патрэбная інфармацыя. Але справа ў тым, што яна вам можа і не спатрэбіцца. Бо я хачу…

— Дык чакайце, а чаму вы кажаце, што ваша мэта не можа быць дасягнута? Наша рэкламнае агенцтва робіць выдатную рэкламу, з нашай дапамогай вы можаце прадаць не толька пластыр, але і этыкеткі з-пад яго.

— Нікольі не сумняваўся. Але ж, ведаеце, у мяне незвычайная мэта. Я хачу, каб вы кожны месяц рабілі мне новы рэкламны макет. І кожны раз каб на ім пісалася адна фраза.

— Якая, калі не сакрэт?

— З глузду з’ехала, які сакрэт? Чалавек прыйшоў, каб мы гэта напісалі. Працягвайце, калі ласка. Дык што, вы кажаце, мы павінны пісаць?

— Пароль: ліхтарыкі, — адказаў госць.

— Дзе гэта будзе друкавацца? Ваша кава, дарэчы.

— Гэта будзе вісець. Дзякуй. На вялізных стэндах усюды, дзе магчыма. І вось што яшчэ абавязкова: няхай на кожным макеце будзе дзяўчына, бландзінка, з доўгімі хвалістымі валасамі, у кароценькай сукенцы…

— Як у мяне, — выйшла наперад дзяўчына ў кветкі.

Мужчына махнуў рукою і прадоўжыў:

— У кароценькай сукенцы белага колеру, з тонкім паяском. Яна быццам толькі што ўпала і параніла каленцы.

— Гэта і ёсць ліхтарыкі? — запытала тая, што была ў кепі.

— Так. Справа ў тым, што…

— Справа ў тым, што нам, здаецца, ёсць каго сфатаграфаваць.

— У вас ёсць такая мадэль? Я не сумняваўся, што…

— У нас нават без фоташопа сёння абыйдзецца. Здаецца, — адказала, смеючыся, чырвонавалосая. — Дарэчы, а чаму вы бачыце гэта так, а не інакш?

— Справа ў тым, — зноў пачаў мужчына, — што…

Ён раптам заўважыў яшчэ адну супрацоўніцу агенцтва. Яна сядзела за сталом і не зводзіла з яго сваіх чырвоных ад слёз вачэй.

— Пароль: ліхтарыкі? — ціха прагаварыла яна, калі ён паволі наблізіўся да яе. І адхінула рукі ад падсохлых ужо, але ўсё роўна свежых ран на абедзвюх нагах.

* * *

— Кантракт на год я падпісваю. Толькі надпіс прыйдзецца змяніць на новы.

— Нешта прыдумаем, — запэўніла дзяўчына ў кепі. — Мы ж рэкламнае агенцтва.

— Прытым у квадраце, — дадала тая, што зняла тэлефонную трубку гадзіну таму.

## ЖАНЧЫНКІ

Трэба яшчэ паспець шмат чаго зрабіць. З суседзямі, якія будуць паліваць кветкі і карміць рыбак, яна ўжо дамовілася. Ідэальны парадак у кватэры навяла, нават злазіла на высокія — пад самай столлю — паліцы і перацёрла ўсё, што на іх стаіць. Бо потым жа нічога не паспееецца. Зёлкі, якія нарвала на Купалле, ужо высахлі, і яна сабрала іх, здрабніла і запакавала ў палатняныя торбачкі. Як знойдуцца. Сёе-тое з самага неабходнага купіла — і халацік баваўняны ў рысачкі, і квяцістую кашульку-начнічку на паўрозачках. Пра гэтыя паўрозачкі, што звязваліся на плячах, яна так падумала: няхай сабе будуць, хоць і тонкія, усё ж лепш, чым парыцца з рукавамі. Бо лета стаіць надта ж спякотнае, і на раптоўны спад тэмпературы па ўсіх прыкметах няма чаго спадзявацца. Каб яшчэ гарачэй не стала. Самае галоўнае — уладкавала аптэчку. Доўга выбірала, што з патрэбнага будзе лепш, набывала ўсё часткамі, у розных месцах, і патраціла на гэта некалькі дзён запар, але ў выніку засталася задаволенай. Цяпер можна смела выкінуць паперку, на якой пералічаны прыдбаныя рэчы. Ці мо лепш захаваць і ўзяць з сабою, бо не такі ўжо вялікі гэта, калі разабрацца, груз. Ат, хоць і смешная — насупраць кожнага пункціка намаляваны то зайка, то качаня, то кветачка — але ж нечага вартая і, можа, каму здацца. Што яшчэ? Пакласці ў сумку неабходнае, зрабіць сняданак, пабудзіць мужа. Каб толькі дзеці не прачнуліся раней часу.

Вырашылі, што пакуль яна будзе ў раддоме, ён з дзецьмі ўладкуецца на дачы — і паветра не такое гарачае, і малако свежае ў суседзяў заўсёды можна ўзяць, і дзецям знойдзецца чым заняцца. Каб яны не надта сумавалі па ёй, гэты мо тыдзень ці трохі больш, спецыяльна для дачы купілі ўсім веласіпеды — няхай вандруюць па зялёнай акрузе разам з бацькам, быццам юныя следапыты. На карысць пойдзе.

Яна зазірнула ў дзіцячы пакой — цішыня, соннае царства. Трэба будзіць мужа, паснедаць з ім — і рушыць да тралейбуса. Колькі тут ехаць? Прыпынкаў якіх пяць ці шэсць мінуць — і раддом. Каб толькі дзеці не плакалі, як прачнуцца і ўбачаць, што мамы няма дома. Яе захіснула шчымлівая пяшчота. І вочы сталі макрэць. Нічога, усё будзе добра.

* * *

— Карціна, карзіна, кардонка, — па-добраму перадражніла яе старэнькая доктарка з прыёмнага пакоя, выслухаўшы адказ на пытанне, як яна да іх дабіралася — спачатку тралейбусам, потым колькі станцый на метро, а далей яшчэ трошкі трамваем.

«Свой» раддом, як аказалася, зачыняўся на рамонт, і яе перанакіравалі ў гэты, толькі адчынены пасля рамонту.

— Палату можна выбіраць, такая ў вас прывілея, — здаецца, з задавальненнем прагаварыла санітарка, якой загадалі даставіць новенькую пацыентку на месца. Яна ішла па калідоры і адчыняла адну за другой дзверы, нібы запэўніваючы, што і сапраўды ўсе палаты пакуль што вольныя.

— А што іх выбіраць? Хіба не ўсе роўныя? — спытала яна.

— Ну вось і добра. А я пайду, мне яшчэ трэба вокны павымываць. Рамонт зрабілі, а цяпер нам работы… — санітарка не дагаварыла, толькі заклапочана махнула рукой і пайшла па сваіх справах.

Яна засталася адна. З чатырох ложкаў выбрала той, што стаяў пасярэдзіне. І не выбірала нават — так, села, дзе бліжэй. Трэба параскладваць рэчы і можна ўладкоўвацца адпачыць. Бо такой спякотай па горадзе ездзіла, што цяпер і ногі гудуць, і галава цяжкая. Папіць яшчэ вады. Доктарка ў прыёмным пакоі сказала, што нават і пасля кесарава можна запускаць ў роды, калі ўсё добра. Прыдумаюць жа гэтыя дактары — запускаць у роды. Нібы ў космас. Назаўтра паабяцалі правесці поўнае абследаванне, і калі ўсё добра, то будуць запускаць. У роды. Разважаючы так, яна дастала з сумкі маленькую іконку. Няхай усё будзе добра.

* * *

— Жанчынкі, добрай раніцы вам, — сястрычка ў халаціку карацей нельга пранеслася па палаце, нібы лёгкі веснавы ветрык. Раздала тэрмометры, паабяцала зайсці праз дзесяць хвілін і знікла, быццам і не было.

Яна агледзела палату. Зусім не такая, як была ўчора. Гэта ўжо пасляродавае аддзяленне. З самастойнымі родамі не выйшла — ноччу яны раптам пачаліся, і таму, не доўга чакаючы, зноў зрабілі кесарава. «Ну і гэта добра. Прыўзняцца толькі трэба, бо павінны прывезці малечу. Пазнаёмімся. Цікава, якія ў хлопчыка вочкі — шэранькія, як у мяне, ці цёмныя, татавы? А валаскі? Якога колеру? Цікава».

— А ў вас таксама кесарава? — запытала жанчынка з ложка насупраць. Паглядзела, што суседка імкнецца прыўстаць, ды ніяк у яе гэта не атрымліваецца. — Я вось баюся ўставаць, бо надта ж будзе балюча.

— Нічога, гэта першы раз цяжка, варта толькі пераадолець сябе і падняцца, потым ужо намнога лягчэй, — запэўніла яна суседку.

— Праўда?

— Праўда. Я вось цяпер хачу ўстаць. Ведаеце, чым раней устанеце, тым лепш будзе. У мяне гэта другое кесарава.

— Вы адважная. А ў вас хлопчык ці дзяўчынка?

— Калі мне гэта не прыснілася, то хлопчык, — адказала яна, успамінаючы, як скрозь наркоз ёй казалі пра дзіцятка. Здаецца, яшчэ пра нешта гаварылі, але яна правалілася ў сон. Вядома, наркоз. Цяпер ужо ачуняла. — А ў вас хто?

— Хлопец таксама. Нават не ведаю, як я буду. Тата нас пакінуў. А што рабіць, калі дзіця акажацца падобным да яго?

— А якая розніца. Гэта ж ваша дзіцятка! — далучылася да размовы маладзенькая зусім мамачка з немаўляткам на руках.

— Праўда? Вы так думаеце? — жанчынка ўзрадавалася. — А я вось што думала: нават калі тата аказаўся дрэнным чалавекам, то гэта не азначае, што і сын яго такім жа будзе.

— Канечне, гэта нічога не азначае. Як такая малеча можа быць дрэннай?

— А ў вас дзяўчынка? Я гляджу, што кашулька ружовенькая. Гэта вам ужо адзенне прынеслі? Можа, і мне дадому пазваніць, няхай прынясуць. І нам жа дзіцятак дадуць. Як гэта ўстаць? Добра вам, у вас, напэўна, не кесарава.

— Уставайце, уставайце. Бо калі цяпер не падняцца, потым цяжэй будзе. Памыць жа трэба твар і рукі.

— Вой, а я і не ведаю, як я ўстану.

— Уставайце, кажу, — яна ўсміхнулася і прайшла за дзверы. А баліць і сапраўды ўжо менш.

Першыя крокі даваліся так, што цямнела ў ваччу, а цяпер нічога, ісці можна.

Калі вярнулася, усё было па-ранейшаму: суседка насупраць устаць не адважылася. Праз хвіліну ў палату ўляцела сястрычка.

— Жанчынкі, я за тэрмометрамі, — весела прагаварыла. І звярнулася да ляжачай: — Вы б усталі, жанчынка. Вось дзетак прывязуць. Было б добра, калі б яны тут з вамі і засталіся.

— Каму ж гэта добра? — спалохалася ляжачая.

— Дзеткам добра. І вам таксама. Дзетак трэба карміць, яны будуць адчуваць, што вы з імі, ад гэтага ім спакайней. І вам спакайней, — адказала сястрычка. І зноў некуды пабегла.

— Лёгка ёй так гаварыць. Яе не разрэзалі. От як я буду? І каму гэта лепш, што я ўстаць не магу, а дзіця са мной застанецца? Будзем гараваць абодва.

— Навошта ж гараваць? Устанеце, пройдзецеся, дзіцятка пакорміце — і адразу стане лягчэй. Паверце мне. А давайце на «ты».

— Давайце. Я на вас дзіўлюся: гэта ж як трэба мужа любіць, каб другі раз такое цярпець. Я дык, здаецца, адзін раз не вытрываю.

— Нічога, вытрываеш.

Зноў адчыніліся дзверы. Прывезлі малых.

— Якое маленькае, — здзівілася жанчынка з ложка. — Гало-о-одненькі. Вочкі што бачаць, га? Што бачаць вочкі? Ма-а-аму? А татку не бачаць, га? Не бачаць.

— А мой спіць.

— Як пшаніцу прадаўшы. А ты што? Не прадаваў пшаніцу? Не? Не прадаваў. Ах ты, мой залаценькі. На во, паеш трохі. А ё-ёй! Як жа ўстаць. Пачакай, я хутка.

— Правільна, уставай.

— Магу я папрасіць цябе падаць мне халат?

— Канечне, калі ласка.

На ложку зазвінеў мабільны.

— Алё, мама? Ну, я. Ой, не пытайся лепш. Прынеслі, во ляжыць. Прыгожанькі такі. Лапачка мая маленькая. Што ты кажаш? Званіў? Табе? Дык чаго ён хоча? Ага, яшчэ чаго! Слухай, мама, што ты за халат гэтакі мне паклала? Прыдумала, на завязках. Я ўжо заблыталася ў гэтых завязках. Мама, скажы яму, хай вечарам прыйдзе. І прынясі мне той халат, што мы разам куплялі.

— Што, тата малога прыйдзе? — пацікавілася мама з дзяўчынкай. Яна ўжо паклала немаўля ў калысачку і пачала прычэсваць валасы.

— Няхай толькі ён сюды прыйдзе.

— Дык што?

— От паглядзіць тады, што.

— Усё будзе добра.

Увайшла нянечка.

— Жанчынкі, на сняданак пара.

— А хто ляжачы, таму як?
— Ляжачых у нас, здаецца, няма.
І пайшла.
— Цікава як, — усміхнулася мама дзяўчынкі.
— Што табе цікава? — запыталася ляжачая. Яна імкнулася ўжо падняцца, трымаючыся за жывот.
— Як нас тут называюць. Жанчынкі.
— Мне дык і вельмі падабаецца. Ласкава гучыць, пяшчотна. Не тое што раней казалі — «жанчыны». Гэта было груба. А то яшчэ — «мамашы».
Яна ўспомніла, як яе называлі адразу пасля нараджэння першага дзіцяці. Было сапраўды неяк дзікавата.
— А мне «жанчынкі» не вельмі падабаецца, — працягвала, устаючы з ложка, суседка насупраць.
— Чаму? Ну вось ты і ўстала.
— «Мамашы» — гэта сапраўды груба, — згадзілася мама дзяўчынкі.
— Не, «мамашы» — гэта нармальна. На «мамашы» я згодна.
— А «жанчынкі»?
— А «жанчынкі» — нецікава.
— Цікава — не цікава. А хто ж мы яшчэ? Канечне, жанчынкі.
— Жанчынкі.
— Ну што, пайшлі снедаць? Жанчынкі.

## ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПРАМЫЯ

Настаўніца, высокая і стройная, хоць даўно ўжо, відаць, немаладая жанчына ў зграбным шэрым гарнітуры і з прыгожа зачэсанымі валасамі завіхалася ля дошкі, малюючы тлустыя кропкі і доўгія, вельмі ж роўныя, нібы пад лінейку, рыскі. Завіхалася моўчкі, каб потым павярнуцца да ўсяго класа і вымавіць з адценнем навуковага фанатызму ў голасе ледзь не сакраментальную фразу, якую вымаўляла ўжо нямаведама колькі год бясконцай колькасці ўважлівых і не вельмі вучняў.

— Паралельныя прамыя не перасякаюцца, — нарэшце прамовіла яна, артыстычна паклаўшы маленечкі круглячок крэйды на палічку пад дошкай. — Вось так. Запомніце.

Гэтае «вось так» яна сказала, нібы атрымліваючы перамогу над некім, нібы нехта з вучняў мог яшчэ сумнявацца.

Ніхто сумнявацца і не думаў. Хіба толькі яна, гэтая новенькая ў класе дзяўчынка з коскамі, вельмі падобнымі да мышыных хвосцікаў, на канцах якіх сядзелі ружовыя банты, не па ўзросце вялізныя і таму надта ж смешныя. Новенькая дзяўчынка вылучалася сярод сваіх цяперашніх аднакласнікаў-падлеткаў зусім яшчэ дзіцячым выглядам. Толькі вочы яе, вялізныя і шэрыя, глядзелі на свет па-даросламу. Яна часта нібыта замірала ў сваіх думках, як гэта робяць заклапочаныя важнай справай дарослыя.

Заўважыўшы яе зацікаўлены і задумёны позірк, настаўніца выказала працяг матэматычнай думкі, прызначаны, здавалася, толькі ёй адной.

— Трэба ведаць, што ёсць яшчэ геаметрыя Лабачэўскага. У адрозненне ад Еўклідавай яна кажа, — тут настаўніца ўзняла запэцканы крэйдай указальны палец, а ў наступны момант жвава апынулася ля дошкі і пачала, гаворачы, хутка маляваць

новыя кропкі і доўгія рыскі, — у адрозненне ад Еўклідавай яна сцвярджае, што праз кропку, якая не ляжыць на дадзенай прамой, можна правесці не адну, а самае малое дзве прамыя, якія будуць паралельнымі дадзенай. Калі глядзець збоку, то здаецца, што паралельныя прамыя нібы набліжаюцца адна да адной, нібы могуць яны, нягледзячы ні на якія сцвярджэнні, перасекчы адна адну. Цяпер уявіце сабе, што такія прамыя размешчаны дзесьці ў касмічнай далячыні, у нічым не абмежаванай прасторы, не падуладныя часу, — настаўніца ледзь не распласталася ўздоўж дошкі, каб вучні маглі ўявіць сабе такое відовішча — паралельныя прамыя, якія бясконца набліжаюцца адна да адной у прасторах сусвету. — Урэшце яны сутыкнуцца! — яна ўсклікнула гэта з тым самым навуковым фанатызмам, з агнём у вачах, якімі пазірала на новенькую дзяўчынку. — Ці гэта толькі будзе здавацца тым, хто назірае за імі праз тоўшчу прасторы?

Тут настаўніцу асвяціла гарэзлівая ўсмешка. Нічога больш не сказаўшы пра паралельныя прамыя, яна зірнула на свой наручны гадзіннік і дзелавіта вымавіла:

— Так, гэта ўсё добра. А цяпер запішыце, калі ласка, што вам трэба выканаць дома.

Пасля гучнага званка новенькая дзяўчынка не пакінула клас, як гэта зрабілі амаль усе вучні. Яна засталася ціхенька сядзець на месцы, а каб хоць чым-небудзь сябе заняць — перапынак меўся быць доўгім — дастала з партфеліка кніжку.

— Ого, «Займальная фізіка», — раздалося ў яе над самым вухам. — Дасі пачытаць?

— Ты таксама захапляешся фізікай? — зацікаўлена спытала яна рослага хлопца, які звесіў сваю чарнявую галаву над яе партай. Новенькая дзяўчынка ўжо ведала, як яго зваць. Імя прыгажуна з трэцяй парты ў першым радзе засела ў яе памяці адразу, і нават калі яшчэ зусім нікога ў гэтым новым класе яна не ведала, пра яго магла многае расказаць, каб было каму. Ды толькі адносіны да гэтага імя вельмі хутка сталі самай вялікай яе таямніцай. Яна паглядзела на хлопца раўнадушна і абыякава прамовіла: — Мне здаецца, што і літаратуру ты паважаеш.

— Ты пра тое, як я Лермантава на першым уроку чытаў? Так, мне падабаецца паэзія. Асабліва Блок і Ясенін. Ну, і Высоцкі, канечне ж.

«Канечне ж, — падумалася ёй. — А як жа інакш?» Ёй самой былі да душы менавіта гэтыя паэты. Яна сядзела і думала пра тое, як гэта незвычайна цікава — хлопец спадабаўся ёй адным толькі выглядам, а цяпер высвятляецца, што яны маюць аднолькавыя захапленні. У дробненькай галоўцы з бантамі не па ўзросце нясмела круцілася думка, што гэта вось і ёсць каханне з першага позірку. Ёй добра было ад такіх думак, неяк светла і радасна рабілася на душы. У старой школе яна была амаль выдатніцай, але ніколі не магла пахваліцца тым, што надта любіць хадзіць на заняткі і рыхтавацца да іх. Цяпер ужо які дзень запар новенькая дзяўчынка ішла ў школу з неверагодна добрым настроем, а хатнія заданні выконвала з асаблівай уважлівасцю. Яна ўжо ведала — гэты гаварлівы хлопец з трэцяй парты — круглы выдатнік.

* * *

Чвэрці беглі адна за адной, быццам дні. А дні паходзілі на гадзіны. Дзяўчынка, якая перастала ўжо быць новенькай, з асалодай назірала за любым сэрцу аднакласнікам. Ёй было вельмі сумна, калі ён хварэў і не прыходзіў у школу, яна свяцілася ад радасці, калі ён звяртаўся да яе за парадай і ўсхваляў яе даклады ў навуковым гурт-

ку. Але ўсё часцей і часцей у яе здараліся нагоды тужыць па ім. Таму што бачыла ж яна, не магла не бачыць, што яму падабаюцца зусім іншыя дзяўчынкі. Тыя, каму ён па чарзе падносіць партфелі, тыя, каго па-джэнтльменску запрашае на танец падчас школьных вечарын. Яна нават не ведала, як адносіцца да таго, што ёй не выпадае далучыцца да іх ліку. Ёй проста тужліва было ад думкі, што яна быццам бы не вартая таго ж самага. Так і прабеглі школьныя гады.

* * *

Пісьмо-запрашэнне яна атрымала амаль за тры тыдні да прызначанай даты. Спачатку нічога не зразумела, і толькі потым разабралася, што да чаго. Школа, родная школа, якую яна даўно скончыла і пра якую за клопатам дзён нават успамінаць не мела часу, нагадвае ёй, сваёй выпускніцы, што вельмі рада сустрэчы, якая «мусіць адбыцца». Указаная дата сцвярджала, калі дакладна адбудзецца сустрэча. Яна дзіву далася: няўжо паспела столькі часу мінуць? А і праўда, што казаць, чаму здзіўляцца? Прайшлі гады. Куды ж яны дзеліся? Седзячы на канапе з падціснутымі пад сябе нагамі, яна ўспамінала пра ўсё, што было на працягу гэтай бездані гадоў. Прафесійныя дасягненні, сямейныя радасці, набыткі і страты. «Не так і мала», — канстатавала яна крыху пазней, калі, падняўшыся з канапы, пайшла варыць каву — сабе і мужу. Чалавек, з якім яна пражыла амаль што ўсе гэтыя пасляшкольныя гады, якраз прыйшоў дадому, гучна і ветліва, сваім занадта прыгожым барытанальным дыскантам прывітаў яе яшчэ з парога і папрасіў кавы з вяршкамі.

Замуж яна пайшла дзесьці праз год пасля школы. Мо хто і казаў, што надта ж рана і ўвогуле дарэмна ёй гэта рабіць, бо потым шкадаваць будзе, але яна не праслухоўвалася, толькі загадкава пазірала на сяброўак-аднакурсніц, а ў галаве трымала адну і тую ж думку, якой пранізана была ўся яе свядомасць. «Клін клінам выбіваюць», — думала яна тады. Яе будучы муж меўся стаць тым самым клінам, якому прызначалася, вядома ж, патаемна ад самога сябе, выбіць другі клін. Бо гэты другі клін надта ж навярэдзіў ужо душу. А яна зусім не належала да той катэгорыі дзяўчат, якія пры няўдалым аднабаковым каханні праносяць яго праз усё сваё жыццё, адмаўляючыся ад сініцы ў руцэ. Яна добра памятала Пушкіна — як ён пісаў пра тое, што на свеце няма шчасця, але затое ёсць спакой і воля. Яна якраз і хацела спакою ды волі. Ёй даспадобы было гатаванне сняданкаў і вячэр, ёй карцела прагульвацца па вуліцы з калясачкай і пецъ калыханкі. Каханне? Яно ж у яе было, ды хто вінаваты, што толькі з яе боку? Урэшце, думалася ёй, сапраўдная сям'я будуецца большасцю на павазе, а свайго будучага мужа яна паважала, нават вельмі. І амаль што закахана была ў яго барытанальны дыскант.

Карычневы капялюшык навіс над туркаю, яна ледзь паспела зняць няўдалага ўцекача з агню.

— Ах, як прыемненька, — з задавальненнем паціраючы далоні, у кухню ўвайшоў муж. — Як смачна пахне кава, і як ты толькі такую гатуеш?

— Сакрэт, — гарэзліва, зусім як у юнацтве, прамовіла яна ў адказ.

— І не выдасі?

— Ні ў якім разе, — яна адарыла яго светлай усмешкай.

* * *

Актавая зала сустрэла святлом вялізных люстраў, да бляску нацёртымі буйнымі яблыкамі ў цэнтры кожнага століка, прызначанага для гасцей, цукеркамі ў шаматлівых абгортках і ярка размаляванай сцэнай.

— Ой, прывітанне! — то тут, то там чулася ёй. Адзін за другім знаходзіліся былыя аднакласнікі, адразу ж пазнаваліся і кідаліся ў абдымкі. — Колькі ж мы не бачыліся!

— Неверагодна шмат, — узрушаным голасам прагаварыла яна, абняўшыся з жанчынай, у рысах твару якой лёгка прачытала імя і прозвішча дзяўчынкі, з якой сядзела за адной партай.

— Другая ў цэнтры, так? — імкнулася тая прыгадаць месца, дзе яны калісьці пісалі кантрольныя і сачыненні.

— Здаецца, — пацвердзілі іншыя.

— Ну, як жывеш? — пацікавілася былая суседка па парце, калі апынулася з ёй за адным столікам. І не так запыталася, як канстатавала факт, прабегшыся вачыма па зале: — Слухай, а ён не прыйшоў.

— Ты пра каго? — наіўна пацікавілася яна, не зразумеўшы, пра каго ідзе гаворка.

— Той, на каго ты ніколі не звяртала ўвагі, а ён, між іншым, быў уцюканы ў цябе з першага дня, як толькі ты з’явілася ў нашым класе. Памятаеш? — суседка па парце гаварыла пра гэта так проста, быццам успамінала, як яны ўсе разам сышлі з урокаў. — Была справа, — яна надкусіла яблык і, гледзячы ў бок сцэны, але зусім не бачачы, што там адбываецца, быццам упілася вачыма ў замалёўкі мінулага. — Памятаеш, як ён то мяне, то яшчэ каго праводзіў дахаты, каб толькі ты ўбачыла? Ой, якія ж мы ўсе былі малыя і дурныя, — яна ледзь чутна засмяялася.

— Ты маеш на ўвазе...

— Ага, яго, яго, таго, з кім вы адно толькі пра закон Ома ці яшчэ пра якую халеру, што страшна ўспомніць, маглі гаварыць. Разам на алімпіяды ездзілі, конкурсы нейкія там фізічныя, злёты астраномаў, гурток паэзіі наведвалі. Ой, як жа вы падыходзілі адно аднаму, вы ж цікавіліся аднолькавымі прадметамі, — аднакласніца ледзь не зайшлася ад нахлынулага, — гэта ж так важна ў адносінах, — яна гаварыла з налётам адчаю ў голасе, па якім лёгка прачытаць не толькі шчырае шкадаванне пра тое, што не спраўдзілася яе спадзяванне, але і жалем да самой сябе і крыўдай за тое, што ёй такое ніколі і не свяціла. — Ах, як гэта важна — дыхаць адным і тым жа. Увесь клас нават і падумаць не мог, што ў вас усё так скончыцца.

Былая суседка па парце, а зараз па століку перайшла на сябе — на тое, як ёй, настаўніцы пачатковых класаў, нецікава з мужам-бухгалтарам. А яна, не асабліва даючы волю думкам пра той час, раптам успомніла: «Паралельныя прамыя не перасякаюцца». Так яе вучылі ў школе, і менавіта гэтыя словы прыйшлі цяпер на памяць, і не выходзілі з галавы ўвесь вечар, і свідравалі яе ўвесь наступны дзень. Але потым, за клопатамі новых дзён усё ў яе душы стала на свае месцы. Навошта пераліваць з пустога ў парожняе? Ёсць жа ў яе сям’я, і прытым добрая, і такая, яна верыць, моцная, што ніякія ўспаміны, няхай сабе і ў святле адкрытых абставін, не могуць, проста не павінны пахіснуць і нешта там загарнуць або перакрэсліць. Ён жа, той высокі чарнявы хлопец з яе дзяцінства, таксама мае сям’ю, як зазначыла гаваркая суседка па парце-століку. «Доўга ён яшчэ не жаніўся, але потым-такі знайшоў сабе палавіну», — успомніла яна. І прыняла гэты факт светлай думкай пра яго шчасце і шчырым завочным пажаданнем яму толькі лепшага.

* * *

— Мамулька, татулька! — данеслася да іх з прыхожай, калі яны разам сядзелі перад тэлевізарам і глядзелі старую, але вельмі цікавую карціну.

Гэта прыйшоў дадому сын.

— Вы збіраецеся ці не? — заклапочана пацікавіўся ён у бацькоў. — Вы наогул памятаеце, што нас сёння чакаюць у госці? Кіно нейкае глядзяць, — з напушчанай крыўдай прагаварыў сын і светла ўсміхнуўся ў наступную хвіліну — бацькі, яго любімыя мамулька і татулька, як ён іх заўсёды называў, сядзелі перад тэлевізарам ужо пры поўным парадзе.

— Голы, збірайся!

— Голы гатоў!

Так яны часцяком пераклікаліся — муж і жонка, калі хацелі паказаць камусьці, што зусім не такія ўжо і цяжкія на пад'ём.

— Ты ж бачыш, сынку, — сказаў бацька гучным барытанальным дыскантам, — каньяк куплены, торт спечаны. А манікюр у нашай мамулі заўсёды, дзякуй салону, на сваім месцы. Ну што, пайшлі?

І яны выйшлі з кватэры, усе трое ззяючы шчасцем. У сына хутка мелася быць вяселле, і цяпер бацькам жаніха і нявесты належыла пазнаёміцца.

«Гэта павінна быць вельмі добрая сям'я. Мы абавязкова пасябруем і будзем наведваць адны другіх кожную нядзелю», — падумала яна ўжо не першы раз за дзень. Сынава дзяўчына, маладзенечкая зусім, тоненькая, як сцяблінка, ветлівая і добразычлівая, вельмі падабалася ёй. Увогуле, сталася так, што яна палюбіла сваю будучую нявестку яшчэ тады, калі яе і сын не ведаў. Проста яна вельмі часта думала пра тое, як сын будзе жаніцца, як стане яна свякроўкай, як гэта ўсё адаб'ецца на адносінах. Яна крыху баялася будучыні, але заўсёды цвёрда ведала, што любіць сваю будучую нявестку, кім бы яна ні была, так, як любіць сына — не больш, але і не менш. «Каб шчаслівыя былі», — думалася ёй.

Бацькі нявесты жылі на другім канцы горада, але яны і не заўважылі, як дабраліся да месца. Барытанальны дыскант сыпаў жартачкі — напэўна, для таго, каб ёй было не так трывожна. І яна паглядала на яго з удзячнасцю. Ёй і сапраўды было трывожна. Бо хто іх усё ж такі ведае, тых будучых сватоў?

У дзверы нават не прыйшлося званіць — тоненькая, як сцяблінка, дзяўчына разам з мамай выйшла сустракаць гасцей у калідорчык. Жанчыны-матулі павіталіся і нават абняліся. А потым з глыбіні кватэры да іх накіраваўся гаспадар — у светлым касцюме, пры гальштуку, з шырокай усмешкай на твары.

І тут яна пазнала яго. Высокі чарнявы хлопец не вельмі змяніўся з таго часу. Усмешка — тая ж. Наказаўшы сэрцу, каб не вельмі моцна білася, яна прыняла яго цёплы пацалунак у шчаку. А потым, крышку пазней, падумала: «Паралельныя прамыя не перасякаюцца. Але... як там казала настаўніца? У неабмежаванай прасторы, непадуладныя часу, яны ўрэшце сутыкнуцца».

Ці то ад гэтага красамоўнага ўспаміну, ці то ад віна, бакал якога ўжо быў выпіты, бо яны адразу ж селі за стол, у яе трохі закружылася галава. І падумалася пра тое, які гэты Лабачэўскі ўсё ж такі геній. Яны, паралельныя прамыя, якім не дадзена было перасекчыся асабістымі лёсамі, раней ці пазней, але стануць бабуляй і дзядулем аднаго і таго ж хлопчыка. Або дзяўчынкі.

## ЗДРАДА

І тады яна згадзілася з ім сустрэцца. Не, ну слухайце, не магла не згадзіцца. Ён і на выгляд даволі прывабны, і ў размове прыемны, і проста разумны чалавек. Яна б не сказала, што такія ходзяць па вуліцах чэргамі. Зусім наадварот — такіх трэба вышукваць, як немаведама што. Да гэтай пары яна такіх зусім не сустракала. Хоць дзесьці ў бяздонні душы заўсёды ведала, што такія на свеце ёсць. Яны недзе ходзяць, нечым дыхаюць, нешта пішуць або малююць, а мо не тое і не другое, а, напрыклад, кіруюць вытворчымі працэсамі ці перспектыўнымі кадрамі. Такія ёсць, яна гэта ведала. Але была таксама ўпэўнена ў тым, што ў гэтым яе жыцці наўрад ці знойдзецца аднаму з іх месца. Таму што не такая яна вабная, калі добра прыглядзецца. Не прыгажуня з прыгажунь. Так, нічога сабе, нешта ёсць, але каб прывабіць да сябе мужчыну такога вось кшталту — не, дзе ж вы бачылі! І, дарэчы, у яе ёсць муж. Гэта дзіўным здаецца нават ёй самой, але гэта так: у яе ёсць муж. Не самы прыгожы, не надта разумны, не вельмі ўважлівы, а калі папраўдзе казаць, то і абыякаваты. Але ж гэта муж. Яе муж. І калі так, то няма чаго думаць пра нешта іншае, рамантычна-сардэчнае, як у кіно.

Яна пра гэта і не думала. Да таго дня.

— Нядрэнна выглядаеце, — выкрыкнуў ім насустрач яшчэ здалёку адзін з калег.

Яны ўсяго толькі ішлі па калідоры лабараторыі. Чаму разам? Не, ну слухайце, разам здымалі паказчыкі адных прыбораў, каб потым зрабіць праверку на іншых, у кабінеце, што на другім канцы калідора. Чаму гэта нельга было зрабіць паасобку? Таму што яна карысталася гэтымі прыборамі першы раз у жыцці, у яе не вельмі атрымлівалася, спытацца не было ў каго і яна нешта вымярала, запісвала, зноў вымярала, зноў запісвала, нешта падлічвала, спісала вялікі ліст паперы і ўсё роўна нічога не зразумела. Дзіва што абрадавалася, калі ён падышоў і такім чынам з'явілася ў каго спытаць. Чаму ён да яе падышоў? Ды каб яна гэта ведала. Яна пра гэта нават і не падумала. Якая ёй, па сутнасці, розніца, абы дапамог.

— Гэта што за паперка? — пацікавіўся ён, калі спатрэбілася зрабіць першы запіс.

— Гэта мая паперка, я на ёй думаю, — адказала яна і прыкрыла запісы далонькай: яшчэ смяяцца будзе.

— Дазвольце, я таксама тут падумаю, — прагаварыў ён без усмешкі і зрабіў запіс на адваротным баку аркуша. Потым напісаў формулу не менш як у тры паверхі і ўсё-ўсё ёй дакладна растлумачыў. Настолькі дакладна, што яна зразумела, быццам не тры паверхі ў гэтай формулы, а ўсяго толькі адзін. Вынікамі вымярэнняў на прыборах была задаволена. Дзіва што — яе здагадкі наконт уздзеяння некаторых рэчываў на актыўнасць лабараторных узораў пацвердзіліся! Ды яшчэ новая тэхніка вымярэнняў, можна лічыць, асвоена. Заўтра зноўку патрэніруецца трохі — і будзе адчуваць сябе як сапраўдны вучоны-даследчык. Ёй жа гэтага заўсёды хацелася — быць сапраўдным вучоным-даследчыкам. Праводзіць складаныя шматдзённыя эксперыменты, весці дзённік назіранняў, пісаць навуковыя артыкулы ў акадэмічны часопіс, браць удзел у канферэнцыях і ўрэшце абараніць дысертацыю. Мара пачынае здзяйсняцца, ад гэтага на душы робіцца хораша, прыемна.

Яна ішла дадому і думала, як раскажа мужу пра сённяшнія дасягненні. Што навучылася вымяраць празрыстасць раствораў. І што, здаецца, натрапіла на невялічкае адкрыццё. Падумала так, а потым перадумала. Ці яму гэта цікава? Навошта

роднаму чалавеку затлумляць галаву ўсялякай лухтой. Не, яна не лічыць, што гэта лухта, проста ён так лічыць. Зразумела, навошта яму празрыстасць раствораў? Нібыта сваіх уражанняў за дзень не хапае. Відаць жа, што чалавек стамляецца на працы, бо калі прыходзіць дадому, ні пра што нават размаўляць не хоча. Так, трохі можна перакінуцца з ім некалькімі словамі, але не доўга, таму, што ён заўсёды просіць не перашкаджаць адпачываць. Ну добра, яна не будзе. Навошта ж роднаму чалавеку рабіць шкоду? Яна будзе сядзець пры ім ціхенька, глядзець з ім тое, што і ён, па тэлевізары, калі, канечне, гэта не будзе баявік. Бо ён любіць баявікі, а ёй ад іх робіцца сумна. І крыўдна. За яго.

Пасля вячэры — усё як заўсёды. Памыла посуд і села з мужам глядзець тэлевізар. Але толькі села і праз хвіліну зноў паднялася. Падумала, што трэба перагледзець запісы. Цікавыя ж выходзяць вынікі. Яна не вельмі любіла змешваць хатнія справы з рабочымі, але цяпер ёй было прыемна зазірнуць у сшытак з даследаваннямі. Вось яна ў яго і зазірнула. Але што вы думаеце, яна там прачытала? Ужо знаёмая трохпавярховая формула выклікала ў яе галоўцы зусім не тую асацыяцыю, якую павінны выклікаць такія формулы ў такіх як яна, апантаных навукай. Яна ўспомніла, як ёй сёння сказалі: «Дазвольце, я тут падумаю». Які тонкі гумар. А потым, здаецца, пачула нешта накшталт таго, што калі дзяўчына прыгожая і ў дадатак разумная, то выходзіць… як гэта гучала? Грымучая сумесь? Яна — грымучая сумесь? Розум і прыгажосць — гэта ўсё пра яе? І першае, і другое? Здаецца, у яе закружыцца галава. Як там яшчэ гаварылі? «Вы нядрэнна выглядаеце разам»? Яна і гэты малодшы навуковы супрацоўнік — разам? А-а-а, ну так, ішлі разам па калідоры. Дык што, з гэтага нехта мог зрабіць нейкія высновы? А цікава, як яны выглядалі разам? Ёй чамусьці раптам захацелася ўбачыць, як кажуць, збоку, як яна можа выглядаць поруч з гэтым малодшым навуковым супрацоўнікам. Як шкада, што такое немагчыма.

У той вечар яна яшчэ доўга сядзела на засланай дываном падлозе, паклаўшы перад сабою разгорнуты сшытак, са старонкі якога выглядала тая самая трохпавярховая формула. Сядзела і перабірала ў галаве словы і сказы, якія пачула сёння быццам упершыню. Ды не, нічога асаблівага ёй ніхто не гаварыў. І ніякіх кампліментаў у свой адрас яна больш не чула, толькі вось гэты, пра грымучую сумесь. Далей яны размаўлялі выключна пра навуковыя даследаванні, іх магчымыя вынікі і папулярныя публікацыі. Але справа ў тым, што размаўляць з асобай мужчынскага полу так доўга і з такой цікавасцю ёй да гэтага дня ніколі не выпадала. І таму яна была, як кажуць, пад уражаннем. Пад такім моцным, трэба дадаць, уражаннем, што кожная фраза прагучала ў яе галаве ў той вечар не па два, і не па тры разы. Яна перабірала іх і перабірала ў сваёй памяці, быццам якія-небудзь упрыгожанні ў куфэрку. Здаецца, яна б слухала і слухала пра актыўнасць субстрату або паводзіны лабараторных пацукоў. Кожны дзень. Абы толькі гэта гаварылася ёй. Таму і не дзіва, што калі той самы малодшы навуковы супрацоўнік прапанаваў ёй прыняць удзел у эксперыменце, які надумаў пачаць заўтра раніцай, яна згадзілася. Яна згадзілася з ім сустрэцца! А дзявятай гадзіне ў лабараторыі. І калі муж, наглядзеўшыся тэлевізара, заявіў, што адпраўляецца спаць, яна падумала, што не можа пакуль да яго далучыцца, хоць ужо і позна. Бо ёй трэба падрыхтаваць назаўтра новенькі лабараторны халацік. Быў у яе такі, надта ж прыгожы: бялюткі, пашыты на замежны манер, з гузікамі на плячах, з тоненькім паяском па таліі. Трэба толькі дастаць яго з антрэсоляў і адпрасаваць. Гэтым яна і занялася, зноў пракручваючы ў галаве дзённую размову.

А ноччу ёй не спалася. Зусім не спалася. Хаця не, здаецца, яна ўсё ж на хвіліну-другую засынала некалькі разоў. Але потым адразу ж прачыналася ад жахлівых

думак. Яна — здрадніца. Так, здрадніца, звычайная здрадніца. У сярэднія вякі такіх як яна, саджалі ў мяшок разам з коткай, пеўнем, сабакам і яшчэ нейкай істотай. Яна дрэнна памятае падрабязнасці, але ў гэтым мяшку за ноч ужо мо разоў пяць перабывала. І толькі пад самую раніцу вялікімі намаганнямі волі намалявала сабе карціну рэальнасці, у якой зможа жыць далей.

* * *

Раніцай яны з мужам з’елі па бутэрброду і папілі кавы. Як заўсёды, моўчкі. Амаль моўчкі. — Я ўчора навучылася вымяраць празрыстасць раствораў, — прамовіла яна.

— Як гэта?

— Ёсць такія спецыяльныя прыборы. І ведаеш, здаецца, мае даследаванні будуць мець практычнае значэнне.

— Вось так адразу, — прабурчэў муж.

— Ну-у-у, — завяла яна з добрай усмешкай на твары, — калі і не адразу, калі спатрэбяцца нават месяцы ці гады даследаванняў, усё роўна можна разлічваць на поспех. Мне так гэтага хочацца.

— Глупствам усё жыццё займацца, ага.

Гэта было сказана з такім выглядам, што яна вырашыла больш не гаварыць нічога пра сваю працу — ні зараз, за сняданкам, ні сёння ўвогуле. А мо і ніколі. Ёй падалося, што муж раўнуе яе да працы. Або зайздросціць. Ды ці мала яшчэ ў яго можа быць прычын для такога халоднага адказу. Яна не будзе яму надакучваць. Вырашана і кропка. Пра працоўныя пытанні дома — ані слоўца. Лепш яна пацікавіцца яго маркамі. І ўвогуле, справамі на працы. Вось сёння ж вечарам і пацікавіцца.

* * *

Дзень у лабараторыі пачаўся, як заўсёды, з планёркі. Загадчык, стараваты вусаты прафесар, зрабіў некалькі прапаноў па выкарыстанні новых методык, і яна, як заўсёды, акуратна запісала галоўнае ў свой сшытак. Потым было абвешчана пра абарону дысертацыі ў суседняй лабараторыі. Тэма нечакана падалася ёй надта ж цікавай, і яна, нягледзячы на абяцанне прысутнічаць на эксперыменце калегі, вырашыла пайсці на аборону.

— Я рады, што вы зацікавіліся гэтай працай, — сказаў ёй той самы малодшы навуковы супрацоўнік, калі яна папрасіла прабачэння за тое, што не зможа прысутнічаць пры яго эксперыменце. — Гэта дысертацыя сапраўды вартая ўвагі. Да таго ж, яна па вашай тэме, — ён глядзеў на яе з добрай усмешкай.

— А я вам жадаю поспеху ў вашым эксперыменце, — сказала яна.

— Вялікі дзякуй, калега, вялікі вам дзякуй.

Калі разышліся ў розныя бакі, яна раптам успомніла: «А гэта ж я сама ўчора сказала пра паперу, што я на ёй думаю. І тонкі гумар тут, значыць, ні пры чым».

*Алег САЛТУК*

# СУСВЕТ ТАЕМНАСЦЮ ЧАРУЕ



***Алег Салтук нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў філфак Магілёўскага педінстытута. Працаваў ва ўшацкай раённай і віцебскай абласной перыёдыцы. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча. Аўтар зборнікаў паэзіі «Пачатак дня», «Святло зямлі», «На далонях жыцця», «Трывога лёсу», «Не разлюбі...»***

* * *

О, як бяжыць неўтаймаваны час,
Як ён імгненна ўсё наўкол мяняе!
Ды той агонь у сэрцы не пагас,
Які святым заўсёды называю.

Агонь любві да роднага двара,
Да хат сваіх, да землякоў, суседзяў…
Зайздросны лёс мяне тут напаткаў
І абышоў бы, каб бадзяўся недзе.

Тут песня спаконвечная была
На мове, без якой я — недарэка…
Стаю сярод радзіннага сяла
Да веку самым шчасным чалавекам.

* * *

Лячуся полем і дубровай,
Крыштальначыстаю зарой.
Шукаю згубленыя словы,
Знаходжу страчаны спакой.

Сачу за ходам зорак дальніх
У недасяжнай глыбіні.
І ні мясцовых, ні глабальных
Праблем не ведаю ані!

Сусвет таемнасцю чаруе.
Дзяркач туман на часткі рве.
І промнік сонечны начуе
У дзьмухаўца на галаве.

### НЕЧАКАНАСЦЬ

Прамільгне ці наяве, ці ў сне
Толькі тое, што не пакіне…
У далёкай маёй старане
Без мяне хтосьці ходзіць у сіні.

Не такі ён, як некалі я,
І такі, бо з радзімага краю.
Пад сімфонію салаўя
Белы бэз вочы ў свет раскрывае.

Хутка-хутка распусціцца ён
І ахопіць душу і прастору.
І прымроены мной маладзён
Акунецца ў ягонае мора.

Назбірае, шчаслівы, букет
І ў руках панясе закахана
Толькі той, што сама, нібы квет,
Расцвіла для яго нечакана.

## СМУТАК

Плакала ракіта —
Косы не памыты.
Хоць і над вадою,
Ды бяда з бядою.

Уцякла крыніца —
Няма чым памыцца.
Перасмяглі губы —
Не прыходзіць любы…

## МУЗЫКА

Скрыпка іграла і памірала,
Потым на момант уваскрасала.
А за акном завіруха шалела
У апранасе сваёй чорна-белай.
Струны звінелі, рукі ляцелі,
Гукі спляталіся і вар’яцелі.
І, адлятаючы ў мройныя далі,
Разам смяяліся і рыдалі.
І аж да самага светлага рання
Некага з некім ішло развітанне.

## ВОТЧЫНА

Неаглядная мая вотчына,
Ненаглядная ты мая.
Свецяць зоркі сінімі вочкамі
Пад напеў малады салаўя.

Дымам бэзавым далі асмужаны,
Неўзабаве запахне язмін,
І па веснах, падцепленых лужынах
Прабяжыць, як хлапчук, успамін.

Ён то песняю прысуседзіцца,
То таемна, ласкава зірне.
Не надыхацца, не нагледзецца
Тым усім, што ў маёй старане.

Кветкі ўспыхнуць пад абеліскамі,
І адпрэчыцца забыццё.
Мая вотчына, нізка-нізка я
Табе кланяюся ўсё жыццё.

Вольга КУРТАНІЧ

# «СССР»*

## *Антыдзея без дзеючых асоб*



***Вольга Куртаніч нарадзілася ў г. Качканар Свярдлоўскай вобласці. Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працавала на рэспубліканскім радыё, у часопісах «Маладосць», «Нёман», газетах «7 дней», «Літаратура і мастацтва». Аўтар кніг паэзіі і прозы «Птушыным шляхам», «Начное сонца», «В блистании строк», «Залюстрэчча для Алісы».***

### ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ

***Легалізавацца*** — вось што цікавіць мяне, вось што з'яўляецца самым галоўным у маім жыцці. Мы сустракаемся з сябрамі: на працы, вечарынах, выставах, за келіхам віна, з куфлямі піва, на балконе — з картамі, на прыродзе — са смажаным мясам на ражне... Мы яшчэ маладыя, поўныя імпэту і жадання выказацца, рэалізавацца. Пра ***легалізацыю*** думаю толькі я адна, хаця *легалізацыя*, як з'ява, супадае з рэалізацыяй.

Учора мінула роўна тры гады, як я сядзела ў кавярні насупраць Палаца Уфіцы ў Фларэнцыі і смакавала каву. Гучыць? Я сядзела там, як дурніца, і слёзы капалі прама ў кубак з гарачым напоем, які зычліва прапанаваў той, хто арганізаваў мне наведванне знакамітай галерэі. «У цябе сіндром Уфіцы, — даводзіў ён мне. — О, нам, італьянцам, гэта добра знаёма. Мы так звыклі да падобнай рэакцыі турыстаў». «У цябе чуллівая душа», — дадаў ён камплімент. А якая душа можа быць у чалавека, выхаванага савецкай сістэмай? Мы ж не імкнуліся да дабрабыту, нас вучылі любіць радзіму і не любіць прыкметы разбэшчанасці: джынсы, замежны рок, даўгія валасы ў мужчын і тэрмін «дэмакратыя». Хаця на самай справе мы, моладзь 70-х гадоў XX стагоддзя, толькі гэта і любілі, хаця слова «дэмакратыя» ў нашым лексіконе і не было. Было: «прапаганда». Мы ведалі, што калі наша савецкая жанчына трапіла ў ЗША да родзічаў і згатавала тым небаракам сапраўдны боршч, ёй было прамоўлена: «Смачна! Але гэтаму цябе, напэўна, навучыла КДБ?» Не верыце? А хіба мы, школьнікі правінцыйнай школы, маглі ўсумніцца ў рэальнасці падобнага выпадку, калі табе пра гэта расказвае твая любімая настаўніца гісторыі? І, значыцца, мы лепшыя ў свеце нават па гатаванні баршчоў! Дзеці лепшай у свеце краіны са школьных лавак вучыліся чалавечым узаемаадносінам, сябраваць-ненавідзець, слухаць-не давяраць, сумнявацца і адстойваць цнатлівыя мары

* Часопісны варыянт.

пра «свабоду, роўнасць, братэрства»... Мы верылі, што калі каго-небудзь высылаюць з краіны, значыць «так і трэба!», верылі, што сшыткі, алоўкі і сціральныя гумкі, сабраныя ўсім класам, — рэальная дапамога дзецям В'етнама ці яшчэ якой краіны, якая імкнецца збудаваць падобную да нашай сістэму дзяржаўнасці. Мы — за «пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» А вы за што?!

Ат, Уфіцы! Чаму з цягам часу, як толькі засядзішся на месцы, тут, у Беларусі, цябе перастае даймаць пытанне: чаму ты нікуды не можаш выбрацца? Д'ябал яго бяры, куды выберашся з гэткім заробкам. А тут яшчэ чарвячок точыць: *легалізавацца*... Быццам ты які эмігрант альбо *«лицо кавказской национальности»*, якому тэрмінова патрэбны шлюб з тутэйшай нявестай, каб ***легальна*** гандляваць мандарынамі ці гарбатнікамі, прывезенымі з маскоўскіх рынкаў. У нас свая годнасць, за апошнія дзесяць гадоў мы паспелі забыцца на школьныя агітмерапрыемствы, калі чыталі на памяць патрыятычныя вершы пра дружбу народаў СССР, кожны — у строі аднаго з пятнаццаці народаў, дзе казашка, грузін, армянін, азербайджанка былі раднейшымі за в'етнамцаў ці неграў, не кажучы ўжо пра амерыканцаў. Колькі ж давялося адрыгнуць сапраўдных пачуццяў, каб перастаць любіць адных і прывязацца да іншых! Думаеце, ***легалізацыя*** ніякім чынам не суадносіцца з прапагандай? Памылка. Парнаграфічнае кіно і фільмы жахаў — вось што такое Амерыка 80-х у СССР. Сінія штаны з грубымі швамі, якасць якіх так добра разрэкламавалі каўбойскія азадкі, мы паспелі ўжо аднасіць. І не адну пару. Бітлы і Лэд Зэпелін, Скорпіанс і Дып Пёрпл застануцца ў нашай памяці да апошняга ўздыху. А вось фільмы... З якімі пакутамі мы прывыкалі да іх, як балюча вучыліся ламаць светапогляд, покуль амерыканская рэчаіснасць не прывіла разуменне, што зорныя войны — наша агульная будучыня. І, калі так, значыць, мы павінны ісці ў адным кірунку.

Дык пра што гэта я? А, пра шчасце і пра цнатлівасць, якой савецкія хлопцы і дзяўчаты мусілі адрозніваца ад усяго свету. Ніякай размовы пра рознасць палоў, ніякай размовы пра секс, спадары і спадарыні! Вось: дзеці гуляюць на вуліцы правінцыйнага гарадка, больш падобнай да вясковай, таму што на ёй спрадвеку стаяць толькі прыватныя хаты (не блытаць з катэджамі перыяду перабудовы і не прыглядацца да маёнтачкаў у замежных фільмах! — усё не так). Я тут чужая, таму што прыехала з Расіі і жыву на птушыных правах у чужой бабулі (а я ж верыла, што яна мне — родная); я размаўляю не так, як яны (пра што даведваюся, калі мяне аднойчы просяць навучыць «чырыкаць» па-маскоўску); мая мама самая прыгожая: танюткая, начытаная, спявае лепш за ўсіх (сама я — гідкае качаня з прастудамі на губах і падрапанымі рукамі-нагамі); я не памятаю ніводнага твару з той хеўры дзяцей, з кім даводзілася гуляць у маленстве на той брыдкай ад звычайнасці вуліцы. Затое памятаю дзяўчынку, якую познім вечарам выгналі на вуліцу з нашага пяціпавярховіка, калі я з бацькамі жыла ў іншым, расійскім горадзе і мне было на той час тры-чатыры гады. Памятаю мультфільм, які мы глядзелі пасля таго, як удалося прыцягнуць тую малечу да нас, на пяты паверх. Памятаю любімую цацку — Зайца, што згарэў у грубцы гэтай кватэры на пятым паверсе. Памятаю шашу, за якой хваёвы лес і пупышкі коцікаў на дрэвах. Некалькі новабудоўляў і дзіцячы садок, адкуль паспяхова збягала праз увесь горад, у які маці трапіла па камсамольскай пуцёўцы. О, эра камсамольскага маразму! І кім бы я нарадзілася, каб не адзіна вернае рашэнне партыі спатоліць моладзевы імпэт і прагу вандровак праз камсамольскія будоўлі новых гарадоў і аб'ектаў усесаюзнага прызначэння?.. Беларуская правінцыя была больш набліжана да рэальнага жыцця. Гэта я да таго, што адкуль у горадзе раман-

тыкаў я б даведалася пра фізіялогію? У якім узросце б тое адбылося? А так — калі ласка... Мы сядзім на лаўцы, марудна перагаворваемся, перабіраем нейкія плёткі пра таварышаў-суседзяў, а тут праз кусты барбарысу і маліннік ляціць да нас дзяўчо і прама ля лаўкі падае так няўдала, што гумка ў штанах лопаецца, і тыя з'язджаюць… Мае прыяцелькі тут жа малююць з нявінным выглядам прутком па пяску, падобным да пылу, два злучаныя паміж сабой кругі. І што гэта, — разумеюць усе, у тым ліку і збянтэжаная дзяўчынка. У яе вачах стаяць слёзы, але плакаць нельга, бо пачнецца рогат. Жорсткі ўзрост, вось як бы я назвала дзяцінства...

...Мне восем-дзевяць гадоў. Мае бацькі жывуць у інтэрнаце. Ці мне шэсць, бо я не памятаю: нарадзілася тады ўжо мая малодшая сястра альбо не? Карацей, мы жывём у інтэрнаце, пакуль я не перайшла ў восьмы клас, а мае бацькі не развяліся. Але на той момант, пра які я хачу распавесці, мне было няшмат. І вось ляжу я на ложку ў пакоі і разважаю: тое, што я жыву — гэта сон ці не? Я так доўга думаю пра гэта, што раптам пачынаю ўсведамляць сябе дзяўчынкай у газавай ружовай сукні (святочная сукня, у якой я выступала на ранішніку ў дзіцячым садку — захавалася нават фатаграфія); дзяўчынка-я ляціць, не, — плыве пад столлю, прама нада мною, празрыстая і спакойная. Я ўшчыкваю сябе за руку. Я — адна — на ложку.

Іншыя ўспаміны: маё інтэрнацкае дзяцінста было шчаслівым, я не пачувала сябе папялушкай, непаўнавартаснай з таго, што мае бацькі не маюць кватэры. Памяць пра аднапакаёўку на пятым паверсе амаль сцерлася; яна засталася далёка за Масквой, бліжэй да Урала, дзе жылі ўсе маміны родзічы, адкуль пачынаўся род Фядотавых. Гэта калі ўжо я вырасла, адна з цётак распавяла мне гісторыю нашай сям'і, загадаўшы маўчаць, бо адзін з бабуліных братоў быў у белапаляках, а іншых раскулачылі. Маўчу…

«*Слова* ***легальны*** *і аднакарэнныя з'яўляюцца на старонках рускага друку напачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя З развіццём рэвалюцыйнага руху ў Расіі, стварэннем тайных арганізацый, якія змагаліся з царызмам, у 70-х узнікае і шырока распаўсюджваецца новастварэнне* ***нелегальны***», — так сцвярджае «Школьны слоўнік замежных слоў», падаўшы перад тым, што «***легальны*** — (лац. legalis) — *прызнаны, дазволены законам*». Чаму сацыялізм так жорстка не прымаў ніякай самастойнасці думак, ніякіх уласных поглядаў на тую ці іншую несправядлівасць, ніякай крытыкі ўлад? І тым больш — ніякай арганізаванай крытыкі? Але ж тыя, хто прыйшлі з бальшавікамі, ведалі, што перш, чым займець уладу, яны былі нелегаламі; на нелегальным становішчы; нелегальнай партыяй; гуртам бунтароў... Абяліўшы сваю нелегальнасць і барацьбу за ўладу, яны не дазвалялі іншым нават марыць пра падобны шлях. Калі яны ў такой барацьбе прыдуманых імі класаў — героі, дык чаму ўсе астатнія змагары — ворагі?

Царква Санта Крочэ ў Фларэнцыі. Уздоўж сцяны правага нефа надмагільны помнік Дантэ Алігьеры работы Рычы (1829 г.), я стаю ля яго (захаваўся фотаздымак); Вавельскі палац у Кракаве, у скляпеннях — труна Адама Міцкевіча, я побач (фотаздымак захаваны). Паэты, якіх я не магу не любіць; адзін з іх — наш зямляк, пахаваны, як і ўсе нашы вялікія землякі, далёка ад Радзімы. Гэй, Касцюшка, нацыянальны герой Амерыкі, хіба ты хоць раз не пашкадаваў, што нарадзіўся беларусам? Выпускнік Варшаўскага кадэцкага корпуса і Парыжскай ваеннай акадэміі, кіраўнік паўстанцкай арміі, цяжка паранены ў адным з баёў, узяты ў палон і адпраўлены ў

Петрапаўлаўскую крэпасць у 1794 годзе. Што мяне заўсёды дзівіла — тэрмін, які павінны былі правесці ў вязніцы ці ў высылцы «палітычныя» да таго, як да ўлады прыйшлі бальшавікі. Праз два гады кіраўнік паўстання супраць царскіх войскаў быў вызвалены і апынуўся ў Амерыцы, дзе паспеў ужо вызначыцца як герой у барацьбе за незалежнасць заакіянскай краіны (1775—1783 гады). Яшчэ праз два гады вярнуўся ў Еўропу, памёр у Швейцарыі, пахаваны ў Кракаве... І мне ўсе школьныя гады даводзілі, што беларусы — неадукаваная нацыя, дзе нацыянальны сімвал — «*я, мужык-беларус, пан сахі і касы*»? Ды вы што, з глузду з'ехалі? Мне трэба было закончыць школу і ўніверсітэт, каб нарэшце шляхам самаадукацыі даўмецца пра Гісторыю свайго народа...

Як холадна! Які пранізлівы вецер, пераходжу на другі бок праспекта, дзе вецер адчуваецца яшчэ мацней. Мінск перадкалядны; хоць бы на вітрыны паглядзець, ёлачкі, гірлянды, агеньчыкі; вецер, машыны, святлафоры, людзі. «Жэншчына, — звяртаецца мужык бамжаватага выгляду, калі я бягу па сваіх неадкладных справах уздоўж Чырвонага касцёла. — Можна ў вас папытаць?» «Пытайцеся». «Ідзіце сюды. Я не гэты... Мы з Казахстана, бежанцы. У катастрофу папалі...» «Усё...» — рэзка паварочваюся, каб ісці далей. Адказ не завершаны. Іду, адчуваючы віну з-за таго, што не магу нічым дапамагчы чалавеку, які, па ўсім відаць, «страсае» на бутэльку. Адкуль гэтае пачуццё віны? Думаю, з дзяцінства. Яно заклалася, калі мы з маці пайшлі на рынак і я ўпершыню пабачыла ля ўвахода чалавека-кульцю, чалавека без ног на зашмальцаванай дошцы, які п'яна пасміхаўся і чакаў міласціны. «Дай, дачушка, не бойся, гэта не сорамна», — сказала мне мама і паклала ў далоньку капейкі. Памяць вам ***С***ветлая-***С***ветлая-***С***ветлая, ***Р***айскія капейкі майго дзяцінства! 12 капеек — пясочная палоска (любімая), 8 капеек — булачка, 10 капеек — шклянка таматнага соку, 18 капеек за 100 грамаў смажанай пячонкі ў кулінарыі ці ў прывакзальным кіёску, 1 капейка — кавалачак хлеба з бохана-цаглінкі... Памятаю, такім жа часам мы з адной школьнай прыяцелькай заскочылі пасля заняткаў у «Вецярок», шкляную піўную на скрыжаванні галоўных дарог нашага гарадка. (Гэтая піўная некалькі разоў потым снілася ў трывожныя хвіліны майго сталага жыцця, як, зрэшты, і іншыя памятныя мясціны сярод вулачак і завулкаў мястэчка, дзе прайшло маё дзяцінства.) «Давай, давай, у мяне капейка засталася», — падбухторвала аднакласніца, каб мы завіталі ў гэтае «дарослае» прыстанішча п'янюг, але найперш — нашых татаў. На шкляных вялізных вокнах мароз пакінуў свае парцалянавыя роспісы сцежак і руж, віхурыстых крэндзеляў і дзюшэсных празрыстых лапак. Мы ўваліліся з марозу, аддыхваючыся і хітра пазіраючы вакол. «Чаго вам, дзеці?» — папытала тоўстая цётка. «Нам хлеба», — прамовілі мы, працягваючы капейку. «Галодныя», — пашкадавала кабета, але не надта, бо разумела, што зазірнулі мы да яе зусім не з-за таго, што дужа хацелася есці. Потым, хаця і цёмна было на двары, завітала я да той жа прыяцелькі, спакусіўшыся на ейную прапанову забраць да сябе хамяка. Не памятаю, як я яго несла, як ён не скалеў на марозе, але пражыў хамяк у нашым інтэрнацкім пакоі не больш як суткі. Не тое, каб апруцянеў, а проста «выпарыўся», як і ўся астатняя шматлікая жыўнасць, што трапляла з-за маіх прыхамацей у будыніну, дзе жыўнасць трымаць забаранялася. Маці навучылася казаць мне нешта такое чароўнае і амаль праўдзівае наконт таго, што адбывалася з гэтымі істотамі, калі яны па чарзе знікалі ад нас, — што я практычна перастала перажываць і хвалявацца. Затое са мной адбылося наступнае: я перастала прывязвацца да жывёл, я люблю іх амаль віртуальна.

...Што, што змянілася ў свеце з часоў Ганорыя Аўгустадунскага, багаслова XII стагоддзя, які здолеў усю сукупнасць боскіх стварэнняў падзяліць на пяць катэгорый: якія валодаюць цялеснасцю (камяні), надзелены жыццём (расліны), якія адчуваюць (жывёлы), разумныя (людзі) і інтэлектуальныя альбо духоўныя (анёлы)? Хто ж з пазнейшых давёў, што чацвёртая катэгорыя — людзі — убіраюць у сябе ўсе якасці астатніх катэгорый? І нават, што яны — вышэйшыя за анёлаў, таму што апошнія не надзелены ані целам, ані пачуццямі! Але ў чым прадвызначэнне чалавека?

Усё, што падаецца мне значным у гэтым апісанні, для ўсіх астатніх можа не мець аніякага значэння; я, чалавек, распасцёрты паміж ганебным і ўзвышаным, паміж мінулым і будучым, наважваюся ўявіць, што спасцігла, што прамінула, калі добра разумею, што будучыню спасцігнуць не ўдасца анікому. Цела чалавечае створана з гліны, са жменькі зямлі, «ты запэцкаўся», — кажуць таму, хто ўлез у бруд, хто працаваў на зямлі, але ці можна запэцкацца тым, з чаго ты створаны? — з гэтага чорнага кавалка... Дух чалавечы створаны з уздыху, з паветра, з неба; «ты ўвесь свецішся», — кажуць таму, у каго светлыя думкі і ўчынкі. «Чорны чалавек», «светлы чалавек» — гэтыя хвілінныя даверчыя граматы асабістых выказванняў могуць быць выдадзены аднаму і таму ж элементу чацвёртай катэгорыі Аўгустадунскага. У адзін і той жа час...

Мая кніга з горкім смакам пігулак у горле, смакам хваробы і смакам выздараўлення адначасова... мая хранічная хвароба... я дапішу гэтую кнігу, я чую перамогу, як ганчак чуе зайца, затоенага ў лагчыне. І я ж — русак, чыё сэрца б’ецца хутчэй ад прадчування неабходнасці бегчы, пакуль не разарвецца сэрца, ператворанае ў камяк густой крыві, і не спыніцца заечае дыханне... Але гэты бег дае мне сілы выжыць. Пакуль што. Пакуль ганчак часу марудна трусіць па маіх застарэлых слядах. Кінь цевокам: глыбеюць зморшчынкі ля вачэй і ля вуснаў, твар набывае азызласць, а скура старэе. Я мяняюся ў часе паміж успамінамі і небыццём, я — *Руская-дзяўчыначка*-з-беларускай-Душой, выхаваная на ідэалогіі сацыялізму, засвоенай праз акцябрацкія маршы, піянерскія рачоўкі, камсамольскую самадзейнасць, разам з маім пакаленнем выкінутая перабудовай і развалам Саюза ў свабоднае мысленне-плаванне. Якое для пазнейшага пакалення сталася свабодным падзеннем.

Сведчу: кола гісторыі нас не расціснула, але знявечыла. Нацыя пачала баяцца кожнай падзеі, што насоўвалася на краіну постсавецкага станаўлення.

З таго мінулага, калі час абвяшчаўся са званіц, прайшло некалькі стагоддзяў, і час зрабіўся іншым: яго адлічваюць не цені, а хвіліны, секунды, у якія ўмяшчаецца гісторыя пакаленняў. Нацыя можа быць сцёрта з твару зямлі за лічаныя хвілі, спадары! Нават час, аддадзены на ўмоўную дэнацыяналізацыю, як падпарадкаванне адной нацыі другой, як прамежак для насаджэння сваіх ідэалаў у чужым асяродку, стаўся значна карацейшым. Колькі спатрэбілася на тое, каб мы, савецкія людзі, перасталі любіць усё савецкае і любіць усё не наша? Як толькі з’явіліся гэтыя рэчы з-за мяжы: парцалянавыя сервізы «Мадонна», чэскія крышталёвыя люстры і вазы, нямецкія лялькі з шаўковымі, бы сапраўдныя, валасамі, кружэлкі з Сюзі Кватра, а пазней — недасяжныя (мара!) амерыканскія джынсы... наша савецкасць дала трэшчыну. Атака вабных спакус не рабіла нас трывалымі, як на тое разлічвалі партыйныя босы. Мы станавіліся сведкамі таго, што нехта недзе жыве не так, як мы, і, акрамя таго, жыць, як мы, не жадае... Нашы ідэалы і шматлюдныя парады на плошчах — ад Чырвонай да самай правінцыйнай — былі разлічаны толькі на масы рабочых і сялян

адной шостай часткі сушы. А здавалася, што мы — увесь свет! Дзе куміры майго дзяцінства — Дзін Рыд і Гойка Міціч? Па вас я вывучала мужчынскасць, у вас я пазнавала галоўныя рысы сапраўдных прадстаўнікоў мужнай паловы чалавецтва: моц, прыгажосць, пяшчоту, вернасць, самаахвярнасць, рамантызм... Я любіла вас так, як больш нікога і ніколі не буду любіць, гэта праўда. Як праўда і тое, што, калі б не матухна-прырода, мы, правільна выхаваныя савецкія дзяўчынкі, павінны былі б назаўсёды заставацца цнатлівымі. Таму што сексу ў нашай краіне не было. Гэта ведаюць усе, і паўтараць аўтара фразы, што абляцела ўвесь свет, не варта.

«Раскажы пра сябе ўсё», — просіць амаль кожны ў сваёй абранніцы. ...Адкуль гэтае жаданне ўсёведання? Якая я была да цябе, любы? Хіба гэта мае значэнне, хіба ты не хочаш даведацца: якой я буду побач з табой? Я буду такой, як і ты, я навучуся: вока за вока, зуб за зуб! Якой я была? Ты што, не зразумеў, я была савецкай дзяўчынкай, якая лёгка купляецца на абяцанкі-цацанкі, — дзякаваць Богу, яны трапляюць на падрыхтаваную літаратурай глебу славянскай жаночай ахвярнасці, што ў маёй правінцыйнай школе выкладалася выдатнымі настаўнікамі. Да канца свайго жыцця я буду гатова ахвяраваць сабой дзеля мужчыны і здзяйснення цьмяна азначаных ім мар. Глыбока закладзены ***С***тэрэатып ***С***вяшчэннай ***С***ентыментальнасці — ***Р***абалепства перад прадстаўнікамі мужчынскага полу.

Вось так заўсёды, як трэба прымаць нейкае рашэнне, дык толькі і чуеш: «ты моцная». Як трэба пакінуць мяне адну — тое ж самае. Ніякая я не моцная, усё гэта знешні глянец. І што я адна буду рабіць? І хто супакоіць мой душэўны *хэлоуін на вязавай вуліцы*? Хто?! Ну вось, толькі салодка падумалася, як лежачы на смяротным ложы, я прашапчу некаму: «Бывай. ***Легалізацыя*** прайшла паспяхова», — як той нехта ў чарговы раз скажа: «ты моцная...»

«Абудзіце ў сабе ген шчасця!», — раяць мне і маім суайчыннікам раніцай па радыё. Дзякуй, прыму да ведама...

Грамадства ў прамежкавым стане развіцця; грамадзяне з прамежкавай свядомасцю, згубленыя ў часе, у якім знікла веліч іхняй гісторыі; людцы з жывёльнымі інстынктамі, прыкрытымі найноўшай агітпрапагандай, са старой марай пра будучыню. Мае суачыннікі, што грэбуюць вёскай, тады як большасць з іх самі паходзяць з вёсак, поўныя пагарды да сялянскай моладзі; чые погляды на жыццё сфарміраваны спачатку камуністычнымі лозунгамі, а цяпер — рэкламнымі слоганамі; забыцца на іх, адарвацца, узвялічыцца, каб адчуць узаемную тугу, падобную да нянавісці. Але куды нам адно без аднаго? Мы — апошнія прадстаўнікі пакалення, выхаванага сацыялізмам, у нашых венах цячэ сапраўдная чырвоная кроў з цельцамі, пазначанымі пячаткай з сярпом і молатам. І менавіта мы, а не нашы дзеці, будуем будучыню. Колькі яшчэ чакаць, каб дзеці выраслі, каб пачалі змагацца за свае ідэалы, адрозныя ад нашых?

Чаму я пішу: змагацца, калі можна падабраць іншыя словы, больш мяккія, спакойныя, словы, якія б адпавядалі працэсу станаўлення грамадства новых грамадзян... Няўжо для таго, каб ***легалізавацца***, маладому пакаленню зноў трэба змагацца, як іхнім дзядам-рэвалюцыянерам? Якая непажаданая недарэчнасць; навошта наогул была тая рэвалюцыя і такі працяглы ў часе хаос?! Вы, яшчэ маладыя, поўныя імпэту і жадання рэалізавацца, хай ваша ***легалізацыя*** як з'ява супадзе з самарэалізацыяй, не разбуральнай, — стваральнай, на карысць дзяржаве...

…На жаль, бесцялеснасць часу, што абмяжоўвае наша існаванне, набыла абрысы ***правакацыі***.

## ПРАВАКАЦЫЯ

— Трэба ісці па галовах, і тады будзеш у пераможцах, — сказаў мой Сябар-Хобіт, з якім мы ціхамірна ішлі з працы па вечаровым праспекце. Сыпаў снег, ля Палаца Рэспублікі каляровымі лямпачкамі ззяла ёлка.

— А ўсё-ткі Мінск прыгожы горад, — сцвердзіў ён. І дадаў, што не хацеў бы жыць ані ў якім іншым месцы.

Тая фраза «ісці па галовах» датычыла аднаго маладога драматурга, чыё імя мы ўгледзелі на афішы. Ён уварваўся ў літаратуру дзёрзка, адпрэчваючы ўсе аўтарытэты. І гэта — прыкмета новага часу. Іначай не заўважаць. Ці заўважаць гадоў праз дзесяць-дваццаць, калі імпэт скончыцца. У гэтым жа месцы, дзе мы абмяркоўвалі *наша* і *не наша пакаленне*, па абедзе я сутыкнулася з філосафам Пячоначкіным.

...Вальжына Іванаўна, — засакатаў-забалбатаў ён... як? чым? што?... *а я вот здравствую понемногу*... а вы ведаеце, што на мінулым тыдні праходзілі навуковыя чытанні? «Лабачэўскі і навуковая думка Расіі»; прыязджалі прафесары з Казані; ну, вельмі цікава, ёсць пра што задумацца; праз два гады і мы да іх...

— Няма праблем тэрыторый, ёсць праблемы агульныя, яны называюцца агульначалавечыя, агульнафіласофскія, агульнасэнсавыя. *Да, собственно говоря, политики — это чаемые идеалы; когда мы намерены исходить из различий, то никогда не приблизимся к единству.* Як прайшоў ваш творчы вечар? Я не змог, не змог, праводзіў расійскіх гасцей на цягнік. *Был в непотребном виде, а ведь шёл мимо, но, видимо, уже было поздно к вам забегать*. У мяне новыя ідэі; зробім ваш вечар у Нацыянальнай бібліятэцы, запросім сяброў з «*Русского общества*»; а летам у дзень нараджэння Пушкіна, на Дзень паэзіі ў Цялушу паедзем, дзе ўнучка Пушкіна пахавана; калі б не мы, дык грамадскасць і не ведала б пра ўнучку Пушкіна; у Бабруйску праз пару месяцаў адкрываюць бібліятэку імя Пушкіна, мы ім дапамагаем, і кнігамі ў тым ліку. А ў Маскве ёсць такое цікавае выдавецтва «*Русский путь*», яны працягваюць традыцыі Інкапрэс, што ў 1920 гады заснаваў у Парыжы Бярдзяеў, выдаюць вялізную колькасць філасофска-гуманітарнай літаратуры; філасофскую думку рускага замежжа. Аднак на днях мне тэлефанаваў іхні рэдактар, мы з ім *приятельствуем, они на мели*. Ніхто не фінансуе. *Те, кто когда-то уехал туда, богатые вельможи, князья русские — они уже повымерли, а молодое поколение сориентировалось на классический запад*. Яны ўжо *не столько чтут русский язык и русские традиции*, колькі амерыканскую культуру і традыцыі і да т. п. Яны фармальна адносяцца да справы бацькоў. І выдаўцы не столькі выдаюць, колькі рэалізуюць выдадзенае. Вясной будуць, хочуць з’ездзіць у Дастоева, на радзіму Дастаеўскага. Вось такая праграма. Прыходзьце да мяне — я вам кніжкі падару.

Спадар Пячоначкін, я назіраю за вамі; спадар філосаф, я занатоўваю, — вы не адчуваеце, як адвольна мая рука ў пальчатцы тузае кішэню, быццам там схаваны нататнік і асадка. Нас абмінаюць выпадковыя падарожныя, некаторыя з іх кідаюць зацікаўленыя позіркі ў наш бок. Вы — папулярызатар рускіх ідэй у грамадстве; вы — бессярэбранік; вы — балбатун і гуманіст; вы — мая вялікая спакуса, таму што ў вашым кабінеце захоўваецца самая вялікая прыватная бібліятэка, якую я толькі бачыла. Адно, што мяне хвалюе пры нашых сустрэчах: каб ваш імпэт ды на ніву беларускасці!

— Што вы ведаеце пра беларускую філасофскую думку? Нацыянальная ідэя вас цікавіць?!

— Як патрыёт я хачу яе знайсці. А таксама хачу падрыхтаваць цыкл лекцый «Нацыянальная інтэлігенцыя». Таму што ў кожнай нацыі... яшчэ Маркс калісьці

пісаў: у кожнай нацыі ёсць фізічная матэрыя, костка-мускульная сіла — працоўны клас і ўсё такое, а ёсць творчыя людзі — гэта мозг. Менавіта інтэлігенцыя; аднак яна ўжо даўно падзялілася па перакананнях на гуманітарную і навуковую. Яе яшчэ называюць творчай інтэлігенцыяй. Яна не можа быць не творчай. Таму што ёй кіруе дух. А дух — гэта творчасць, стварэнне...

Тое, што ён нагаворвае імпэтна і разняволена, займае па часе некалькі хвілін, ён амаль што не спатыкаецца, натрэніраваны доўгімі гадамі чытання лекцый (думаю, раней ён выкладаў курс марксізму-ленінізму; але гэта не істотна, прынамсі для мяне; праўда, спытаць яго пра ранейшае я не спрабавала; ды і што гэта зменіць у нашых адносінах?). Ён хаця б імкнецца выхоўваць духоўнасць; але ў тым, што ён робіць шчыра і самаахвярна, суцэльная ***правакацыя***.

— Наогул, тое, што раблю я, тое, што робіце вы — фрагменты. У нас няма такіх агромністых праектаў, як у Расіі: культурных, філасофскіх, навуковых. Няма такіх глабальных пісьменнікаў, творцаў.

Сапраўды, спадар-суайчыннік Пячоначкін, няма; і ў гэтым наша з вамі бяда. Мы не ўмеем рабіць іх глабальнымі.

— Трэба быць самакрытычнымі. Я бываю на абаронах дысертацый, назіраю за калегамі, бачу іх нерашучасць, непрафесіяналізм, прашу прабачэння. Мы свой дылетантызм часта хаваем у тогу прафесіяналізму. Я вымушаны сказаць, што мы павінны пазбягаць гэтай крывадушнасці; у нас павінна быць нейкая глыбокая нацыянальна-патрыятычная ідэя, але духоўная, не спекулятыўная, якой можна, як сцягам, размахваць (тут ён матлянуў шалікам, быццам і насамрэч уявіў сцяжок, пасміхнуўся сваёй прыдумцы, быццам знайшоў удалы пасаж, і шчыра выскаліўся, быццам я — ягоная гарачая прыхільніца, і гэта не падлягае сумненню): вось я люблю сваю Айчыну. Патрэбна ідэя, каб яе можна было адчуць у слове, учынку, стылі жыцця. *Ведь этого ничего нет. У интеллигенции нет образа жизни.* І пра гэта, вельмі важнае, я павінен гаварыць з маладой інтэлігенцыяй.

Вось я бягу са свайго інстытута з лекцыі, а ў дзве гадзіны ў мяне лекцыя ў Акадэміі мастацтваў. Праз два-тры гады мае студэнты стануць новымі парасткамі інтэлігенцыі; *какая у них философия, я их спрашиваю, на какой почве стоите*; вось гэтага прыўнесенага, транспарціраванага, але ў шыкоўнай абгортцы мадэрнізму ці постмадэрнізму? А глыбінныя струны нацыянальнага; ці вы іх яшчэ не адчулі і тым больш — не спазналі? Давайце зробім глыбокі рэверанс, папрок у бок гуманітарнай адукацыі. Ці такая яна, якая трэба? Ці падае яна нацыянальную ідэю схематычна, фармальна, дае проста нейкую арыентаванасць, але без паглыбленняў? Павінны быць нейкія паглыбленні, павінен быць нейкі рэльеф; без рэльефу і вада не цячэ. Вальжына, мы павінны яго рабіць, мы! Мы! Я адчуваю, што пазнюся, што мой час знікае. *Время — это убывание, говорил Хайдеггер. Скоро будет так: иных уж нет, а те далече... Вот так мы снова окунемся в лакомое безмолвие, а оттуда нет ни голоса, ни надежды...*

Усё з вамі зразумела, спадар Пячоначкін, мы такія розныя, і мы не разам. Вам Хайдэгер пра гэта не казаў? Я даражу нашым прывідным сяброўствам, таму што я сама — ***правакатар***, таму што мы з вамі выхаваны адной сістэмай, таму што нас, хто хоць пра нешта дбае, так мала… Вы сыходзіце, але прымушаеце думаць: як суадносяцца паняцці часу і руху. Прамежак ад нараджэння да смерці — гэта час ці рух? Ці наогул гэта — месца, таму што адбываецца на планеце зямля? Рухацца з месца на месца — гэта рух у прасторы альбо ў часе? Якое паняцце найбольш дакладна адпавядае руху? Рух у рамках адведзенага нам часу абмежаваны, замкнё-

ны, тады як час сам па сабе — stabilitas loci — *постоянство в пространстве*, як казалі старажытныя. Прастора самастойна не рухаецца, не змяняецца, гэта робіць за яе (для яе і праз яе) час. Рукамі чалавека таксама. Ці не для гэтага патрэбны мы з вамі? Каб мяняць прастору? Тую, дзе мы жывём штодзённа...

А яшчэ, дзякуючы вам, дарагі Пячоначкін, я разважаю не пра самыя разумныя рэчы: я задумваюся пра мужчын. Якія мужчыны часцей акаляюць нас, жанчын? Большасць з іх — напаўінтэлігенты; *не полусвет культуры, но полутьма*, нават — куток у напаўцемры, з цёмным розумам, з пыхай... Іхняе становішча ў грамадстве? Сустракацца з сабе падобнымі, абменьвацца рэплікамі пра справы, якія ніяк не рухаюцца, дзяліцца планамі на бліжэйшыя тыдні, гады; крыўдаваць на ўсё і ўсіх; часам нават займацца мыслярствам, але пазбягаць усялякіх спраў, якія б вымагалі прымянення фізічнай сілы і пры гэтым ва ўсім разлічваць на жанчын... Іхняя пазіцыя: недавер да ўстаноў; пагарда да чыноўнікаў, у тым ліку да тых, хто сваім розумам і намаганнямі дасягнуў у жыцці нечага вартага. Недавер да ўсіх, хто акаляе, бо яны думаюць, што іх павінны цаніць за непраяўленыя, але ж існуючыя (а як жа ж! *и мы не лыком шиты*) таленты, да прыкладу, тонкую душу, недавер да жанчын, таму што ў нейкі момант тыя беспамылкова адчуваюць, з кім маюць справу і пачынаюць марыць пра жыццё з мужным і дужым, за якім, *як за каменнай сцяной,* недавер да жыцця і ўрэшце — да сябе саміх з-за таго, што жыццё цячэ значна хутчэй, чым яны згадваюць пра тое, што някепска было б рэалізавацца... Іхні стан? Спустошанасць, што з цягам часу ўсталёўваецца ў іхных галовах і пасля працягваецца да скону, але чым яснейшае гэтае разуменне, тым бліжай чорная кропка хаосу небыцця…

— Існуе такая тэорыя, згодна з якой усе людзі падзяляюцца на ваўкоў і жырафаў, — кажа мне Святлана-разумная. — Адны змагаюцца за жыццё, гадуюць дзяцей у цяжкіх умовах, вакол іх — кулі. А жырафы толькі сузіраюць і скубуць лістоту.

— Так, але жыццё такое, што часцей за ўсё ваўкі сыходзяцца з жырафамі. Яны моцныя і хочуць апекаваць слабых, мяркуюць, што з цягам часу стануць падобнымі да гэтых прыўкрасных жывёл з доўгімі шыямі.

— Толькі пакуль воўк змагаецца за існаванне, у жырафа яшчэ вышэй выцягваецца шыя і ён глядзіць на свайго спадарожніка з пагардай... Ты яму дзіця нарадзі, а ён гатовы ўсё жыццё праляжаць каля тэлевізара.

— Ні фіга сабе, — урываецца ў нашу ціхую размову Віцёк-Хрысце, між іншым, Светкін муж са знешнасцю пакутлівага святога, — толькі дваццаць пяць працэнтаў!

— Чаго?

— ...родаў па рэспубліцы праходзіць без ускладненняў...

Праінфармаваўшы нас, ён сыходзіць у пакой, дзе гамоніць тэлевізар. Учора я заснула пад яго лапатанне і прачнулася сёння пад тыя ж гукі. Нічога не змянілася? І вось мы сядзім з сяброўкай на кухні і ціхусенька размаўляем.

— Мужчына з рэфармацыйным складам характару зможа ўсё пад сябе перабудаваць: і жыццё, і жанчыну... А мой? А яму падобныя? Чаго яны хочуць?

— Спакойна пражыць.

— Спакойна сузіраць за чужы кошт... Яны нам, жанчынам, гадамі прывіваюць думку, што толькі гэтым дабрадзеям мы і патрэбны. А хіба ж у юнацтве мы так думалі? З гадамі ў нас, канечне ж, з’яўляюцца комплексы, але ж і сілы — таксама. Бо даводзіцца абараняцца...

— А наогул, харошыя мы людзі.

— Толькі адзін недахоп: жанчыны...

…Я женщина, которой дали ложь,
тогда как мед и хлеб —
мужская сила.
Ну, ложь, так ложь,
ну, и на том спасибо,
за то, что уж былого не вернешь...
Я женщина, которой нужен щит,
которая не верит
и не любит,
которую когда-нибудь погубит
тот, кто придет и скажет:
«защити»…

«Саша — ...» — напісалі мы з сяброўкай-першакласніцай, радыя самому ўменню пісаць, выводзіць круглыя і рысападобныя літары, якія нешта ж значаць, сабраныя паслядоўна разам; радыя таму, што можам намаляваць забароненае слова, дарослае слова-тэрмін, які належыць свету дарослых. Мы выводзілі «...», ведаючы, што Саша падабаецца нам абедзвюм: мацачок з блакітнымі вачыма пад доўгімі светлымі вейкамі. Саша і на самай справе аказаўся «…», таму што перадаў нашую цыдулку настаўніцы, пасля чаго тая склікала бацькоўскі сход, а мы з сяброўкай атрымалі дома па першае чысло... Колькі ж іх было да нас: папярэднікаў, якія шыфравалі ў малюнках словы, прыдумвалі рыскі, кропкі, апострафы, спалучэнні двайных гукаў. Пакутнікаў, чыя праца часам была марнай, як таго ж Карла Вялікага, які ўсё жыццё ўпарта маляваў новыя літары, а прымянення ім як не было, так і не будзе… Безасабовых пераможцаў, што ўсё-ткі здолелі зацугляць гукі, каб праз стагоддзі дзве першакласніцы трыумфавалі ад таго, як салодка ведаць грамату.

Дык у чым была ***правакацыя***? У тым, што вялікая руская мова будзе вывучацца ўсімі народамі Расіі, спачатку як сродак міжнацыянальных зносін, — што з поўнай адказнасцю сцвярджаў У. І. Ленін, каб затым ператварыцца ў супольную міжнародную мову, — як запэўніваў І. В. Сталін. А праўда была ў тым, што мы з сяброўкай Таняй, прозвішча якой не захавала мая дарослая памяць, у самым малодшым класе звычайнай сярэдняй школы паспяхова спасцігалі тонкасці мовы гегемонаў. Вучнёўскі сход; самае моцнае пакаранне — пакаранне калектывам, так вучылі нас у тыя гады; *береги платье снову, а честь смолоду*; мы — клас, але нядружны клас: кожны сам па сабе, клас маленькіх кланаў і аднаасобнікаў; мы сабраліся, каб пагаварыць пра нашага аднакласніка, які зганіў *чэсць* класа; худзенькі падлетак з зацятым позіркам, з вачыма палявой мышы і гэткімі ж рысамі твару — о, ганьба! — ён быў заспеты за тым, што збіраў бутэлькі. Нам не тлумачылі, што яго з малодшым братам выхоўвае маці, што працуе прыбіральшчыцай, яму патрэбны грошы (капейкі) на набыццё радыёдэталяў, ягонай сям'і даводзіцца вельмі цяжка; а мы цкавалі таго, пакуль у адзін дзень не высветлілася, што хлопчык болей не вучыцца сярод нас... Вось класны сход сабраўся з іншай нагоды: мы абураемся нейкім Сахаравым, учынкі якога асуджае цэлая краіна, у тым ліку і мы, а з-за чаго — не дадзена ведаць... Зноўку сходы: нам загадваюць прынесці хто колькі зможа, але не менш за рубель на падарункі рабочым і сялянам то Кубы, то В'етнама... А гэта ўжо не сход, а цэлы рух: прыйсці на суботнік з нагоды збору макулатуры, металалому...

Мы сустракаемся з сябрамі; я сама прызначаю сустрэчы, іду на іх больш ахвотна, чым раней; ахвотна сачу і слухаю, нават калі нехта нахіляецца, спрабуючы падглядзець: што ж я занатоўваю... Вось ужо некалькі тыдняў сябры падазрона пры-

глядаюцца, што адбываецца са мной; упэўнена: падсвядома кожны з іх разумее, што мае нататнік і асадка нясуць ім небяспеку.

Запеленгаваная абставінамі на месцы злачынства, злоўленая за напісаннем кнігі, я кажу вам: «дабрыдзень», вітаю вас скрозь жалезныя пруткі сваёй творчай асобы; ва ўнутранай клетцы схавана ўсё *маё*, усё, што застанецца для вас чужым, незразумелым, але дасягальным для зроку... канфузлівыя падрабязнасці быцця на злепленых прыродай фігурах і тварах, дзе добра бачны знешнія недахопы: сарамлівасць, нясмеласць, цнатлівасць, тады як страх выкрыцця, рух наперад і хімеры мар падкурчаны ўсярэдзіне душы... Не ўнутраны свет не душа, а кажан, заспеты ў палёце святлом вашых пранізлівых позіркаў, у якіх рэдка свеціцца спачуванне, хіба толькі ганьба. Банальнасць ашаломлівае: і я — такая, як усе, банальная ад пачатку да канца, таму што гляджу на вас так, як вы... Я — вечная вучаніца, што стаіць перад настаўніцай Гісторыяй і адводзіць позірк у пусты кут. — Паглядзіце на яе, — заклікаюць з партаў. — Яна зноў не вывучыла ўрок, яна забылася на слынную гісторыю сваіх продкаў. **Правакатар**, тлумачыць «Школьны слоўнік замежных моў», (лац. provocator) — **1**. Тайны агент, які пранікае ў нелегальную арганізацыю са здрадніцкімі мэтамі. **2**. Асоба, якая правакуе на што-н., падбухторшчык. Маюцца дадатковыя тэрміны: **правакацыйны**, **правакацыя**. Урок працягваецца. «...Яна асмелілася нават напісаць кніжку на чужой мове», — чую шэпт з задніх сталоў аўдыторыі. Я чырванею, азіраюся і бачу пераможны позірк каляжанкі па пяры; настаўніца акідвае мяне чэпкім позіркам і згодна ківае галавой: падказка пачута. Паслядоўны кашмар; мае сны, якія вяртаюць у школьныя і студэнцкія аўдыторыі; успаміны, рабінавая алея, якую мы, дзевяцікласнікі, пасадзілі ля школы нумар дзевяць; бессэнсоўнасць нашай агульнай вучобы, якая стала сэнсам, як толькі мы пайшлі ў дарослы свет паасобку; пустыя абвінавачванні, з якіх вынікае, што я — казюрка, багоўка на агульнай далоні грамадства, з часткай якога я была знаёма.

Суцэльнае глупства — я! — таго, хто сядзіць ува мне, хто робіць са мной усе гэтыя праявы: пачувацца дурнічкай на вачах у публіцы, і ў той жа час — адчуваць супярэчлівую моц магутнай сілы абранасці. Насамрэч, было б невыбачальным глупствам сядзець моўчкі, нічога з сябе не ўяўляючы, а толькі выношваць у сабе *веды пра сябе*, але нікому не дазваляць ведаць пра тое ж самае, каб не апячыся чужымі цікаўнасцю, мацаннем, абразаю, цкаваннем, паляпваннем па плячы і зычыннем далейшых поспехаў. Трывіяльнае, але непераадольнае жаданне сунуць свой нос у чужое жыццё; ***правакаваць***, калі змаганне стала ўжо бессэнсоўным, а не бясспрэчным... Аднак варта толькі заявіць пра сябе, як тут жа знойдзецца добразычліўца, які падалье цыкуты ў віно. І не трэба быць Сакратам; пакажы, што не чакаеш ні ад каго падказкі, — і ўсё, трымайся, колькі здолееш, бо вакол — плячо ў плячо — штурхаюцца зайздроснікі. Сваім подыхам яны робяць цябе інфантыльнай, пакорнай, а, значыць, трэба вырвацца з іх атачэння. Але куды, калі вакол толькі школа, толькі інстытут, толькі настаўнікі, а ты — вечны вучань наяве і ў снах? Вучань, **С**ведка **С**тэрэатыпаў, **С**уб'ектыўны **Р**амеснік, якому нехта павінен паставіць станоўчую ці адмоўную адзнаку...

«Як несправядліва, — падтрымлівае мяне (і сябе) спачуваннем Віця-доўгіяногі-ў-Аб'ектыве, муж яшчэ адной маёй сяброўкі, — та-а-а-кая паэтка, а ў якіх яна ўмовах жыве? Хіба яна мае тое, чаго варта, згодна свайму таленту?» Мы стаім купкай пасля маёй вечарыны ў Чырвоным касцёле, у маіх руках — мноства букетаў, я шчаслівая, таму што хвіліну таму прымала кветкі і раздорвала аўтографы. Ува мне фантануе пераможнае пачуццё: пачута! Памятаеш, ты некалі расказваў, як вы

са здымачнай групай прывезлі сюды не чукчу, але паўночнага жыхара: таму захацелася паглядзець на цывілізаваны свет пасля таго, як яго знялі кіношнікі. І што? Чалавека падкасіў інфаркт, назад завезлі ў труне. А мы ж тут жывём. І нават пішам, намалёўваем, здымачкі робім, хвалім адно аднога ці ганім, — аднак, жывём жа. Толькі ўжо без Любашы-вершаванкі. «Пішы, Вальжынка!» — яе апошні запавет, якога я прытрымліваюся, пакуль Бог дае сілы. А якія вершы яна пісала, чыстыя!.. А як выдавацца, калі пасля развалу Саюза правілы гульні змяніліся: цяпер творца павінен знайсці грошы, каб выдаць сваю кніжку. *Талент усё пераможа*, — казалі за Саветамі; Ганула-Пісьменніца-наша-малодшая-сяброўка тут не выдавалася, нікому не патрэбна, грукалася-грукалася, а бач ты, — Масква за год аж дзве кніжкі ёй надрукавала, як пераможцы літаратурных конкурсаў; хто — і яшчэ далей друкуецца-выдаецца; частка — за акіянам ганебна-гняўліва пра Беларусь гаротную спяваюць; усіх не пералічыць; *кожнаму сваё...* а Любашы няма і не будзе ні ў Маскве, ні ў Амерыцы...

Так паступова мы звыкаемся з тым што адбываецца з намі. «**Правакацыя**, — сцвярджае іншая крыніца, “Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы”, — гэта: **1**. Здрадніцкія дзеянні, падбухторванне каго-небудзь да такіх дзеянняў, якія могуць прывесці да цяжкіх вынікаў. **2**. Штучнае выкліканне якіх-небудзь прыкмет хваробы». Мы — хворыя, таму што спакойна адносімся да таго, як разбэшчваюць нашу моладзь, будучыню нацыі, дэмакратычна хворыя на дэмакратычныя хваробы, у выніку якіх ідзе дэградацыя грамадства.

— Чаго маралі чытаеш? — крыўдуе Саладзенькі, звяртаючыся да сяброўкі Святланы-разумнай-Савы.

— Таму што мне крыўдна: дысертацыю закінуў, на працу напляваць, выкладаць табе не цікава... Хачу, каб побач з табой была добрая дзяўчынка, якая б хацела нарадзіць ад цябе дзіцёнка, і ты б сказаў: Света, пасядзі з маім малым трошкі... і я б узрадавалася... Чаму мужыкі так баяцца прыстойных жанчын? Чаму, калі надышоў час выходзіць замуж, мне спатрэбілася прыкінуцца дурнічкай, — і тут жа з’явілася чарга жадаючых?

— Вось парадокс, — пасля невялікай паўзы працягнула Святлана-Прамудрая-Галава, — гэта ж наколькі трэба паказацца дурнейшай за мужчыну, каб ён узяў цябе замуж.

Памятаю: пачатак васьмідзясятых, яшчэ краінай кіруе Герой Герояў СССР Брэжнеў, я — студэнтка ўніверсітэта. Разам з намі на патоку вучыцца «блакітны», невысокі маладзён з прыемнай знешнасцю, перш — цікаўнасць, але не залішняя, спакойная, ён — першы знаёмы мне мужчына іншай арыентацыі, такіх цяжка было сустрэць наогул, таму што іх — 3 %, як сведчыць сусветная статыстыка, па тры працэнты на кожную краіну, у тым ліку і СССР; гэта іхняе жыццё — *бывайце здаровы*, тры: норма; цяпер, згодна з апошнімі дадзенымі, — ледзь не дваццаць пяць (?!). Як назваць гэтыя новыя працэнты, як не распустай? Памятаю: аднакурснік, высокі, белатвары, падобны да лялечнага Бураціны Смяшлівы-Піяніст-тонкія-пальцы быў пакліканы ў кампанію тым самым «блакітным», і як ён уцякаў праз акно, каб не трапіць у гісторыю, каб застацца самім сабой... Памятаю: пасля першага курса Смяшлівы-Піяніст паехаў вучыцца ў Маскоўскі ўніверсітэт, а мы прыязджалі да яго ў госці. Ён быў вельмі гасцінны, да яго прыехала і некалькі прыяцеляк-студэнтак з Таліна, было сёмага лістапада, дзень Вялікай рэвалюцыі, і нам пашэнціла патрапіць у нейкі рэстаранчык. Мы елі ад пуза, але афіцыянт быў п’яны і з кожнай стравай,

якую прыносіў праз усё больш доўгія прамежкі часу, станавіўся больш п’янейшым, больш нахабным. Карацей, мы збеглі адтуль. Згадала: мы трапілі ў рэстарацыю дзякуючы вынаходлівасці Піяніста-Мяшок-са-смехам; ён сказаў кельнеру (ці як той тады называўся), што з ім — замежныя студэнты, якія прыехалі ў Маскву на свята Вялікага кастрычніка; эстонкі размаўлялі на сваёй мове, да таго ж яны ўсе, як адна, былі ў галаўных уборах свайго ўніверсітэта: блакітнае з чорным; падобны фокус былы студэнт маёй навучальнай установы рабіў і дома, калі да яго прыехала сяброўка па перапісцы (о, якая была мода на перапіску з аднагодкамі з сацыялістычных краін!) з Чэхаславакіі, а ў крамах — дэфіцыт, блат, лепшае — з-пад прылаўка; хлопец не разгубіўся і — прама ў гаркам партыі, маўляў, так і так, трэба ж госцю карміць, каб яна чаго не падумала; і што? — купіў цэлую торбу дэфіцыту ў гаркамаўскай сталоўцы! **С**пектакль: **С**умесь **С**атыры і **Р**айскага падману.

Усё, што мы звыклі рабіць за семдзесят гадоў савецкай улады, гэта слухацца іншых. Мы і цяпер не спрабуем вынайсці сваё, вытлумачыць прыярытэты, а паранейшаму слухаемся іншых. Мы гатовы клюнуць на чужыя ідэалы; штучныя агіткі; звыродлівыя ілюзіі тых, хто ведае сакрэт белазубай усмешкі і імкнецца кіраваць светам з дапамогай ваеннай сілы. «Ва-у!» — звяртаецца да мяне вядучая ранішняй тэлевізійнай праграмы з крыкам, якім тэхаскі каўбой адганяе карову; радаснаму «ваў!» дапасоўваюць макіяж, падобны да баявой расфарбоўкі і зімовыя боты айчыннай фабрыкі; і хто сцэнограф? і хто *іміджмэйкер*? — спытаю я вас на адэскі манер; і хто робіць нас асобамі без вызначэння, асобамі сярэдняй нацыі, сярэдняга полу? Мы — хто? Мы — якія? Для якіх *нас* пісалі нашыя далёкія продкі гусінымі пёрамі, макаючы іх у рог, поўны соку дубовых жалудоў?

...Ноччу мы едзем з сястрой на машыне па вуліцах сталіцы, з аднаго раёна горада ў другі, з імянін Іры-Чортавай-бабы дадому; на вуліцах — каляровыя лямпачкі, хутка Ражаство, ёлкі ў агнях, снег падае гусцей пад ліхтарнямі; наш горад... Цудоўны вечар. Ужо некалькі гадоў я ведаю дакладна, што пасля дня нараджэння Іры настае Новы год, вечар у яе за святочным сталом набліжае святы. Сёлета мы не коўзаліся з горак, не пілі на марозе гарэлку, але, як і раней, абмяркоўвалі тэатр, літаратуру, вандроўкі па Беларусі, слухалі музыку, гарталі кнігі. Проста калі хараша разам... Увечары наступнага дня я вяртаюся з працы на грамадскім транспарце; я ўсё яшчэ ў той самай краіне, у тым самым горадзе; побач са мной — мае суайчыннікі.

Правільна казала Светка-цвярозая-Галава, што харошыя мы з ёю людзі, адзін недахоп — жанчыны.

Дарэчы, заўважана: звышсур’ёзная публічнасць пакідае на мужчынах адбітак абранасці; магчыма, у гэтых звышмужчын, да якіх яны залічваюць сябе, як толькі становяцца дарослымі, начыста выціраюцца з матрыцы мозга ўспаміны брыдкіх дзіцячых забаў, непрыстойнасці, прага падглядаць за распранутымі цёткамі, хаця ўсё гэта толькі павінна нагадваць ім пра часы, калі не было і намёку на нейкую іерархію. Мужчынская душа робіцца дарослай праз фальш. Самы просты спосаб стаць дарослым — забыцца на свае ранейшыя правіны. Чым больш брыдкія думкі давялося вам спазнаць, чым большы сорам давялося задушыць у сабе, тым вы здаецеся сабе больш мужнымі, прамымі — сама дасканаласць, якая перамагла недахопы...

Пра што я шкадую? Пра тыя часы, калі даўжыня начных і дзённых гадзін была роўнай, нягледзячы на тое, што ў сутках, як і цяпер, толькі дваццаць чатыры гадзі-

ны. Пра часы старажытнасці, у якія не ўмелі пісаць, іначай бы мы, не кажучы пра ўсіх астатніх, мелі грунтоўнае сведчанне, што мы — адметная нацыя. Чаму нас вучылі ў школе? **С**тылізацыі, **С**фарміраванай пад **С**яэднерускі **Р**азмер.

Пра што я думаю? Што выдатна, калі на паліцах з'явілася так шмат гістарычных кніжак, але як жа мы прыпазніліся з гэтымі напаўлітаратурнымі падручнікамі. Ці не здаецца вам, што гістарычныя кнігі могуць прыцягнуць увагу адно толькі суайчыннікаў, тады як таленавітай літаратурай можна прыцягнуць увагу ўсяго свету? Колькі ж пакаленняў павінна нарадзіцца ды вырасці, каб здолець пераасэнсаваныя гістарычныя веды ўкласці ў свае творы? Колькі ж можна культываваць немаўлячы стан нацыянальнай культуры? Агу, Барысе-Самотны, агу, Міхасе-вольна-залежны, агу, Уладзя-ненавіснік-расейцаў, агу, Алесь-чарнавокі-чарнавусы ды інш. — вы мяне чуеце? Вы разумееце, пра што я кажу? З чаго гэта вы і вам падобныя называюць свае імёны так, быццам яны ўжо належаць вечнасці, яскравай будучыні; задаволены сваімі клопатамі пра лёс нацыі і радзімы, якім прысвяцілі некалькі ўдалых радкоў?

Пра што згадваю? Пра страсбургскага механічнага пеўня, які маханнем крылаў адзначаў пэўныя прамежкі часу і — нашага вучонага, асветніка і першадрукара Францыска Скарыну, які праз стагоддзе вымяраў начны час па даўжыні сплывання свечкі; хіба з таго часу мы займелі *сваё* месца ў свеце? Мы па-ранейшаму на шалях дрыжачай рукі Гісторыі, што вагаюцца паміж Захадам і Усходам; шчэ з тых часоў, калі ўсходнія славяне, прыняўшы хрышчэнне, узялі за прыклад лацінскі досвед, а ўсходнія — візантыйскі; фатальны ківач; мільёны смерцяў ад рук суседзяў: вялікадзяржаўнай «*матушки*» і хітруганкі-*ojczyzny*; за нашым часам зноў актуальная агітацыя ваганняў: раўняцца на *тых* і на *гэтых*, ісці за *тымі* ці за *гэтымі*…

— *Мы проигрываем, не соприкасаясь*, — даводзіў мне прафесар Пячоначкін, сумуючы па тым, што Беларусь адгэтуль незалежная дзяржава. — *И вы, Вольжина, проиграете. Как страны, как народы…*

За што разам ставіць свечкі будзем: за знікненне ці за росквіт? Га?

Свечкі і вялікае царкоўнае свята пасадзілі Кацярыну-Белы-халат за вышыванне. Яна шыла і малілася, каб не ад д'ябла тое новае ўменне; шыла і плакала з адчаю, што шые ў свята, калі іголку трымаць у руцэ забаронена, вышывала і радавалася, што Бог адорвае яе новым талентам. Яе прозвішча азначае *портяной тканый платок*, а яшчэ — *безузорная ткань*. Аднак яна гэтага не ведае, як не ведае пра «вогненную» прыроду іголкі і тое, што голка звязана з рухам і *тым* светам, куды ўсе мы і трапім, згодна з законам прыроды. А вось жа, і вышыла першую хустку, *узорную ткань*, якой усе любаваліся, падарыла Любашы-вершаванцы ды ў гэтай хустцы яе і пахавала. А сяброўка-нябожчыца вазьмі й пакладзі мне ў сне на далонь сваё імя: *шелег, неходячую монетку*, маўляў, дарабі, што я не дарабіла. Так з'явілася мая рускамоўная вершаваная кніжка…

Што найчасцей згадваецца з дзяцінства? — канечне ж, лета; аднак мая памяць захавала малюнкі зімы. Мама цягне санкі, у якіх раскашуе закручаная ў цёплыя рэчы малая; я еду з паднятай галавой, таму што люблю назіраць пад ліхтарнямі сняжынкі; люблю хрусткі снег і часам нават спрабую пракаціць маму. Упэўнена: у гэтыя хвіліны мы абедзве пачуваліся самымі шчаслівымі ў свеце. Згадваю дзіцячы садок на Урале, дзе я жыла, пакуль мае бацькі не пераехалі ў Беларусь; там мяне ставілі адну ў цёмны пакой умывальні з-за таго, што я ніяк не хацела спаць, а крычала разам з іншымі дзецьмі маладых бацькоў-камсамольцаў-будаўнікоў-камсамольскага-горада, што, як і я, заставаліся раз-пораз у начную групу, *круглосуточную*, як яе называлі, таму што бацькі працавалі ў начную змену; *выполним пятилетку — за*

*четыре года*! *ура, товарищи*! Згадваю садок ужо тут, і рыбін тлушч, які нам давалі перад полуднем, і смачныя супы з садавіны: вішняў, яблык, клубніц, якімі нас частавалі садаўскія паварыхі; згадваю вялізазныя круглыя палавінкі марынаваных персікаў, якія я хавала ў сваю садаўскую шафку, каб пачаставаць маму. **С**амы **С**ардэчны і **С**ентыментальны **Р**аспарадак жыцця, такі кароткі па часе, што, сталеючы, амаль забываешся на яго існаванне. «Як я хачу хутчэй вырасці!» — казала я. «Паспееш, дачушка, — смяялася маці. — Дарослае жыццё не такое прывабнае, як здаецца». Чаму яна была такая нешчаслівая ў жыцці? Чаму яна засталася адна? «Не хацела прыводзіць у хату да дзяцей чужога мужчыну», — вось яе адказ. **С**пакуслівая **С**лавянская **С**амаахвярнасць — **Р**эквізіт не для сусветных тэатраў; думаю, тут мы сышліся з ёю: жыццё ўдваіх толькі робіць лягчэйшай адзіноту, а не пазбаўляе ад яе...

Вось мы вяртаемся з лесу на іртах: я і мая Інусік са сваім сабакам чау. Ці не цуд, наведаць зімовы лясок у сонечны марозны дзень?! Здаецца, казала ўжо, што ён расце недалёка ад дома, а мы жывём на ўскраіне сталіцы. Туды ехалі — неба было празрыстае, колеру сонечнай марской вады і з бела-ружовымі клубамі дыму, якія я спачатку прыняла за аблокі, пакуль з нейкага месца не паказаліся наперадзе агромністыя трубы цэпластанцыі. А назад — пацямнела, зоркі паспелі высыпацца на неба. А за чым ехалі — забыліся адламіць, засталіся без яловых лапак.

На яловых лапках
будзем пець ды плакаць:
чаму ж мне не пець,
чаму ж не гудзець,
калі ў маёй хатцы...
сэрца не сагрэць...

Званок. Усё, пачалося! — выхадны дзень, а нейкія людзі палічылі, што маюць ува мне патрэбу. Гэта Ганута-наша-малодшая тэлефануе, завітала дадому на адзін дзень па чарговыя дакументы, хутка цягнік на Маскву, так што пабачымся праз месяц.

— Атрымліваецца, у Маскве я зусім безабаронная. Не дай Бог што, апынуся на вуліцы без грошай і з дзіцёнкам на руках. Так праца патрэбна! Вельмі цяжка, што ў Маскве няма сяброў, такіх, як вы, як Света, з якімі б можна было пагаварыць па душах.

— А мужавы сябры?

— З імі можна кантактаваць, але гэта не тое. Ува мне прачнулася здольнасць аналізаваць. Я слабавольная, і мазгі не даходзяць да нейкіх рэчаў. Ведаеце, Вальжына, я зразумела, што крыўдую на ўсю рускую літаратуру. Таму што выхавана на ёй, на Дастаеўскім, прымала ўсё за чыстую манету, — вось і вырасла дурнічкай. Лічыла, што існуе нейкая Святая Русь. А як адзін пісаў: яўрэй — касмапаліт, яму паўсюль радзіма, а рускі — псеўдапаліт, таму што айчыну за радзіму не ўспрымае, таму што абясцэньвае рэальнасць з-за свайго высокага ідэалізму... Ведаеце, як я расла? Быццам мяне не існавала, жыла ад верша да верша, ад кнігі да кнігі. Не хачу быту, бруду! Хіба мы ведаем, што такое жыццё?

Яна так спяшаецца, што я не паспяваю фармуляваць пытанні. Адчуваю, што Ганута хоча выгаварыцца. Але яна не скардзіцца, бо Масква — яе даўняя мара, яе любоў, яе «*Москва, Москва и мимозы*», а дзеля сталіцы-*матухны* яна гатова вынесці любыя выпрабаванні. Зусім як я калісь з-за Мінска.

— Збіраюся ўсё пераасэнсаваць і прыйсці хаця б да прыблізных вынікаў. Адчуваю, што мой ідэалізм перарастае ў ідыятызм… Мне б так хацелася прыехаць сюды з дзіцёнкам дні на тры, сустрэцца, пагаварыць...

Толькі паклала трубку, званок. Гэтым разам пра мяне згадала Свецік-*сяміцвецік*-Разумніца, якую мы так пранікнёна з Гануляй згадвалі...

Развітваемся, кладу трубку. Не паспела пайсці паставіць гарбатнік — чарговы званок. А, спадар Пячоначкін, рада чуць.

— Не атрымліваецца, Вальжына Іванаўна, пад Новы год зрабіць вечар вершаў. Той заняты, той заняты, той хворы. І сам нешта прыхварэў... але *воодушевления вам неложного; все воодушевляются в канун новогодних праздников и появляется «вита нова», как говорят итальянцы*… Бывайце, да новых сустрэч.

Спачатку — станаўленне, затым — росквіт, апасля — цемра стагоддзяў. Пакуль не надыдзе «*віта нова»* для рарытэтаў гісторыі; праміне час, калі рабаўнікі і навукоўцы пачнуць навыперадкі вышукваць кожны сваё, адны — золата, другія — ісціну; і будзе адкапаны апошні саркафаг, у якім спіць не фараон, што захоўвае цела для пасмяротнага жыцця, а *герой і майго часу*, замураваны ў маўзалеі, на якім вялікімі літарамі напісана: ЛЕНИН. Гэты *бог сацыялізму* не вынес суседства з іншымі багамі; па ўказцы зверху руйнаваліся цэрквы і спальваліся іконы. Хіба не тое ж рабілася папярэднікамі, якія прыносілі народам свае вераванні? Хіба з паганствам абышліся больш літасціва? Што здзіўляцца таму, што за савецкім часам цэрквы служылі стайнямі? Хіба Калізей больш чым на чатыры стагоддзі не стаўся каменяломняй, і хіба не царкоўныя служкі так выкарыстоўвалі спадчыну язычнікаў? Хто думае, што сацыялізм змяніў сутнасць людзей? Веру, што знойдуцца новыя шукальнікі праўды, новыя дабрадзеі-ідэалісты, каб прапагандаваць старадаўнюю ідэю чалавечай роўнасці; нават тады, калі наш час будзе засыпаны пяском тысячагоддзяў. І вось тады, калі людзі зусім развучацца пісаць, а толькі, націскаючы нейкія клавішы, маляваць знакі, фігуры ці выявы істот, што будуць азначаць не словы, а цэлыя сказы і нават абзацы, — нейкаму выпадковаму шукальніку патрапіць на вока старонка з гэтай кнігі (калі іншыя рэчы яшчэ не будуць знойдзены), з чаго ён, стаўшы вялікім навукоўцам, які здолеў расшыфраваць незнаёмыя нікому на зямлі пісьмёны, зробіць выснову, што існавала такая цывілізацыя — СССР. Магчыма нават, што старонкі кнігі патрапяць у кабінеты вучоных і літары на іх стануць лічыць чым заўгодна: элементамі дэкаратыўна-папяровага жанру, астралагічнымі і нават кабалічнымі знакамі... Было: салдаты Напалеона стралялі з гармат па галаве сфінкса, як па мішэні. Было: старадаўні Егіпет адкрылі дзякуючы ваеннаму паходу Напалеона. Было: іерогліфы трапілі да еўрапейскіх навукоўцаў пасля егіпецкай «вандроўкі» заваёўніка... Магчыма, спатрэбіцца заваёўнік свету, каб адкрыць цывілізацыю СССР.

Зноў прыгадваю сваё дзяцінства на памежжы сталення; нас было шэсць-сем дзяўчат з інтэрната, якія сябравалі прыкладна з такой жа колькасцю хлопцаў з бліжэйшых двароў; нам было весела разам, бо амаль штодня мы збіраліся пагуляць у «*штангер-штангер*», у *хованкі*, *ручаёк*, *даганялкі*, *сапсаваны тэлефон* ды іншыя немудрагелістыя дзіцячыя забаўкі, якія патрабавалі дастатковай колькасці ўдзельнікаў, каб гэта было цікава ўсім. Думаю, пералічыла не ўсё, аднак упэўнена, што сучасны падлетак наўрад ці ведае, пра што ідзе гаворка і як цудоўна гуляецца ў гэтыя гульні ў сем-дзесяць гадоў. Тады мы пачуваліся амаль бясполымі і ніяк не суадносілі сябе са светам дарослых людзей, нашых бацькоў. Бесклапотнасць і бестурботнасць — паняцці, да якіх мы імкнёмся ў сталасці, былі нашай прывілеяй ужо тады, аднак кошт ім — хто ж мог ведаць дакладна? Хіба нехта марыць заставацца ўсё жыццё маленькім? Вы ведаеце такіх?.. І толькі *ручаёк* дазваляў здагадвацца: гэтыя

малечы падабаюцца адно аднаму, а гэтыя пачалі сімпатызаваць зусім іншым. Бо гэтая гульня вымагала выбіраць пару і праходзіць праз шыхт, у якім стаяць і рагочуць, узяўшыся за рукі, задзертыя ўгору, мае сяброўкі і сябры, прыяцелькі і прыяцелі... І, вядома ж, у дзяўчат былі свае заняткі, да ўдзелу ў якіх хлопчыкаў не падпускалі. А былі і зусім-зусім сакрэтныя справы, ведаць пра якія не дазвалялася нікому, хіба што адной ці дзвюм. Такі занятак называўся — рабіць *сакрэцікі*. Трэба было знайсці кавалак празрыстага шкла, выкапаць маленькую ямінку, адмыслова пакласці ў яе якія-небудзь рэчы: дробныя аскепкі каляровага шкла ці люстэрка, толькі што сарваныя кветкі, каменьчыкі, капеечкі, ашчадна прыкрыць знойдзеным шкельцам, палюбавацца пару-тройку хвілін і засыпаць пяском. Думаю, дзясяткі падобных *сакрэцікаў* закапаны побач з тым месцам, дзе мы жылі. Свет дзяцінства **С**кладаюць **С**камбінаваныя **С**акрэты, **Р**аскладзеныя ўсюдыісна і патаемна; падобныя сакрэцікі захоўваюцца ў памяці кожнага з нас, толькі выцягнуць іх адтуль гэтак жа цяжка, як і драбязу, прыкрытую шкельцам пад грудочкамі пяску. Таму, што ў пэўных таямніцах можна было б пабачыць брыдкасць, ад якой выварочвае душу...

— ...і шчоўкне лічыльнік, і пакажа 0-0-0, і ў гэтым летазлічэнні пачнецца новае вызначэнне самога сябе, — кажа мне Пячоначкін па тэлефоне. — Давайце лічыць, што тое, што адбываецца з намі — гэта нармальна. *Поэзия — это болезнь, я соглашаюсь; но самое страшное — быть равнодушным к бытию*. Цяпер адбываецца пошук сілы і раўнавагі. Сустракайце Новы год шчаслівай. А мы знойдзем такі момант, каб пасядзець са свечкамі...

Дык у чым праяўляецца ***правакацыя***? Мо ў тым, што дзяржаўны лад — гратэск на той лад, якога б сапраўды праглі людзі, якіх б іх задаволіў; аднак, як толькі нейкія асобы дарываюцца да ўлады, тыя, хто іх да гэтага любіў, раптам пачынаюць хаяць. Адрознасць савецкай краіны была ў тым, што дзяржава залічвала нас да *сваіх* яшчэ да нашага нараджэння, хаця мы ніякім чынам яе пра тое не прасілі. А пазней, калі мы падрасталі, ужо не дзяржава шукала сумяшчэння са сваімі грамадзянамі, але мы, яе грамадзяне, прыстасоўваліся пад дзяржаву «новага складу»; і ў гэтым ідэалагічным зліцці адбывалася станаўленне «чалавека савецкай фармацыі». Мы са сваім прыватным жыццём былі далучаны да агульнадзяржаўнага жыцця; ніякай адзінкавасці; **С**цвярджэнне **С**тратэгіі **С**лужак, **Р**аўнапраўных у сваім служэнні; сапраўдны грамадзянін супольнасці савецкіх людзей павінен думаць у строгіх рамках, пастаўленых перад ім грамадствам. Асоба не мела ніякай каштоўнасці, калі «*незаменимых людей нет!*», калі «*лес рубят — щепки летят*», — адбылася поўная безасабовасць; а калі нехта і быў заўважаны як «*выдающийся*» талент, дык адразу ж браўся ў абцугі цэнзуры, штохвіліннага кантролю, каб мог працаваць толькі на карысць, *во благо государства*, таму што толькі дзяржава давала гэтаму таленту магчымасць праявіцца... Нашыя юначыя ідэалы палягалі вакол сярпа і молата; мы гатовы былі дзеля гэтых ідэалаў ісці ў бой, гатовы ўсіх, хто жыве за межамі СССР, лічыць патэнцыйнымі ворагамі...

Ці маю я права дакараць каго-небудзь? І ці ж я пачувалася няшчаснай, калі была грамадзянкай звышдзяржавы? Не, не і не! Хаця б з таго, што нас вырошчвалі — выхавацелі, настаўнікі, выкладчыкі — у атмасферы рэальнага ідэалізму; яны сваю цнатлівасць лічылі за вышэйшую дабрадзейнасць і прышчэплівалі нам тое ж самае адчуванне: быць чыстымі, чэснымі, праўдзівымі, але: наіўнымі, даверлівымі барацьбітамі. Думаю, многія з іх разумелі што да чаго, але сваімі развагамі яны — старэйшыя — дзяліліся не з намі, а са сваімі аднагодкамі, на кухнях.

Ах, мае чытачы, ваш прысуд можа быць самым суровым, але ж я шчаслівая з таго, што зала суда, у якой стаю перад вамі, размешчана ў іншай плоскасці і вымярэнні. Я не маю аніякага жадання спісваць усё на пана Бога і таму перайду ад будзённых праяў да свавольстваў і памылак, зробленых сярод сабе падобных, — вас. А вы? Хто вы? Натоўп, здольны толькі да грубых пачуццяў? Паўтоны вамі не ўспрымаюцца? А напаўпачуццёвасць? Для розумаў разбэшчаных і гуллівых са свяшчэннымі прыкметамі асобаснасці? Дык каму я хачу давесці пра ***дэпартацыю*** са свету дзяцінства ў свет дарослых, з аднаго дзяржаўнага ладу ў іншы, са старой краіны ў новую? Каму?

## ДЭПАРТАЦЫЯ

Папраўдзе, для пісьменніка нічога не існуе ў мінулым, бо ён перажывае свае ўспаміны стакроць праз свае творы; а калі і жыве дзе на белым свеце Сатанііл, дык дом ягоны — душа Творцы: бо хто ж зможа так лёгка падгаварыць чалавека агаліць сваю душу перад кожным? А на фразу: шчаслівых пісьменнікаў не бывае, адкажу: нячысцік творамі дае творцу рэванш за няўдалае жыццё. А рэлігію мы спавядаем толькі адну: спазнаваць жыццё праз саміх сябе... І зброяй валодаем самай моцнай — Словам; ці не для таго, каб змагацца са Словам, вынайшлі порах? — бо за кратамі Слова не ўтрымаеш, а загіне адзін — ягонае Слова скажуць сотні? А можа, на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва ішла барацьба не народаў з народамі, а Слова з іншамоўным Словам? І ўведаць гэтае дадзена толькі пісьменнікам, таму што яны як ніхто спазналі сэнс кожнага гука і могуць засведчыць: усе словы, але на розных мовах — пра адно і тое ж! Таму пераможцаў у вайне проста быць не можа, бо няможна ваяваць з самім сабой? Давесці падобную думку да ўсіх — усё адно што збудаваць новую вавілонскую вежу, якая паяднае народы новым разуменнем.

Каму з нашых пісьменнікаў дазваляецца ісці сваім шляхам? Хіба што Алег-Схімнік гэта здолеў, сышоўшы ў Жыровіцкі манастыр; але й ягоная душа не спакойная, агітуе за забарону абортаў, чорнай расай патрасаючы. Хай бы лепш пасправабаваў грошы зарабляць, каб хоць адно дзіця выгадаваць, на ногі паставіць. Што ён ведае пра пакуты *нараджэння*?! Можа, я таксама супраць абортаў; але ж вы самі беражыце маладзіц ад тых самых абортаў, ашчаджайце іхняе здароўе, му-жы-кі-і-і... Дык што там наконт шляху падумалася? Усе пісьменнікі пад наглядам: улад, рэдактараў, крытыкаў, чытацкай публікі. Калі б на пачатку творчасці кожны ведаў, які яго чакае горкі шлях, наўрад ці б ён пайшоў па ім. Праўда, гэта не датычыць графаманаў: яны ўзбочыну прымаюць за шашу... Насамрэч, я думаю, што прафесія літаратара — не стваральная, а разбуральная; мы скальпелем Слова прэпарыруем жывыя душы сваіх блізкіх, з саміх сябе мы выцягваем усё — ад святых драбніц да збачэнстваў. Які чалавек сваёй воляй можа вырваць сэрца? Мы ж робім гэта, вырываючы перш за ўсё словы са сваіх трапяткіх душ.

«Калі б я была жонкай палітыка, — даводзіць мне Начальніца-Галава-бенгальскі-агонь-у-грудзях, — выйшла б з плакатам: “Далоў чыноўнікаў!” Да мяне б прыходзілі сяброўкі, дэманстравалі выдраныя ў тралейбусах гузікі, стаптаныя абцасы. А я б казала мужу: “Цябе абралі, вось і рабі нешта для народа, каб яму лягчэй жылося!”»

На найноўшую незалежнасць маёй краіны часткова накладваецца СССР — дзяржава, якая хоча ацалець на старонках гэтай кнігі. Прыпыніцеся. Калі вы чакаеце

ад аўтара абагуленага аналізу ці хаця б асабістай адзнакі таго, што адбылося ці адбываецца, — вы памыліліся, такога няма і не будзе. Лічыце аўтара староннім назіральнікам, які добра знаёмы з жыццём; лічыце яго хітрым ілгуном, што па друкаваных радках падымаецца да вышынь славы; лічыце яго кім заўгодна, бо па вялікім рахунку ў яго няма нікога, акром вас: ні радзімы, якая б выхоплівала ўсё новыя і новыя кнігі з-пад ягоных рук, ні інтэлігенцыі, якая б справядліва ганарылася сваім творцам, ні рэдактараў і калег, якія б без зайздрасці друкавалі ўсё, што ён піша, у сваіх тоўстых часопісах; у яго няма нават імя, якое б вы да гэтага ведалі; як бачыце, — *нічога* з таго, што павінна быць у кожнага прыстойнага пісьменніка. Каб жа вы ведалі, як мне хочацца падзякаваць кожнай сірочай душы, што ў пошуках думак для разваг ці ад суму прабягае вачыма гэтыя старонкі... Vivat вам!

«**Дэпартаваць**, -тую, -туеш, -туй, -таваць; зак. і незак., *каго (што)* (спец.). Выгнаць (выганяць), выдаляць з краіны. *Д. супрацоўніка пасольства* // наз. дэпартацыя, -і, *ж.*», — чытаю ў «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (Мн., «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 1996). Дагэтуль мая душа напоўнена непахісным спачуваннем да прыгнечаных; маё пакаленне — *апошнія магікане* савецкай нацыі патэнцыйных герояў і харобрых; нам вядома ідэалогія, змаскіраваная пад бацькоўскую апеку партыі; штодзённая праца над нашымі душамі, сэрцамі. Мы змалку мыслілі дарослымі катэгорыямі, з-за чаго рабіліся наіўнымі, бы воннымі, і разам з тым — чыстымі ад бруду, цнатлівымі, не разбэшчанымі змаганнем і свабодай... У Лондане можна адшукаць архітэктурныя дэталі Парфенона, нахабна вывезеныя адным лордам, але адшукаць псіхалогію старасветчыны не зможа ні адзін з жывых; разам з маім пакаленнем знікнуць носьбіты чырвонай ідэалогіі. «Мы жывём у стары, добры час, пра які так часта будзе згадваць наступнае пакаленне», — прачытала я ў кнізе, якую выпадкова зняла з паліцы, калі завітала ў госці да Кацярыны-іголкі. Спачуванне да прыгнечаных характэрна і ёй.

Пайшоў ужо другі месяц пасля таго, як краіна адзначыла Новы год. «Як адзначыш, такі і будзе год», — лічылася ў нас заўсёды. Як адзначыла? — абы-як! Мароз люцеў так, што мерзлі вочы, слязіліся ад пранізлівага ветру, калі мы з Інусікам-чаучау і ейным мужам Дзімам-шафікам у смешнай масцы на твары кіраваліся да раённай ёлкі, дзе стаяла гамана, выбухі коркаў з шампанскага і гучала папсовая музыка. Мы паштурхаліся сярод моладзі, пафатаграфаваліся, выпілі на марозе паўпляшкі шыпучага віна, паскакалі, грэючы ногі, і разышліся па кватэрах... Так і правяду год па чужых людзях...

У персідскай філасофіі і ў шматлікіх рэлігійных вучэннях гаворыцца, што чалавек вольны ў сваім выбары. На маю думку, гэта не так, існуе дыктат.

— У чым?

— Хочаш выбіраць нешта, а не атрымліваецца.

— Хіба ў выбары любімага чалавека — дыктат? І які: дыктат душы?

— Толькі калі розуму перашкаджае душа.

— Значыць, пачуцці — ад розуму?

— Маё правае паўшар’е працуе лепей, чым левае, таму як толькі ўмешваецца розум, усё псуецца. Калі ж я нешта раблю спантанна, ад душы, усё атрымліваецца. А як толькі пачынаецца момант вялікага роздуму, так узнікае сумнеў, перажыванні, і — пайшла першая хваля. Пачынаеш сябе супакойваць — другая пайшла. А на трэцяй можаш сябе згубіць. Думаеш: ну вось, зноў пачынаецца драматызм. Са мной гэта адбываецца кожны дзень.

— А калі пішуцца вершы, падобныя сумненні ўзнікаюць ці словы ліюцца самі?

— Яны ліюцца, але ў гэтай плыні павінны быць логіка і паслядоўнасць думкі.

— Скіраваная плынь?

— Гэта аўтаматызм падсвядомасці; магу шчыра сказаць, што на сённяшні дзень, акрамя Лоркі, у мяне няма куміраў, яго можна чытаць бясконца, не стамляючыся.

— А каго з беларускіх пісьменнікаў ты ведаеш?

— На беларускай мове нікога не чытаў... *не вельмі добра ведаю мову, але разумею трошкі...*

— Чым ты зарабляеш на жыццё тут, можна папытаць?

— Можна. Зарабляю мала; перакладаю на рускую мову; раблю матэрыялы для часопісаў, якія друкуюцца на персідскай, англійскай мовах у Канадзе, Амерыцы. Была мара стварыць Міжнародны культурны персідскі фонд...

Зартошт — адзін з тых, хто выправіўся ў свет за чырвонай птушкай шчасця, што семдзесят гадоў лётала над СССР. Ягоныя бацькі былі рэпрэсаваны за ідэі камунізму, ён сам марыў назапасіць справядлівасці ў юначым сэрцы, вывучыцца ў нас на доктара, кампазітара — каго заўгодна, абы толькі чыталі курс марксізму-ленінізму і дэманстравалі прыклад пабудовы новай дзяржавы. Ягонае расчараванне бязмежнае; ягоныя вочы колеру запечанай крыві дасягаюць сутнасці рэчаў, не падуладнай мясцовым жыхарам; некалькі гадоў ён жыве з прыгажуняй-беларусачкай, адбіўшы яе ў мужа-прадпрымальніка...

Мы ўсе імкнёмся да адзіноты! Але як толькі нашае жаданне здзяйсняецца, то высвятляецца, што адзінота раўназначна пустэчы... А як бы мне хацелася жыць у доме *з відам на мора*, у старым будынку, абавязкова каменным, з таемным глухім пакоем у сярэдзіне, пра існаванне якога не здагадваўся б нават архітэктар, бо той пакой узнік па недаглядзе будаўнікоў. У гарачыя летнія дні я б знаходзіла прытулак у гэтай каморы на матрацы: голая, як здань ці пячорная німфа, але з люстэркам у руках... О, мая мара; я б выкінула ўсе рэчы, пакінуўшы самыя неабходныя: ложак і стол. Паціху б вар'яцела ад самотнай волі з саланаватым марскім прысмакам.

— Масква — азіяцкі горад, — суцяшае мяне Невядомы творца, які, як і Гануля, пакінуў радзіму дзеля прывіднай славы быць рускім. — Але ўсе праслойкі там ураўнаважваюцца праслойкай культурнай. Я не люблю студыйных запісаў, бо яны — як штучныя кветкі. А я хачу бачыць публіку, поўную залу.

— Гагарын — гэта прарыў чалавецтва! Наша краіна пераскочыла цэлае стагоддзе, — упэўнены Іван-скульптар, стары чалавек, што па звычцы называе неіснуючую краіну «нашай». Усё свядомае жыццё ён ляпіў касманаўтаў, але пачынаў, мусіць, з перадавых калгасніц і палітычных дзеячаў эпохі сацыялізму. — Яшчэ Кавалёнак сказаў, што смерць у космасе — ганаровая смерць. Я задаў пытанне кубінскаму касманаўту: як выглядае наша планета? Ён адказаў: толькі колер незвычайны, а так — няма ніякіх граніц між дзяржавамі... Мне часта прыходзіць думка: пасадзіць бы ўсіх палітыкаў у касмічны карабель і падняць на вышыню, каб яны на свае вочы пабачылі тую карціну ды падумалі, як захаваць планету.

— Творчасць — гэта выхад за межы рамак, — прыгадвае нешта сваё Творца. Я ўжо разумею: творчы працэс на радзіме яго больш не цікавіць; ён імкнецца замацавацца ў расійскай сталіцы. І чаго вас усіх так цягне туды? «Паедзем разам», — прапаноўваюць на развітанне знаёмцы — новыя і старыя. «Вы павінны быць там, вы павінны выступаць на роўных з расійскімі пісьменнікамі», — казала мне Ганна-

Малодшая. «Прыязджай да мяне, мы будзем разам», — кліча Творца-гарачыя-вочы. Ды й чаго я так упарта гляджу на яго, чаго хачу ад чалавека, які, як усе мужчыны, правым паўшар’ем усведамляе, што няможна быць незалежным і жанатым, як няможна быць ідэалістам і адзінокім?

Што распавядае Скульптар, — справы даўно прамінулыя, такога нават я не ведаю. Хіба што з кніжак, ды і тое, як кажуць, пад іншым соусам.

— Вось памятаю, гамана ў хаце, крык. Бацька кажа: «Гэты хамут трэба ў калгас аддаць». Дзед мой: «А ты сваімі рукамі яго зарабіў?» — ды і кінуўся на бацьку з сякерай. Вось што для мяне па сёння вобраз Саветаў... Столькі ўсякай улады на сваім вяку пражыў: то палякі, то Саветы, то немцы, то зноў Саветы; ды на ўсіх трэба рабіць...

— Феномен беларускай ментальнасці — гэта стрыптыз, а форма выжывання нацыі дагэтуль у тумане, — уступаюць у гаворку Бліскучыя вочы. Яму цікава, ды так хочацца застацца са мной сам-насам; гэта чытаецца і гаспадаром. Але той толькі разгаварыўся, хаця мы бачымся ўпершыню, а скульптар — не з тых, хто адкрываецца першаму стрэчнаму. Пра гэта мне з павагай, зайздрасцю, іроніяй і непакоем прызнаецца потым Творца, хаваючы мужчынскі сверб за прапановай шпацыру па начным Мінску.

— Ведаеш, як праяўляецца *благородство женщины? Па тым, як яна паводзіць сябе побач з табою, калі вакол іншыя мужчыны*, — сказаў мне Творца-незнаёмец, нагадаўшы мо ў пяты раз, што ягоны сябрук Іван «яшчэ ніколі так не раскрываўся», нават пры ім.

Наколькі абмежаваны парыванні нашых душ, мы разумеем толькі стаўшы сямейнымі людзьмі, побыт і духоўнасць — рэчы не сумяшчальныя, скажу я вам. Размовы пра нямыты посуд і заробкі дэмаралізуюць, кожны сочыць за тым, якой карыснай справай заняты ягоны блізкі. Каханне робіцца абсурдным у той момант, калі два чалавекі вырашаюць жыць разам; маштабы пачуццяў праз пэўны час можна вымераць памерамі адной пялюшкі. Вы плачаце над Шэкспірам, калі напраўду трэба покатам качацца ад рогату; мы ўсе — драматургі больш знаныя, чым слынны англічанін. Нашы сцэнічныя вопыты ўвасабляюцца не на гады, не на дзень, а на імгненне, якое вырашае наш лёс. Усё, што мы можам пакінуць пасля сябе — гэта вопыт горкіх расчараванняў.

Нарэшце выхадны; магу-магу-магу; хто б мог уявіць, што вечарам я буду стаяць ля прыцемненага акна пад грыгарыянскія спевы і прыглядацца, як рэдкія сняжынкі віюцца над ліхтарамі? Такім часам Кацярына любіць сядзець пад лямпай, расклаўшы перад сабой каляровыя ніткі. Калі-небудзь яна прыдумае ўзор і для мяне... Не хачу, каб хустка майго лёсу была вышыта ўспамінамі; пісаць кнігі — гэта не мая *прафесія*; мне даводзіцца займацца тым, што можа пракарміць. Займацца ж тым, ад чаго мяне цягне, я магу толькі час ад часу...

Без асаблівага фанатызму мы нядаўна сядзелі ў кансерваторскім скляпенні разам з оперным спеваком ды адной знаёмай радыйшчыцай і гаспадаром пакоя, які, па ягоных словах, мае самую вялікую ў Еўропе калекцыю класічнай музыкі на дысках. Мы смакавалі шатландскі віскі, які прынёс тэнар, згадвалі Любашу-вершаванку, якую асабіста ведалі трое з чатырох прысутных, наракалі на лёс і час, непрыдатны для развіцця культуры.

Настрой паступова паляпшаўся.

— Пастаў Моцарта, — папрасіў тэнар у гаспадара.

— Памёр.

— Тады Расіні.

— Таксама памёр.

І, як гэта бывае ў кампаніі, калі збіраюцца людзі нашага пакалення, размова перайшла на заслугі, атрыманыя за савецкім часам. Хіба *гэты* час заслугі заўважае? Хіба прабіваюцца лепшыя? Спрытныя — так. Нахабныя — так. І таленавітыя — таксама, зрэдку. Часцей — таленты на адзін дзень... «...тады быў конкурс "Чырвоныя гваздзікі", мой першы выхад на каляровы тэлеэкран, далёкі семдзесят пяты год...», — вось па чым сумуе оперны спявак, перш чым адзначыць: «О, якое халоднае шампанскае!» Піць шыпучы напой пасля віскі можам толькі мы, славяне. Піць і пры гэтым спрачацца: хто — гуны ці жрацы спрычыніліся да вымірання чалавецтва?

— За любоў!

— А ў мяне сумная любоў... да класічнай музыкі...

Людзі давяраюць адно аднаму праз словы: слова «любіць» — самае магічнае, і яно ж выклікае найбольш памылак, яно — вянец памкненняў авалодаць як мага большай колькасцю людзей. Старажытныя верылі, што варта ім прынесці ахвяру (было й чалавечую!), як наступным ранкам узыдзе сонца. Нашы сучаснікі прыносяць у ахвяру асабістыя стасункі — парываюць адно з адным, кідаюць блізкіх, знікаюць ад іх — у спадзяванні, што сонца асабістага таленту, іхняга «эга» вымкне наранiцу з новай сілай... Якая ўбогая ***дэпартацыя*** з кахання ў абыякавасць; цяперашняе — гэта ілюзія, вынесеная на абмеркаванне публікі; умоўны адрэзак часу, на які накладзена пячатка асабістага ўспрымання. Жыцьмем у час, калі лепшыя маўчаць, — ці не тое ж вы сцвярджалі, спадар Беларускі Тэнар? Маўчаць, таму што інакшай будуць аддадзены ў ахвяру, самі зробяцца ахвярай часу, бо большасць пачне іх ненавідзець за бунтоўнасць...

— *Сегодня посетил я нескольких врагов и намерен с ними дружить*, — прызнаецца ў адзін з кароткіх прыездаў Творца-маскавіт. — Ты не заўважыла, Вальжына, што ўсе нашы начальнікі — правінцыйныя віртуозы каварства?

— І ўсё-ткі я нікуды не паеду, — адказваю на новую прапанову з'ехаць. І навошта столькі іроніі ў адказ? — «Разумею-с, кожнаму творцу важна завяваць сваю вёсачку... Ну што, што табе тут рабіць?!» Вар'ятка. Вальжына. Вальжына. Вальжына-вар'ятка-вар'ятка-ты-ты-ты (*я-я-я*)...

Навошта ты робіш тое, што «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» падае як пункт 2: «штучнае выкліканне якіх-небудзь прыкмет хваробы»? Навошта ты ***правакуеш*** мяне? Я толькі-толькі паспела ***легалізавацца***, як жанчына, вольная ад усялякіх пачуццяў! Што чакае нас у будучым? ***Дэпартацыя*** ў некаханне, нянавісць, абыякавасць? Пакуль што ўва мне перамагае жаданне сузіраць будучыню як далягляд, які зліваецца з небам, чыстую блакітную роўнядзь без прадметаў, што засцяць вока...

І хто тут спадзяецца пяром прычыніць дзверы ў будучыню; хто хоча ўварвацца ў вечнасць з дапамогай слоў? *Мая праўда*: выпісваючы небылічкі, я спадзяюся, што вы прымеце іх напавер, — бо верыць слову, а тым больш друкаванаму, уласціва кожнаму з нас.

Чым вымяраецца ўзрост кнігі? — часам, прамінулым з таго дня, як рукапіс завершаны ці калі яна пабачыла свет? Ці эпохай, якую апісвае аўтар? А можа, узростам аўтара, калі ён пісаў гэтыя радкі? Мая кніга старэйшая за мяне на цэлае стагоддзе, таму што пачатак яе палягае ў XX, хоць і пішу я ў XXI, і пра тое, што адбываецца з маімі сябрамі і маёй краінай... Мая кніга — ці не ёсць гэта самая сапраўдная ***дэпартацыя*** сённяшняга дня ў мінулае альбо мінулага ў дзень сённяшні?

Інтэлігенцыя як пасрэднікі, інтэлігенцыя як магчымыя непрыяцелі — суадносна крокам праносіцца ў галаве, пакуль я іду ў Нацыянальную бібліятэку на спатканне з Ганнай-малодшай. Халоднае паветра прачышчае мазгі. Гануля прыехала не адна, а з маладым маскоўскім мужам і дарослымі маскоўскімі пісьменнікамі, якія адны толькі і заўважылі ейны талент.

— *У нас отняли неразрывность поэтического пространства*, — заходзіцца ў зале паэт з Пярмі.

— *Основной признак того, что происходит в России — культурная разруха*, — падымаецца і прамаўляе іншы госць. — *И это не впервой, так уже было двести лет назад, в начале XIX века. Еще Баратынский писал: «и раздает меж нас и славу и позор торговой логики... разговор». А литература в России всегда была благородным, аристократическим поприщем. Ныне это — блошиный рынок. Кто получает премии? Борис Акунин; конечно, он не без литературного таланта, но у него нет художественности; это вызывает порицание... Мы угождаем нетребовательному вкусу толпы; это уникальная ситуация; культурная политика властей — добыча денег! А вот* ***наша*** *Аня еще пишет стихи, еще движет культуру; внимайте ее стихам...*

Атрымала, што хацела, Гануля? Мы ў свой час давалі клятву вернасці таму шляху, якім вялі нашу вялікую краіну кіраўнікі з Палітбюро. *Той* краіны няма, Гануля, але гэта не мы наўмысна парушылі зарок, і не ты! — мы — іхтыяндры, што выйшлі з адзінай чырвонай прасторы…

Вось так азірнешся на сваё жыццё і падумаеш: усе драмы ў свеце ўжо адбыліся. Кожны з нас выконвае сваю аднаактовую п’есу, у якой бяруць удзел бяздарныя акцёры і актрысулі: жынчыны... і мужчыны, якія робяць нас старэйшымі за наш узрост. Мужчыны робяць нас нястрымнымі, крыклівымі; мужчыны, якія пасярэдзіне жыцця раптам пачынаюць расшукваць у нас прыкметы немаўлячага наіву і, не знайшоўшы, перакідваюцца на маладзейшых дурнічак, якім яшчэ «пашэнціць» стаць такімі ж, як мы цяпер...

Пэўна, сёння з’яўляецца новае пакаленне, якое пераломіць нашу свядомасць, якое прымусіць праз такі пакутлівы шлях зразумець, што чалавек павінен быць шчаслівым ад пачатку, і што не трэба для гэтага чакаць месію...

Цікава, напрыканцы жыцця каго я захачу пабачыць са свайго дзяцінства, юнацтва, сталасці? Ці патрэбны мне будуць мужчыны, якіх я ведала, і, якія ведалі мяне?..

Мужчыны — правакатары жаночай адзіноты, жаночай спустошанасці. Думаю, твой адыход, мой Былы і Забыты, мы абое ўспрынялі як праверку на тое, наколькі патрэбны адно аднаму і ці хочам быць разам «у старасці і хваробах». Аднак удзячнасць мая — бязмежная! Бо было…

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга трэцяя*

Будзь жа вітана, вялікая Маці, краіна ліцвінаў!
Мноствам трафеяў цябе пераможаны люд надзяляе.
Церпіць паразу маскоўскае войска, пыхлівае княства.
Гэта ўчыніў Мікалай: калі выйшла армада маскоўцаў
З лютай вайной на Літву, ён павёў ім насуперак войска —
Меншае толькі ўдвая... Пакараў ён пурпурнай крывёю
Ворагаў мноства... Таму сталі сведкам Ула з Барысфенам,
680 Шчэ й берагі: іх паўсюль невычэрпная кроў аздабляла.
Ты гэта здзейсніў, аднак не зважае сляпая Фартуна[1],
Што ёй твае небяспекі! Не хоча цаніць, Радзівіле,
Плён тваёй працы; няхай жа хоць зараз спагадлівым вокам
Ясна зірне на цябе ды вачэй надалей не адводзіць,
Хай усміхнецца яна ды павернецца з мілым абліччам.
Досвед цябе вылучае ды вопыт у справах ваенных[2].
Скуль? Бо не вабіў цябе супакою бясслаўны прытулак;
Ты не аздобы лічыў — войны Марса ды ратнікаў мужных;
Сам не змушаў, а хутчэй, добры прыклад паказваў: трывайце!
690 Мужнае сэрца тваё не дранцвела ад чорнага ліха,
Страху не знала — адно дбала толькі пра войска, пра бітву:
Значыць, ты ўзнёсся вышэй за вялікіх былых ваяводаў.
З гэтым не будзе спрачацца не толькі Айчына — любое
Вольнае панства Еўропы, няхай і ў далёкай краіне[3].
Зайздрасцю лютай ты ў сэрцы сваім пагарджаў, не выносіў
Вялых нясмелых рашэнняў... Магутная прага да славы
Хай нас наперад вядзе, а інакш аддамося памкненням
Зайздрасці прыкрай, бо так: ненавідзіць, хто хваліць празмерна.
Я не змагу палічыць тыя цноты, з якімі ты сёння

---

* *Працяг. Кніга другая і пачатак Кнігі трэцяй у № 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12 м. г. № 1, 2 г. г.*

[1] Глоса: «Фартуна зусім не бярэ пад увагу цноту». Магчыма, гэтымі словамі аўтар намякае на заўчасны, з яго пункта гледжання, сыход з жыцця Радзівіла, які памёр у 1584 годзе.

[2] Глоса: «Вопытнасць у вайне і намаганні Радзівіла».

[3] Глоса: «Слава Мікалая Радзівіла».

700 Неба парог залаты перайшоў... Калі глеба прымае
Зерне ва ўлонне сваё, потым спёка агнём ачышчальным
Лёгка кранае яго, — ураджай тады будзе найлепшы.
Гэтак твой дух, што пачаў у юнацкім узросце жывіцца
Талентам добрым прыродным, сталеў у вялікіх учынках;
Ён узвялічыў цябе ды імя тваё годна праславіў.
Гэткай пашаны не зналі былыя часы, не пачуе
Будучы час дый наогул жыццё хуткаплыннае. Музе
Хай толькі моцы стае, каб спяваць пра такія здзяйсненні,
Сведкамі ж славы яго спадарожнікі верныя стануць.
710 Ты будзеш жыць у вяках. Хто б смяротны зраўняўся з табою?
Як жа здабыў гэты муж уплывовасць такую і славу —
Нават між ворагаў, — як заслужыў ён давер і пашану?[1]
Як нават тыя маскоўцы, якія кляліся ліцвінаў
Скрозь вынішчаць, пачалі захапляцца цнатлівасцю князя?
Гэткае сонца, маўляў, над краінаю нашай заззяла.
Што ж, і Масковія — так! — шанавала яго па заслугах.
Хто б не здзівіўся, што ён здабываў перамогі шчасліва,
Крочыў наперадзе сам, для адных і другіх міраносец,
Войска нястомна збіраў — за пакрыўджаны люд заступіцца.
720 Вораг яго паважаў, а таму й здабываць перамогі
Проста не мог: прызнаваў яго славу. О цнота святая![2]
Ты надзяляеш смяротных любымі дабротамі, можаш
Лёсу і часу імклівыя крылы стрымаць, о багіня,
Шчасце ды ўвесь дабрабыт здабываеш; да Боскіх пенатаў
Шлях пракладаеш шырокі, хвалы дасягнуць дазваляеш,
Вечнае дорыш жыццё пад высокімі шатамі неба.
Мы да цябе прыбягаем, на суд твой цяпер аддаёмся,
Верныя слугі твае, і цябе як святыню шануем.
Курбскі, паходжаннем годны (ад русічаў першых выводзіў
730 Свой радавод старажытны), магутнейшым быў між маскоўцаў[3],
Цешыўся край той далёкі: аплотам ён быў для дзяржавы;
Вопытны ў справах ваенных, праслаўлены подзвігам ратным,
Часта адзначаны быў ганаровымі званнямі скіфаў[4].
Ён абуджаў у маскоўцах надзею, і простыя людзі
Шчыра любілі яго; стаўся ворагам ён для ліцвінаў

---

[1] Глоса: «Аўтарытэт Радзівіла сярод суайчыннікаў і ворагаў (быў такі), што (цэлыя) гарады прысягалі яму ў вернасці».

[2] Глоса: «Адступленне для ўхвалення цноты».

[3] Князь Андрэй Міхайлавіч Курбскі (каля 1528—1583) паходзіў з роду яраслаўскіх князёў з галіны Рурыкавічаў. Падчас Лівонскай вайны стаяў на чале лівонскага войска Івана Грознага, а ў 1563 годзе быў прызначаны ваяводам у Дэрпт (Юр’еў). У 1564-м уцёк з Дэрпта ў Вялікае Княства Літоўскае. Князь Андрэй Курбскі быў чалавекам высокаадукаваным, актыўна спрыяў развіццю асветы і кнігадруку, вёў перапіску з многімі вядомымі людзьмі свайго часу (у тым ліку з Іванам Грозным). Яго лічаць першым рускім дысідэнтам.

[4] Скіфамі ў лацінамоўнай літаратуры XVI стагоддзя часта называлі маскоўцаў.

З волі тырана адно; Марс аздобіў яго дасканала
Спрытным майстэрствам вайны, навучыўшы ваенным законам.
Бачыць Айчыны айцец[1], як народ, пацярпеўшы паразу,
Новую бітву рыхтуе, і Марс абуджаецца люты;
740 Зноў заклікае падданых да новых ваенных турботаў:
Што там задумаў цяпер легкадумны, няўрымслівы вораг?
Так, як з далёкіх ускрайкаў нясуцца магутныя аўстры,
Гучна спяваюць між хваляў паветра — гудуць ім насустрач
Трубы альпійскіх барэяў, што ўзбоч навальніцу абходзяць,
Сунуцца хмары — і неба як быццам бы падае ў мора;
Гучна раве ў вышыні, зверху чуецца грукат пагрозны,
Людзі бляднеюць ад страху, бо знаюць: ізноў навальніца
Прыйдзе ў мястэчкі, уздымуцца хвалі і чыста зруйнуюць
Плодныя нівы, сядзібы і нават звярыныя норы, —
750 Гэтак айцец Радзівіл меў у сэрцы свой клопат трывалы,
Цяжар турботаў ліхіх: мусіў зноў учыніць навальніцу —
Толькі з крывавым дажджом — і пакрыць наваколле забойствам.
Раптам у гэтым віры нарадзілася мудрая думка:
Трэба магутнага мужа прывесці ў дзяржаву ліцвінаў.
Хочучы гэтак схіліць на свой бок ваяводу маскоўцаў,
Ліст-папярэджанне шле праз людзей сваіх верных да князя
Курбскага: «Слаўны герой! Я дзіўлюся, як мужна дагэтуль
Ты спадзяванні нязбыўныя дорыш сваім і імкнешся
Іх падтрымаць. Ды няўжо, калі чуеш і бачыш забойствы,
760 Ты насамрэч спадзяешся? Забітыя тысячы тысяч —
Бачыш? — Чырвоная кроў абцякае зялёную ніву.
Падаюць тварам на глебу — ганебна і прыкра — вяльможы...
Што ў вашым краі крывёй шчэ не спэцкана? Дзе той куточак
Княства Маскоўскага, дзе б не прайшлася ліхая навала?
Што ж ты плануеш? На што спадзяешся ад нас, пераможцаў?
Цёмная хваля зацягне й цябе ў безнадзейную бітву,
Сам ты надоечы быў аж у цэнтры смяротнага віра...[2]
Можа, пасля да народа ты выйдзеш з вянком трыумфальным,
Можа, прайграеш вайну, сам пазбегнуўшы чорнае смерці...
770 Так або гэтак — ты ведаеш добра тыранавы звычкі:
Гэтак жа шчыра, як людзі любіць цябе будуць, так ён — ненавідзець!
Тое, што ты пераможаш, — яму гэта будзе агідна.
Тых, каму лёс так спрыяе, баяцца ўладарныя людзі
(Ведаеш сам): іх палохае ўсё, што вышэй, што выдатней.
Ясна, што годна быць верным, бо вернасць — закон найвышэйшы,

[1] Айчыны айцец (лац. pater patriae) — ганаровае званне, якім у часы Старажытнага Рыма надзялялі самых славутых і высакародных дзяржаўных дзеячаў. Тут маецца на ўвазе князь Мікалай Радзівіл.

[2] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе бітва пад Неўлем 1562 года, у якой прымаў удзел Андрэй Курбскі.

Я не хацеў бы, аднак, каб ты верна служыў людажэру,
Гэтай пачвары... Калісьці праверыў ты нашую сілу[1].
Вось прапанова табе: далучыся да нас па-сяброўску.
Сам вырашай, але толькі сябе не падманвай надзеяй
780 Нейкі прыбытак здабыць ад тырана: таго на ахвяру
Твой валадар прызначае, каго доўгі час адзначае».
Курбскі без доўгіх ваганняў параду прыняў Радзівіла:
Крочачы следам за славай яго і за імем вялікім,
Ён да ліцвінаў падаўся, і Ра[2] за спіной засталася.
Варта было б мне, аднак, апісаць невыразныя зоры,
Неба бясконцы прастор, эрытрэйскі[3] пясок перасыпаць,
Перш чым у вершах спяваць пра вялікія подзвігі князя,
Перш чым падлічваць дакладную колькасць яго дабрадзействаў.

---

[1] Хутчэй за ўсё, тут маецца на ўвазе бітва пад Неўлем (гл. папярэднюю заўвагу).
[2] Ра — старажытная назва ракі Волгі.
[3] Эрытрэя — дзяржава ва Усходняй Афрыцы на ўзбярэжжы Чырвонага мора.

***Пераклад з лацінскай і каментарыі Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

Юры ПАЦЮПА

# НЕВЯДОМЫ САНЕТ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*«Ах, колькі ёсць красы цудоўнай поруч з намі,*
*Калі глядзець вакол дзіцячымі вачамі!»*
Максім БАГДАНОВІЧ

Колькі санетаў напісаў Максім Багдановіч? Здаецца, што можа быць прасцей, ёсць жа поўны збор твораў. Выйшла новая энцыклапедыя «Максім Багдановіч». Там усё напісана. Як паказвае энцыклапедыя, аўтару «Вянка» належыць пяць арыгінальных санетаў на беларускай мове: «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...», «На цёмнай гладзі сонных луж балота...», «Замёрзла ноччу шпаркая крыніца...», «Прынадна вочы ззяюць да мяне...» і «У Вільні». Ёсць яшчэ санет на рускай мове — «Что из того, что стих в душе кипит?», які ўваходзіў у рукапісны зборнік «Зеленя». Нібыта арыгінальны верш, аднак... «Зеленя», як вядома, — сшытак аўтаперакладаў. І, больш таго, для прыватнага карыстання. Які ж свой беларускамоўны твор тут пераклаў паэт? Канцоўка яго супадае з канцоўкай санета «Прынадна вочы ззяюць да мяне...», але падобныя думкі ёсць і ў эпістале «Ліст да п. В. Ластоўскага», якая паводле сэнсу — нават бліжэй да рускага санета. Яшчэ Багдановіч пераклаў на беларускую мову адзін санет з Алексіса-Фелікса Арвера: «Я тайну ў глыбіні душы хаваю...» і два — з Поля Верлена: «Шынок» і «Млоснасць», на рускую мову — санеты з Янкі Купалы: «Жниво» і «Для тебя, отчизна предков моих…»[1].

Як бачым, на простае пытанне няма простага адказу. Але інтрыга не ў гэтым. Дазволю сабе сцвярджаць, што ў Багдановіча ёсць яшчэ адзін санет! Паэт пакінуў нам не пяць, а шэсць арыгінальных санетаў на беларускай мове. Няўжо? Здаецца ж, усё чытана-перачытана. І ўсё ж... Той санет, на які мы не звяртаем увагі, паэт проста не дапісаў. А можа, недзе згубілася канцоўка. Але ж недапісаны раман — гэта раман, а недапісаны санет — усё ж санет.

Багдановічаў чарнавы накід «Усплывае грамада сіфанафора...» мяне заўжды захапляў і здаваўся завершаным мастацкім тэкстам. Нават заганы ў мове яго не псуюць, як не псуюць найпрыгажэйшы санет «На цёмнай гладзі сонных луж балота...», як не псуюць абразок «Старасць», найярчэйшы з усяго міфалагічнага цыкла. Той мастацкі стыль, які абраў для сябе Багдановіч, — канкрэтнае, дэталізаванае метафарычнае апісанне, класічная і стрыманая паэтыка — не церпіць аніякіх праяў «футурызму». Гэтая паэтыка вымагае нейтральнага моўнага ўвасаблення. Дыялектнае слова, хоць і самавітае, але цёмнае, маргінальнае, не для ўсіх уцямнае, аўтарскія аказіяналізмы, розная «алхімія слова» — усё тое, што так любіў Вацлаў Ластоўскі, што буяла ў Купалы, аўтару «Вянка» магло толькі замінаць, — замінаць бачыць вобразы. Варварызмы не псуюць Багдановічавых вершаў, бо паэт піша так, што ўвага канцэнтруецца не на словах, а на карцінах. Гэта якраз тое, чым багата класіка і што страцілі сучасныя аўтары...

Дык вось, неяк чарговы раз перачытаўшы накід «Усплывае грамада сіфанафора...», які таксама мае моўныя заганы, але ў астатнім бездакорны, я паспрабаваў разгледзець, што ж у ім недапрацаванага, чаму яго лічаць «чарнавым», і заўважыў: а рыфмы тут размяшчаюцца акурат, як у санеце: АббААббА. І не проста санеце, а менавіта яго французскай мадыфікацыі, той, якую Багдановіч абгрунтоўваў як адзіна слушную:

[1] Максім Багдановіч: энцыклапедыя. — Мінск, 1911. С. 458—459.

*«Першыя восем строк санета скаваны між сабой ланцугом адзінакавых рыфм, знітаваны імі ў нешта цэльнае, звернуты ў нейкі паэтычны маналіт; а каб гэтая знітоўка была мацнейшай, каб пачатак верша не расслаіўся на два зусім незалежных куплета, — апошняя канцоўка першага з іх і пачатковая другога павінны быць аднолькавымі. Стаячыя ж далей ужо новыя рыфмы павінны зрабіць глыбокую трэшчыну паміж гэтым кавалкам і ўсім астатнім»*[1].

Першыя восем радкоў... Дый напісаныя класічным пяцістопным ямбам. Разгледзеўшы іх рыфмоўку і зазначыўшы памер, можна ўжо не сумнявацца ў жанравай прыналежнасці тэксту. Але я хачу пайсці далей і паказаць, што гэты абразок не толькі вонкава, але і ўнутрана згодны з жанравай прыродай. У ім такая самая архітэктоніка вобразаў, якую паэт вынайшаў і практыкаваў у санетах. І ўся яго філасофія — глыбока Багдановічава.

*«У першых васьмі радках развіваецца тэма санета, а ў астатнім — заключэнне да яе; ставіцца пытанне і даецца адказ; малюецца абразок і выкладаецца паясненне к яму»*[2].

Такія ўмовы выстаўляе паэт да архітэктонікі. І сапраўды, кожны ягоны санет пачынаецца з разгорнутай метафары, а канчаецца тлумачэннем. У якасці апошняга можа з'яўляцца яшчэ адна разгорнутая метафара, як у тым жа класічным «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...»: спачатку апісваецца зерне, што перабыло стагоддзі і ўзрасло, а потым успамінаецца крыніца, якая то знікае пад зямлёю, то зноў выплывае на паверхню.

**Першыя восем радкоў... Дый напісаныя класічным пяцістопным ямбам. Разгледзеўшы іх рыфмоўку і зазначыўшы памер, можна ўжо не сумнявацца ў жанравай прыналежнасці тэксту**

Вобраз крыніцы ў іншым варыянце ўжо не замыкае, а наадварот, распачынае тэкст, які канчаецца як верш-загадка: «Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы, // Сваёй душы туды праліце свет!» Яшчэ адну метафару, вобраз метэора, які ззяе, а ўсярэдзіне застаецца халодным, Багдановіч выкарыстаў для канцовак двух розных санетаў — рускага і беларускага, на што звярталася ўвага вышэй. Крыху адрозная ад усіх архітэктоніка санета «На цёмнай гладзі сонных луж балота...», дзе кантрапункт чыстых лілей і смуроднай гразі развіваецца як цэльны сюжэт, хоць і тут у тэрцэтах адбываецца перелом падзей. Дарэчы, зусім невыпадкова менавіта гэты санет Багдановіч падаў без падзелу на строфы. І, пры нагодзе, варта было б з дакорам успомніць некаторыя зборнікі апошніх гадоў, дзе тэкстолагі мадэрнізавалі паэта, адвольна паразбіваўшы ягоныя санеты на асобныя катрэны і тэрцэты. У майстра нічога выпадковага не бывае...

Як бачым, метафара ў Багдановіча ператвараецца ў сімвал, алегорыю, а тэкст разгортваецца як прыпавесць. З гэтага канона крыху выпадае санет «У Вільні» (у якім, дарэчы, спрэчная колькасць радкоў: трынаццаць ці ўсё ж чатырнаццаць?). Што да метафар, то яны не замыкаюцца на санетах: самыя ўлюбёныя, глыбока прадуманыя вобразы, як цэльныя залатыя зліткі, як вялікія алмазы, паэт збіраў і дасціпна прыладжваў у розныя вершы, артыкулы. Не толькі для хараства. Метафара ў Багдановіча — як маленькая тэорыя, што структуруе галоўную думку ўсяго тэксту.

Вобразы-канцэпты яму дапамагалі шукаць сябры. Менавіта Дзіядор Дзябольскі ў 1914 годзе, будучы студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта, падказаў ідэю наконт метэора. У адным з лістоў ён пісаў да Багдановіча:

*«Між іншым, вось Вам тэма, ці дакладней матэрыял для тэмы навуковага верша: метэор, атоплены і святлісты, імкне ў атмасферы, пакідаючы за сабой віхар распаленых часцінак, усярэдзіне халодны, як зорны эфір; ён прыносіць у сабе холад сусветнай прасторы»*[3].

[1] Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 2. — Мінск, 1993. С. 193—194.

[2] Тамсама. С. 194.

[3] Цыт. паводле: Замоцін І. М. Багдановіч: крытычна біяграфічны нарыс // Багдановіч М. Творы. Т. 2. — Менск, 1928. С. XLI—XLII.

Невыпадкова Дзябольскаму прысвечаны верш пра рэінкарнацыю душ, «Быць можа, пуціна жыцця...», які пазней з асаблівым смакам драпежыла вульгарна-сацыялагічная крытыка як дэкадэнцкі. Цалкам можна дапусціць, што і гэты тэкст нарадзіўся з сяброўскіх філасофскіх разважанняў. Яшчэ ў цытаваным лісце варта звярнуць увагу на выраз «навуковы верш». Відаць, ідэя «навуковай паэзіі», якую паэт выклаў у артыкуле пра Ламаносава «Поэзия гениального ученого», звязвалася ў яго якраз з такімі метафарамі.

Спыняцца на ўсіх выпадках Багдановічавых метафар-сімвалаў, метафар-канцэптаў не варта, гэта асобная тэма, пункцірна пазначым толькі некаторыя з іх, якія яшчэ не ўспаміналі: камень, што пакідае на вадзе кругі; падвоеная зорка; наносны пясок, які пакрывае ўрадлівую глебу; іерыхонская ружа, якая, засохшы, распускаецца ад першага дотыку вады; кітайскі ліхтар, што мякка свеціцца знутры.

На гэтую асаблівасць мыслення Багдановіча адзін з першых звярнуў увагу Дрэйзін і даў ёй цікавае тлумачэнне:

*«Калі мы будзем чытаць уважліва паэмы Гамера і Вергілія, дык адразу ж кінецца нам у вочы форма параўнання, якую антычныя аўтары ўжываюць вельмі часта і вельмі ахвоча. Параўноўваюць яны розныя падзеі, розныя ўчынкі сваіх герояў, і для параўнання, каб як мага рэльефней выдзеліць у падзеі ці ўчынку найхарактэрнейшую рысу, бяруць звычайна малюнкі прыроды, падзеі, якія адбываюцца ў прыродзе, матывы паляўнічыя і матывы сельскагаспадарчых прац. Вось гэты прыём мы наглядаем досыць часта і ў М. Багдановіча. І як антычныя аўтары не абмяжоўваюцца параўнаннем у адным-двух словах, але даюць больш-менш падрабязны малюнак прыроды (часам ён выкладаецца на працягу да дзесяцёх гекзаметраў), так гэта робіць М. Багдановіч»*[1].

Антычнасць моцна засела ў сэрцы песняра чыстай красы. Гэта відаць з ягоных вершаў, і пацвярджаецца прызнаннямі бацькі паэта, Адама Багдановіча, які пазней дзяліўся сакрэтамі сваёй педагогікі: менавіта эпас,

## Метафара ў Багдановіча ператвараецца ў сімвал, алегорыю, а тэкст разгортваецца як прыпавесць

як антычны, так і славянскі, рамана-германскі, стаў першым чытаннем будучага паэта. У Багдановічавых санетах плённа сустрэліся эпас і лірыка, антычнасць і рэнесанс, даўшы ім магчымасць стаць такімі, якімі мы іх ведаем: філасафічнымі і інтымнымі.

Матэрыял для сваіх паэтычных метафар Багдановіч знаходзіў нават у сацыялагічных даследаваннях. Не трэба далёка хадзіць, каб пераканацца, што вобраз сіфанафор быў навеяны паэту працамі дарвініста Ножына, якімі ён сур’ёзна захапіўся. Мікалай Ножын як яскравы прадстаўнік пакалення расійскіх нігілістаў, «ідэйны брат» Базарава, менавіта ў натуральных навуках бачыў сродак пабудовы разумнага грамадства. Ён даследаваў жыццё розных арганізмаў, каб знайсці мадэль арганізацыі соцыуму, ці, як пісаў Багдановіч:

*«Ён спрабаваў вызначыць, якая сістэма грамадскага ладу найбольш спрыяе гарманічнаму развіццю асобы і якая вузіць і гнібіць яе»*[2].

Рэнесансавы ідэал гарманічнай, усебакова развітай асобы разглядаў як мэту жыцця і беларускі класік, сцвярджаючы свой запавет:

> Жыві і цэльнасці шукай,
> Аб шырасце духоўнай дбай…

І такі самы ідэал выхоўваў у сваіх дзяцей Адам Багдановіч:

*«Маім галоўным прынцыпам што да выхавання была цэласнасць, г. зн. гарманічнае развіццё ўсіх бакоў чалавечай асобы — разумовых, маральных і фізічных, а, значыць, збагачванне розуму навукаю па ўсіх галінах ведаў»*[3].

Максім Багдановіч у нарысе «Николай Дмитриевич Ножин» пераказвае факты з жыцця ніжэйшых арганізмаў, і якраз калонія

[1] Дрэйзін Ю. Антычныя мотывы ў поэзіі М. Багдановіча // Узвышша. — 1928. — № 2 (8). — С. 193.

[2] Багдановіч М. Поўны збор твораў. Т. 3. — Мінск, 1995. — С. 161.

[3] Шлях паэта: зборнік успамінаў і бібліяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. — Мінск, 1975. — С. 24.

сіфанафор падаецца ў яго як прыклад таталітарнага грамадства:

*«Сіфанафоры — найпрасцейшыя морскія жывёліны, зрослыя міжсобку ў адно цэлае, называнае калоніяй (г. зн. грамадствам) сіфанафор. Кожная сіфанафора ў такой калоніі выконвае нейкую спецыяльную работу, будучы прымацаванай да яе ўсё жыццё. У выніку, прыстасоўваючыся кожная да сваёй дзейнасці, сіфанафоры рэзка розняцца адна ад адной сваім выглядам. Адна з іх, падобная да шара са суяблінай унізе, падтрымоўвае раўнавагу калоніі, што плавае ў моры. Другая выконвае чыста палавую дзейнасць. Трэція, падобныя да званочкаў, грабуць. Чацвёртыя служаць, кажучы дзяцінный мовай, "кусакамі" — яны прызначаюцца для змагання з ворагамі. Адным словам, тут кожная жывая асобіна лічы зніжаецца да ступені простага органа грамадскага цэлага. Жыццё кожнай з іх гранічна звужанае, абсечанае, прыгнечанае. Хай сабе ў "калоні" ідзе цэлы шэраг жыццёвых працэсаў — уся сума іх недаступная аніякай сіфанафоры, з паўнатой жыцця незнаёмая аніводная з іх. Перад намі — знявечаныя, пакалечаныя на карысць цэлага асобы»*[1].

Беларускага паэта заўсёды хвалявала сучаснасць і далёкая будучыня, не толькі ў вузка нацыянальным плане, але і глабальна, канцэптуальна. І сіфанафоры яго цікавілі далёка не абстрактна, ён папярэджвае нас, што антыутопія ўжо не за гарамі, яна тут, на парозе, грукае ў дзверы:

*«Гэтым прасякнуты і сучасны лад чалавечага грамадства. Людства разбітае на класы культурных дасягненняў, шырыня і разнастайнасць яго жыцця вялізныя, але аніводная асобіна (да якога б класу яна ні належала) не зведвае недзе нават паловы паўнаты гэтага жыцця»*[2].

Самасупакаенне, што яшчэ не ўсё так блага — не найлепшы спосаб сацыяльнай інжынерыі. Таму Багдановіч прапаноўвае разглядаць антыутопію не толькі як рэальнасць, але і як перспектыву:

## Матэрыял для сваіх паэтычных метафар Багдановіч знаходзіў нават у сацыялагічных даследаваннях

*«Праўда, у чалавечым грамадстве асоба яшчэ так не звужаная, як у грамадстве мурашоў ці сіфанафор, не ператвораная ў просты орган грамадства. Але трэба помніць, што яно развіваецца, і развіваецца паводле апісанага тыпу, г. зн. яго развіццё ідзе ў бок усё глыбейшага драблення на класы. А згодна з гэтым звужаецца шырыня жыцця кожнае асобы. Яно абцятае, бясколернае, аднатоннае»*[3].

Наколькі глыбока сягала Багдановічава думка, сведчаць наступныя яго разважанні. Ён усведамляе, што пераадолець інерцыю развіцця няпроста, для гэтага патрэбны высілкі, хутчэй за ўсё рэвалюцыйныя, і супярэчнасцей у самых пазітыўных высілках таксама не ўнікнуць:

*«Грамадства, развіваючыся, імкнецца паглынуць асобу, ператварыць яе ў свой орган. Асоба не можа не змагацца супраць гэтага ўсімі сваімі сіламі, але калі змаганне паспяховае, то прыпыняецца развіццё грамадства. І ў абсягах данай грамадскай сістэмы выйсця з гэтай супярэчнасці інтарэсаў развіцця няма»*[4].

У біяграфіях паэта амаль ніколі не ўспамінаецца, што ён быў гарачым прыхільнікам анархізму. Той індывідуалістычны ідэал, які паэт выкладае ў сваім нарысе, цалкам адпавядае гэтай дактрыне. І калі таталітарнае грамадства сіфанафор у яго служыць узорам жаху, то поўным антыподам выступае калонія гідраў, яна разглядаецца як вобраз красы, прыклад гарманічнага ладу:

*«"Калонія" не прыстасоўвае гідраў да розных спецыяльных работ, не ператварае ў свае органы. Унутры калоніі няма драблення, няма падзелу працы. Кожная з іх выконвае ўсе функцыі і дзеянні, даступныя гідрам, і таму карыстаецца ўсёй паўнатой уласцівага ім жыцця»*[5].

---

[1] Багдановіч М. ПЗТ. Т. 3. С. 161—162.

[2] Тамсама. С. 162.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама. С. 163.

[5] Тамсама.

Як бачым, Багдановіч быў паслядоўным прыхільнікам атамістычнага грамадства, дзе кожная асоба развіваецца вольна, гарманічна і ўсебакова, дзе пануюць салідарнасць і ўзаемадапамога. Вобразам пачварнага грамадства бачылася яму арганістычная мадэль, заснаваная на падзеле працы, дзе ўсе асобы зведзены да ролі органа і таму абмежаваны, пакалечаны дзеля патрэб цэлага.

Асаблівую інтрыгу гэтаму фрагменту светагляду аўтара «Вянка» надае сведчанне Адама Багдановіча, у якім ён апісвае багатае ўяўленне Марыі Багдановіч, паэтавай маці:

*«Нават чытаючы Спенсера, дзе праводзіцца аналогія паміж фізіялагічным арганізмам і грамадскім, яна так выразна ўяўляла ў чалавекападобных формах нейкую пачвару, галаву якой складаюць літаратары і навукоўцы, у грудзях кішаць паэты, у нагах снуюць фурманы, машыністы і рэшта: машыны, цягнікі, тэлеграф, што яе абнімаў жах ад гэтага кашмарнага стварэння ўласнае фантазіі»*[1].

Падабенства паміж матчынымі відзеннямі і сынавымі вобразамі ўражвае. Можна, як Замоцін, прымаць гэта за спадчыннасць, «атавізм», можна спісаць на сямейныя паданні, якія фарміравалі паэтаў светагляд, а можна, урэшце, бачыць тут звычайную выпадковасць. Але, так ці інакш, матыў грамадства-монстра ў Багдановіча вырастае сапраўды з нейкіх генетычных глыбінь. Гэта не выпадковы вобраз, што мільгануў і знік, а канцэнтрат сацыяльных ідэй, які выношваўся, відаць, гадамі. І, як усе свае запаветныя вобразы-ідэі, яго паэт уклаў у найдасканалейшую паэтычную форму — стварыў санет-антыутопію.

Падамо гэты тэкст так, каб падкрэсліць яго жанравую прыроду. Некалі Тынянаў давёў, што кропкі ў вершах Пушкіна нясуць значную арганізацыйную нагрузку — паспрабуем і ў Багдановіча замест недапісаных тэрцэтаў парастаўляць кропкі, а ў загаловак вынесем жанравае азначэнне, як гэта рабіў сам паэт, калі санет не меў уласнай назвы:

САНЕТ

Ўсплывае грамада сіфанафора —
Жывых асоб жывушчая труна!
Зраслася з іх, скалечаных, яна,
Як з членаў, не жадаючых прастора.
Дзе хто яе кіруе паміж мора,
Хто — хапае здабычу ў цемні дна?
Аб роўнавазе рупіцца адна,
І ўсе жывуць без шчасця і без гора...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Практычна, мы маем тую частку, пра якую сказана ў паэта: «малюецца абразок», але не маем той, дзе «выкладаецца паясненне». Апошняе ў санетах, як і ў байках, неабавязковае, яно можа зводзіцца да фармальнага звароту да чытача: «Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы!» Якраз таму тэкст пакідае ўражанне дакончанасці і ўсё ж... шкада, што мы не маем канцоўкі! Мабыць, калі б не згубіўся Багдановічаў архіў, мы маглі б знайсці недасталыя тэрцэты, а цяпер... А цяпер мы можам толькі папрактыкавацца ў суаўтарстве, як гэта некалі зрабіў Брусаў з чарнавікамі Пушкіна. У Багдановіча шмат чарнавых накідаў, праўда, нічога да тэмы я там не знайшоў. Яшчэ пясняр чыстай красы ахвотна перакампаноўваў асобныя блокі сваіх вершаў, дык можна перарабіць якую канцоўку гатовага санета... Зрэшты, падобныя эксперыменты — з галіны прыватнае творчасці. Для сур'ёзнага тэкстолага яны недапушчальныя. Што ж, чытаем жа мы раман Чарлза Дзікенса «Таямніца Эдвіна Друда», нават не спадзяючыся мець працяг, абмяжуемся і тут тым, што маем...

Я невыпадкова распачаў гэты свой дослед з апеляцыі да энцыклапедыі «Максім Багдановіч». У артыкулах «Усплывае грамада сіфанафора...» і «Санет» я нічога не знайшоў пра жанравую прыроду ўрыўка, не знайшоў нічога і ў іншых аўтараў, перачытаўшы ледзь не ўсё, што калі-кольвек пісалася пра аўтара «Вянка». Значыць, санет сапраўды невядомы.

**Самасупакаенне, што яшчэ не ўсё так блага — не найлепшы спосаб сацыяльнай інжынерыі**

[1] Шлях паэта. С. 14.

Аляксандр КАШАРА

# ЗВУЖЭННЕ БУДУЧЫНІ

Заўважыўшы іншы раз на паліцах таўшчэзныя фаліянты «Увесь Булгакаў», «Увесь Пушкін» ці «Поўны збор твораў пра Шэрлака Холмса», міжволі ўяўляеш, што гэты шэраг мог бы папоўніць і том пад назвай «Беларуская савецкая фантастыка». І нават з удакладненнем, каб залішніх пытанняў не ўзнікала: «УСЯ беларуская савецкая фантастыка».

Лічаная колькасць аўтараў і лічаная колькасць кніг — вось унёсак беларусаў у сусветную фантастыку. Чаму так сціпла? Ці ёсць гэтаму тлумачэнне?

Бадай, пачаць можна з таго, што беларуская літаратура ў сучасным яе разуменні вельмі маладая, ёй добра калі паўтары сотні гадоў. Адраджалі яе людзі адукаваныя, але праз тое, што асноўны носьбіт мовы — селянін — адукаванасцю пахваліцца не мог, то і тэмы часцей браліся з тых, што яму, селяніну, бліжэйшыя. Вершы і апавяданні пра цяжкую долю, з году ў год паўтарэнне «пана сахі і касы» і «пяці лыжак заціркі»... Першапачаткова беларуская літаратура была занадта блізкай да зямных клопатаў, не было часу лунаць у нябёсах. Кароткі росквіт у 1920 гады нічога прынцыпова не змяніў, селянін паранейшаму заставаўся галоўным персанажам, хіба што ў творы дадаваліся калізіі, звязаныя з савецкай уладай, грамадзянскай вайной і калектывізацыяй. Пасля нацыянальнае адраджэнне залівае крывёю, пасля вайна, і на доўгія гады галоўнымі героямі становяцца партызаны — сяляне, якія абараняюць радзіму ад акупантаў.

Усе абставіны, якія толькі можна ўявіць, працавалі на тое, каб магчымасць вырвацца з абмежаванага кола тэм была зведзена да мінімуму. Але нават у гэтым непрыняцці «літаратуры мары» ёсць істотны нюанс. Так, не было ўмоў для з'яўлення навуковай фантастыкі. Верагодна, як лічаць некаторыя крытыкі, для гэтага сапраўды была неабходна добра развітая фундаментальная навука, якой у нас не было за царскім часам. Але ніякая навука не патрэбна для таго, што цяпер завецца фэнтазі, (у той час яно называлася літаратурнай казкай), а датычна да далёкай Лацінскай Амерыкі, дзе таксама ніколі не было фундаментальнай навукі, — магічным рэалізмам. Тым не менш і тут — пустэча. Аўтар артыкула «Фантастыка» ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» імпэтна ўзяўся пералічваць прыклады такога кшталту ў беларускай літаратуры («Шляхціц Завальня» Баршчэўскага, «Тарас на Парнасе», «Энеіда навыварат»), хутка збіўся і ўсё, што змог назваць пасля — асобныя, далёка не самыя значныя творы некалькіх аўтараў...

Пустэча, якая зеўрае навокал і якую спрабуюць запоўніць хоць чым-небудзь. Мастацтвазнаўца і пісьменніца Галіна Багданава, напрыклад, на пустое месца заснавальніка літаратурнага фэнтазі прапаноўвае змясціць мастака Язэпа Драздовіча.

Гэта ўжо не адсутнасць фундаментальнай навукі, а адсутнасць традыцыі. Увогуле. А адсутнасць традыцыі — гэта ўжо, бадай, пытанне не літаратуры, а менталітэту.

Пэўна што, можна аргументавана разважаць, чаму склалася менавіта так, а не іначай, і чаму народ, на працягу стагоддзяў змушаны ваяваць не тое што за незалежнасць — за права застацца на гэтай зямлі, за права гаварыць на сваёй мове; чаму народ, якому здраджвалі суседзі і якога пакінула ўласная эліта, зрабіў свой выбар: глядзець пад ногі, а не на зоркі ў небе. Аднак замест доўгіх разваг прывяду толькі адзін прыклад, які стаў набыткам чытацкай публікі зусім нядаўна.

У 2010 годзе часопіс «Нёман» (№ 1—3) надрукаваў незавершаную аповесць Ула-

дзіміра Караткевіча «Перадгісторыя», якую будучы класік беларускай літаратуры пісаў на рускай мове падчас навучання ў Кіеўскім універсітэце. Тэкст, на першы погляд, чыста гістарычны. Аўтар паказвае краіну, якая знаходзіцца пад ярмом акупантаў; народныя хваляванні; інтэлігенцыю. Частка апошняй асімілявалася, частка — патрыятычна настроена, але не заўсёды гатова асацыяваць сябе з лапцюжным народам. Цалкам пазнавальныя рэаліі напярэдадні польскага паўстання 1863—1864 гадоў. Але ў аповесці ёсць істотная асаблівасць: захопнікі маюць нямецкія імёны. Зразумела, чаму Караткевіч тут адступіў ад гістарычнай праўды — варта толькі зірнуць на час напісання «Перадгісторыі» (1949—50 гады). Аднак, адступіўшы раз, давялося гэта рабіць яшчэ і яшчэ. Таму імя ў краіны з’явілася іншае, геаграфічныя назвы былі крыху зменены; апісаныя падзеі набылі іншы акцэнт, што фактычна ператварыла гістарычную аповесць у квазігістарычны раман, г. зн. фэнтазійны. Калі б былі хоць нейкія сур’ёзныя традыцыі нерэалістычнай літаратуры, пэўна што, у адпаведным духу «Перадгісторыя» і была б дапісана. Але традыцый не было, а ствараць іх самастойна 20-гадовы аўтар не ўзяўся. Дый і наўрад ці гэта ўваходзіла ў яго планы, калі меркаваць па фінальнай частцы, дзе пра польскае паўстанне і аднаго з яго ўдзельнікаў гаворыцца без усялякай шыфроўкі. Мабыць, надалей давялося б неяк злучаць эпізоды квазіфантастычныя з эпізодамі рэалістычнымі. Пэўна, было і разуменне, што ніякая цэнзура такі тэкст не прапусціць... Карацей, твор дапісаны не быў. Некаторыя матывы «Перадгісторыі» пазней былі выкарыстаны ў «Каласах пад сярпом тваім» і іншых тэкстах, так што беларуская літаратура, па вялікім рахунку, нічога не страціла. Толькі вось фэнтазі мясцовага гатунку не адбылося.

Яшчэ прыклад, крыху іншы, па сутнасці, але з тым жа вынікам. Васіль Быкаў, адказваючы ў 1972 годзе на пытанні анкеты Алеся Адамовіча, заўважыў: «...адчуваю, што ў рэалістычнай літаратуры рабіць няма чаго, патрэбна літаратура іншага кшталту, тыпу С.-Шчадрына, Булгакава, збольшага Дастаеўскага, але хто яе дазволіць?» І гэтае адчуванне ён не толькі канстатаваў, але і ўвасобіў у жыццё. Так з’явілася п’еса «Апошні шанц» (1967). Яна, як звычайна ў Быкава, — пра чалавека на вайне, але пралог і эпілог, у якіх дзеянне адбываецца па-за часам і прасторай; нябачны вярхоўны суддзя, што чыніць прысуд; сюжэтаўтваральны магічны акт — вяртанне героя ў на 25 гадоў у мінулае — спакойна дазваляюць назваць «Апошні шанц» фантастыкай, толькі ў кшталце Ф. Дзюрэнмата, а не «Зорных караблёў» і «Зорных каралёў». Аднак лёс п’есы не быў шчаслівым — надрукавана, здаецца, толькі аднойчы, а рэжысёры звычайна ўсё нязвыклае, фантастычнае, выкідалі і пакідалі «пра вайну». Больш да фантастыкі Васіль Быкаў не звяртаўся.

Так і жыла беларуская літаратура адным рэалізмам доўгія гады і не надта праз тое пакутавала. А потым пачалася новая гісторыя. Што чаму папярэднічала і што чаму спрыяла; хто на каго ўплываў і хто гэты ўплыў прызнаваў — хай разбіраюцца гісторыкі літаратуры. Важней канстатаваць, што ўжо ў 2000-я гады фантастыка ў Беларусі не была замурзанай клышаножкай, якая туліцца на кухні каля бруднага посуду. На пачатку XXI стагоддзя гэты факт ускосна пацвердзіла рэдакцыя літаратурнага часопіса «Маладосць», пачаўшы выпускаць «часопіс у часопісе» «Фантаст». Менавіта ў «Маладосці» з’явіліся, напрыклад, аповесці «Сад замкнёных гор» (2004), «Зорныя гульні» (2005) і «Рок@нат» (2010) Сержа Мінскевіча, «Век Вадаліва» (2004) Алеся Аляшкевіча, «Не глядзіце ў снах на поўню» Алеся Бадака (2004), «Хуткадзейнасць» (2005) Андрэя Паўлухіна, «Горад, які яны засялілі» (2007) Міхася Южыка, «Анамалія» (2007) Алеся Бычкоўскага, «Паядынак (Фантазія на шахматную тэму)» (2010) Івана Клімянкова. Пабачыўшы, што справа зрушылася, заварушыліся і выдаўцы, выпусціўшы зборнікі фантастыкі «Люстэр-

**З году ў год паўтарэнне «пана сахі і касы» і «пяці лыжак заціркі»... Першапачаткова беларуская літаратура была занадта блізкай да зямных клопатаў, не было часу лунаць у нябёсах**

ка Сусвету» (2007) і «У зеніце — Антарэс» (2008).

Такім чынам, можна з упэўненасцю паўтарыць следам за аўтарам савецкай «кнігі зменаў»: працэс пайшоў.

Бадай, і на самай справе працяглае адставанне ў прыродазнаўчых навуках бярэ сваё. Але, хто ведае… Магчыма, больш важна тое, што спроба адраджэння мясцовай НФ прыйшлася на час крызісу гэтага кірунку на постсавецкай прасторы. Вось тыповы прыклад беларускамоўнай НФ — раман Васіля Гігевіча «Марсіянскае падарожжа» (1987; на рускай мове выходзіў у зборніку «Марсіянскае падарожжа» ў 1992-м). Твор грунтуецца на некалькіх абкатаных штампах. Штамп № 1 — блізкая будучыня, якой яе любілі адлюстроўваць 40—50 гадоў таму: засілле карпарацый, перанаселенасць, маркотнае жыццё і магнаты, якія ўсімі маніпулююць. Штамп № 2 — вар'ят-навуковец. Зрэшты, навуковец якраз разумны, нават геніяльны, але цынічны да агіднасці. Пад прыкрыццём вандроўкі на Марс ён імкнецца стварыць цалкам падкантрольнае яму грамадства, такую сабе тэхнакратычную ўтопію, дзе ён у адным абліччы і бог, і цар, і герой. Толькі высілкаў геній не разлічыў і прайграў права першынства свайго свету — суперкамп'ютару. Далей ідзе штамп № 3 — камп'ютар, які выйшаў з-пад улады чалавека і падпарадкаваў сабе людзей, дыктаваў умовы, кантраляваў кожны крок і ў выніку ўзяўся караць смерцю і мілаваць. Фінал — яшчэ адзін штамп: людзі ўзняліся, знішчылі электроннага эксплуататара і выбралі смерць (машына кантралявала ўсе сістэмы жыццядзейнасці), а не жыццё паўразумных аўтаматаў. А вось анатацыя да аповесці Марыі Шамякінай «Дуэль на машынным кодзе» (гэта ўжо 2005 год): «Аддаленая будучыня. Азонавы пласт практычна знішчаны. Энергетычныя рэсурсы планеты вычарпаны. <...> Для выратавання цывілізацыі быў абраны шлях змены чалавечай прыроды з дапамогай генных тэхналогій і зрошчвання чалавека з машынай». І там, і там старыя «веласіпеды», на якіх каталася некалькі пакаленняў шматлікіх англамоўных аўтараў. Падобныя «веласіпеды», якія цалкам складаюцца са спісаных за непатрэбнасцю імпартных дэталяў, найчасцей і прапануюць чытачу аўтары беларускай НФ.

**Так і жыла беларуская літаратура адным рэалізмам доўгія гады і не надта праз тое пакутавала. А потым пачалася новая гісторыя**

**Дасягненні ў беларускай фантастыцы ёсць, толькі звычайна да іх не прыкладаюць адпаведную бірачку**

Але дасягненні ў беларускай фантастыцы ёсць, толькі звычайна да іх не прыкладаюць адпаведную бірачку. Ды і тыя, хто гэтыя дасягненні стварае, больш вольныя ў выбары сродкаў выяўлення, чым «тытульныя фантасты». Вось Юры Станкевіч — вельмі нават прыкметны беларускі празаік апошняга дваццацігоддзя. Калі для даследавання нацыянальнага характару цалкам хапае атрыбутаў рэалістычнай прозы, ён піша раман «Любіць ноч — права пацукоў» (1998). Калі ж трэба змяніць вугал зроку — выходзіць раман «Эрыніі» (2006), суровая непаліткарэктная антыўтопія, у якой апакаліптычныя карціны будучыні рыфмуюцца з суровымі штодзённымі рэаліямі. Пры гэтым «Эрыніі» перадусім — добрая літаратура, а не пракламацыя накшталт «Мячэці Парыжскай богамаці». Той жа Станкевіч напісаў навукова-фантастычны раман «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн» (2003), а адной з галоўных падзей беларускай прозы 2010 года стаў ягоны твор «П'яўка», дзеянне якога адбываецца ў 2050 годзе.

Людміла Рублеўская напісала містычную аповесць «Дзеці гамункулуса» (2000, перакладзена на рускую ў 2001-м), у аповесці «Ночы на Плябанскіх Млынах» (2007) вяртае да жыцця (ці дадумвае сама) міфалогію Мінска, якому ў гэтай парафіі не пашчасціла — у адрозненне ад Пецярбурга і Масквы, і ніхто пакуль не напісаў «Мінскія аповесці». У двух апошніх раманах — «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» (2008) і «Сутарэнні Ромула» (2010) — Рублеўская піша пра лёс беларускай інтэлігенцыі, якая трапіла ў мясарубку сталінскіх рэпрэсій, што безупынна доўжыліся на пра-

цягу трыццатых гадоў. У адным выпадку нерэалістычныя дэталі апынуліся без патрэбы: так паўстаў раман «Сутарэнні Ромула» (зрэшты, у рамане адзін з галоўных герояў — знакаміты (!) беларускі фантаст (!!!), што ўжо само па сабе *фантастычна*). Аднак калі спатрэбілася больш аб'ёмна паказаць трагедыю патрыёта, які марыў пра вольную і незалежную Беларусь, аўтар перанесла яго ў наш час, дзе ён убачыў, што незалежнасць ёсць, а сапраўднай Беларусі — няма. І герой выбраў замест такой рэчаіснасці практычна стопрацэнтную смерць у 1937 годзе, куды і вярнуўся.

Андрэй Федарэнка ў рамане «Рэвізія» (2004; на рускую перакладзены ў 2010-м) гэтак жа выкарыстоўвае прыём з «патрапленцам»: наш сучаснік, са сваімі ведамі і памяццю, пераносіцца ў 1920 год, у выніку развітваецца з думкай штосьці памяняць, некага папярэдзіць і выбірае жыццё простага селяніна. Зрэшты, фінал адкрыты і, здаецца, трактаваць можна яго па-рознаму. Павел Місько, аўтар досыць вядомага яшчэ ў СССР рэалістычнага рамана «Мора Герадота», у 1987-м напісаў НФ-аповесць для дзяцей «Эрпіды на планеце Зямля», а праз дваццаць гадоў, у 2007-м, выдаў зборнік «Прыгавораны да жыцця», перліна якога — па-маладому злая і задзірлівая сатырычная антыўтопія «Ніль адмірары, або Я выбіраю смерць». Анатоль Казлоў піша раманы «Дзеці ночы — служкі зла» (1999), «Юргон» (2001), «Мінск і воран, Парыж і здань» (2003), Алег Мінкін выдае зборнік сацыяльнай фантастыкі «Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў» (1994). Максім Клімковіч і Уладзімір Сцяпан у суаўтарстве ствараюць вострасюжэтныя раманы «Тэолаг» (2004) і «Цень анёла» (2008), дзе чаго толькі не намяшана — і готыкі з містыкай у тым ліку. Элементы фантастыкі прысутнічаюць у прозе Янкі Сіпакова, Раісы Баравіковай, Віктара Казько...

Такім чынам, запылены сцяг, які дзесяцігоддзямі туліўся ў цёмным закутку, раптам апынуўся запатрабаваным і ўздымаецца ўсё часцей і часцей. Прычын такой

**Цешыць, што мы нарэшце падхопліваем агульнасусветныя тэндэнцыі, засмучае, што жанравая ніша зусім не бясконцая і неўзабаве можа быць перапоўнена. І што тады?**

цікавасці да паўзабытага кірунку некалькі. Бясспрэчна, што ў кожнага аўтара існуюць свае рэзоны пісаць так, а не інакш. Але штосьці агульнае павінна быць, калі справа датычыць мноства зусім розных людзей, праўда ж? Распаўся Савецкі Саюз, на яго прасторы фантастыка была выпушчана з клеткі. Прыйшло пакаленне літаратараў, якое не жадала пераказваць у тысяча першы раз дазволеныя рэчы. Можна на гэты аспект і пад такім ракурсам зірнуць: усеагульная ўрбанізацыя і прыход у літаратуру гараджан у другім-трэцім пакаленні. Для іх сялянская тэма страціла актуальнасць, а вайна ўсё далей і далей, таму лагічным стаў пошук новых тэм, і фантастыка вельмі да месца. Паветра свабоды таксама ўнясем у пералік. А, напрыклад, Л. Рублеўская бачыць «дзве галоўныя прычыны росквіту жанру фантастыкі-фэнтазі на айчыннай глебе: па-першае, агульная тэндэнцыя эскапізму, уцёкаў ад рэальнасці, магчыма, пошук героя, якога рэалістычная сучасная літаратура пакуль не дала. Падругое, запаўненне жанравай нішы, якая раней штучным чынам трымалася пустой». Цешыць, што мы нарэшце падхопліваем агульнасусветныя тэндэнцыі, засмучае, што жанравая ніша зусім не бясконцая і неўзабаве можа быць перапоўнена. І што тады? Зрэшты, нашто варажыць... Павандруем на машыне часу, званай жыццём, гадоў дзесяць — усё самі ўбачым. Магчыма, якінебудзь скрупулёзны даследчык з будучыні ўнясе ў картку назву беларускага рамана, які выйшаў у дзве тысячы аглядным годзе і з палёгкай выдыхне: УСЁ!

# ПАРТРЭТ ВУЧОНАГА Ў СЯМЕЙНЫМ ІНТЭР'ЕРЫ

***Сёння, калі тэкст паступова страчвае свае пазіцыі, калі чалавек усё часцей аддае перавагу аўдыёвізуальным сродкам, — жывапіс і фотаздымак набываюць абноўленае значэнне, становяцца актуальнымі і сучаснымі. Не праз тэкст, а праз выяву лягчэй, хутчэй можна ўвайсці ў эпоху, крыху па-іншаму зразумець чалавека ў ёй. Вядома, выява ў гэтым выпадку мусіць быць не менш дасканалай за сам тэкст.***

***Постаць Яўгена Іванавіча Барычэўскага (17.12.1883—12.09.1934) — адна з цэнтральных у мінскім навуковым асяродку 1920—1930-х. Сучаснаму філолагу ён найбольш вядомы сваімі кнігамі 1927 года — «Паэтыка літаратурных жанраў» і «Тэорыя санета». А вось пра побыт, сям'ю вучонага да нядаўняга часу не было вядома практычна нічога, акрамя тых двух-трох радкоў у стандартным curriculum vitae, якія пакінуў ён сам.***

***Прыватны фотаархіў Барычэўскага захавалі ягоныя нашчадкі. Аўтару гэтых радкоў пашчасціла сустрэцца з імі і папрацаваць з каштоўнымі матэрыяламі. Жыццё вучонага праз фотаздымкі і рукапісы з прыватнага архіва сям'і Барычэўскіх стала значна больш зразумелым, адкрылася шмат невядомых фактаў.***

***Гісторыя Яўгена Барычэўскага — у Фотаальбоме, новай рубрыцы часопіса «Маладосць».***

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**



*Яўген Барычэўскі нарадзіўся ў Мінску ў 1883 годзе. Парушыўшы нацыянальную традыцыю — у заможнай сям'і. З уласным домам па Мала-Манастырскім завулку (цяперашняя вуліца Герцэна), прыслугай, багатай бібліятэкай і бясхмарнай перспектывай.*



*Забяспечваў бясхмарнасць Іван Казіміравіч Барычэўскі — мінскі натарыус, калежскі асэсар. Паводле сведчання Алега Барычэўскага — унука Яўгена Іванавіча — у Мінску на той час натарыусаў было толькі два чалавекі. Таму сям'я і не адчувала ў грошах недахопу. Існаваў і жывапісны партрэт малога Яўгена — яго маляваў мясцовы мінскі мастак.*



*Адукацыю Яўген, адзіны сын у сям'і, атрымліваў у Мінскай класічнай гімназіі, а пасля — у Берлінскім і Маскоўскім універсітэтах. Адразу праявіў схільнасць да філасофіі і літаратуры. Зрэшты, гэта быў час Срэбнага веку. Мысленнем, паэзіяй цікавілася ўся інтэлігенцыя. Прыкметны і сам фотаздымак — вядомы майстар Майсей Напельбаум пазней пераехаў у Пецярбург і праславіўся выдатнымі фотапартрэтамі славутых паэтаў: Блока, Ахматавай, Гумілёва, Ясеніна, а таксама знаных бальшавікоў — Леніна, Сталіна, Дзяржынскага.*



*Гэты партрэт выкананы ў неардынарнай тэхніцы — зроблены ён у Мілане, куды філосафа Яўгена Барычэўскага накіраваў у 1912 годзе Маскоўскі ўніверсітэт. Такой была дадатковая ўзнагарода — напярэдадні Яўген Іванавіч атрымаў залаты медаль універсітэта за працу «Рэалізм Гартмана».*



*Алена Мікалаеўна рана праявілася як творца. З 12 гадоў яна пісала апавяданні і казкі. Некаторыя з іх былі апублікаваны, некаторыя — засталіся ў рукапісах, што захоўваюцца ў сям'і Барычэўскіх. Праўда, у пазнейшы час яна знаходзілася ў цені мужа, была ягоным дарадцам і першым чытачом — амаль усе рукапісы Барычэўскага, якія дайшлі да нашых дзён, перапісаны рукой Алены Даль.*



*Той жа 1912 год. Вяселле Яўгена Барычэўскага і Алены Даль. Малады філосаф выкладаў у маскоўскай прыватнай гімназіі Соф'і Даль і... закахаўся ў дачку дырэктаркі.*



*Адзінотніка-філосафа Алена Мікалаеўна скарыла адразу. «В Москве мне бывало раньше интересно, занимательно, но <u>никогда не было</u> так светло, как когда я бываю у Вас», — пісаў Барычэўскі ў лісце да нявесты ў 1911 годзе. Арыстакратычная, вытанчаная асоба — муза філосафа эпохі Срэбнага веку.*



*Алена — з сям'і вядомага маскоўскага ўрача-гіпнатызёра Мікалая Даля. Менавіта ён выратаваў ад алкагалізму Сяргея Рахманінава. Удзячны кампазітар прысвяціў доктару свой новы фартэпіянны канцэрт. Сам Мікалай Даль таксама граў на скрыпцы і выступаў на сцэне.*



*Летам 1913 года ў Барычэўскіх нарадзіўся першынец Расціслаў (у будучым — вучоны-геадэзіст). Дзяцей атачалі не столькі цацкі, колькі кнігі. Кадры з заваленымі кніжнымі паліцамі ў доме — нярэдкія ў прыватным архіве сям'і.*



*Гэты здымак — хатні, як і многія іншыя. Верагодна, што Барычэўскія мелі свой фотаапарат, бо аматарскіх здымкаў захавалася дастаткова шмат — каля сотні. Тут ужо мінская абстаноўка. Побач з Аленай Даль, каля трумо сядзіць Яўніка Яўгенаўна Барычэўская (1923 — 2010), другое дзіця ў сям'і.*



*Летам паняньчыць унука ў Маскву прыязджала Соф'я Барычэўская — маці вучонага. Шчаслівая пара пастаянна запрашала бабулю ў госці, заахвочвала не расседжвацца ў мінскай адзіноце (гэта адлюстроўваюць паштоўкі, якія захаваліся ў сям'і). Тым больш неўзбаве пачуліся першыя трывожныя весткі — да Беларусі набліжаўся фронт Першай сусветнай вайны.*



*Яўген Барычэўскі пераехаў з Масквы ў Мінск у 1922 годзе. Трэба было даглядаць бацькоў, а да таго ж — у горадзе адкрыўся Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, які адразу ж прапанаваў вядомаму філосафу пасаду дацэнта. 1920-я гады — росквіт навуковай дзейнасці вучонага. Ён выдае кнігі, чытае лекцыі, выступае з дакладамі. У 1927 годзе Яўген Барычэўскі становіцца прафесарам БДУ.*



*Мала хто ведае, што шчырае сяброўства звязвала беларускага вучонага з вядомым рускім літаратуразнаўцам і бібліяфілам Іванам Розанавым. Маскоўскі прафесар адведваў сябра ў Мінску. На здымку надпіс Яўнікі Барычэўскай: «На майские праздники в гости приехал И. Н. Розанов. 1930 г.»*



*Дом без гаспадара, фота другой паловы 1930-х. У 1934 годзе пасля цяжкай хваробы вучоны памёр. Яму было 50 гадоў. Па сведчаннях нашчадкаў Барычэўскага, жонка вучонага пасля смерці мужа некалькі гадоў знаходзілася ў стане цяжкай дэпрэсіі, не выходзіла з дому. Масей Сяднёў у адным са сваіх твораў успамінаў, што за трунай Яўгена Барычэўскага ішлі многія беларускія пісьменнікі розных пакаленняў, у тым ліку Янка Купала.*

Нэлі КСЯНЕВІЧ

# КАЛІ ЦЯМНЕЕ НОЧ

***Аднойчы я папрасіла знаёмых прадоўжыць думку: «Жыццё — гэта…»***

***— Гульня, — адказаў самы кансерватыўны ў нашай кампаніі.***

***— Барацьба! — сказала хатняя гаспадыня, якая за мужам як за каменнай сцяной.***

***— Суцэльныя расчараванні, — выдаў той, каго заўсёды лічылі заўзятым аптымістам.***

***А я падумала: «Парадокс!» І атрымала ад свайго адкрыцця шмат карысці.***

Згодна з паданнем, вялікі філосаф Сакрат вучыў сваіх суграмадзян думаць, задаючы недарэчныя і непрыемныя пытанні. Скарысталася гэтай методыкай і я — каб знайсці адказ на тое пытанне, якое даўно мяне хвалявала. Вось што атрымалася.

Пытанне: калі людзі разумеюць, як трэба жыць?

Адказ: перад смерццю.

Пытанне: калі ноч самая цёмная?

Адказ: перад світаннем.

Калі ты ведаеш, як трэба выхоўваць дзяцей? — Калі яны ўжо не дзеці.

Хто лепшы настаўнік? — Той, хто сам шукае адказы.

Чаго ў чалавека зашмат? — Таго, што ён менш за ўсё цэніць.

Што адбываецца пры поўным расслабленні? — Павышаецца актыўнасць галаўнога мозга.

Навошта мне ведаць такія парадоксы? — Яны вучаць дзейнічаць эфектыўна.

Калі б абвясцілі конкурс на самую прыдзірлівую свякроў, маці Машынага мужа ўзяла б галоўны прыз, не пакінуўшы ніводнага шанцу сваім суперніцам ужо на першым этапе. Кожны яе візіт у дом сына ператвараўся ў інспекцыйную праверку, размова на любую тэму нязменна завяршалася напамінам аб тым, як ашчаслівіў ён шлюбам шэрую мыш з імем Марыя. Пярэчыць, апраўдвацца, спрачацца было марнай справай, ды і на адносінах з мужам гэта адбівалася не лепшым чынам. Адно што заставалася — душыць раздражненне ў сабе і маўчаць.

— Слухай, а што табе хочацца зрабіць, калі яна пачынае зноў гаварыць пра тое, як табе пашанцавала ў гэтым жыцці?

— Шчыра? Выпхнуць яе за дзверы.

— А што было б супрацьлеглым дзеяннем? Сціснуць у абдымках і запрасіць на гарбату? Рабі апошняе. Надта ж парадокс нагадвае.

— Думаеш, у мяне атрымаецца?

— А куды табе падзецца?

Калі мы сустрэліся наступным разам, Маша зіхацела.

— Падчас чарговага візіту, пасля таго як да майго ведама давялі, як карыстацца пыласосам і з якога боку ад ракавіны павінна ляжаць губка, я адчула: вось-вось узарвуся. І — рашылася. Падышла, абняла і гавару: «Вы такая цудоўная мама, клапатлівая, а з Лёшам мне сапраўды пашанцавала. Давайце вып'ем гарбаты». Уяўляеш — яна змоўкла. Гарбаты не папіла, адразу пачала збірацца дахаты. А мяне такі смех праняў…

З таго часу мая знаёмая дакладна прытрымліваецца парадаксальнай тактыкі: у кожным пытанні згаджаецца са свякроўю, падтаквае ёй ва ўсім, унутрана пераключаючы сябе на гульню. А нядаўна яе муж падзяліўся патаемным: «Ведаў, што Машка — геній стасункаў, але каб да маёй мамы знайсці падыход! З жонкай мне пашанцавала, што і казаць».

Парадокс — гэта заўсёды нетыповае вырашэнне тыповай сітуацыі. Здавалася б, здаровы сэнс у тым, каб рабіць адно, а эфект назіраецца ад нечага зусім іншага.

# ЧАТЫРЫ КУБАЧКІ ГАРБАТЫ

***— Чаму вы пагадзіліся размаўляць на гэту тэму, пры тым што кожны з вас назваў яе збітай, добра што не зашмальцаванай?***

***— Таму што ёсць яшчэ што сказаць. Нічога ж ад таго, што столькі размоў вядзецца, не змянілася.***

**Удзельнікі першай дыскусіі ў межах новай рубрыкі — літаратурны крытык Ірына Шаўлякова, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта БДУ Лада Алейнік і пісьменнік Валерый Гапееў — сустрэліся ў кабінеце рэдактара «Маладосці», каб паразважаць над самым актуальным для кожнага, хто мае дачыненне да літаратуры, пытаннем. Ці не прывідная гэта праблема — зніжэнне папулярнасці чытання ў нашай краіне? А калі не прывідная, то дзе шукаць прычыны?**

**І. Ш.** — Лічбы, якія вывешваюцца на сайтах ці ў блогах у якасці вынікаў квазісацыялагічных даследаванняў праблемы чытання ў Беларусі асабіста ў мяне даверу не выклікаюць, перадусім, з прычыны сумніўнай рэпрэзентатыўнасці выбаркі, адэкватнасці методыкі даследавання. Зрэшты, нам даступны вынікі шматгадовых даследаванняў, напрыклад, Інстытута сацыялогіі адукацыі Расійскай акадэміі адукацыі, дзе яны праводзяцца з сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Калі верыць гэтым даследаванням, за гэты час зварот да кнігі сучасных школьнікаў скараціўся не менш як у чатыры разы. Вось яшчэ лічбы: у перыяд з 2003 па 2009 год у Расіі колькасць людзей, якія пастаянна чытаюць кнігі, паменшылася з 26 % да 16 %, а колькасць тых, хто кніг увогуле не чытае, вырасла — з 34 % да 50 %. Гэта, падкрэслю, у Расіі, але, думаю, калі б у нас праводзіліся такія ж даследаванні, то іх вынікі пацвердзілі б тую ж тэндэнцыю. На мой погляд, тое, што праблема чытання не з'яўляецца праблемай надуманай, відавочна.

**В. Г.** — А я думаю, што чытаць менш не сталі. Мне здаецца, што небяспека хаваецца не ў колькасці чытання, а ў якасці таго, што пішацца. Я падзяляю ўсё, што прадаецца, на тры часткі. Першая — сапраўдная літаратура, яна мізэрная. Другая — графаманства. Яго можна не заўважаць, бо яно было ва ўсе вякі, але цяпер, у наша дзесяцігоддзе, з улікам тых абставін, што калі грошы ёсць, дык можна выдавацца дзе заўгодна, усё ж варта, каб на графаманаў звярталі увагу, у першую чаргу рэдакцыі. Трэцяя частка — гэта так званае спажывецкае кнігадрукаванне, чытво кшталту загавораў, соннікаў, дамскіх раманаў... Сёння выдаецца процьма літаратуры менавіта лёгкага чытання. Такія як Данцова ў Расіі і наша Альхоўская «робяць літаратуру», і выдавецтвы працуюць на іх. Бо яны зарабляюць грошы. І гэта запатрабаванне часу, гэта тая самая філасофія, якая ўвогуле цяпер пануе ў свеце, — філасофія спажывання. Большасць кідаецца на тое, што прывабней выглядае, што прасцей здабыць і лягчэй пераварыць.

**І. Ш.** — Тое, што вы называеце прадукцыяй «спажывецкага кнігадрукавання», карысталася попытам у адпаведнай частцы чытацкай публікі і сто гадоў таму. Вы думаеце, што сёння людзі менш чытаюць сур'ёз-

Згадаем пра дыктат шоуцэнтрычнай эпохі: калі ты хочаш быць актуальным у адпаведных варунках, мусіш прымаць правілы гульні

ных мастацкіх твораў, бо раптам пераарыентаваліся на так званы фаст-фуд ад літаратуры? Я так не лічу.

**В. Г.** — Я толькі кажу, што калі б не было фаст-фуду, каб ён так агрэсіўна не рэкламаваўся, не навязваў сябе сваім коштам, — чалавек спажываў бы добрую, якасную ежу.

**С. Д.** — Але чаму фаст-фуд, як вы кажаце, не надакучвае? Ну, дзве кніжкі Данцовай можна прачытаць, тры, няхай чатыры. Але ж далей, прабачце, пачынае ванітаваць. Чаму людзі працягваюць такое чытаць? Як гэта вытрымліваюць рэдактары?

**В. Г.** — Таму што для чытання літаратуры, як і для прыгатавання добрай ежы, патрэбны намаганні. Праца душы. Возьмем фэнтазі. Калі яно сапраўднае, я не адношу яго да чытва, гэта літаратура. Напрыклад, Толкіен — аўтар сапраўднай літаратуры, ён стварыў цэлы сусвет, дзе ёсць свая рэлігія, дзе мноства народаў — і ў кожнага свая мова. Ён, Толкіен, стварыў характары, вобразы…

**Л. А.** — Так, творы Толкіена — гэта ўзор грандыёзнай працы. Ён быў вядомым перфекцыяністам, над кожным творам працаваў па шмат год. Пры тым, што быў вельмі адукаваным і дасведчаным чалавекам — лінгвістам, філолагам. У яго творах увасоблены і старажытнабрытанскі эпас, і германа-скандынаўская міфалогія... Поспех яго кніг невыпадковы. Увогуле, якая прамежкавая выснова напрошваецца? Што ў нас існуе дэфіцыт якаснай літаратуры, так? Я, напрыклад, лічу, што так. Безумоўна, сёння ёсць пісьменнікі, якіх чытаюць і высока ацэньваюць людзі розных сацыяльных груп. Гэта дзясятак імёнаў. У Расіі — некалькі дзясяткаў, але ж яна і «геаграфічна» большая. Чаму карыстаюцца папулярнасцю творы Людмілы Уліцкай і Дзіны Рубінай, Віктара Пялевіна і Барыса Акуніна? Чаму з'яўленне новых кніг Захара Прылепіна ці Сяргея Шаргунова заўжды робіцца падзеяй у культурным жыцці? Гэта ж усё — не масавая літаратура, але — цікавая «сюжэтная» проза. Нашай жа літаратуры падобных узораў бракуе. Таму і кажу, што дэфіцыт якаснай літаратуры існуе. Мае студэнты чытаюць. Па прафесійнай неабходнасці, па ўнутраным запатрабаванні, бо не проста ж так яны прыйшлі на філфак вывучаць літаратуру. Аднак захопленых водгукаў пра сучасныя ўзоры прыгожага пісьменства я ад іх амаль не чую. Дакладней — зрэдку. А вось ад іншых людзей — з «нефілалагічнай» сферы — увогуле пастаянна чую скаргі: «Няма чаго пачытаць па-беларуску. Хочацца неардынарных гісторый — жыццесцвярджальных, яркіх, эмацыйных... Нечага такога, каб і для душы, і для розуму... Аднак які сучасны твор ні возьмеш — там адны "інтэлектуальныя практыкаванні" — перманентнае цытаванне, гульні з




**Лада Алейнік:**

— Сёння ва ўсіх праблемах беларускай літаратуры стала модным абвінавачваць школьную праграму. Выкладчык і крытык Маргарыта Аляшкевіч неяк нават надрукавала эсэ пад назвай «Дзевяць прычынаў не любіць беларускую літаратуру». Маўляў, сучасным школьнікам не цікавыя творы Купалы і Коласа, не цікавыя тэмы вёскі і вайны... Трэба тэрмінова перагледзець школьную праграму, напоўніць яе цікавосткамі. Студэнты прапанавалі мне абмеркаваць гэты тэкст на практычных занятках па гісторыі крытыкі. Я спецыяльна падрыхтавала да гаворкі сустрэчнае эсэ пад назвай «Дзевяць прычын не любіць матэматыку». Па ўзоры спадарыні Аляшкевіч «абгрунтавала», што Архімед і Піфагор — гэта «нудоцце», а табліца множання — набор стэрэатыпаў. Замест гэтага ўсяго на ўроках трэба ладзіць матэматычныя фокусы, а паслядоўнасць Фібаначы трэба вывучаць у інтэрпрэтацыі Дэна Браўна. Студэнты смяяліся... Бо зразумела, што школьная адукацыя дае веды пра гісторыю станаўлення і развіцця літаратуры, пра гістарычныя і сацыяльныя працэсы, якія адлюстроўваліся ў літаратуры, пра законы, па якіх будуюцца мастацкія творы... Па-мойму, усё відавочна.

## Безумоўна, сёння ёсць пісьменнікі, якіх чытаюць і высока ацэньваюць людзі розных сацыяльных груп. Гэта дзясятак імёнаў

класічнымі ўзорамі сусветнай літаратуры, філалагічныя шарады ды рэбусы». Дык вось і ад «прафесійных» чытачоў, і ад «шараговых» аматараў прыгожага пісьменства я чую кампліменты ў адрас адных і тых жа пісьменнікаў — Федарэнкі, Наварыча, Сцяпана, Рублеўскай...

Сёння радуе той зрух, які адбыўся ў галіне падлеткавай літаратуры. Нарэшце з'явіліся пісьменнікі, у іх ліку і прысутны спадар Валерый, якія ўзяліся распрацоўваць гэтую дзялянку. Сярод іх — ізноў жа — Андрэй Федарэнка. Школьнікі з задавальненнем чытаюць яго аповесці «Шчарбаты талер» і «Афганская шкатулка». У вучнёўскім асяродку карыстаецца ўвагай аповесць Яўгена Хвалея «Прынцэса тусоўкі». Шмат захопленых водгукаў мне даводзілася чуць пра аповесць Алеся Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца», пра аповесці Людмілы Рублеўскай «Сэрца мармуровага анёла» і «Пярсцёнак апошняга імператара». Тое ж датычыцца і твораў Валерыя Гапеева — кожная новая аповесць выклікае розгалас... Усе гэтыя пісьменнікі пішуць цікава, удумліва, вобразна і пра сучаснасць. Творы, у якіх асвятляюцца з'явы бягучага жыцця, заўжды прыцягваюць увагу. Згадайце, напрыклад, якой папулярнасцю карысталіся ў свой час раманы Шамякіна...

**В. Г.** — Я не памятаю цяпер, хто выступіў у абарону Шамякіна, калі яго ўжо пасля смерці папракнулі тым, што яго творы не надта глыбокія, асабліва апошнія аповесці, але абарона была, на мой погляд, трапная. Маўляў, пра гэты час вы ні ў аднаго пісьменніка нічога лепшага не знойдзеце. І гэта на самай справе так. Толькі яго творы пра той час і засталіся.

**Л. А.** — Думаць, што сёння літаратура канчаткова страціла чытача, не выпадае. Паглядзіце, з якім імпэтам школьнікі чытаюць фэнтазі, перадаюць адно аднаму гэтыя таўшчэзныя таміны-цагліны...

**С. Д.** — А гэта, я лічу, ад таго, што на самай справе ці існуе яна — патрэба чытаць пра сучаснае? Можа, гэта якраз і нецікава маладому чалавеку — чытаць пра тое, што ён бачыць кожны дзень. Нездарма карыстаюцца папулярнасцю раманы пра мінулае і тое самае фэнтазі.

**В. Г.** — Фэнтазі, на мой погляд, не таму папулярнае, а па іншай прычыне: там заўсёды цікава ведаць, што будзе далей. Цікавасць закладзена ў сюжэце, законах жанру.

**С. Д.** — Дык і я ж пра сюжэт. Пра рэальнае жыццё ўсё вядома. Падлеткам дык дакладна.

**В. Г.** — Гэта ў нечым феномен эскапізму, уцёкаў. І адзінокая жанчына па гэтай самай прычыне чытае любоўныя раманы.



**Валерый Гапееў:**

— Я хацеў бы пачуць адказ: як і хто займаецца камплектаваннем бібліятэк? Ужо што іншае, але бібліятэкі, якія камплектуюцца за бюджэтныя сродкі, павінны быць максімальна абаронены ад рознай лухты. За бюджэтныя грошы купляць няякасны самвыдат і везці ў бібліятэку — такога быць не павінна. Разумею, за гэтым стаіць чыста гаспадарскі разлік: за меншую колькасць грошай прыдбаць больш асобнікаў кніг. Але давайце згадзімся: нельга эканоміць на духоўнасці, на літаратуры як частцы яе.

**Я лічу, што няхай сабе і ў фармаце ток-шоу, але гэта павінна быць спрэчка пра канкрэтную кнігу, пра новы твор, і з удзелам пісьменніка. То бок — папулярызацыя, а не дабіванне літаратуры...**

**І. Ш.** — Эскапізм, феномен уцёкаў… Можна ўцякаць не толькі ў ружовую літаратуру, дамскія ці крымінальныя раманы. Побач з тымі, хто ўдзельнічае ў забегах у гэтых «кірунках», існуюць і такія кнігаманы (безумоўна, іх значна менш), якія абсалютна сур'ёзна разглядаюць высокую мастацкую літаратуру як свет, куды можна ўцячы ад сённяшняга паўсядзённага лабудзення, ад трыумфаў шоуцэнтрызму. Глабальны разрыў паміж рознымі катэгорыямі «ўцекачоў» заключаецца ў рознай культуры чытання (альбо нават у яе адсутнасці), у пакутлівым жаданні з дапамогай мастацкай славеснасці супасці з часам настолькі, каб у творах адкрываць для сябе новыя магчымасці змагацца з гэтым жыццём ці адаптавацца да яго.

Мне здаецца, праблема, якую агучвае Лада, — нібыта няма чаго чытаць, — ёсць не столькі праблемай, колькі зручнай «адгаворкай»: маўляў, няма чаго чытаць — дык мы не чытаем. Ды калі б справа была толькі ў адсутнасці цікавых беларускіх твораў, мы б з энтузіязмам чыталі замежную, «блізкую» і «далёкую»…

**В. Г.** — Вы вельмі добра выказаліся наконт таго, што страчана сама практыка чытання. Страчана і павага да кнігі ўвогуле. Па-першае калі ў 2007 годзе я пачаў друкавацца тут, у Мінску, адзінай газетай, у якой нешта пісалася пра літаратуру, была «Літаратура і мастацтва». Па-другое, на тэлебачанні — а гэта сёння самы магутны сродак масавай інфармацыі, ён ахоплівае максімум насельніцтва, — практычна нічога няма пра літаратуру. Яна не папулярызавалася і не папулярызуецца. Наконт яе на тэлебачанні ніколі не было ніякіх спрэчак, а калі былі, то жах, каго садзілі на трыбуну, каго ў залу і наконт чаго вялі размову. Я лічу, што няхай сабе і ў фармаце ток-шоу, але гэта павінна быць спрэчка пра канкрэтную кнігу, пра новы твор, і з удзелам пісьменніка. То бок — папулярызацыя, рэклама твора, кнігі. А не дабіванне літаратуры…

**І. Ш.** — Тут няма шанцаў. Вы проста ідэалізуеце сітуацыю. Зноў згадаем пра дыктат шоуцэнтрычнай эпохі: калі ты хочаш быць актуальным у адпаведных варунках, мусіш прымаць правілы гульні. Напрыклад, рэдакцыя часопіса «Маладосць», калі пачала змяшчаць на вокладцы выдання партрэтныя выявы прыгожых юных паэтак, прадэманстравала, на мой погляд, рэдкі для айчынных літаратурных выданняў культурны спрыт: інструментарый маскульту (гламурных часопісаў) спрабуюць выкарыстаць дзеля дасягнення нядробнай мэты — прапаганды маладой беларускай паэзіі.

Вам не здаецца, што праблема чытання паступова пераходзіць у разрад невырашальных з прычыны, так бы мовіць, манументальнай неразваротлівасці тых, хто так ці інакш маглі б яе вырашэнню спрыяць? Здаецца, што найбольш запатрабаваным для сённяшняга грамадства застанецца бліскучы вопыт незабыўнага гогалеўскага Манілава: і мост (цікавая літаратура) сам сабой паўстане, і гандаль (чытанне, попыт на яе) на ім сам сабой разгарнецца.

**Л. А.** — Датычна тэлебачання — так, няма ніякіх літаратурных перадач, няма рэкламы. Адкуль шараговы грамадзянін даведаецца пра нейкія літаратурныя навінкі? Вядома, напрыклад, што ўвагай чытачоў заўжды карысталіся творы Караткевіча. Асабліва яго дэтэктывы. Калі б прарэкламаваць сёння творы Рублеўскай, якая піша ў гэтым жа рэчышчы, можа хто-небудзь і спакусіўся б на чытанне па-беларуску...

**Нават таго, што нашы літаратары навыдавалі за апошнія дзесяць год, хопіць самаму заўзятаму кнігаману дзеля «падкормкі» сваёй хваробы не менш як на тры пяцігодкі**

Магчыма, праблема чытання, якая адчуваецца так абвострана і пісьменнікамі, і крытыкамі, звязана з несупадзеннем патэнцыялу беларускага прыгожага пісьменства і магчымасці прэзентаваць яго ў сучаснай інфармацыйна прасторы як актуальны культурны феномен

**І. Ш.** — Магчыма, праблема чытання, якая адчуваецца так абвострана і пісьменнікамі, і крытыкамі, звязана з несупадзеннем патэнцыялу беларускага прыгожага пісьменства і магчымасці прэзентаваць яго ў сучаснай інфармацыйнай прасторы як актуальны культурны феномен. Удзельнікі сённяшняга літаратурнага працэсу ў большасці сваёй (аднак далёка не ўсе) бездапаможны ў маркетынгавым сэнсе. У нас ёсць што прапанаваць («прадаць»), але мы загадзя паныла пагаджаемся на нізкую канкурэнтаздольнасць («куды нашым да іхніх»).

* * *

**В. Г.** — Пра нашу літаратуру думаюць: як ты туды праб'ешся, калі там столькі імёнаў. А на самай справе, калі паглыбіцца…

**Л. А.** — …то фактычна няма канкурэнцыі. Калі чалавек піша выдатна, ён будзе прыняты чытачом і сцвердзіцца ў літаратуры. Колькі за год выйшла сапраўды вартага? Знайсці новую добрую кнігу — праблема.

**І. Ш.** — Вы зноў зводзіце праблему чытання ў Беларусі да праблемы адсутнасці якаснай літаратуры. Я з гэтым па-ранейшаму катэгарычна не згаджаюся.

**В. Г.** — У вашу падтрымку супраць Лады. Я спачатку згадзіўся, што мала добрых імёнаў і добрых кніг, але ж не, кнігі засталіся. І Караткевіч застаўся. Няма новага? Дык хочацца запытацца: а вы што, старое ўжо ўсё папрачытвалі?

**Л. А.** — Тым не менш, няма сучасных узораў, якія б карысталіся тым жа попытам.

**І. Ш.** — Дык ты і не знойдзеш узораў, якія будуць абсалютна ўсіх задавальняць. Нават таго, што нашы літаратары навыдавалі за апошнія дзесяць год, хопіць самаму заўзятаму кнігаману дзеля «падкормкі» сваёй хваробы не менш як на тры пяцігодкі.

**Л. А.** — Ты ж гэта робіш па прафесійнай неабходнасці. Скажы, ты б цягнула сябе за каўнер чытаць усё тое, што ты цяпер чытаеш, калі б не прафесія? Дзеля чаго? Шараговы чытач не прымае такой літаратуры, да чытання якой сябе трэба прымушаць, як да цяжкай працы.



**Ірына Шаўлякова:**

— Нельга абвінавачваць пісьменнікаў у катастрафічным стане культуры чытання: маўляў, аўтары пішуць не так і не тое, што ад іх чакаюць. Не ўдалося ж цягам апошняга дзесяцігоддзя прымусіць айчынную крытыку выконваць — хоць бы з малой доляй колішняга імпэту! — элементарныя культурніцкія функцыі. Нельга прымусіць пісьменнікаў ствараць не толькі масавы (гэта якраз можна), але якасны, перапрашаю, «літпрадукт» у тых колькасцях, якія патрэбны грамадству. Больш плённай падаецца праца ў кірунку грамадска-культурнай актуалізацыі ўжо напрацаванага ў нацыянальнай літаратуры, набыткаў не толькі класічнага, але і сучаснага мастацтва слова.

* * *

**Лада Алейнік:**

— Сёння існуе меркаванне, што беларуская літаратура — з'ява элітарнага парадку. Па-беларуску чытаюць толькі адукаваныя інтэлігентныя людзі…

**Валерый Гапееў:**

— Літаратура павінна проста існаваць. Гэта людзі павінны цягнуцца за ёю. У гэтым адрозненне сапраўднай літаратуры ад чытва, якое ідзе за попытам, задавальняе патрэбы, у тым ліку далёка не самыя высокадухоўныя.

**Ірына Шаўлякова:**

— Адзін з важкіх аргументаў на карысць таго, што праблема не прывідная, — тое, што сучасны чалавек развучыўся ўступаць у камунікацыі з нагоды літаратуры. Нашы размовы пра літаратуру стаяць на ўзроўні кулінарнага ток-шоу: гэта файна, гэта няфайна. Калі патэнцыяльны чытач перамяшчаецца ў сеціва, ці не варта стваральнікам высокай літаратуры падумаць пра магчымасці, якія могуць адкрыцца перад ёй? А для вас, Святлана, як для рэдактара «Маладосці», праблема адсутнасці чытання відавочная?

**Святлана Дзянісава:**

— Не зусім. Таму што той, хто хоча чытаць, чытае. І яму ўсё роўна, на якім носьбіце чытаць. А хто не хоча, таго ніякімі носьбітамі не зацікавіш. Калі няма патрэбы ў працы душы, то ніхто гэту патрэбу не забяспечыць. У мяне трывога іншага кшталту. Я ўпэўнена, што праблема не ў тым, што мала добрых твораў і добрых пісьменнікаў, а ў тым, што шмат дрэнных твораў і дрэнных пісьменнікаў. І да той пары так будзе, пакуль будуць пісаць тыя, каму лепш было б чытаць.

*Запісала*
***Святлана ДЗЯНІСАВА***

## ЧЫМ ГРАФАМАН АДРОЗНІВАЕЦЦА АД ПІСЬМЕННІКА

***Цытаты з аднаго не вельмі «круглага стала»***

Графаман — гэта той, хто бясконца паўтараецца. Пісьменнік, сапраўдны творца, нават калі ён у нечым эпатажны, заўсёды ідзе да новага.

*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

Існага пісьменніка ад так званага можна адрозніць тым, ідуць яму радкі зверху, ад Бога, ці не ідуць, і ён нешта спрабуе зрабіць сам.

*Валерыя КУСТАВА*

Кожны сапраўдны пісьменнік калі-нікалі адчувае сябе графаманам. А графаман такім сябе не адчувае ніколі. Вось і ўся розніца.

*Мікола ШАБОВІЧ*

Пісьменнік піша для сябе — каб яго пачулі. Слова сваё ён прапускае праз душу і мозг. А графаман проста кладзе радкі на паперу.

*Яна ЯВІЧ*

Я не думаю, што мы калі-небудзь знойдзем адказ на гэта пытанне. Для мяне самая прыкрая з'ява нашага жыцця — гэта тое, што з'явіліся паштоўкі, у якіх ужо ёсць вершаваны тэкст. Так у нас адбіраюць памкненне скласці сваё. Дык няхай у кожнага будзе разуменне, што ў яго ёсць такая магчымасць — скласці словы ў вершы, і што нехта яго пачуе. Усё роўна застанецца лепшае, а якое яно, лепшае, — пакінем гэта на прысуд гісторыі. Яна разбярэцца, хто быў больш вялікім, а хто менш.

*Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА (НОРЫНА)*

Складанасць гэтага пытання раздзьмута працаўнікамі пяра. На самай справе ўсё проста. Графаманства — гэта ахвяраванне законамі логікі дзеля законаў рыфмы. Калі канцэпцыя верша не вытрымана, а словы ўстаўляюцца проста ў рыфму, гэта і ёсць графаманства.

*Сямён ІСАЕЎ*

*Андрэй КУВАЕЎ*

# ПАЛЯВАННІ КНЯЗЁЎ РАДЗІВІЛАЎ

***Не откажите предоставить мне величайшее удовольствие поохотиться дня четыре на медведя, кабана в Денисковичах. Для чего пожалуйте Воскресения четвертого февраля вечером в Радивиллмонты обедать, ночевать.***

Князь Георгий Радзивилл

**Яго Яснавяльможнасць Князь Антоній Вільгельм Радзівіл нетаропка праходжваўся па сцежцы ўздоўж замкавага насыпу. Позняя лютаўская раніца яшчэ драмала ў начной імгле, а князю ўжо не спалася. Зрэшты, як і заўсёды перад паляваннем. Абыходзячы агромністыя, намеценыя вечаровай завірухай гурбы ля сцен замка, ён напоўніцу ўдыхнуў марознае паветра нясвіжскай раніцы і, зачарпнуўшы снегу, з асалодаю расцёр ім рукі і твар — каб прагнаць хутчэй апошнія прыкметы санлівасці. І адразу быццам зразумеў, адчуў першабытным інстынктам — паляванне сёння будзе знатным.**

Ды і як яму не быць знатным, калі ладзіць яго Радзівіл! Калі багата яшчэ ў княскіх лясах дзікіх звяроў, стаяць у стайнях пародзістыя скакуны, здольныя апярэдзіць нават вецер, калі псярня — лепшая ва ўсёй Літве, а лоўчыя — самыя спрактыкаваныя. Ды і сам князь — вялікі прыхільнік палявання, гэтай па-сапраўднаму панскай забавы, любоў да якой у яго ў крыві, ад продкаў.

Многія мясцовыя лоўчыя, якія з дзяцінства прызвычаіліся да палявання, заўважыўшы паляўнічы азарт князя, які прыбыў у фамільны маёнтак з прускіх свецкіх колаў, напачатку паблажліва пасміхаліся. Але князь неўзабаве прадэманстраваў сябе не толькі па-нямецку акуратным і клапатлівым гаспадаром, з руін узвёўшы новы замак, але і чалавекам не з баязлівага дзясятка, вынослівым і вынаходлівым, спрытным і трапным, нягледзячы на грузнасць і немаладыя гады. Вось і сёння, прачнуўшыся раней за іншых паноў, ён стаіць на вяршыні вала і ўзіраецца за возера, на лясы, быццам высочвае ўжо там невядомую здабычу. Добрае будзе паляванне!



Трафеі палявання на фоне палаца ў Манькавічах, 1937 год.

Княскі род Радзівілаў і яго радавое гняздо Нясвіж здаўна звязаны з паляваннямі. І справа не толькі ў тым, што ловы ва ўсе часы былі адным з улюбеных заняткаў нашай



*У двары нясвіжскага замка, 1939 год.*

шляхты. Як сцвярджае старое паданне, адзін з Радзівілаў быў узнагароджаны за заслугі ўладаннямі настолькі вялікімі, наколькі разносіўся па ваколіцах гук яго паляўнічага рога. Згодна з другой легендай, у ваколіцах Нясвіжа, калі ён яшчэ не быў Нясвіжам, паляваў некалі Вялікі князь. Колькі дзён ён аддаваўся гэтаму занятку разам з вялізнай дружынай і ў апошні дзень забіў магутнага мядзведзя. А калі надышоў час вяртацца дадому, і здабыча грузілася на павозкі, мядзведжай тушы не знайшлося месца. За ёю прыехалі на наступны дзень, але туша паспела ўжо сапсавацца. Так і назвалі гэтае месца — нясвежым, а потым — Нясвіжам.

Паданні заўсёды неслі адбітак казачнай нерэальнасці, але так ніхто і па сёння не ведае, чаму Радзівілы абралі за родавы герб менавіта «Трубы», тры паляўнічыя ражкі. Ці то славу сваю трубіць на ўвесь белы свет, ці сапраўды ў незапамятныя часы нешта ў родзе было звязана з паляваннем — невядома. Але па даўняй традыцыі многія шляхецкія гербы з выявамі пушак, вежаў, змей, прастрэленых рук і палаючых сэрцаў не абстрактна дэманструюць нейкія сімвалы, а змяшчаюць намёкі на даўно забытыя гісторыі, што здараліся з самымі першымі прадстаўнікамі роду — калі ім быўнададзены той ці іншы герб.

Разам з гарадамі і вёскамі, сялянамі, рэкамі і азёрамі Радзівілы валодалі і агромністыміляснымі прасторамі. Але гэта не было абстрактным валоданнем, на паперы. Здавён лясныя ўгоддзі ў радзівілаўскіх «добрах» падзяляліся на лясніцтвы — адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі ў межах княства. Кожнае лясніцтва ўзначальваў ляснічы, а сукупнасць лясніцтваў — галоўны кіраўнік лясніцтвамі, які ўваходзіў у склад вышэйшага апарату кіравання ўсім княствам. У кожным лясніцтве быў цэлы штат спецыяльных працаўнікоў, якія валодалі ляснымі справамі. Сюды ўваходзілі ляснічыя, абходчыкі, лоўчыя, страпчыя, казначэі, псяры і гэтак далей. Усе гэтыя людзі сачылі за лесам, яго станам, у тым ліку і за здароўем дрэў, выдалялі па меры неабходнасці старыя і хворыя дрэвы, буралом, займаліся нарыхтоўкамі лесу на продаж і для патрэб княства, будаўнічых і цяслярскіх прац, загадвалі нарыхтоўкамі дроў для княскіх маёнткаў, супрацьстаялі незаконным высечкам і ловам, ачышчалі сцежкі і прасекі, нарэшце, назіралі за ляснымі жывёламі: падкормлівалі маладняк у лютыя зімы і палявалі на патрэбы панскага стала.

У абавязкі некаторых лясніцтваў уваходзіла таксама трыманне звярынца, стайні і псярні для панскіх паляванняў, нарыхтоўка саджанцаў для парку, аленевых і ласіных рогаў, а таксама іклаў дзікоў ды ваўкоў — для палацавай кунсткамеры. Часам буйныя і старыя звяры «пераязджалі» з лясоў у пакоі палацаў у выглядзе чучал. Летам і ўвосень сяляне выпраўляліся ў лясы нарыхтоўваць грыбы і ягады, на гэты час яны вызваляліся ад павіннасцей, вясною падпраўлялі лясныя дарогі, валілі падрыхтаваны лес, рамантавалі лясныя масты. Іншымі словамі, радзівілаўскі лес са сваімі лясніцтвамі заўсёды быў вялікай і складанай гаспадаркай, з уласнай адміністрацыяй, кожны з супрацоўнікаў якой



*Князь Дамінік Радзівіл цэліць у фазана, 1934 год.*

насіў на шапцы кукарду з княскім вензелем. «На шапцы R была з каронай…», — успамінае ў паэме «Новая зямля» Якуб Колас, бацька якога служыў у Радзівілаў ляснічым да 1861 года. У замкавым архіве Нясвіжа дагэтуль захоўваецца вялікае мноства папак з ліставаннямі паміж лясніцтвамі і ўпраўляючымі маёнткаў, у склад якіх уваходзілі лясы. Знайшлося там і апісанне таго самага значка, што насіў бацька Якуба Коласа: *«Знак из желтой меди, вызолоченный к фуражке с буквою R, а вверху с короною его сиятельства князя Радзивилла…»* Нашэнне такой пазалочанай кукарды было гонарам і сведчыла пра высокае становішча таго, хто яе насіў, у колах княскай адміністрацыі, бо ляснічыя заўсёды былі прывілеяванай кастай служачых радзівілаўскіх маёнткаў. Нават у наш час адзін са старажылаў-леснікоў, узгадваючы службу ў Радзівілаў «за польскім часам», адзначае тую асаблівую адказнасць перад князем за стан лесу, як і высокую заработную плату: пяцьдзясят злотых і шэсць пудоў збожжа ў месяц.

Такі клопат пра лес заўсёды прыносіў у радзівілаўскую скарбніцу золата, папаўняючы выдаткі на ўтрыманне лясніцтваў і залатыя кукарды. Ну, а падчас пышных святкаванняў ды і проста дзеля забавы ў гэтых лясах ладзіліся паляванні, аблавы. Паляванні маглі быць рознымі — ад аднадзённых да амаль месячных з прыпынкамі і начлегамі ў паляўнічых дамах і лясніцтвах. Паляванне магло быць забавай як аднаго князя з верным слугою і некалькімі лоўчымі, так і соцень запрошаных гасцей з іх слугамі, паляўнічымі, сабакарамі і нават кухарамі. Такія паляванні насілі рэпрэзентатыўны характар і, каб паляванне было заўсёды ўдалым, для іх часцей за ўсё выкарыстоўвалі жывёл з тых самых звярынцаў, што ўтрымлівалі лясніцтвы.

Напэўна, самым першым з заядлых паляўнічых гэтага роду можна назваць Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіротку (1549—1616), чалавека, які пабудаваў Нясвіж і нясвіжскі замак, заснавальніка нясвіжскай ардынацыі — сукупнасці княскіх уладанняў, якія перадаюцца старэйшаму спадчынніку роду па прамой лініі і не падлягаюць ні продажу, ні дарэнню. Акрамя таго, ён быў яшчэ і падарожнікам, пабываў у Італіі, Сірыі, Егіпце, здзейсніў паломніцтва ў Іерусалім, а потым апісаў свае вандроўкі ў кнізе. З гэтых вандровак ён прывёз не толькі яскравыя ўражанні, якія сталі асновай для кнігі, але і намер ператварыць горад у сапраўдную рэзідэнцыю, а таксама пасяліў у спецыяльна створаным звярынцы побач з прадстаўнікамі мясцовай фаўны — малпаў і леапардаў. У яго падарожным дзённіку сустракаюцца красамоўныя запісы пра экзатычныя афрыканскія паляванні на сланоў ды львоў, сведкамі якіх ён быў. Але паляўнічым Сіротка стаў яшчэ да сваёй вандроўкі. Мяркуйце самі, у «Літоўскай Метрыцы» сустракаюцца дакументы такога зместу яшчэ на старабеларускай мове: «Стефан, Божию милостью Король Польский и Великий князь Литовский … ловчому нашому Великого Князства Литовского, пану Миколаю Радивилу. Ижъ есмо дозволили маршалку нашому дворному великого князства литовского, пану Миколаю Кшыштофу Радивилу, в пущы нашой Беловежской чотыры зубры убить, про то хочемъ мети, абы твоя милость того пану маршалку боронити не велелъ. Писан у Мальборку. 25 октября 1577 года. Sephanus Rex». Гэта, напэўна, самае старое ўзгадванне пра радзівілаўскае паляванне на зубра

ў Белавежскай пушчы. Яшчэ адно сведчанне паляўнічага духу Радзівіла Сіроткі — памастацку ўпрыгожаная паляўнічая стрэльба 1615 года, захаваная да нашых дзён у калекцыях каралеўскага замка на Вавелі ў Кракаве. Цікавая яе гісторыя.

Вырабленая па замове князя Сіроткі за год да яго смерці стрэльба з ініцыяламі князя M.K.X.R. загадкавым чынам знікла з радзівілаўскай скарбніцы і вярнулася толькі 17 верасня 1784 года, калі ў Нясвіж прыехаў пагасцяваць і, канечне ж, папаляваць апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У той дзень, як запісаў каралеўскі сакратар, кароль зайшоў у скарбніцу нясвіжскага замка і ўбачыў там незлічоныя багацці, накопленыя Радзівіламі за стагоддзі, а сярод іх — старадаўнюю зброю аднаго з продкаў — Мікалая Крыштофа. Пасля гэтага манарх падарыў на вечную памяць у скарбніцу «янычарку» з «шыфрам» князя Мікалая Крыштофа Радзівіла, дадаўшы і свой «шыфр». У адказ удзячны Радзівіл падарыў каралю восем каштоўных сёдлаў. Такі шырокі жэст мог зрабіць толькі самы вядомы і арыгінальны з Радзівілаў XVIII стагоддзя — Караль Станіслаў, Пане Каханку (1734—1790).

А каралеўскі вензель у выглядзе мудрагеліста пераплеценых літар S.A.R. да гэтай пары ўпрыгожвае старадаўнюю аркебузу, якая, прайшоўшы праз сховішча Імператарскага Эрмітажа, вярнулася на сваю гістарычную радзіму пасля Рыжскага дагавора.

Сумніўна, што з гэтай зброі быў забіты хаця б адзін з тых чатырох зуброў, паколькі нават сёння каб забіць простага дзіка, патрэбны спрыт і вопыт. Паляўнічыя заўсёды раяць браць на дзіка самую простую і надзейную зброю — дубальтоўку. Асечка зброі ў выпадку атакі раз'юшанага параненага звера можа каштаваць паляўнічаму жыцця. Дык што гаварыць пра белавежскіх зуброў XVI стагоддзя, між рогаў якіх маглі сесці ў шарэнгу некалькі чалавек, як сцвярджаў Мікола Гусоўскі ў сваёй «Песні пра зубра», маляўніча і ў дэталях апісваючы тагачасныя паляванні на зуброў. Хутчэй за ўсё, гэта шыкоўная зброя прызначалася для палявання на дробную дзічыну.

**Паляванне магло быць забавай як аднаго князя з верным слугою і некалькімі лоўчымі, так і соцень запрошаных гасцей з іх слугамі, паляўнічымі, сабакарамі і нават кухарамі**

Невядома, ці ўдзельнічаў у паляваннях на зуброў у Белавежы Пане Каханку, падобна да свайго далёкага продка, але, з'яўляючыся адным з багацейшых магнатаў дзяржавы, ён мог сабе дазволіць ладзіць каралеўскія паляванні. Менавіта тады, у апошняй трэці XVIII стагоддзя, багацце Радзівілаў дасягае свайго апагея, і, разам з тым, забавы і гульні княскага дома прымаюць самы маштабны і грандыёзны характар, становяцца легендарнымі. Не будзем сёння закранаць самыя змрочныя з тых паданняў, якія расказваюць, як Пане Каханку паляваў на людзей, дастаткова прыгадаць яго «мядзведжыя акадэміі» ў Смаргоні, дзе дрэсіравалі гэтых звяроў, прымушаючы потым прыслужваць за княскім сталом або выкарыстоўваць у якасці



*Трафеі палявання. Сядзіць князь Антоній Альбрэхт, 1925—1935 гады.*



*Гузік з формы радзівілаўскага ляснічага.*

рысакоў, запрагаючы ў карэты. У прадмесці Нясвіжа, Альбе, князь Караль стварыў сапраўдны маленькі Версаль, дзе ў доміках, пабудаваных на манер сялянскіх, летам жылі яго знакамітыя госці, а па вырытых каналах плавалі караблі, па ўзоры сапраўдных фрэгатаў і галеонаў. У Альбе, што прылягала да княскай пушчы, пачыналіся паляванні, да якіх рыхтаваліся за месяц, зганяючы звяр'ё; а па вечарах даваліся грандыёзныя балі і тэатральныя пастаноўкі, ладзіліся банкеты, якія канкурыравалі з каралеўскімі. Ды і як не паспрачацца, калі твой гадавы даход пераўзыходзіць даход усёй дзяржавы!

Дзядзька Караля, Іеранім Фларыян Радзівіл (1715—1760), пайшоў далей, увёўшы ў сябе ў Слуцку яшчэ больш цікавы варыянт «палявання»: у спецыяльна адведзеным вальеры ён ладзіў сапраўдныя «гладыятарскія» баі жывёл — мядзведзь супраць лася, ваўкі супраць дзіка, потым ён страўліваў пераможцаў сабакам або расстрэльваў. Дзікі роў раз'юшаных і візгат параненых жывёл напаўняў наваколле, «паляванне» ператварылася ў нешта накшталт бойні. Князь Іеранім Фларыян быў выдумшчык. Родная жонка некалькі разоў бегала ад яго да бацькі, перш чым дабілася скасавання шлюбу.

**Каралеўскі вензель у выглядзе мудрагеліста пераплеценых літар S.A.R. да гэтай пары ўпрыгожвае старадаўнюю аркебузу, якая, прайшоўшы праз сховішча Імператарскага Эрмітажа, вярнулася на сваю гістарычную радзіму пасля Рыжскага дагавора**

Яшчэ аднаго князя Радзівіла паляванне натхніла пісаць музыку. Менавіта «Паляваннем» назваў свой твор, паланэз, Мацей Радзівіл (1749—1800). Музычную спадчыну гэтага несправядліва забытага чалавека з'явілася магчымасць пачуць толькі нядаўна, яна была ўзноўлена па старых рукапісах. Пачуўшы гэты паланэз, можна ўпэўнена вылучыць у гуках музыкі і спеў паляўнічага рога, і імклівы бег звера, і ўрачыстае святкаванне ўдалага палявання. Сам паланэз, як і ўласна само паляванне, складаецца з трох частак, што яшчэ больш падкрэслівае яго лагічны пачатак, развіццё, здабычу звера і завяршэнне.

Апошні ўздым паляўнічых забаў нясвіжскіх Радзівілаў прыходзіцца на час пляменніка Пане Каханку князя Дамініка Іераніма Радзівіла (1786—1813). Менавіта гэты князь, далёкі ад вялікай палітыкі, але заўзяты аматар коней, палявання і жанчын, пакінуў апошні росчырк залатога пяра ў радзівілаўскім XVIII стагоддзі. Асаблівую ўвагу Дамінік надаваў шыкоўным верхавым коням — яны заўсёды ўдзельнічалі ў паляваннях. Калі паляваць можна было і пешым, высочваючы здабычу па слядах, або седзячы паблізу месца кармлення звера, самым дарагім, прэстыжным і цікавым было паляванне вершнікаў з сабакамі. З «чарнавой» працай высочвання і нагону звера тут спраўляліся вопытныя лоўчыя сабакі. Арыстакраты ў большасці выпадкаў прымалі дзейсны ўдзел у момант, калі звер паказаўся ўжо або сабакі ўзялі блізкі след. Безумоўна, поспех залежаў яшчэ і ад хуткасці рысака, яго спрыту і моцы. Таму кожны з паляўнічых-гасцей імкнуўся ўзяць як мага лепшага каня. У Дамініка Радзівіла такіх коней было некалькі стайняў. Не будзе перабольшваннем сказаць, што яго скакуны ўтрымліваліся з княскай годнасцю. Вось успаміны рускага пісьменніка Бранеўскага, які наведаў князя Дамініка

ў Нясвіжы ў тую пару: «Прызнаюся, я не чакаў знайсці такіх коней, такой стайні і такой чысціні. У доўгай высокай галерэі, якая падтрымліваецца калонамі, пафарбаванымі пад чырвонае дрэва, стаялі да пяцідзесяці коней, адзін аднаго лепей, адзін аднаго даражэй. Пасярод стайні — пышны дыван, паўсюдна — люстэркі, абкурана духмянасцямі, як у гасцёўні, на падлозе — ні пылінкі. Тоўсты англічанін прапануе паглядзець польскую, рускую і венгерскую стайні».

Вайна 1812 года прынесла Нясвіжу і Радзівілам разбурэнне, рабаўніцтва і заняпад. Далёка ад радзімы, разам з рэшткамі «непераможнай» арміі Напалеона, якому ён заставаўся верным да канца, загінуў Дамінік Радзівіл. Разам з яго смерцю абарвалася лінія прамых нашчадкаў нясвіжскай лініі Радзівілаўскага дома. Толькі праз паўстагоддзя сюды вярнуліся пруская Радзівілы, першым з якіх стаў генерал, ад'ютант Вільгельма I, Фрыдрыха III і Вільгельма II, князь Антоній Вільгельм Радзівіл (1833—1904) з прыгажуняй жонкай, француженкай Марыяй. Менавіта ім абавязаны Нясвіж ды і іншыя маёнткі сваім аднаўленнем з небыцця. Разам з адраджэннем радавога гнязда ў Нясвіжы гэтай руплівай княскай сям'ёй былі закладзены некалькі паркаў вакол замка і парк у Радзівілімонтах. Менавіта Антоній Вільгельм Радзівіл стаў прадаўжальнікам паляўнічых традыцый у нас «на Літве», як тады гаварылі. Апроч шырокіх нясвіжскіх уладанняў і лясніцтваў княства ён валодаў яшчэ і землямі на Палессі, у цяперашніх Брэсцкай і Гомельскай абласцях. Тут і цяпер край лясоў, ды і ў XIX стагоддзі з 250 тысяч гектараў зямлі Давыд-гарадоцкай ардынацыі князя амаль усё складалі лясы. Вось дзе было разгуляцца паляўнічаму! Не хапае толькі паляўнічай рэзідэнцыі. І хутка князь Антоній будуе непадалёк ад сучаснага Століна палац Манькавічы, дзе і збіраюцца госці і паляўнічыя перад сваімі шматдзённымі паходамі на звера. Хутка сцены гэтага палаца ўпрыгожваюцца ляснымі трафеямі: галовамі ласёў, ікламі дзікоў і ваўкоў, скурамі мядзведзяў. Сыны Станіслаў і Ежы — заўсёдныя спадарожнікі князя Антонія на паляваннях. Дачка Алена прымае ўдзел у паляваннях нароўні з мужчынамі як на бацькавых землях, так і ў сядзібе мужа — у Антанінах. Тамтэйшы гаспадар, граф Патоцкі, не толькі заўзяты паляўнічы на ўласных землях — залы ў Антанінах увешаны скурамі львоў, тыграў і леапардаў, галовамі антылоп з далёкай Афрыкі. У той час Радзівілы жылі адной дружнай сям'ёй, час ад часу з'язджаліся на паляванне ў Нясвіж, Радзівілімонты, Манькавічы, Антаніны і гэтак далей. Апроч родных, блізкіх сяброў дома і вяршкоў тагачаснай арыстакратыі Беларусі і Польшчы, у паляваннях бралі ўдзел ганаровыя госці з Варшавы, Парыжа, Берліна, Неапаля. На фотаздымках, якія захаваліся з пачатку мінулага стагоддзя, побач з паляўнічымі можна разглядзець твары прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага, вялікага князя Альбрэхта Габзбурга, патомка неапалітанскага караля, Мюрата, наследніка германскага кайзера прынца Вільгельма II. Пра прыезд апошняга ў Нясвіж у 1886 годзе захаваліся цікавыя звесткі.

Першапачаткова высокі госць спыніўся ў маёнтку Радзівілімонты, дзе госці далучыліся да асноўнай кампаніі паляўнічых. Пасля ўсё паляванне накіравалася ў Дзяніскавічы (цяперашні Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці), дзе размясцілася ў простым драўляным паляўнічым дамку. Адтуль Вільгельм і Радзівілы са світаю накіраваліся паляваць у першабытныя палескія пушчы.

З пачаткам палявання Вільгельм заняў вызначаную яму пазіцыю. Злева і справа ад яго размясціліся князі Антоній Вільгельм і Мацей Радзівіл — уладар маёнтка Паланечка. Прынц быў упэўнены, што яму, як звычайна, будзе прадастаўле-



*Афармленне ружэйнага дула XVIII стагоддзя.*



*Юліян Фалат. «Вяртанне з мядзведзем», 1892 год.*

А вось архіўныя звесткі пра ловы князя Антонія Вільгельма Радзівіла ў лютым 1897 года. У той месяц паляванне ў палескіх лясах Давыдгарадоцкай ардынацыі працягвалася з 4-га па 25-га і прынесла толькі з 13 па 25 лютага ў якасці трафеяў 152 дзіка і адну казулю. Прычым, адзінаццаць дзікоў упаляваў сам князь, дзевятнаццаць — граф Томаш Замойскі, васямнаццаць дзікоў і казулю — граф Аўгуст Замойскі, пятнаццаць дзікоў — граф Ян Замойскі, чатырнаццаць — Міхал Абламовіч, галоўны ля-снічы.

на права першага стрэлу, і якім было яго здзіўленне, калі мядзведзя, што паказаўся паляўнічым, у першы ж момант збіў трапны выстрал Мацея Радзівіла. Настрой госця быў гатовы сапсавацца, аднак становішча выправіў сам Мацей Радзівіл, які пажартаваў у лепшых традыцыях гумару Пане Каханку: «Такі сціплы мядзведзь не варты выстралу Вашай Высокасці! Паберажыце патроны для больш буйнога звера!»

І сапраўды, на працягу гэтага палявання прынц Вільгельм здабыў двух буйных і аднаго невялікага мядзведзяў, аднаго лася і двух мядзведзянят, якіх павёз жывымі да сябе ў Берлін!

Разам з прынцам прыехаў і нямецкі мастак Юліян Фалат, які атрымаў афіцыйнае запрашэнне ад Радзівіла быць мастакомдакументалістам палявання. Задачу ён выканаў бліскуча, вельмі маляўніча перадаўшы ў сваіх работах дух радзівілаўскага палявання. І нават калі прынц паехаў ужо, мастака папрасілі застацца ў замку, каб прыняць удзел у княскім паляванні яшчэ раз і пакінуць на памяць пра гэта некалькі карцін.

## Не будзем сёння закранаць самыя змрочныя з тых паданняў, якія расказваюць, як Пане Каханку паляваў на людзей, дастаткова прыгадаць яго «мядзведжыя акадэміі» ў Смаргоні

Трэба адзначыць, што Радзівілы не палявалі на каго прыйдзецца і дзе прыйдзецца. Існавалі правілы палявання Расійскай імперыі. У 1897 годзе ловы на зубра былі забаронены ўвогуле, на казулю — з 1 лістапада па 1 чэрвеня, на лася — з 1 снежня па 15 жніўня, на аленя — з 1 сакавіка па 15 ліпеня. Дарэчы, за «несвоечасова» забітую казулю на князя Антонія Радзівіла быў накладзены штраф.

Незадаволены княскімі ловамі, асабліва ў густанаселенай нясвіжскай ардынацыі, былі толькі сяляне, якія складалі скаргі на Радзівіла ў павятовую і губернскую адміністрацыі. Звычайна сялянская грамада сведчыла пра вытоптванне і псаванне пасеваў коньмі і дамагалася «…приговорить переуступить (забараніць) право охоты по нашим угодиям на сей 1898 год Его Сиятельству князю Антону Вильгельмовичу Радзивиллу и его Администрации». Пад адным з такіх прашэнняў нярэдка стаяла некалькі соцень подпісаў пакрыўджаных сялян.

Нягледзячы на гэта, захавалася пасведчанне сябра мінскага таварыства правільнага палявання на імя Антонія Вільгельма Радзівіла за 1901 год, а таксама пасведчанні паляўнічага на імя князя за 1897—1901 гады. Пасля смерці князя Антонія традыцыі прадоўжылі яго сыны і ўнукі Ежы, Антоній, Леон і Караль.

Вось як узгадвае пра паляванне апошняга нясвіжскага ардыната — князя Антонія Альбрэхта Радзівіла (1885—1935) яго сябар і біёграф Станіслаў Мацкевіч у сваёй манаграфіі «Dom Radziwillow»: «Быў таксама некалі на паляванні ў Дзяніскавічах. Быў тады ў Варшаве нейкі міжнародны з'езд паляўнічых, і князь Аба запрасіў яго ўдзельнікаў на гэта паляванне. Пры паляванні на глушца засядаюць у лесе вечарам, адразу як апусціцца ноч, такаванне ж адбываецца ранняй вясной, калі ў лесе яшчэ снег. Спачатку толькі чорна і ціха, потым чалавек пачынае вылучаць лясныя шумы: дрэў, птушак і звяроў — і праз некалькі гадзін здаецца яму, што знаходзіцца ён у нейкай дзівоснай канцэртнай зале, дзе ўсё спявае, іграе, жыве. Потым пачынаецца такаванне глухара, да якога трэба падыходзіць ціха, а як закончыць такаваць, дык і замерці на месцы. Бывае гэта толькі на досвітку, у паўзмроку, пасля бяссоннай ночы, праведзенай у слуханні лесу.

Не ўсе паляўнічыя прыехалі з Варшавы, памятаю толькі, што быў князь Мюрат, патомак неапалітанскага караля, пасля старшыня ўсіх паляўнічых Францыі з Ленсо, чыё прозвішча выцекла з маёй памяці, ды яшчэ нейкая пані, якая ад холаду захуталася ў мясцовыя беларускія авечыя кажухі. Упершыню ахапіў мяне тады непрыемны і кіслы пах кажуха, а калі раскрыў яго, адчуў з-пад таго кіслага смуроду далікатны водар парфумы.

На вячэры ў лясніцтве сярод тых магутных лясоў гонар дому прадстаўляў радзівілаўскі ляснічы, а я служыў перакладчыкам. Я расказаў яму, што сярод прысутных ёсць старшыня ўсіх паляўнічых Францыі.

— Спытай у яго, пан, — сказаў ляснічы, — ці ёсць у іх, у Францыі, дзікі.

Паўтарыў яму адказ прэзідэнта французскіх паляўнічых таварыстваў, што, канечне, дзікі ёсць у Вагезах (дэпартамент на ўсходзе Францыі).

— А колькі яны тых дзікоў у год страляюць на паляваннях?

Зноў перакладаю адказ француза, што ў мінулым годзе было забіта каля трыццаці. Твар ляснічага перасмыкае пагарда.

**Першапачаткова высокі госць спыніўся ў маёнтку Радзівілімонты, дзе госці далучыліся да асноўнай кампаніі паляўнічых. Пасля ўсё паляванне накіравалася ў Дзяніскавічы**

— Дык скажы яму, пан, што ў нас тут, у Дзяніскавічах, месяц таму ў пана князя на адным паляванні сорак пяць дзікоў было забіта.

Відаць было, што ляснічы ў тую хвіліну пагарджае цэлай Францыяй. І што ж гэта за краіна, у якой за цэлы год толькі тры дзясяткі дзікоў забіваюць на паляваннях?»

Княскія паляванні адыходзяць у мінулае пасля таго, як у 1939 годзе з'язджаюць самі гаспадары гэтых мясцін — Радзівілы, што жылі тут больш як чатыры стагоддзі. І вось ужо 20 кастрычніка таго ж года нехта Гаўрыленка бярэ на ўлік 264 карціны з замка і сярод іх — 20 работ Юліяна Фалата на тэму палявання. Разам з імі на машыны грузяцца і вывозяцца люстры і крэслы, адмыслова зробленыя з рогаў аленя і каштоўных парод дрэва, шафы з неачышчаных бярозавых сучкоў, калекцыя чучал птушак, галовы дзікоў і ласёў, стрэльбы і дзіды, якія памятаюць слаўныя паляванні продкаў на зубра і тура. Вывозяць, каб згубіць у ваенных ліхалеццях, музеях, запасніках, прадаць на аўкцыёнах, раздарыць «адказным таварышам»…

І вось ужо сёння мы маем толькі нявялічкія ўрыўкі звестак, што ласіныя галовы з замка знаходзяцца ў Пінскім музеі-калегіуме, а чучала мядзведзя бачылі ў музеі біяфака БДУ. Нядаўна да аўтара гэтага артыкула прыйшоў ліст ад нейкага калекцыянера, які прадае англійскія паляўнічыя стрэльбы Радзівілаў мінулага стагоддзя. Вельмі хочацца спадзявацца, што гэтай інфармацыяй скарыстаюцца рэстаўратары і музейшчыкі, што аднаўляюць інтэр'еры нясвіжскага замка, у тым ліку і паляўнічую залу.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# АД СЛОВА «ВЕДАЦЬ»

***Слова «ведзьма» даўно страціла першапачатковы сэнс. Некалі так называлі жанчын, якія ведалі і заўважалі тое, што было схавана ад астатніх. Ведзьма ў дахрысціянскім свеце была ганаровым чалавекам, да яе меркаванняў прыслухоўваліся, без яе парады не прымалася ніводнае важнае рашэнне. І калі сеялі хлеб, і калі яго збіралі, і пры нараджэнні чалавека, і пры ягоным пахаванні.***

***У часы хрысціянства адносіны да ведзьмаў змяніліся. Царкоўныя святары бачылі ў іх небяспечных канкурэнтаў і зрабілі ўсё, каб ачарніць іх патаемныя веды. Незвычайных жанчын абвінавачвалі ў чарадзействе, эпідэміях, сухмені, неўраджаі... Запалалі вогнішчы, ненажэрнае полымя інквізіцыі знішчала іншадумцаў. Паступова ведзьмы ператварыліся ў адмоўныя персанажы легенд і казак, а самі сябе яны пачалі называць знахаркамі або лекаркамі.***

## І ЧАРАВАЦЬ, І ШАПТАЦЬ, І ВАРАЖЫЦЬ...

Вядзьмарка, знахарка, чараўніца, варажэя, шаптуха... Столькі азначэнняў для пэўных людзей, якія валодаюць таямнічымі ведамі і надпрыроднымі здольнасцямі. Мы ўжываем гэтыя словы ў розных інтэрпрэтацыях і ўкладаем у кожнае з іх свой сэнс, які сфарміраваўся ў нас яшчэ з дзяцінства пад уплывам страшных гісторый, аповедаў, казак і легенд. Варта нам сказаць слова «ведзьма», як з падсвядомасці выплывае вобраз старой з растрапанымі валасамі, якая нешта шапоча над агромністай чашай з кіпнем. Дарэчы, такую чашу нашы далёкія продкі называлі *чарай*. У ёй на вогнішчы гатаваліся розныя напоі з магічных зёлак і лекавых раслін. А жанчын, якія ведалі старадаўнія рэцэпты тых напояў, а потым ужывалі іх у розных абрадах, называлі *чараўніцамі*. Адсюль пайшлі і такія словы, як *чарка*, *чараваць*...

Хто ж такая знахарка? Гэта жанчына, якая займаецца народнай медыцынай і тлумачэннем сноў. Яна і цяпер у многіх беларускіх вёсках лічыцца важнай і дасведчанай фігурай. Як верылі здаўна, знахарка шэпча замовы-малітвы, замаўляе ваду, хлеб, соль. Такая традыцыя ідзе з глыбокай даўніны. Яна не робіць шкоды, не выклікае злых духаў, але можа часам навесці псоту. Вось чаму знахарак часта называюць шаптухамі, а дзеяслоў «шаптаць» разумеўся раней нашымі продкамі як намаўляць. Жанчыны, якія займаліся знахарствам, маглі быць і вясковымі павітухамі, або як іх яшчэ называлі — бабамі, бабкамі.

Слова «варажэя» ідзе ад дзеяслова *варажыці* і азначае практыкаваць магію, займацца варажбой. Часцей такім словам называлі тых жанчын, якія прадказвалі лёс. Імі маглі быць і іншаземкі, да прыкладу, цыганкі або татаркі. Варажэі выкарыстоўвалі карты, чайнае лісце, вугаль, соль, яны варажылі па руцэ або глядзелі на ваду, апускаючы туды магічныя прадметы. Звычайна варажэй выкарыстоўвалі для пошукаў скрадзенага і таго, хто здзейсніў крадзеж. У XVIII стагоддзі некаторыя жанчыны, якія займаліся варожбамі прафесійна, мелі пэўны сацыяльны статус, і іх нават пазнавалі па асаблівай вопратцы.

Але як бы гэтыя жанчыны не называлі сябе самі, сэнс заставаўся адным — усе яны валодалі звышнатуральнымі здольнасцямі. Такія здольнасці, як правіла, прымушалі ставіцца да іх з асцярогай і падазрэннем. Сітуацыя пагоршылася з надыходам хрысціянства, калі афіцыйная царква пачала змагацца са старажытнымі язычніцкімі вераваннямі, а магічныя здольнасці незвычайных жанчын абвесцілі д'ябальскімі. Маўляў, яны сябруюць з самім Д'яблам, атрымліваюць ад яго патаемныя веды і сакрэтныя заданні, а ўсё для таго,

каб нашкодзіць людзям. Таму сёння вобраз ведзьмы-чараўніцы ўспрымаецца амаль заўсёды адмоўна, лічыцца жахлівым прыкладам разбэшчанасці і ліха.

## НАРОДЖАНАЯ І НАВУЧАНАЯ

У народзе вераць, што ведзьмы бываюць народжанымі і навучанымі. У першым выпадку, калі вядзьмарства дасталася ў спадчыну, у другім — калі жанчына па асабістай волі заключыла дамову з нячысцікам. Пры гэтым казалі, што народжаная вядзьмарка ведае больш і можа як лекаваць, так і наводзіць псоту, а навучаная робіць толькі апошняе і не можа выправіць нават ёю самой насланую шкоду. Ведзьмай ад нараджэння станавілася дачка ведзьмы або дзяўчынка, народжаная па-за шлюбам, чые маці і баба таксама былі па-зашлюбнымі дзецьмі. Вядзьмаркай магла стаць і пятая або сёмая дачка ў сям'і, дзе ўзапар нараджаліся адны дзяўчынкі.

Казалі, каб зрабіцца навучанай ведзьмай, трэба прайсці абрад ініцыяцыі. Такі абрад праводзіла старая вядзьмарка, якая навучала сваім уменням маладую жанчыну. Разам яны бралі па кавалку хлеба або тварагу і ішлі ў патаемнае месца, дзе кожная клала сваю ношу на белы ручнік. Неўзабаве на ручніку ведзьмы збіраліся змеі, жабы, яшчаркі, мышы і пачыналі жэрці хлеб, раздзіраючы яго на яшчэ больш дробныя кавалкі. Хлеб маладой жанчыны заставаўся некранутым. Тады старая ведзьма казала: «Як раздзіраюць мой хлеб, так пасля смерці будуць раздзіраць маю душу. А твой хлеб пакуль цэлы, як і твая душа». Калі маладая жанчына зграджалася на такую пасмяротную долю, яна працягвала далей навучацца ў старой.

Нават сёння лічаць, што ведзьмы выглядаюць асаблівым чынам. А што казаць пра старажытныя часы. Тады верылі, што ведзьма вылучаецца сярод астатніх людзей сваімі паводзінамі і знешнім выглядам. У яе можа быць падвойны рад зубоў, барадаўка ці пучок вусоў на твары, па ўсім хрыбце ад патыліцы да пояса — тонкая паска валасоў, «лішнія» пальцы на руках ці нагах або іх адсутнасць. Таксама яе можна было пазнаць па яе кульгавасці і доўгім загнутым уніз носе, кастлявых руках. Але самай яркай адзнакай вядзьмаркі быў хвост — голы ў маладой, парослы валасамі ў дасведчанай. Лічылася, што ў ведзьмаў незвычайна змрочны выраз твару, бліскучыя вочы, хрыпаваты ці гартанны голас. Ведзьма не можа глядзець вам проста ў вочы, таму яе ўласныя скачуць, а ў зрэнках адлюстроўваецца перавернутая выява чалавека. Яна можа вельмі доўга маўчаць ці няспынна буркатаць, нібы размаўляе сама з сабою. Ведзьма няздольна спачуваць чужому гору і не дзеліцца сваім уласным, пазбягае вясёлых людскіх сходак.



*Чарадзейнае варыва на шабашы. Гравюра XVII стагоддзя.*

## ШТО МОГУЦЬ ВЕДЗЬМЫ

Ведзьма можа ператварацца амаль у кожную істоту і кожны прадмет, але часцей за ўсё пераварочваецца коткай, сабакам, свіннёй, зайцам, вялікай жабай, з птушак — варонай, савой або сарокай. Таксама верылі, што вядзьмарка любіць ператварацца ў кола ад воза, клубок нітак, капну сена, палку або кошык. Але можа стаць і нябачнай. Найбольшую сваю сілу ведзьма набывае на поўню, у навальніцу, а таксама напярэдадні вялікіх свят. Асабліва яна сябе праяўляе на Купалле, другі дзень гэтага свята называлі нават Ян Вядзьмарскі. Небяспечны ведзьмы таксама на Юр'я, Вялікдзень, Сёмуху, Каляды. А на працягу сутак іх час, безумоўна, ноч, асабліва поўнач, радзей — поўдзень і час перад узыходам сонца.

У народзе да вядзьмарак ставіліся дваіста — карысталіся іх паслугамі, але і баяліся. Ім прыпісвалі мноства ліхіх спраў. Лічылі, што самую моцную шкоду ведзьма робіць тым, што псуе свойскую жывёлу і адбірае малако ў чужых кароў. Робіць яна гэта рознымі спосабамі. Але часцей за ўсё так: у купальскую ноч вядзьмарка выходзіць на чужое поле, здымае з сябе хустку, фартух



*Вядзьмарка са свечкай.*
*Мастак Арэст Кіпрэнскі.*

або прыхоплівае з хаты асаблівы ручнік-цадзілку і валочыць іх па расе. Пры гэтым яна кажа: *«Бяру пажытак, але не ўвесь»*. Набрынялы расой ручнік ведзьма адціскае ў вядро і дае выпіць сваёй карове або абмывае яе гэтай расой. Пасля гэтага карова вядзьмаркі пачынае даваць вельмі шмат тлустага малака, затое ў суседскіх кароў малако ўвогуле знікае або робіцца вадкім, без вяршкоў.

Ведзьма крадзе не толькі малако, але і ўраджай з чужых палёў. Яна ўначы ідзе на жытнёвае поле і выцягвае з коласа *спор* або *спарыну* — жыццёвую сілу, заключаную ў хлебе. Дзеля гэтага ведзьма выстрыгае невялікую паску каласкоў — *перажын* і забірае яго сябе ў хату, каб зерне з каласкоў суседзяў перайшло да яе. У выніку суседскі хлеб робіцца пустым і няўежным. Магла ведзьма забіраць чужы ўраджай і па-іншаму — з дапамогай *залома, закруткі* або *чортавай барады*, зробленых на поле суседзяў. Залом — гэта пук недаспелых каласкоў, зблытаных паміж сабой, надламаных на карані, закручаных у вузел і прыціснутых да зямлі. Залом, які робіцца з пэўнымі слоўнымі праклёнамі, не толькі памяншае ўраджай хлеба, ён небяспечны для гаспадароў поля цяжкімі хваробамі і нават смерцю. Калі падчас жніва жняя не заўважыць залома і выпадкова дакранецца да зблытаных каласкоў, з ёю абавязкова здарыцца няшчасце. Каб пазбавіцца ад залома гаспадар поля не павінен да яго дакранацца, а паклікаць на дапамогу другую знахарку або чараўніцу. Калі тая будзе мацнейшай за папярэднюю ведзьму, яна сваімі замовамі і пэўнымі магічнымі дзеяннямі здыме шкоду.

Ведзьма шкодзіць па-рознаму. Яна псуе не толькі жывёл, але і людзей, сурочыць дзяцей, пасля чаго тыя плачуць па начах, яна разладжвае вяселлі, сварыць закаханых і сямейнікаў. Асабліва баяліся раней і баяцца дагэтуль, калі ведзьма насылае цяжкую хваробу *на вецер*: пускае па ветры пасмы поўсці, габлюшкі, трэскі, абрыўкі нітак, пыл і пры гэтым нагаворвае на іх шкодныя замовы. І той, на каго трапляе такі парыў ветру, а ад такой з’явы прыроды ніхто не застрахаваны, пачынае пакутаваць ад хваробы. А на пэўнага чалавека шкоду можна навесці так: ведзьма выкопвае з зямлі след чалавека і падкладае яго ў чыюсьці труну або ў печ, каб тая зямля высахла. Лічаць, што ўласнік следу неўзабаве памрэ або будзе сохнуць ад сухотаў, як сохне ў печы адбітак ягонай ступні.

Ну і бясспрэчна, калі ведзьма — д’ябальскае стварэнне, то яе любімы занятак — гэта палёты на шабаш, да свайго гаспадара — самога Люцыпара. Згодна з павер’ямі, шабаш звычайна адбываецца на гарах пад назвай Лысая. На тэрыторыі Беларусі амаль у кожнай акрузе ёсць такія горы. Некалі для нашых продкаў яны мелі сакральны сэнс, таму што там адбываліся культавыя дзеянні, звязаныя з урадлівасцю прыроды, а за хрысціянскім часам Лысыя горы набылі негатыўнае адценне. Дык вось казалі, што на шабашы ведзьмы разам з рознымі нячысцікамі ўсю ноч балююць, весяляцца і чыняць непрыстойнасці. І натуральна, спавядаюцца пра зробленае ліха самому Люцыпару, атрымліваюць ад яго парады, як надалей рабіць ліха. Для таго, каб дабрацца на шабаш, ведзьмы мажуць сабе пад пахамі спецыяльнай маззю, потым садзяцца на чапялу або хлебную лапату і вылятаюць праз комін. Але ведзьма можа ўсесціся верхам і на якую-небудзь жывёлу або на першага стрэчнага чалавека.

## ПАКУТЛІВАЯ СМЕРЦЬ

Людзі верылі, што ведзьма не зможа памерці, пакуль яе веды не пяройдуць да другога чалавека. Сваё ўменне чараваць чарадзейка перадае адзін раз у жыцці, цалкам або часткова, і, як правіла, перад смерцю. Калі няма сваякоў, то магічныя веды перадаюцца кожнаму, хто пажадае. Але калі не знаходзіцца і такіх, то ведзьма намагаецца перадаць свае здольнасці кожнаму стрэчнаму хітрасцю. Да прыкладу, з дапамогай непасрэднага датыкання да чалавека або даўшы яму ў рукі венік або клубок. Пры гэтым яна павінна сказаць: «На табе!» Часам распавядаюць пра тое, што перадаць веды можна і неадухоўленаму прадмету, прыкладам, трэсачцы, якую потым вядзьмарка кідае на дарозе. А хто падыме яе, да таго і пяройдзе чарадзейная сіла.

Паўсюль лічылася, што ведзьма за свае грахі і сувязь з нячыстай сілай караецца цяжкай смерцю. Яна не можа памерці, пакуль у яе хаце не разбяруць столь або не выламяць адну дошку са страхі. Пры пахаванні ведзьму клалі ў труну тварам на ніз, а саму труну нельга было несці па звычайнай дарозе да могілак, у такім выпадку раілі дабірацца задворкамі і «свінячымі сцежкамі». Так рабілі, каб пасля смерці чарадзейка не знайшла зваротнай дарогі дадому і не турбавала людзей. За труной ведзьмы падчас пахавальнай працэсіі заўсёды бягуць мясцовыя каты або сабакі, скачуць жабы і паўзуць змеі. Менавіта гэтыя жывёлы лічацца памочнікамі вядзьмаркі пры яе жыцці.

Верылі, што ведзьму і пасля смерці чакаюць жахлівыя пакуты. Існавала павер’е, нібыта вядзьмаркі, якія памерлі раней дамовы, падпісанай з нячыстай сілай, не губляюць сваёй моцы і пасля смерці, працягваюць шкодзіць людзям. Апроч таго, такіх жанчын, як вялікіх грэшніц і богаадступніц, не прымае зямля, і яны вымушаны бадзяцца па свеце. Месца пахавання ведзьмы лічылася небяспечным, яго заўсёды абыходзілі здалёк. Але ў тых мясцінах, дзе часта здараліся засухі, сяляне былі вымушаны рабіць на магіле вядзьмаркі спецыяльныя абрады. Яны верылі, што такія прыродныя катаклізмы абрынуліся на іх, толькі дзякуючы памерлай. Таму, каб выклікаць дождж, другія «дасведчаныя» жанчыны прыходзілі ўначы на яе магілу і лілі туды ваду, або разрывалі пахаванне, выцягвалі труп і прабівалі яго асінавым калом. Гэта было апошнім, але самым дзейсным сродкам супраць вядзьмарак і чарадзеек.

## РАСПЯТЫЯ НА ВОГНІШЧЫ

Зразумела, што ўсе жахі, якія прыпісвалі вядзьмаркам, знахаркам і чарадзейкам, сёння адносяцца да фальклорнай спадчыны. Навукоўцы лічаць, што асновай для аповедаў пра ведзьмаў з’яўляецца старажытная міфалогія, дзе культ памерлых продкаў аб’яднаўся з культам урадлівасці. Гэтыя даўнія вераванні бяруць свой пачатак яшчэ з часоў матрыярхату, калі асноўнымі захавацелькамі і носьбіткамі старажытных ведаў былі жанчыны. У тыя часы людзі не аддзялялі сябе ад прыроды, а асэнсоўвалі сябе яе часткаю, верылі ў яе сілу і абагаўлялі прыродныя з’явы. Старажытныя жанчыны, якія валодалі незвычайнымі здольнасцямі, а такія нараджаліся ва ўсе часы, і якія перанялі ў спадчыну тайныя веды, былі жрыцамі — служкамі духаў Сонца, Месяца, Ветру, Дажджу, Зямлі... Яны свята верылі, што могуць кантактаваць з магутнымі духамі прыроды і нават выкарыстоўваць іх. Па ўсім свеце знахарства і чараўніцтва звязаны



*Дазнанне святой інквізіцыі. Сучасная рэканструкцыя.*



*Катаванні няшчасных. Сярэднявечная гравюра.*

з магіяй выкарыстання сіл і з'яў прыроды, увесь час яны былі значнай і неад'емнай часткай жыцця аграрнага грамадства. Але заўжды паміж добрай знахаркай, якая лекавала травамі, замовамі і шэптамі, і ліхой вядзьмаркай, якая магла наклікаць няшчасце і навесці шкоду, не было дакладнай мяжы. І першая лёгка ператваралася ў свядомасці нармальных людзей у другую. Як станоўчыя, так і негатыўныя аповеды пра людзей з надпрыроднымі здольнасцямі былі вельмі папулярнымі ў народзе ва ўсе часы, захаваліся яны і сёння.

На працягу ўсяго Сярэднявечча афіцыйная царква імкнулася супрацьдзейнічаць язычніцкім прымхам, асуджала іх. У той жа час вера ў ведзьмаў лічылася царкоўнымі ўладамі забабоннай, насланай на людзей нячыстай сілай. Таму спачатку царкоўнікі нават выступалі супраць тых сялян, якія час ад часу самастойна здзяйснялі расправы над ведзьмамі. Так працягвалася да XIII стагоддзя. А потым у сувязі з унутраным крызісам царквы і стратай поўнага кантролю над духоўным жыццём людзей адносіны царкоўнікаў да праследу вядзьмарства карэнным чынам памяняліся. Шматлікія багасловы, схаласты і інквізітары пачалі прызнаваць у пэўных жанчынах, радзей мужчынах, здольнасць рабіць *maleficia* — чорную магію, ад якой пагаршаецца жыццё, здароўе і дабрабыт людзей.

Паступова набіраюць абароты судовыя працэсы над ведзьмамі, якія перарастаюць у масавы псіхоз. Паўсюдныя неўраджаі, войны, эпідэміі чумы і пранцаў нараджаюць адчай і паніку, узмацняюць схільнасць людзей шукаць схаваную прычыну сваіх няшчасцяў. Лічыцца, што канец Сярэднявечча — XV—XVII стагоддзі — эпохі Адраджэння і Рэфармацыі, самы прагрэсіўны час для ўсяго еўрапейскага грамадства, але ў гісторыі хрысціянства ён адзначыўся як небяспечны і ганебны. Менавіта ў гэты перыяд праз казанні святароў у грамадскую свядомасць уводзяцца шматлікія калектыўныя фобіі, накшталт, хуткага канца свету, з'яўлення Антыхрыста, чакання Страшнага суда, узмацняецца роля Д'ябла і ягоных памагатых. У якасці «казлоў адпушчэння», на каго можна скінуць усе грахі чалавецтва перад Богам, становяцца ерэтыкі і ведзьмы. Адзін за адным з'яўляюцца «навуковыя» трактаты па дэманалогіі — інструкцыі па пошуку і знішчэнні вядзьмарак. Самая ўплывовая — знакаміты «Молат ведзьмаў», напісаная манахамі-дамініканцамі Якубам Шпрэнгерам і Генрыхам Інстыторысам. Кніга была выдадзена ў 1487 годзе па даручэнні папы Інакенція VIII і зрабілася такой папулярнай, што на працягу наступных двух стагоддзяў вытрымала 29 перавыданняў. Гэты твор, наскрозь прасякнуты антыфемінізмам, успрымаўся свецкім і царкоўным судом як асноўны дакумент супраць жанчын, абвінавачаных у вядзьмарстве. «Молат ведзьмаў» даў прыклад другім шматлікім дэманалагічным трактатам, дзе багасловы і юрысты апраўдвалі неабходнасць палявання на вядзьмарак. Такім чынам у сэрцах і галовах той публікі, якая чытала падобныя опусы, вымалёўваўся вобраз д'ябальскай прыслужніцы — ведзьмы.

Судовы праслед такіх жанчын пачынаўся звычайна з абвінавачвання іх у вядзьмарстве, якое высоўвалася ім другімі людзьмі. Жыхары гарадоў, мястэчак і асабліва вёсак былі на той час асабліва прымхлівымі. Яны верылі, што ведзьма або знахарка магла пазбавіць мужчыну патэнцыі або мужа і жонку магчымасці мець дзяцей. Пры гэтым імпатэнцыя і бясплоддзе лічыліся адной

хваробаю. Нярэдкімі былі і абвінавачванні суседзяў, быццам маральна і фізічна пацярпелых ад шкадлівых жанчын. Аднак падчас судовай справы суддзям было цікава ўстанавіць не сам факт чорнай магіі, яны імкнуліся атрымаць ад вядзьмарак прызнанне таго, што тыя знаходзяцца ў саюзе і нават у любоўных зносінах з самім Д'яблам, робяць з яго дапамогай злачынствы. Калі трыбунал святой інквізіцыі прызнаваў сувязь з нячыстай сілай і служэнне ёй, гэта разглядалася як самае цяжкае злачынства і непазбежна вяло да смяротнага пакарання.

Царква тых часоў бачыла ў абвінавачаных жанчынах ўжо не адзіночак, а «антыцаркву» на чале з Д'яблам. Таму пытанне пра шабаш было для царкоўнікаў галоўным у доказе існавання гэтай «антыцарквы» са сваім культам.

Каб атрымаць адпаведныя прызнанні, выкарыстоўваліся самыя бязлітасныя катаванні. Часта меркаваных вядзьмарак выпрабоўвалі вадой. Так, звязаную па руках і нагах жанчыну кідалі ў вадаём, і калі вада — чыстая і святая стыхія, выштурхоўвала ахвяру, гэта было доказам яе бясспрэчнай віны. А паколькі верылі ў палёты ведзьмаў і былі перакананы, што яны надзвычай лёгкія, няшчасных гвалтам узважвалі на шалях. Такія выпрабоўванні рабіліся ў адвольным парадку, вагу жанчыны маглі параўнаць з вагою Бібліі. У тыя часы святая кніга ўяўляла сабою агромністы фаліянт. Але якою б цяжкою не была Біблія, яна зрэдку пераважвала нават мініяцюрную жанчыну. Шырока былі распаўсюджаны і пошукі вядзьмарскіх адзнак, своеасабівых неадчувальных да болю плям на скуры. Лічылася, што гэтыя пячаткі Д'ябла засталіся ад ягоных кіпцюроў або зубоў. Каб знайсці іх, пакутніц распраналі, галілі з галавы да ног і дасканала даследавалі іх целы. Калі знаходзілі радзімкі, канапушкі або шнары, іх бязлітасна праколвалі іголкамі. Часам асуджаных на некалькі дзён пакідалі без ежы, вады, не давалі спаць і нават прысесці на хвілінку. Некаторых звязвалі ў самых ненатуральных позах і пакідалі так на доўгі час.

Можна і надалей распісваць усе тыя жахі і катаванні, якія выкарыстоўвалі для няшчасных ахвяр, але пашкадуем псіхіку чытача. Скажам толькі, што мала хто з абвінавачаных у чарадзействе вытрымліваў такія пакуты. Многія жанчыны нагаворвалі на сябе, прызнаваліся ў тым, чаго не было і не магло быць насамрэч, некаторыя проста вар'яцелі. А былі і такія, якія выдавалі ўсё новых і новых саўдзельніц, з кім нібыта сустракаліся на шабашах. У выніку лічба асуджаных, дзе былі і мужчыны, і нават дзеці, вырастала ў геаметрычнай прагрэсіі. Сярод няшчасных жанчын аказваліся людзі самых розных заняткаў і сацыяльных слаёў, маладыя і старыя, самотныя і замужнія, прыгожыя і нязграбныя, калекі.

Пасля атрымання патрэбнага прызнання, як правіла, меркаваных вядзьмарак спальвалі, некаторых вешалі, вельмі зрэдку выганялі з горада або вёскі. Спальванне жанчын адбывалася на спецыяльным вогнішчы на цэнтральнай гарадской плошчы, пры вялікім натоўпе. Пасля кары суддзі і другія ўдзельнікі расправы за кошт канфіскаванай маёмасці ахвяры ладзілі ўрачысты абед. Лічылася, што хрысціяне атрымалі новую перамогу над Д'яблам.

Здаецца неверагодным, што людзей спальвалі ў часы Н'ютана і Дэкарта, Канта і Эразма Ратэрдамскага, Моцарта і Шылера! Сотні тысяч «вядзьмарак» пайшлі на вогнішча ў пару навуковай рэвалюцыі, а сярод суддзяў былі ўніверсітэцкія выкладчыкі. Пра ганебнае паляванне на ведзьмаў гістарычная навука да нядаўняга часу ведала мала, нават колькасць ахвяр ідэалагічнай пошасці ніхто не лічыў. Да таго ж, многія судовыя пратаколы допытаў і прыгавораў былі спалены разам з ахвярамі. Толькі ў апошнія дзесяцігоддзі, дзякуючы сістэматычнай і карпатлівай апрацоўцы судовых дакументаў, манастырскіх і муніцыпальных архіваў, удалося аднавіць прыблізную карціну тых жахлівых падзей. Згодна з архіўнымі дадзенымі Англіі, Галандыі, Нямеччыны, Італіі і Францыі, на працягу з 1600 па 1736 год у Заходняй Еўропе на вогнішчах і шыбеніцах загінула больш як 220 тысяч жанчын. А былі ж яшчэ Іспанія, Партугалія, Амерыка, краіны Усходняй Еўропы, у тым ліку Вялікае Княства Літоўскае, Расія. Што датычыць нашай краіны, у архівах таксама захавалася нямала судовых спраў так званых «вядзьмарскіх» працэсаў. Некаторыя з іх ужо даследаваны і апублікаваны, другія, а іх нямала, чакаюць сваіх даследчыкаў. Але гэта ўжо тэма другога артыкула.

*Уладзімір ЛОБАЧ*

# ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

***У № 8 за 2009 год мы ўжо знаёмілі вас, дарагія чытачы, з некаторымі этнаграфічнымі замалёўкамі дацэнта кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдата гістарычных навук Уладзіміра Лобача. Сёння мы працягваем тэму.***

## ВЕДЗЬМА-КАСЦЯВІЦА

Ты бачыў, каб старая кабета, якая зламала нагу, праз месяц ужо спрытна скакала па хаце? Не? А я бачыў. Толькі паламала 87-гадовая бабуля не проста нагу, а шыйку бядра. З такой траўмай і здаровы малады чалавек у ложку не адзін тыдзень праваляецца, а тут...

Мы сядзелі з сябрам у цеснай, закуранай хатцы са слядамі нядаўняга пажару і ніяк не маглі наважыцца на разумныя пытанні. Маленькая згорбленая бабулька кульгава падскоквала, круцілася вакол нас, перамяшчалася з кута ў кут, а следам за ёю круціліся і нашы галовы. Нарэшце гаспадыня падскочыла і апусцілася на зэдлік побач з намі.

— Бачыце? — Яна тыцнула кашчаватай рукой у абгарэлую сцяну. — Спаліць мяне, гадаўё, хацелі! І лапатай падпёрлі, каб ужо не вылезла. Зналі, што я ўся паламаная. Ай, гадаўё, са свету мяне зжыць хацелі! Толькі фічку ім, я ім…

Некалькі хвілін старая нешта вельмі эмацыйна мармытала сабе пад нос. Гледзячы на яе злосны выраз твару, чорны бяззубы рот, які варушыўся ў буркатлівых, неразборлівых праклёнах, і адсутныя вочы, я адчуў усім сваім нутром, што зайздросціць «гадаўю» не выпадае.

Калі бабуля раптоўна рассмяялася і перавяла позірк на нас, то мы ад нечаканасці здрыгануліся і ўціснуліся спінамі ў задымленыя бярвенні сцяны. Ад позірку яе нябесна-блакітных вачэй у мяне занялася спіна. Не халодны пот, не дрыжыкі па скуры, як гэта пішуць у танных кніжках, а менавіта спіна. Дакладней, напяўся трывожным болем, зазвінеў, як нацягнутая без меры жылка, пазваночнік. Але, як толькі гаспадыня адвяла вочы і зноў усхапілася з месца, па спіне, ад шыйных пазванкоў да самага нізу, пракацілася хваля цяпла, і боль знік, як і не было. Пры гэтым, перамяшчалася яна куды з большай лёгкасцю, а кіёк, з якім старая кульгала дагэтуль, так і застаўся стаяць, прытулены да стала.

Мне такія метамарфозы дужа не падабаюцца і, калі бабуля нешта шукала ля печы, я намацаў рукой і тройчы пакратаў свой абярэг. Да стала гаспадыня вярнулася, трымаючы аберуч трохлітровы слоік з цёмна-карычневай каламутнай вадкасцю.

— Вось толькі «вясёлкай» і лячуся. Ніякія дахтары так не памогуць. Хочаце, мальцы? — Бабця спрактыкавана скінула пластыкавую накрыўку, і ў нашы насы шыбануў дух моцнага самагону, настоенага невядома на чым. Мы ад пачастунку адмовіліся, а бабуля зрабіла тры вялікіх глытка проста са слоіка…

Пазней мы з сябрам шмат жартавалі, прыгадваючы свой візіт да дзіўнаватай старой і яе народны сродак супраць палому костак. Але тое, што нашы жарты былі нішто іншае, як спроба смехам задушыць трывогу і страх, я зразумеў праз паўгода, калі вярнуўся ў тыя мясціны і выпадкова падслухаў размову на вясковым прыпынку.

Я сядзеў на лаве, прымружыўшы вочы, а дзвюм тутэйшым кабетам, відаць, здалося, што я сплю. Таму размова іх з танальнасці гарачага шэпту перамянілася на выразны,



узбуджаны дыялог, фрагменты якога я абыякава прапускаў паўз вушы, пакуль слых не зачапіўся за знаёмыя назвы, імёны, прозвішчы.

— Трэці раз, трэці раз ужо тая баба ламаецца, і хоць бы што! То нага, то рука, то бядро — троху паляжыць у бальніцы і ўжо ў хаце сваёй сядзіць. Здароўе такое ў яе ці што? Вось мая маці была нагу паламала, дык ляжала ой-ёй колькі…

— Ай, Пятроўна, скажу я табе, што гэта за здароўе такое. — У голасе старэйшай цёткі загучалі выкрывальніцкія ноткі. — Яшчэ свёкар мне расказваў пра іхняе племя. І матка ў яе так умела, і гэная так робіць. Вось ёсць такія ведзьмы, што малако ў кароў цягнуць, а ёсць — спік з косці цягнуць. І ў людзей могуць, і ў скаціны. Як счаруе, то хоць на сцяну лезь — такі боль. І ламаець тады чалавек і рукі, і ногі, і спіну можа паламаць, а ёй — на здароўе. «Касцявіцы» іхняе племя свёкар называў. А ты ж чула, што каля яе хаты, на дарозе аж тры чалавекі…

Жанчына ізноў перайшла на шэпт, пераказваючы нейкія страшныя здарэнні, а я, так і не расплюшчыўшы вачэй, стаў у падрабязнасцях згадваць наш візіт да кульгавай бабкі. Смешна не было. Адчуў палёгку, што вядзьмарка адпусціла нас тады проста так. Ці амаль проста так. Бо толькі цяпер стаў зразумелы мой дзіўны жор, калі на працягу тыдня па вяртанні з тае экспедыцыі я штодзённа з’ядаў па 300—400 грамаў тварагу з мёдам і смятанай. А хатнія смяяліся з маёй тварожнай ненаеднасці: «Арганізм патрабуе».

## АПЕНДЫЦЫТ

Ёсць, ёсць у гарадскіх нейкі прыхаваны недавер і боязь да вяскоўцаў. Хаваюць яны гэтыя пачуцці за вонкавай бравадай і зухаватасцю, пасмейваюцца з вясковых забабонаў, прэпарыруюць іх навуковымі скальпелямі, эксперыменты дурныя ставіць намагаюцца. Ды толькі ў выніку…

У 1995 годзе я ўпершыню ўзначаліў студэнцкую этнаграфічную экспедыцыю. Адказнасць неверагодная: даглядзець усіх, накарміць, прасачыць, каб не прамоклі пад дажджом, у Асвейскім возеры не патапіліся, з мясцовымі не пабіліся, а яшчэ пільнаваць, каб спраўна песні і легенды ў бабцяў тутэйшых запісвалі. І даглядаў, і пільнаваў, і добра ўсё выходзіла. Студэнты жывыя-здаровыя, фальклору запісанага большае, надвор’е сонечнае і цёплае.

Але адной раніцай заўважаю, што практыкант мой — Сяргей Маціеўскі — трымаецца за бачыну ды час ад часу крэхча ад болю. Мае падазрэнні на апендыцыт Сяргей адмяцеліў, заявіўшы, што сімптомы тыя ведае добра, і ніяк яны на гэты выпадак не кладуцца. З’еў ён нейкую пігулку для супакаення майго сумлення, і рушылі мы ў поле. Гэтым разам працавалі ў самой Асвеі і, ці не адразу, наляцелі на тамтэйшую знахарку. Жанчына, яшчэ не старая, гаварыць пра свае практыкі і веды адмовілася катэгарычна і ўвогуле паставілася скептычна да ўсёй нашай каманды з яе «пустым інцярэсам». Непадступная і суворая жанчына сядзела на лаве пад плотам і выглядам сваім паказвала, што наш сыход — адзінае выйсце з камуні-

кацыйнага тупіка. І тут пацягнуў мяне чорт за язык. Цяпер дакладна ведаю, што чорт, але не тутэйшы, а гарадскі — дуракаваты, асфальтавы нячысцік.

— Ну, не хочаце гаварыць, то мальцу нашаму памажыце, — я паказаў на Сяргея, і бабуля вокамгненна перамянілася. Твар стаў спагадліва-зацікаўленым, маска адчужанасці звалілася, як і не было:

— А што з ім?

— Жывот баліць.

— А ці даўно?

— З вечара.

— А дзе? — бабуля агледзела ўказаную хлопцам бачыну і паўтарыла мае падазрэнні. — Можа ў яго гэты самы — пеньдзіцыт.

— Не, не! — у два галасы зараўла наша сляпая перакананасць, і асобным «не, не» цяўкаў у ва мне чарток, патрабуючы прыгоды.

— Ну, пайшлі, — бабуля адчыніла веснічкі, прапусціла Сяргея і зашчапіла іх ізноў, пакінуўшы нашу групу на дарозе.

Праз хвілін пятнаццаць студэнт вярнуўся да нас, трымаючы ў руках паўлітровы слоічак з замоўленай вадзічкай. Уся група надзвычай узбудзілася такой прыгодай і бясконца распытвала Сяргея пра акалічнасці знахарскай аперацыі. Праз гадзіну, калі паддоследны рашуча заявіў, што боль знік, прапаў, мінуўся бясследна, у паветры залунала самаўпэўненая даследчыцкая эйфарыя.

Раніцай трэцяга дня пасля «палявога эксперымента» я быў пабуджаны ў сваім намёце адчайнымі, скутымі неверагодным болем, шэптамі-стогнамі Сяргея. Яго зялёны і скрыўлены твар даводзіў, што час вясёлых эксперыментаў незваротна прайшоў. Мяне ахапіў жывёльны страх, бо яшчэ дзень таму паміж вёскай, блізу якой мы стаялі, і Дрысай навальніца абарвала тэлефонную сувязь. Подбегам да бліжэйшай хаты з тэлефонам, бясконцы набор — зрываецца нумар, дазвон, крыкам у слухаўку ляцяць нярвовыя, спалоханыя словы. Невыносна доўгае чаканне «хуткай». Сяргей, які скурчыўся круком і не ў стане выпрастацца ад болю. Зніякавелыя, разгубленыя твары студэнтаў. Маё сэрца, што намагаецца выскачыць праз горла.

Прыехалі, забралі, павезлі. Потым сказалі, што не давезлі да бальніцы зусім трошкі. Як недзе на пад'ездзе да Дрысы наш хлопец страціў прытомнасць, спалатнеў. Той адростак сляпой кішкі, поўны смяротнага гною, не вытрываў і парваўся…

Вадзічка, замоўленая знахаркай, сталася моцнай анестэзіяй, што робіць набліжэнне смерці спакойным і незаўважным. Вось так і памерла мая інфантыльная прага да непатрэбных эксперыментаў з рэчамі, якія табе непадуладныя.

А Сяргей выжыў. Аперацыю зрабілі адразу «з колаў», ішла яна дужа доўга і складана, але паспяхова. І Сяргей да нас вярнуўся ўжо ў верасні, так і не прайшоўшы да канца палявую этнаграфічную практыку.

## МАЛІНКА-КАЛІНКА

Не бяры чужога. Асабліва ў вёсцы, дзе ты сам чужы. Колькі гаворана студэнтам…

Паўз гэтую хацінку, крывую, урослую ў зямлю, без брамы і плота, кожны дзень выходзілі з лагера на бальшак, каб разбегчыся па бліжэйшых вёсках. Тутэйшыя людзі катэгарычна засцераглі, каб са сваімі пытаннямі да гаспадыні гэтай хаткі нават і лезці не спрабавалі. І ўвогуле, каб да яе не хадзілі. «Дужа яна нядобрая, чаго толькі людзям не нарабіла», — казалі. Мы і не заходзілі. Хаця тут я хлушу, бо меў адрасны візіт — гэтак цікаўнасць мяне пад'юдзіла. Але хата была замкнёна знутры, на мае грукі ніхто не адгукнуўся. І я пакінуў далейшыя спробы наладзіць кантакт з загадкавай бабуляй.

Вось хадзілі мы паўз гэтую хацінку, хадзілі, ані прыкметы жыцця не бачыўшы, а ў зарослым бур'янамі садзе тым часам наліваліся сокам, выспявалі шыкоўныя маліны. Неверагодна буйныя і з таго вельмі спакуслівыя. А яшчэ ж і плота няма — ідзі, лупі сабе на здароўе. Але ўся група са мной на чале ад ягаднай спакусы ўстрымлівалася. Да пары, да часу. Калі студэнты пачалі хадзіць у поле самастойна, адсутнасць дэмаркацыйнай лініі ў выглядзе плота адыграла сваю ролю. Вяртаючыся ў лагер, я пільна агледзеўся: два мальцы — Андрэй і Сяргей — у маліны тыя ўбіліся і ўсю асалоду ягадную, сакавіта-духмяную напоўніцу адчулі. Дзяўчаты, якія былі разам з імі ў палявой групе,

такой дзёрзкай ініцыятывы не падтрымалі і пайшлі ў лагер. Пазней прыляцелі і мальцы з дужа загадкавымі тварамі. Ну і ладна. Што тут перайmацца з некалькіх прыгаршчаў малін? Але ўся малінавая цікавостка праявілася трохі пазней…

Харчаванне, як вядома, у экспедыцыі простае, але здаровае. Каша з тушанінай у розных варыяцыях: грэцкая, рысавая, ячная… І бульба бывае, і юшка, і грыбны супец, як ёсць, чым у лесе пачаставацца. Адным словам, гастранамічных праблем вакол экспедыцыйнага катла не ўзнікала ніколі. А тут гляджу: толькі з абедам студэнты расправіліся ды ў цяньку адпачыць прыляглі, як Андрэйка і Сяргейка нейкую незразумелую мітусню ўсчалі. І раз да кустоў злёталі, і другі, і трэці. Потым на пару струшчылі ўсе экспедыцыйныя запасы актываванага вугалю і… зноў да кустоў паляцелі. У кароткім перапынку паміж іх спрынтарскімі забегамі злавіў я гаротнікаў і допыт ім учыніў. І вось што высветлілася.

Калі мальцы ўнурыліся ў маліны і забыліся пра ўсё на свеце з-за такой смакаты, за іх спінамі прахрыпеў старэчы ціхі голас: «Ну, ці смачныя малінкі?» Худая, перагнутая напалам бабуля з кійком і ў нейкіх неверагодных лахманах варожасці ніякай не выяўляла. Запыталася, хутчэй прыветна, чым шкадуючы свае ягады. Але мальцам стала не па сабе: «Сказала, як пугай лупанула. Мы прабачыліся і пайшлі адтуль хуценька, а вочы ў гэтай бабкі…» Апавяданне перарвалася, і студэнты з прабачэннямі ізноў паляцелі ў гушчары. Гэткі спорт Андрэй і Сяргей мелі да вечара наступнага дня, калі і абед, і вячэра, і сняданак, што паглыналіся з неверагодным апетытам, тутака ж даваліся ў знакі. Дзяўчаты, даведаўшыся кошт, сплачаны за ягады, нязлосна здзекаваліся з аматараў дармавых вітамінаў, суправаджаючы чарговы забег вядомай песенькай пра «калінку-малінку».

## СУРОКІ

Дзень быў дужа спякотны. Мы толькі вярнуліся з дальняй вёскі і, нягледзячы на згатаваны дзяжурнымі абед, пайшлі да возера, каб змыць пыл і зморанасць. На пясчанай водмелі маленькага вясковага пляжыка бавіліся мясцовыя дзеці: дзве дзяўчынкі гадоў сямі-васьмі і яшчэ меншы хлопчык. Мы па хадзе скідалі майкі, каб хутчэй кінуцца ў азёрную прахалоду, і, перад тым як даць нырца, я паспеў толькі заўважыць сваім студэнтам: «Глядзіце, які слаўны бялявы крывіч».

Малы, які ганяў невядома каго прутком у вадзе і звонка смяяўся, сапраўды меў саламяныя валасы, што выразна кантраставалі з цёмна-бронзавым загарам чалавечка. Сказаў і сказаў, што тут такога? Але, калі я вынырнуў з глыбіні, мае вушы працяў пранізлівы дзіцячы крык, а потым моташны енк. Вясковы хлопчык сядзеў у вадзе і ажно калаціўся ад гаручага плачу. Як высветлілася, нейкім злашчасным вечкам ракаўкі малы расхайдохаў, бы лязом, сабе пятку. Ад падэшвы да пальцаў. Крыві — мора, слёз — Дунай, супакоіць — аніяк.

Студэнты пабеглі ў лагер па бінты, пластыры ды ёд, я пачаў ліхаманкава шукаць на беразе трыпутнік, а дзяўчынкі, як маглі, суцяшалі свайго меншага брата. Праз колькі хвілін параненая нага была дэзынфікавана і старанна забінтавана. Аповеды пра герояў, якія зведалі і не такія страшныя раны, і прыгожа ўкручаная пятка суцішылі слёзы, супакоілі хлопчыка. Яшчэ больш аптымізму яму надала транспартыроўка на веліку аж да самай вёскі. Усё абышлося, а мне ўсё чамусьці стаяў у вушах дзіцячы крык і нібыта жартоўныя словы аднаго са студэнтаў: «Ну і вока ў вас сурочлівае».

«Супадзенне», — скажыце вы. «Хвіліна дурная», — скажу я. А як яно ўсё на самай справе?

Людміла ДУЧЫЦ

# АЗДОБЫ — ДАСПАДОБЫ

***Жанчыны заўсёды звярталі на свой знешні выгляд асаблівую ўвагу. Строі, сукенкі, кашулі, абутак... Нават такая дробязь як аздабленне для валасоў з'яўлялася вырашальнай для ўсіх жанчын, не зважаючы ні на ўзрост, ні на сацыяльнае становішча. А ці не зазірнуць нам у далёкія часы эпохі ранняга Сярэднявечча? З тым, каб даведацца, якія ўпрыгожванні насілі жанчыны нашай зямлі.***

## ТРЫ А: АБЯРЭГ, АЗДАБЛЕННЕ, АЗНАЧЭННЕ

Спачатку гэта былі іклы і косткі татэмных істот, пазванкі рыб і нават маленькія прасвідраваныя каменьчыкі. Іх нанізвалі на сухажыллі жывёл і сцябліны раслін, нашывалі на адзенне або пускалі на каралі. Пазней былі вынайдзены метал і шкло, і тады асноўнай часткай аздаблення жаночых строяў сталі яны, матэрыялы прагрэсу. Але якія часы ні вазьмі, упрыгожванні былі ахоўным сродкам чалавека, яго абярэгам, і таму ў першую чаргу, канечне ж, адлюстроўвалі міфалагічныя ўяўленні. З цягам часу абярэгі сталі выконваць і эстэтычную функцыю і нават пачалі вызначаць прыналежнасць да таго ці іншага этнасу. Упрыгожванні ў большасці сваёй рабіліся мясцовымі майстрамі, а таму дэманстравалі традыцыйныя вераванні і густы пэўных этнічных суполак.

Ішоў час. Некаторымі з такіх прадметаў пачалі абменьвацца. На тэрыторыі Беларусі археолагі знаходзяць шкляныя пацеркі і некаторыя віды фібул — засцежак для адзення, якія паходзяць з іншых краёў. Такія знаходкі адносяцца яшчэ да часоў ранняга жалезнага веку.

Гісторыю нацыянальных строяў без аздоб уявіць немагчыма. Яны характэрны для ўсіх эпох, асабліва гэта датычыць жаночых строяў. Самыя цікавыя, багатыя і разнастайныя ўпрыгожванні на нашых землях насілі ў часы Полацкага і Тураўскага княстваў, у канцы I — пачатку II тысячагоддзя. Сучасным жанчынам ёсць чаму пазайздросціць і ёсць што пераняць.

У гэты час тэрыторыя сучаснай Беларусі была ўключана ў шырокія гандлёвыя сувязі. Актыўна функцыянiравалі шляхі Прыпяцка-Бугскі і «з варагаў у грэкі». У гарадах будаваліся храмы, пры якіх існавалі школы і вяліся летапісы. Вывучалі ў гэтых школах не толькі царкоўнаславянскую, але і грэчаскую, лацінскую мовы. У асяроддзі знаці зараджалася свецкая культура і этыкет. І строі, а таксама ўпрыгожванні былі вонкавым паказчыкам сацыяльнага становішча. Як і ў іншыя часы, аздобы, якія мелі магічны сэнс, насілі штодня, некаторыя — на святы і падчас урачыстасцей. Рэчы строга дзяліліся на аздобы сялянак, гараджанак і жанчын княска-баярскага кола. Упрыгожванні вясковых кабет, самай шматлікай тагачаснай сацыяльнай групы, выконвалі ролю этнічнага маркера і сведчылі пра рэгіянальныя асаблівасці культуры. У першую чаргу гэта датычыць галаўных убораў.

## ВЯНОК, ЧАПЕЦ І СКРОНЕВЫЯ КОЛЬЦЫ

Дзявочыя і для замужніх жанчын — так падзяляліся тагачасныя галаўныя ўборы. Дзяўчаты насілі вяночкі з тканін, шаўковай тасьмы, скураных раменьчыкаў, металічных спіралек, нацягнутых на лыка. Жаночымі ўборамі лічыліся рознага тыпу чапцы, у тым ліку з шаўковых тканін, лямцу, скуры, а таксама ручніковыя ўборы. У халоднае надвор'е дзяўчаты і жанчыны насілі цёплыя хусткі і шапкі, вязаныя і футравыя. Галаўныя ўборы, асабліва святочныя, як правіла, дапаўнялі скроневыя кольцы. Кольцы гэтыя або пры-

шываліся, або на стужках ці раменьчыках прымацоўваліся да вяночкаў, шапачак, чапцоў над скронямі. Часам такія ўпрыгожванні красуні насілі і як завушніцы, а некаторыя нават уплятaлі іх у валасы.

Скроневыя кольцы, увогуле, маюць вялікую разнастайнасць, але некаторыя з іх усё ж характэрны толькі для пэўных рэгіёнаў. На землях крывічоў, напрыклад, насілі дротавыя кольцы, падобныя да бранзалетаў. У дрыгавічоў яны падобны да пярсцёнкаў з нанізанымі на іх металічнымі зярнёнымі пацеркамі. На тэрыторыі Заходняга Палесся і часткова Панямоння скроневыя кольцы таксама выглядаюць як пярсцёнкі, толькі патоўшчаныя і з S-падобнымі завіткамі, а ў Пасожжы — сяміпрамянёвыя. Тонкія дротавыя пярсцёнкападобныя кольцы былі агульнымі для ўсёй тэрыторыі Беларусі. Часам на такія кольцы нанізвалі шкляныя ці сердалікавыя пацеркі, сустракаліся нават пацеркі з костачак слівы і вішні або з пазванкоў рыбы. У якасці скроневых упрыгожванняў выкарыстоўвалі падвескі або старыя манеты, у якіх рабілі адтулінку, каб прапусціць у яе нітку для падвешвання. У сялянак скроневыя аздобы былі ў асноўным з бронзы або білону, нізкапробнага срэбра, але даволі часта і з чыстага срэбра.

На кожнай скроні насілі ад аднаго да трох кольцаў, а часам здаралася, што і больш. Сустракаліся выпадкі, калі на адной скроні былі кольцы аднаго тыпу, а на другой — іншага. Зафіксаваны строі, дзе налічвалася дванаццаць скроневых бранзалетападобных кольцаў. Яны былі ўплецены ў валасы.

Шмат дзе ў Беларусі ў тыя часы былі моднымі шапачкі і вяночкі, абшытыя металічнымі пласцінкамі або спіральнымі пранізкамі — ад аднаго да чатырох і болей радоў. Пласцінкі рабілі рознай формы і ўпрыгожвалі разнастайным арнаментам. Некаторыя з іх аздабляліся пазалотай. Такія галаўныя ўборы насілі ў вярхоўях Віліі, у Крупскім і Бярэзінскім раёнах Мінскай вобласці, Воранаўскім, Шчучынскім і Навагрудскім раёнах Гродзеншчыны. У некаторых вёсках галаўныя ўборы багата расшывалі залатымі і срэбнымі ніцямі, прывезенымі з Візантыі ці Іспаніі.

На поўначы Беларусі многія сялянкі насілі вяночкі з бронзавых спіральных пранізак у тры-шэсць радоў, часам ў спалучэнні з пласцінкамі. Спіралькі і пласцінкі нанізваліся або на лыкавыя жгуты, або на скураныя тонкія раменьчыкі. Да такіх вяночкаў над патыліцай прымацоўваліся ланцужкі, якія заканчваліся званочкамі або падвескамі ў форме трапецыі. У Цэнтральнай Беларусі таксама насілі бронзавыя і срэбныя пласцінчатыя вяночкі. Яны мелі выгляд стужкі, шырынёй 0,5—2 см і таўшчынёй 0,1 см. Было два варыянты — або на канцах рабіліся адтуліны для матузка, або канцы гэтых загіналіся трубачкамі, скрозь якія прапускаўся раменьчык для злучэння.




*Упрыгожванні: а — крывічанкі, б — радзімічанкі, в — дрыгавічанкі. XI стагоддзе.*




*Галаўныя ўборы сялянак: а — вяночак, б — чапец, в — ручніковы ўбор. Х—ХІ стагоддзі.*

## МОДА НА КОЛТЫ І РАСНЫ

Скроневымі ўпрыгожваннямі гараджанак лічыліся колты — вырабы з дзвюх пласцін у выглядзе круга ці зоркі. Унутр іх укладалася тканіна, змочаная пахучым алеем. У Мінску быў знойдзены сярэбраны колт з цiснёнымі выявамі птушак, абкружаны ажурным карункам. Другі мінскі колт зроблены з алавяніста-свінцовага сплаву і мае на вонкавым баку несапраўдны зярнёны ўзор і па кромцы пласціны пустацелыя шарыкі. Гарадскімі скроневымі ўборамі былі невялікія дротавыя кольцы з нанізанымі на іх трыма полымі металічнымі пацеркамі. Моднымі лічыліся шкляныя скроневыя кольцы, дыяметрам 2,5—5 см.

У княска-баярскім асяродку скроневыя ўпрыгожванні, як і ўсе іншыя, былі з золата і высокаякаснага срэбра, часта з пазалотай. Апроч таго, яны аздабляліся выемчатай эмаллю, чэрню, зерню, сканню. Абавязковым элементам параднага ўбору знатнай жанчыны былі два колты і некалькі трохпацеркавых кольцаў або раснаў. Расны — гэта упрыгожванні, складзеныя з медальёнчыкаў і ланцужкоў, якія спускаліся з абодвух бакоў да плячэй. У склад скарбу, знойдзенага на месцы былога замка каля вёскі Вішчын Рагачоўскага раёна, уваходзілі два колты з двухбаковымі выявамі птушак, выкананымі ў тэхніцы перагародчатай эмалі, зоркавы шасціканцовы колт і яшчэ адзін — з ажурным кантам, выявамі дзвюх птушак і «крынай» — знакам урадлівасці. Залатыя трохпацеркавыя скроневыя кольцы знойдзены пры археалагічных раскопках у Полацку і Барысаве. Знатныя жанчыны насілі і разнастайныя завушніцы. Пра гэта таксама сведчаць скарбы. Шмат такіх упрыгожванняў уваходзіла ў склад скарбаў, знойдзеных каля вёсак Шаўнева ў Горацкім, Дзегцяны ў Капыльскім раёнах, ды і ў іншых мясцовасцях.

## КАРАЛІ ДЛЯ МОДНІЦ

Вялікая ўвага ў строях надавалася аздабленню такой прыгожай часткі жаночага цела, як шыя. Сялянкі насілі каралі з пацерак і падвесак. Пацеркі куплялі на кірмашах, у карабейнікаў. Як правіла, наборы пацерак былі розныя: шкляныя і сердалікавыя, крышталёвыя, бурштынавыя і бронзавыя, з яшмы, агату, перлін… Дзяўчаты абменьваліся пацеркамі — адной або некалькімі — у знак сяброўства. Увогуле, каралі з аднаго віду пацерак насілі нячаста. У іх складзе пацеркі перамяжоўваліся з падвескамі, якіх на тэрыторыі Беларусі на той час было не менш як дзвесце відаў: манетападобныя падвескі, бразготкі, лунніцы — у выглядзе месячыка, лыжачкі, ключыкі, конікі, птушачкі, якары, петлепадобныя і гэтак далей. Дрыгавічанкі насілі шмат металічных зярнёных і ажурных пацерак, памеры якіх часам былі з галубінае яйка. Такія пацеркі чаргаваліся з падвескамі

шклянымі і манетападобнымі. Радзімічанкі больш упадабалі пятлістыя падвескі і дробныя шкляныя пацеркі. На поўначы і ў цэнтры Беларусі жанчыны на сваіх шыях насілі яшчэ і металічныя абручы-грыўні. Яны былі з вітога, гранёнага ці пляскатага дроту, пашыраныя пасярэдзіне. Заканчваліся абручы конусам або спіраллю. Часам на грыўні з пашыранай сярэдзінай прымацоўвалі падвескі-трапецыі або бразготкі. У модзе былі і ланцужкі, але ў параўнанні з сучаснымі яны выглядалі больш масіўнымі, і да іх амаль заўсёды прымацоўвалі падвескі.

Да нагрудных упрыгожванняў адносяцца яшчэ і фібулы — металічныя зашпількі для адзення. Найчасцей іх выкарыстоўвалі на паўночным захадзе сучаснай Беларусі, а таксама на Пасожжы. Шырока бытавалі рознай велічыні фібулы ў выглядзе падковы са спіралепадобнымі канцамі. Такімі фібуламі зашпільвалі не толькі світы і наплечныя пакрывалы, але і тканыя паясы, імі ж упрыгожвалі і галаўныя ўборы. У жанчын радзімічаў попытам карысталіся прамянёвыя фібулы, якія нагадвалі сучасныя брошкі. На ланцужках да фібул прымацоўвалі падвескі-амулеты, у тым ліку нават маленькія ножыкі ў скураных, вышытых залатымі ніцямі, футаралах. Сярод нагрудных упрыгожванняў былі яшчэ шпількі з завостраным канцом, верх якіх меў выяву або крыжа, або птушынай галавы. Звычайна



Упрыгожванне знатнай жанчыны з колтаў і раснаў. XI—XII стагоддзі.

такімі шпількамі замацоўвалі наплечныя пакрывалы.




*Нагрудныя ўпрыгожванні: а, а-1— фібулы, б — пацеркі, в — каралі. XI—XII сттагоддзі.*

Шыйныя і нагрудныя ўпрыгожванні гараджанак мала чым адрозніваліся ад таго, што насілі вясковыя жанчыны. Гараджанкі выкарыстоўвалі шмат караляў з пацерак і падвесак. Але падвескі ў гараджанак былі больш разнастайныя. Менавіта гарадскімі ўпрыгожваннямі лічыліся падвескі-крыжыкі, аздобленыя выемчатай эмаллю — таннае перайманне ўбораў знаці. Уборам гараджанак уласцівы былі крыжыкі з оўручскага шыферу, якія абрамлялі серабром з пазалотай. Часам крыжыкі замяняліся маленечкімі абразкамі з шыферу і косці. Даволі часта на сваё адзенне і галаўныя ўборы гараджанкі нашывалі металічныя пласцінкі з пазалотай.

Жанчыны з княска-баярскага асяроддзя шкляныя пацеркі амаль не насілі, іх асноўным упрыгожваннем былі пацеркі з каштоўных металаў, аздобленыя зерню і сканню.Араднымі нагруднымі ўборамі знаці былі



*Пярсцёнкі і бранзалет. XI—XII стагоддзі.*

бармы — круглыя медальёны з выявамі хрысціянскіх святых і арнаментаў, што азначалі ўрадлівасць. Каб абшыць адзенне, галаўныя ўборы і абутак, выкарыстоўвалі перліны і іншыя каштоўныя пацеркі.

## ПЯРСЦЁНКІ І БРАНЗАЛЕТЫ — СУАДНОСНА СТАТУСА

Рукі нашых прабабуль упрыгожвалі пярсцёнкі і бранзалеты. Іх насілі шмат, і ва ўсіх пластах грамадства — ад сялянак да княгінь. Адрозненні датычыліся знешняга выгляду, выкарыстаных матэрыялаў, а таксама колькасці. Сярод вясковых жанчын карысталіся папулярнасцю гладкія ці вітыя кольцы і пласцінчачныя нешырокія пярсцёнкі, аздобленыя арнаментам. Падобнымі былі і бранзалеты. Але палачанак адрознівалі своеасаблівыя бранзалеты — яны мелі выгляд зааморфных істот. Сячэнне такіх бранзалетаў было заўсёды ў выглядзе сегмента, верх — багата арнаментаваны, а канцы — у выглядзе стылізаваных змяіных галовак.

У адрозненне ад сялянак, гараджанкі любілі больш разнастайныя пярсцёнкі — з пашыранай сярэдзінай, са шчытком, з устаўкамі са шкла ці паўкаштоўных камянёў. Большай папулярнасцю ў іх карысталіся пласцінчатыя арнаментаваныя бранзалеты. Але асноўным упрыгожваннем гараджанак, што адразу ж падкрэслівала іх статус, з'яўляліся шкляныя бранзалеты і пярсцёнкі. Бранзалеты былі даволі танныя, таму што яны неўзабаве біліся. Іх насілі адразу па некалькі штук на кожнай руцэ. Такія бранзалеты мелі разнастайную форму — гладкія, кручаныя, дробнакручаныя, рыфлёныя, і колер — блакітны, жоўты, зялёны, сіні, чорны, карычневы, фіялетавы. Мода, асаблівa на колер, мянялася даволі часта. У кожным горадзе яна мела свае асаблівасці. Жыхаркі Віцебска любілі бранзалеты смарагдавага і травяністага колераў, пінскія модніцы ўпадабалі карычневыя, фіялетавыя і зялёныя, тураўчанкі — карычневыя, зялёныя і бірузовыя, спецыфічна навагрудскімі лічыліся шырокія і рыфлёныя шкляныя бранзалеты, а таксама бранзалеты, упрыгожаныя гарызантальнымі палосамі і жалабкамі.

Знатныя жанчыны насілі пярсцёнкі і бранзалеты з золата і срэбра. Залатыя пярсцёнкі былі знойдзены пры раскопках у Брэсце, Віцебску, Полацку, Гродне, Наваградку. Пярсцёнак з Полацка меў устаўку з сапфіра, а з Навагрудка — з граната. У Мінску пры раскопках храма XII стагоддзя непадалёк ад пахавання знатнай дзяўчыны знойдзены залаты бранзалет вагой прыкладна 75,5 г. Ён сплецены з тонкіх дроцікаў і заканчваецца стылізаванымі змяінымі галоўкамі. Падобны срэбны бранзалет знойдзены і ў складзе скарбу на гарадзішчы Вішчын Рагачоўскага раёна. У гэтым скарбе быў яшчэ срэбны бранзалет-наруч, злучаны па баках шарнірамі, упрыгожаны крынамі і выявамі птушак. Падобны бранзалет выяўлены і на гарадзішчы каля вёскі Раманава, цяпер Леніна Горацкага раёна.

Трэба адзначыць, што большасць упрыгожванняў, у тым ліку і для знаці, зроблена мясцовымі майстрамі. У Навагрудку нават узнікла аб'яднанне ювеліраў-златакавалёў. Пра гэта сведчыць раскапаны багаты квартал жытлаў і майстэрняў, прылады працы і ліцейныя формачкі. Рэшткі такіх майстэрняў знойдзены і ў шэрагу іншых мясцін. Старажытныя майстры нашай зямлі ведалі коўку, чаканку, цісненне, валачэнне дроту і іншыя ювелірныя аперацыі. На жаль, сёння такіх умельцаў мала…

Падагульняючы, можна зрабіць вынік, што ўпрыгожванні сялянак у першую чаргу адлюстроўвалі міфалагічныя ўяўленні і рэгіянальныя традыцыі. Уборы гараджанак сталі сінтэзам элементаў разнастайных сялянскіх строяў і таннага пераймання ўзораў ад строяў знаці. Наборы ўпрыгожванняў княска-баярскага кола спалучалі не толькі мясцовыя традыцыі, але і візантыйскія, і заходнееўрапейскія ўплывы.

*Мікола КАНДРАТАЎ*

# НАРОДЖАНЫЯ ПАД ЗНАКАМ РЫБ

*Рыбы (♓) — апошні са знакаў Задыяка, сімвалічным вобразам якога з'яўляюцца дзве рыбы, што плывуць у розныя бакі, але звязаны паміж сабой. Яны нібыта сцвярджаюць: варта плыць уверх, да духоўнай эвалюцыі, а не ўніз, да дэградацыі. Ключавое слова знака — таямніца, а вышэйшая праява Рыб — імкненне да ідэальнасці, духоўнасці і прыгажосці. У гэтага знака дзве планеты-кіраўніцы. Адна з іх — Няптун (♆), сімвалізуе высокую гармонію, мары, ілюзіі, вышэйшую касмічную любоў. Дзякуючы яму, Рыбы на глыбінным узроўні адчуваюць музыку, касмічныя вібрацыі. Другая — Юпітэр (♃), адказвае за рэлігію, закон, уладу, аўтарытэт. Імкненне да аўтарытэту ў Рыб узнікае на ўнутраным узроўні, ідэалогія ў іх прыхаваная, таямнічая.*

## РАТАВАННЕ ВЕРШАМІ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ

Нячаста, але бывае так, што некаму дастаецца доля, цяжэйшая за іншыя. Згодна з Авестай, чалавек прыходзіць у наш свет для напружанай працы. Бо толькі тут можна паспрабаваць выправіць уласныя недахопы, грахі і правіннасці роду, а таксама здзейсніць добрыя набыткі. І часам дзіўна пачуць ад некага звыклыя ўжо сёння словы: «няма праблем». Праблемы на зямлі ёсць у кожнага, без іх людзі ў нашым сусвеце проста не нараджаюцца. Але той, каму выпадаюць для вырашэння пазітыўныя ці негатыўныя праблемы, заўсёды пры нараджэнні атрымлівае ад Бога столькі моцы і энергіі, каб іх хапіла для перамогі над цяжкасцямі ў жыцці, для таго каб паспрабаваць нешта ў ім выправіць, каб змяніць сябе ў лепшы бок. Талент, дадзены чалавеку, можа быць кампенсацыяй за складаныя жыццёвыя абставіны або цяжкі характар.

Прыкладам такога няпростага, нялёгкага жыцця з'яўляецца касмаграма вядомай беларускай паэткі Еўдакіі Лось. Нарадзілася яна 1 сакавіка 1929 года пад знакам Рыб у вёсцы Старына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

Скупыя радкі біяграфіі нічым асаблівым не вылучаюцца сярод іншых. Але калі паглядзець уважліва на касмаграму, мы знойдзем у ёй цэлы комплекс абставін, першапачаткова пазначаных як праблемы.

Па-першае, у знаку Рыб знаходзіцца самотнае Сонца, якое мае адмоўны кармічны статус -2 балы — сведчанне таго, што ў Еўдакіі часам маглі праяўляцца такія рысы характару, як ганарыстасць, аўтарытарнасць, схільнасць да цырымоній, напышлівасці, самасцвярджэння за кошт іншых. Пры тым, што чалавек з такой касмаграмай проста не заўважае «сонечных» праблем і лічыць, што ў яго ўсё ў парадку.

Па-другое, планеты-кіраўнікі сонечнага знака Рыб Еўдакіі Лось (Няптун і Юпітэр) таксама мелі адмоўны патэнцыял, іх кармічны статус адпаведна -4 і -1. А гэта спрыяла ілюзіям і хваравітай уразлівасці з аднаго боку, а з другога — пагардлівасці і нецярплівасці да канкурэнтаў. Узгадаем, як у 1967 годзе яна спаліла ў Саюзе пісьменнікаў кнігу Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана».

Па-трэцяе, яшчэ і сума кармічных статусаў усіх 16-ці планет дадзенай касмаграмы (абсалютны бал касмаграмы) дае лік -4. Тое, што ён адмоўны, можа спараджаць значныя комплексы і сведчыць пра адсутнасць энергетычнага запасу, які дазваляе рухацца наперад.

Па-чацвёртае, трэба адзначыць, што ў карце нараджэння паэткі маецца 3(!) антырэцэпцыі планет. Іншымі словамі, дзве планеты памяняліся знакамі свайго прыстанка ці экзальтацыі, але пры гэтым адначасова адна з іх знаходзіцца ў дрэнным становішчы — падзенні ці выгнанні.



*Еўдакія Лось.*

Нехта падумае: на аднаго чалавека, жанчыну, звалілася столькі цяжару, што з гэтым амаль немагчыма жыць. Можна апусціць рукі, пакрыўдзіцца і на ўласны лёс, і на Бога. Да гонару Еўдакіі Лось, трэба адзначыць, што яна не зняверылася ў жыцці.

Ратаваннем ад вышэйназваных цяжкасцей для паэткі стала яе творчасць. На гэты занятак паказвае планета-кіраўнік знака Рыб Няптун, якая знаходзіцца ў знаку Льва (♌). Таксама пра схільнасць да паэтычнага пісьма сведчыць добрая і моцная планета Меркурый (кармічны статус +4) у знаку Вадаліва (♒). Яна давала паэтцы арыгінальнасць у словах, вершах (не па форме, а па змесце), экстравагантнае мысленне, здольнасць да самаадукацыі. Бо Меркурый з'яўляўся першай планетай перад Сонцам супраць гадзіннікавай стрэлкі і паказваў кірунак рэалізацыі творчай энергіі чалавека.

Пісьменнік Валянцін Тарас, які некаторы час працаваў разам з Еўдакіяй Лось, пазней успамінаў: «Мне было дзіўна, што тая Дуся, якую я… ведаў, хваравіта-амбіцыёзная, грубаватая, па-мужыцку прасталінейная, піша такую пранікнёную лірыку, так тонка адчувае прыроду, што ў яе наогул высокая культура пачуццяў».

Важнай кампенсацыяй Еўдакіі Лось за ўсе цяжкасці яе касмаграмы была наяўнасць у апошняй канфігурацыі аспектаў Ветразь, якія даюць моцную абарону чалавеку, вялікую падтрымку і заступніцтва. А апазіцыя паміж Марсам і Сатурнам, што трымае канфігурацыю Ветразь знутры, нібы мачта, не дае супакоіцца, задаволіцца дасягнутым і жыць толькі за кошт апекуноў.

Галоўнай планетай — дамінантай канфігурацыі Ветразя ў гараскопе Еўдакіі Лось была планета Марс, якая сімвалізуе волю, жарсць, актыўнасць і смеласць. Марс быў добрым па кармічным статусе (+1), ён меў уплыў, афарбоўваў дабрынёй усю названую канфігурацыю. Дзякуючы ўласнай сіле волі і смеласці маладая Еўдакія ставіць за мэту стаць прафесіяналам і вучыць сваім дасканалым словам іншых, даваць ім прыклад у паэзіі. Пра гэта ў яе касмаграме гавораць Марс у Блізнятах і Сатурн. Праўда, той знаходзіўся ў знаку Стральца (♐) разам з Чорным Месяцам (⚸), што часам давала захопленасць камуністычнай ідэалогіяй, бачную ў некаторых яе вершах.

Можна прывесці як прыклад аспекта апазіцыі Марса і Сатурна (волі і мэты) выпадак з юнацкіх гадоў Дусі, якая марыла напачатку стаць машыністам. Скончыўшы сямігодку ў 1945 годзе, яна захацела паступаць у Аршанскі чыгуначны тэхнікум. За дзень прайшла сорак кіламетраў пехатою да Полацка, там села на таварны цягнік і на ім дабралася да Оршы. За такую рашучасць у тэхнікум яе прынялі без экзаменаў. Праўда, пасля непрацяглай вучобы Дуся расчаравалася. Нават без дакументаў, якія



*Канфігурацыя Ветразь у касмаграме Еўдакіі Лось.*

не аддаў дырэктар чыгуначнага тэхнікума, тым жа шляхам Дуся вярнулася дадому. І адразу вырашыла паступіць у Глыбоцкае педагагічнае вучылішча, дзе ўжо вучылася сястра Марыя. Дуся ўгаварыла дырэктара педвучылішча, і яе залічылі на першы курс без дакументаў, паверыўшы на слова.

З-за свайго Марса ў Блізнятах (♊) маладая паэтка пазнаёмілася і доўгія гады знаходзілася ў ліставанні з Васілём Быкавым, які нарадзіўся пад знакам Блізнят. Ён вельмі цёпла і па-асабліваму ставіўся да сваёй зямлячкі, вельмі высока цаніў яе вершы. Яго лісты да Еўдакіі Лось, прасякнутыя спагадай і братэрскай пяшчотай, напэўна, таксама давалі ёй падтрымку ў нялёгкіх жыццёвых буднях. Уплыў Марса станоўча адбіваўся і на слабых Венеры і Нептуне (кармічны статус па -4 балы), асабліва на паэтычным узроўні. Тут — гармонія і прыгажосць верша, загадкавасць і меладычнасць паэтычнага радка.

Еўдакія Лось змагла перажыць і вытрымаць многае ў жыцці, але, на жаль, не змагла пазбегнуць горшага — дачаснай смерці. Яна памерла ў 1977 годзе ад рака. Толькі ў Беларусі пабачылі свет дзесяць зборнікаў яе паэзіі, пяць вершаваных кніжак для дзяцей і дзве кнігі прозы.

*Іна ЛАЙВАНТ*

# КРЫЖ КАНДРАТА КРАПІВЫ

Эдгар По казаў: «Калі хочаш што-небудзь схаваць — пакладзі гэта на бачнае месца». Выраз як нельга лепш характарызуе адзін з самых загадкавых знакаў Задыяка — Рыбы.

Кандрат Кандратавіч Атраховіч (Крапіва) нарадзіўся 5 сакавіка 1896 года. На момант яго нараджэння Сонца (☉) праецыруецца на задыякальны знак Рыб (♓). Душэўная тонкасць, інтуіцыя, міласэрнасць, сціпласць, жаданне бачыць свет «у ружовым колеры», па-іншаму, ідэалізм — вось адметныя рысы прадстаўнікоў гэтага знака.

Сонца — заступнік усіх творцаў і мастакоў, носьбітаў актыўнага пачатку. Апроч таго, Сонца «адказвае» за «вітальную» энергію, за даўгалецце. І доўгае жыццё Кандрата Кандратавіча (1896—1991) дае магчымасць меркаваць, што сваё Сонца ён выкарыстаў выключна для добрых спраў, або для тых спраў, якія на той момант часу лічыў добрымі. Але апроч Сонца ў карце яго нараджэння пад Рыбамі няма ніводнай іншай планеты — Сонца самотнае. Характарыстыка такога знака Задыяка аказвае ўплыў толькі на дух чалавека. Дабрыня, спагадлівасць і сціпласць прысутнічалі ў характары Кандрата Кандратавіча. Але не гэтыя рысы характару прынеслі яму славу.

Кіраўнік сонечнага знака — Няптун (♆) знаходзіцца ў Блізнятах (♊). А знак Блізнят для Нептуна — месца выгнання. Калі ў карце нараджэння Няптун праецыруецца на знак Блізняты, гэта можа надзяліць чалавека падвышанай адчувальнасцю, а таксама актыўным вобразам мыслення. У горшым выпадку чалавек можа атрымаць блытаніну ў ідэалах, хлусню і хітрасць. Верагодна, пісьменнік прайшоў двума шляхамі, у яго творчасці мелі месца як атэізм і антыклерыкалізм, так і вобразнае мысленне.

Той факт, што большасць з нас памятае пісьменніка па яго байках, сведчыць пра пераважанне ў яго творчасці яркай вобразнасці і міфалагічнасці. А таму ён адпрацаваў свой «выгнаны» Няптун. Кіраўнік сонечнага знака Няптун у касмаграме цікавы яшчэ і тым, што знаходзіцца ў злучэнні з планетай Плутон, якая «адказвае» за гіганцкія сілы. Там жа, у Блізнятах, знаходзіцца таксама Верхні Месяцовы Вузел (☊). Заўважу, што становішча месяцовых вузлоў сведчыць пра стратэгію жыцця, якая патрэбна чалавеку для развіцця сябе як асобы.

У карце нараджэння Кандрата Крапівы ясна бачна: для таго, каб ісці па шляху развіцця сваёй душы, ён павінен быў адмовіцца ад ролі настаўніка, быць вучнем, праваднікам чужых ведаў, журналістам, пісьменнікам. Усё гэта дае Заходзячы Месяцовы Вузел (☋) у знаку Стральца (♐), Узыходзячы — у Блізнятах. І яго біяграфія пацвярджае абраны шлях.



*Кандрат Крапіва.*

Хлопчык, што нарадзіўся ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне, спачатку вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе, потым ва Уздзенскім народным вучылішчы, у чатырохкласных гарадскіх вучэльнях у Стоўбцах і Койданаве (цяпер Дзяржынск). У 17 гадоў здаў экстэрнам у Мінску экзамен на званне народнага настаўніка. Працаваў настаўнікам у вёсцы Мнішана на Міншчыне. Пасля пачалася Першая сусветная, і яго мабілізавалі ў войска. У сакавіку 1916 года будучы пісьменнік скончыў школу прапаршчыкаў, ваяваў на Румынскім фронце. Быў дэмабілізаваны ў лютым 1918 года і зноў вярнуўся да настаўніцкай працы, працаваў у вёсцы Каменка на Уздзеншчыне. Пасля службы ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі (РСЧА) Крапіва зноў працаваў настаўнікам пачатковай школы ў пасёлку Астравок на Уздзеншчыне. У 1925 годзе былі надрукаваны яго першыя сатырычна-гумарыстычныя кнігі «Асцё» і «Крапіва». У 1925—1926 гадах быў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства ў Мінску. У 1926 годзе выдаў зборнік прозы «Апавяданні» і свой атэістычны варыянт «Бібліі», у 1927 годзе — «Байкі». Падчас вучобы на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ (1926—1930) Кандрат Крапіва піша і выдае кнігі «Людзі-суседзі» (1928) і «Жывыя прывы» (1930). У 1930 годзе выдаюцца яшчэ дзве яго сатырычныя кнігі «Выбоіны на дарозе» і «Пра нашых шкоднікаў, папоў і ўгоднікаў», у 1931 годзе — вершаваная казка «Хвядос — чырвоны нос». У 1932—1936 га-дах Крапіва працаваў у часопісе «Полымя». У гэты час ён напісаў раман «Мядзьведзічы» (частка 1-я, 1932). Тады ж выдаюцца яго сатырычныя кнігі: «Калючы строй», «Выбраныя байкі» (1932), «Выбраныя вершы» (1935) і п’еса «Канец дружбы» (1933).

Спынімся пакуль на гэтым і паглядзім, як малюнак яго жыцця сплятаецца з малюнкам касмаграмы. Лінія «настаўнік — вучань» выяўлена ярка. У юнацтве — сам вучыўся, а для сельскага хлопчыка тых гадоў гэта было незвычайна, потым вучыў іншых, пасля зноў вучыўся і складаў вершы. І на касмаграме шлях месяцовых вузлоў ад Стральца да Блізнят прасочваецца выразна. З таго, што Крапіва быў настаўнікам, а потым сам ад гэтага адмовіўся і стаў пісьменнікам, можна зрабіць выснову: жыццё пайшло ў правільным кірунку. І, нягледзячы на тое, што яго «Біблія» ў наш час успрымаецца не так, як хацеў аўтар падчас яе напісання, тым не менш, яна цалкам укладваецца ў гэтую схему. Аўтар быў праваднiком чужых ідэй. А задача любога праваднiка — данесці інфармацыю максімальна блізка да першакрыніцы і максімальна большай колькасці людзей. Чаму менавіта Біблія? Можа быць, таму, што кіраўнік сонечнага знака — Няптун, а Няптун, апроч усяго іншага, вера. Атэізм — таксама вера, толькі ў тое, што Бога няма, што «рэлігія — опіум для народа». І ён такія ідэі «нёс у масы». Тое, што Няптун знаходзіцца ў злучэнні з Плутонам (♇), кажа пра вялікую сілу гэтай ідэі і пра тое, што велізарныя масы яе прымалі.

Падагульнім сказанае. Пры разглядзе карты нараджэння мы бачым, што творчы пачатак (Сонца) пэўнага чалавека можа праявіцца, калі ён будзе займацца пісьменніцтвам або журналістыкай (знак Блізняты), і ўсё гэта будзе афарбавана ці ідэалогіяй, ці нечым казачным (Няптун). І яго казкі ці іншыя фантазіі будуць мець велізарную папулярнасць (Плутон). Рэальная біяграфія і творчасць пісьменніка пацвярджаюць тое. Свой творчы патэнцыял Кандрат Крапіва раскрыў напоўніцу.

Астралогія вучыць: усё, што датычыць зброі, вайны, нейкіх вострых прадметаў так ці

інакш звязана з планетай Марс (♂). І сама крапіва, «пякучка-крапіва», таксама лічыцца адной з раслін, якую апякуе Марс. А якая з планет можа даць чалавеку пачуццё гумару? Можа быць, Уран (♅) ці Хірон (⚷)? Або справа ў іх узаемасувязях ці, як кажуць астролагі, у аспектах? Для тых, хто не з'яўляецца прафесійным астролагам, растлумачу: аспектамі называюцца вуглавыя адлегласці паміж дзвюма планетамі. Гэта як бы ніці, праз якія ўсталёўваюцца ўзаемадзеянні планет адна з адной. Калі планет некалькі, то ніці, што злучаюць іх, утвараюць пэўны ўзор. Кожны такі ўзор (канфігурацыя аспектаў) мае сваю назву, якая вынікае з таго, як выяўляецца той «узор» у лёсе чалавека.

У карце нараджэння Кандрата Кандратавіча мы бачым канфігурацыю аспектаў Вялікі Крыж на чатырох планетах: Марс, Уран, Венера і Хірон. Назва канфігурацыі вельмі блізка адлюстроўвае яе трактоўку. Гэта той самы «крыж», які трэба несці на сабе да скону. Такая канфігурацыя аспектаў прыносіць у жыццё чалавека велізарную энергію разбуральнай сілы. Але ж у кожнага з нас ёсць права выбару. Калі той, у чыёй карце нараджэння прысутнічае названая канфігурацыя аспектаў, не жадае развівацца, не працуе над сабой, — ён падае пад цяжарам свайго Крыжа. Калі ж чалавек правільна зразумее, якія стаяць перад ім задачы, у яго ёсць шанец раскруціць энергію Крыжа і стаць пераможцам.

Па ўспамінах блізкіх людзей сам пра сябе Кандрат Кандратавіч часта казаў: «Я — салдат». Чаму? Вядома, ён прымаў удзел у шматлікіх войнах: быў радавым і прапаршчыкам у Першую сусветную, у 1939-м удзельнічаў у Польскім паходзе РСЧА, быў удзельнікам савецка-фінскай вайны 1939—1940 гадоў, Вялікай Айчыннай. Відавочна, што на падзеі ягонага жыцця ўплывала планета Марс, але ў асноўным ягонай зброяй было пяро. У пачатку Вялікай Айчыннай ён працаваў у франтавой газеце «За Савецкую Беларусь», у 1943—1945-х рэдагаваў сатырычную газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». У 1945—1947 гадах — працаваў рэдактарам часопіса «Вожык».

Сярод планет, якія ўтвараюць Вялікі Крыж, найбольшую моц мае Марс. У астралогіі Марс «адказвае» за агрэсію, адвагу, сілу волі, пасіянарнасць, запал. З яе ўсё пачынаецца. Але не трэба забываць, што



*Канфігурацыя Вялікі Крыж у касмаграме Кандрата Крапівы.*

Вялікі Крыж трымаецца не на адной, а на чатырох кропках-планетах, і праз ключавую планету ўступаюць у дзеянне яшчэ тры, якія ставяць свае задачы. Адсюль узнікае напруга ў жыцці. І калі чалавек з такім узорам лёсу не знойдзе як выкарыстаць энергію «у мірных мэтах», то яго доля — быць вечна ўкрыжаваным на сваіх праблемах. Лагічна выказаць здагадку, што сатыра якраз тое рашэнне, якое знайшоў для сябе Кандрат Крапіва. Венера — гармонія, Уран — здольнасць зірнуць на што-небудзь з нязвыклага пункта гледжання, Хірон — вышэйшая праява Меркурыя, уменне «падабраць ключ», Марс — актыўная жыццёвая пазіцыя. Вось складнікі таленту сатырыка Крапівы. Вялікі Крыж на працягу ўсяго жыцця патрабуе пастаяннай працы па функцыям планет, што ў яго ўключаны, і бесперапыннага руху наперад. Такому чалавеку неабходна ўвесь час весці барацьбу з недахопамі, як у самім сабе, так і ў навакольным свеце.

Менавіта так і паступаў Кандрат Крапіва. І гэта прынесла яму славу. Вяртаючыся да пачатку, дзе я казала, што самае таемнае, як правіла, ляжыць на відавоку, хачу падкрэсліць наступнае: пісьменнік, чыё імя знаёма кожнаму беларусу, усёй сваёй творчасцю вучыць, як атрымаць абсалютную абарону, як атрымаць ласку Боскую.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## САЛІГОРСКІ РАЁН

**Салігорскі краязнаўчы музей**

Заснаваны ў 1976 г., адкрыты ў 1984-м. Плошча экспазіцыі 310 м$^2$. Сярод экспанатаў матэрыялы пра польскага і беларускага мастака і пісьменніка, ураджэнца пас. *Красная Слабада* Б. Залескага.

**Сярэдняя школа № 3**

**Музей «Літаратурная Салігоршчына»**. Адкрыты 31.10.1987 г. У фондах больш як 500 экспанатаў, у тым ліку 200 арыгінальных. Матэрыялы экспазіцыі расказваюць пра В. Аколаву, А. Дзялендзіка, М. Корзуна, А. Кулакоўскага, М. Лужаніна, М. Сергіевіча, У. Сыракомлю, Р. Шкрабу, Л. Якубовіча і інш.

* * *

**Барадулін Рыгор** напісаў верш «У салігорскай шахце» (Беларусь. — 1963. — № 7. — С. 26).

**Новік Юліі** (н. 1.1.1985), паэткі, радзіма. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Аўтар зборніка вершаў «Сонца за тэрыконамі» (2007).

**Шырын Лявон**, дзіцячы пісьменнік, паэт, крытык, ураджэнец в. *Працавічы* Слуцкага р-на, жыве тут.

* * *

**Вёска Вялікі Рожан,** цэнтр Рожанскага сельсавета

**Рэдкага** (каля 1795 — каля 1910), беларускага народнага казачніка, радзіма. Фальклярыст і этнограф А. Сержпутоўскі апублікаваў 38 тэкстаў, запісаных ад яго ў 1890—1907 гг. Некаторыя даследчыкі лічаць, што Рэдкі — гэта сам Сержпутоўскі.

**Вёска Залессе** Пагосцкага сельсавета

**Сергіевіча Міколы** (3.9.1921—7.12.2000), празаіка, нарысіста, драматурга, радзіма. Скончыў Мінскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум (1937), Аршанскі настаўніцкі інстытут (1939). Працаваў настаўнікам у Глоданскай сямігодцы Лёзненскага раёна (1931—1941). Завочна скончыў Магілёўскі педінстытут (1941). У гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанскім сувязным, рэдактарам старобінскай падпольнай раённай газеты «Савецкі патрыёт». Пасля вайны працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх і цэнтральных газет карэспандэнтам. У 1955—1959 гг. — старшыня калгаса «Чырвоны пуцілавец» Старобінскага р-на. З 1959 г. працаваў у часопісе «Народная асвета». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1948 г. з нарысаў.

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г.

Аўтар кніг нарысаў «На роднай зямлі» (1954), «Нашы будні» (1957) і «Будні калгасныя» (1959). Напісаў п'есы «Смех і ... толькі» (пастаўлена ў 1975 г. Маладзечанскім народным тэатрам), «Што чула бярозка» (1963), «Расійскія пеўні», «Спалох у вялікім доме».

**Вёска Заўшыцы,** не існуе, месца знаходжання не ўстаноўлена

**Корзуна Міколы** (1.5.1934 — 22.2.1995), пісьменніка, радзіма. З сялянскай сям'і. Пасля смерці ў 1937—1938 гг. бацькоў, Мікола выхоўваўся ў Слуцкім дзіцячым доме. Скончыў 7 класаў, Смілавіцкі сельгастэхнікум (1957), Мінскі пэдінстытут (1961). Працаваў батанікам у НДІ глебазнаўства ў г. Жодзіна (1961—1968), аграномам саўгаса імя Янкі Купалы ў г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на (1968—1971), загадчыкам філіялала Літаратурнага музея імя Янкі Купалы ў Вязынцы (1971—1978), старшым навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа (1978), загадчыкам кнігарні пісьменніка (1978—1982). З 1982 — у Літаратурным музеі Якуба Коласа. Друкаваўся з 1958 г. Пісаў пераважна для дзяцей і юнацтва. Аўтар кніг: «Жывы куток» (1962), «Віця Сітніца» (1964), «Тры сонцы» (1971), «Чырвоныя зоркі на танках» (1974), «Навальнічная паласа» (1979), «Зоркі на танках» (1982), «Святло чароўнай зоркі» (1989). Пахаваны ў Калодзішчах Мінскага р-на.

**Вёска Камсамолец** Доўгаўскага сельсавета

Месца размяшчэння рэдакцый падпольных газет «Звязда» і «Чырвоная змена».

**Вёска Краснадворцы,** цэнтр сельсавета

**Шкрабы Рыгора** (17.3.1919—25.6.1997), пісьменніка, крытыка, радзіма. У 1939 г. паступіў на філалагічны факультэт БДУ. У час Вялікай Айчыннай вайны — настаўнік Слабода-Турынскай сярэдняй школы ў Свярдлоўскай вобласці. Скончыў БДУ у 1946 г. Спачатку працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», а ў 1957—1979 гг. — рэдактарам аддзела крытыкі і літаратуразнаўства ў часопісе «Полымя».

Друкаваўся з 1945 г. Выдаў кнігі: «Сіла слова» (1958), «Характар, стыль, дэталь» (1965), «Літаратура і мова» (1969), «Скарбы» (1973), «Энергія слова» (1988), «Моваю вобразаў: Выбранае» (1989). Аўтар падручнікаў «Беларуская савецкая літаратура» для 9 (1-е выд. — 1974 г.) і 10 (1-е выд. — 1975 г.) класаў. Суаўтар падручніка-хрэстаматыі для 4 класа сярэдняй школы (1978). Суаўтар тлумачальнага слоўніка прыказак і прымавак «Крынічнае слова» (1987, з І. Шкрабам).

**Вёска Крывічы** Краснадворскага сельсавета

**Гурыновіча Хведара** (н. 14.9.1950), беларускага і рускага паэта, радзіма. Скончыў БДУ (1981). Працаваў на будоўлі, на Мінскім электратэхнічным заводзе, у рудаўпраўленні і на рамонтна-механічным заводзе ў Салігорску. З 1986 г. — у газеце «Калійшчык Салігорска». Друкуецца з 1969 г. Аўтар зборнікаў «Хлеб і соль» (1980), «Шматгалосная кветка» (1983), «Дачыненне» (1991), «Вішня цвіце» (1992), «Што я ўнуку скажу» (1996), «Запрашаю пад дождж» (2000), «Год — как жизнь, жизнь — как год» (2009), «Застаецца вера» (2010) і інш., кніг для дзяцей «Пасадзім па дрэўцу» (1993), «Птушыная азбука» (1997), «Лес на далоні» (2001) і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).

**Вёска Кулакі** Чыжэвіцкага сельсавета

**Дзялендзіка Анатоля** (н. 4.3.1934), драматурга, пісьменніка, радзіма. Скончыў Мінскі медінстытут (1957), Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1969). У 1943 г. — разведчык у партызанскім атрадзе. Працаваў урачом-псіхіятрам. У 1968—1980 гг. на кінастудыі «Беларусьфільм». Друкуецца з 1955 г. Аўтар зборнікаў «Пагібель "Тытаніка"» (1963), «Аперацыя "Мнагажэнец"» (1981), «П'есы» (1985), «Дамы покупают кавалеров» (1998), «Грэшніца» (1998); драм «Выклік багам» (паст. у 1965), «Грэшная любоў» (паст. у 1967), «Начное дзяжурства» (паст. у 1970), «Гаспадар» (паст. у 1984); камедый «Абы ціха» (паст. у 1964), «Амазонкі» (паст. у 1972), «Аперацыя "Мнагажэнец"» (паст. у 1974), «Гіпапатам»

(1981), «Аўкцыён» (паст. у 1988), «Дурнічка» (паст. у 1996), «Султан Брунея» (паст. у 1997), «Заморскі жаніх» (паст. у 1998), шэрагу аднаактовых п'ес. Напісаў сцэнарыі тэлефільмаў «Спазнай сябе» (1972), «Блакітны карбункул» (1979), мастацкіх фільмаў «Заўтра будзе позна» (з М. Крно, 1973), «Нязручны чалавек» (1985), «Ваўкі ў зоне» (1990), радыёп'ес. Старшыня бюро секцыі драматургіі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Кулакоўскага Аляксея** (11(24).12.1913—9.4.1986), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1931 г. скончыў Рагачоўскую прафтэхшколу і некаторы час загадваў дрэваапрацоўчай арцеллю ў Касцюковічах на Магілёўшчыне. З гэтага ж года перайшоў на журналісцую работу — адказны сакратар шматтыражкі, загадчык аддзела клімавіцкай раённай газеты «Камуна», потым — адказны сакратар жлобінскай раённай газеты «Чырвоная змена». У 1936—1939 гг. вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, пасля заканчэння выкладаў у Цяцерынскай сярэдняй школе на Магілёўшчыне. У канцы 1939 г. быў прызваны ў Чырвоную Армію. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля дэмабілізацыі (1945) працаваў загадчыкам аддзела ў газеце «Сталинская молодёжь», адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва», загадчыкам аддзела ў часопісе «Беларусь». У 1953—1958 гг. — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць». Быў намеснікам адказнага сакратара, адказным сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР (1965—1976). З 1977 г. — дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Друкаваўся з 1932 г. Аўтар кніг «Сад» (1947, апавяданні), «Гартаванне» (1949, аповесць), «Новыя сустрэчы» (1950, апавяданні), «Хораша ўзыходзіць сонца» (1952, апавяданні і аповесць), «Растаёмся ненадоўга» (1955, раман), «Незабыўнае рэха» (1956, апавяданні і аповесць «Нявестка», па матывах якой А. Макаёнак напісаў сцэнарый мастацкага фільма «Шчасце трэба берагчы», пастаўленага ў 1958 г.), «Да ўсходу сонца» (1957, аповесць), «Тут я жыву» (1960, аповесць), «Зоркі салігорскія» (1960, нарыс), «Сустрэчы на ростанях» (1962, раман), «Салігорцы» (1964, нарысы), «Першае чаканне» (1965, аповесць і апавяданні), «Расце мята пад акном» (1966, аповесць), «Чыстая мураўка» (1968, апавяданні і гумарэскі), «Твой шлях перад табою» (1968, аповесць і апавяданні), «Сцежкі зведаныя і нязведаныя» (1974, раман), «Васількі» (1979, раман), «Родныя шыроты» (1978, аповесць і апавяданні), «Аповесці і апавяданні» (1979), «Маршрут ад Клічава» (аповесць, 1983), «Хлебарэз» (аповесць, 1983), «Белы Сокал: Аповесці» (1985), «Тры зоркі: Аповесці» (1988). У 1970—1971 гг. выйшаў збор твораў у 4-х тамах, у 1984 — выбраныя творы ў 2-х тамах. Для дзяцей выдаў зборнік апавяданняў «На возеры» (1950). Зрабіў літаратурны запіс кнігі В. Казлова «Людзі асобага складу» (1952). Перакладаў на беларускую мову творы рускіх, украінскіх, узбекскіх і інш. пісьменнікаў. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

**Чарнышэвіча Аркадзя** (26.7(8.8).1912—18.1.1967), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Па заканчэнні Старобінскай сямігодкі (1928) памагаў бацькам па гаспадарцы. У 1930—1950 гг. працаваў рабочым на лесараспрацоўках, настаўнічаў у Пермскай вобласці. Завочна скончыў Кудымкарскае педагагічнае вучылішча (1940). У 1950—1954 гг. — дырэктар Насовіцкай пачатковай школы ў Свірскім р-не (цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл.). З 1954 г. жыў у Радашковічах, потым пераехаў у Мінск. Друкаваўся з 1940 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Суседзі» (1956), «Марцін Когут» (1958), «Праз зімы і вёсны» (1960), «Новы дом» (1967), «Апавяданні» (1970), раманаў «Світанне» (1957), «Засценак Малінаўка» (1964, 1; 1965, 2), а таксама твораў для дзяцей, аповесцей «У адной сям'і» (1951), «На сажалках» (1954), зборнікаў апавяданняў «Зосін лужок» (1952), «Апавяданні старога Арцёма» (1958), «Складанец» (1969). У 1979 г. выйшлі выбраныя творы ў 2-х тамах. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***



# Бярозка

№ 3/2012(1006)







**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**








# «Ходзіць вецер веснавы...»

### Вершы ўдзельнікаў XVII абласнога злёту юных талентаў Міншчыны

## Я — выратавальнік

Я зялёны лес малюю,
Яркіх фарбаў не шкадую,
Жоўтым колерам — каткі,
Сонца родныя браткі.
Сінім колерам — пралескі,
Што смяюцца на ўзлеску,
Зыркім колерам чырвоным
Зіхацяць увосень клёны.
Яркагронкія рабіны
І брусніцы, журавіны
Даспяваюць на імхах,
Цуд прыроды! Проста ах!
Незвычайнай прыгажосці
Беларускія лясы,
На ўзлеску пад ялінай
Расцвітаюць верасы.
Раз мазок, другі і трэці...
Горкі пах даносіць вецер.
Мой малюнак пачарнеў,
Дрэвы голле звесілі,
Лес глядзіць нявесела.
Я малюнак ажыўлю —
Дождж на яго нашлю,
Зноўку стане лес зялёным,
Засмяюцца елкі, клёны.
Кветкі зноўку расцвітуць
Пчолкі, мушкі загудуць.
Сёння я — выратавальнік
І зямлі сваёй стваральнік.

***Мікіта Камоцкі,***
***Вялікаўхалодская АСШ,***
***6 клас***

## Верш

Сонца ўжо высока ззяе,
Скіну шапку з галавы.
Не мяцеліца гуляе —
Ходзіць вецер веснавы.
Пэўна, ёсць бярлога ў лесе,
Там мядзведзь да сонца лезе.
Ну, а зайка-белячок
Футра зменіць ды наўцёк!
Паламаўся лёд на рэчцы
І кудысьці плыў і плыў...
Каля кусціка падснежнік
Вочкі сінія адкрыў.

***Аляксандр Дуровіч,***
***Ільянская АСШ, 6 клас***

## Цуда-праменьчык

Неяк раз праменьчык сонца
Глянуў у маё аконца,
На падлозе пагуляў,
Сеў на ложак і сказаў:

— Хопіць табе, Насця, спаць,
Бо даўно пара ўставаць.
Я вачэй не адрывала,
Што будзе далей чакала.

А праменьчык паўздыхаў,
Сеў на нос, паказытаў,
На падушку перабраўся,
На фіранцы пагайдаўся.

Я рашыла, што яму
Вельмі сумна аднаму.
Я да промня падышла,
За руку яго ўзяла.

І мы з ім, як сябрукі,
Разам беглі да ракі,
У рацэ купаліся,
Весела смяяліся.

Раптам хмарка прыляцела,
На ўсіх строга паглядзела,
Нешта сонейку сказала —
І праменьчыка не стала.

Я без промня сумавала,
Ўсюды я яго шукала,
Ды дарэмна — не знайшла
І дамоў адна пайшла.

***Настасся Чарнавус,***
***СШ № 4 г. Мінска, 4 клас***

## Дзед Мароз

Хто зіму сюды прынёс?
— Я — сярдзіты Дзед Мароз.
Валасы мае са снегу,
Барада і вусы — з лёду.
Дзе прайду — нябачна следу
І няма нікому ходу.
Дзе ўшчыкну — пачырванее.
Дзе ўхаплюся — пасінее.
Дык бяжы дахаты, грэйся
Ды глядзі ў акно і смейся.

***Надзея Шыбко,***
***Любанская гімназія № 1,***
***8 клас***

## Мая Случчына

Нішто не вабіць так,
Ні водбліскі мораў,
Ні гарады чужыя,
Ні замкі цароў,
Як мілая, родная сэрцу мясціна,
Дзе пяе слаўны птах,
Дзе радзіма бацькоў,
Дзе гучаць калыханкі,
Дзе хата мая,
Дзе матуля жыве,
Дзе Случ серабрыцца, крынічкі ліюцца,
Дзе людзі на гора заўжды адгукнуцца,
Дзе лясы ахінаюць спакоем і цішай,
Дзе абшары палёў ледзьве ветрык калыша,
Дзе зямля мая потам, крывёю паліта,
Дзе народ працавіты,
Дзе ў высі блакіту
Белы бусел плануе
Павольна, адкрыта —
Гэта ўсё мая Случчына,
Край, што мне мілы.
Ты радзіма, якой
Ганаруся я шчыра!

***Настасся Шкудун,***
***Гольчыцкая СШ, 9 клас***

## Без чаго немагчыма жыццё?

Без чаго немагчыма жыццё,
Без здароўя, сяброў.
І што, усё?
Не.
Без матулі, татулі,
Каб спявалі нам «люлі».
Без песень і плясак,
Без гумару, казак.
Без гульняў, вяселляў
І дзён нараджэнняў.
Нават без гора,
Але каб не цэлае мора.
І усё гэта тое,
Вельмі нам дарагое,
Без чаго немагчыма жыццё.

***Вікторыя Кур'ян,***
***Нясвіжская беларуская гімназія,***
***8 клас***

# У госці ў дзіцячы прытулак

***На маё пытанне: «Як жывецца ў прытулку?» дзеці адказвалі: «Нармалёва! І выхавальнікі добрыя, асабліва Валянціна Пятроўна, і гатуюць смачна, і сябры ёсць». Яны дружна дзяліліся сваімі гісторыямі, распавядалі, з-за чаго сюды трапілі. У кагосьці бацькі ляжаць у лякарні, у кагосьці п'юць, а некаторых адпраўляюць сюды з-за рамонту ў доме.***



Гэта сацыяльна-педагагічны прытулак майго роднага горада Смілавічы. Дзяцей тут пакідаюць на некалькі месяцаў, на год ці больш. Нядаўна сюды прыязджалі амерыканцы, раздавалі дзецям падарункі, імкнуліся чым-небудзь дапамагчы. Вось і я вырашыла схадзіць сюды, пазнаёміцца з дзеткамі і калі не матэрыяльна дапамагчы, то хоць паказаць, што яны патрэбны гэтаму свету.

Адчыняю дзверы. Сэрца замірае, а ў галаве круцяцца думкі: «Як мяне ўспрымуць дзеці? Ці захочуць размаўляць? Ці спадабаюцца цацкі, якія я хачу падараваць?» Падымаюся па лесвіцы і накіроўваюся да выхавальнікаў. Мяне сустракаюць ласкава, праводзяць у пакой для чакання дзяцей. Пакой абстаўлены просценька, нічога лішняга: у сярэдзіне стаіць вялікі зялёны стол, злучаны з настаўніцкім, у левым куце — тумбачка, на ёй клетка з чорна-белым пацуком. Каля сцяны з левага боку — маленькія зялёныя крэслы. Я прысела ў адно з іх, чакаю дзетак. І вось пакой напаўняецца дзіцячымі галасамі. Кладу на стол свае цацкі, кожны спрабуе ўхапіць лепшую. Ніколі не бачыла, каб дзеці так радаваліся! Але больш за ўсё мяне здзівіла, што не я пачала размаўляць першай, а яны. Кожны спрабаваў распавесці пра сябе, неяк прыцягнуць увагу. Дзеці разглядалі мяне з ног да галавы, некаторыя садзіліся на калені, а іншыя проста гулялі з новымі падарункамі...

Увесь час каля мяне стаяў адзін хлопчык дзевяці гадоў — **Мацвей Скуратовіч**. Ён дастаў з клеткі пацука і прапанаваў патрымаць яго. Я з задавальненнем пагадзілася, узяла грызуна. «Трымайце моцна, а то ён можа ўцячы!» — сказаў Мацвей. Хлопчык глядзеў на мяне сваімі яркімі карымі вачыма праз

акуляры, трохі паламаныя, але ўмацаваныя скотчам.

Родны дом Мацвея ў вёсцы Хвойнікі. Яму падабаецца ў прытулку, але ён вельмі сумуе па маме, тату і маленькім брацiку. Пакуль Мацвей жыве тут, ён вучыцца ў другой Смілавіцкай школе. Хлапчук не вельмі любіць вучыцца, але ўсё ж ёсць у яго ўлюбёны прадмет — фізкультура. І на галаве гэты дзіўны Мацвей стаяць умее!




Ён узяў мяне за руку і павёў у свой пакой. Паказаў, на якім ложку спіць. Затым дастаў са скрынкі шэсць мяккіх цацак і акуратна склаў іх на ложку. «Я заўсёды іх так складваю! Тут у мяне мала цацак, а вось хата для іх — цэлая канапа!»

У гэтым прытулку ён ужо трэці раз, а адпраўляюць хлопчыка сюды, таму што яго маці п’е. Мне стала шкада Мацвея: ён яшчэ зусім малы, а ўжо адчувае душэўны боль. Бацькі не часта наведваюць сыночка, толькі тады, калі атрымліваецца, але ён усё роўна іх любіць, бо яны мама і тата — самыя блізкія людзі.

Калі я прапанавала Мацвею перадаць праз наш часопіс прывітанне бацькам, ён сказаў, што лепш напіша на лістку. І сваёй дзіцячай рукой стаў выводзіць літары ў маім нататніку.

Гэты паход у прытулак я запомню назаўсёды, асабліва маленькага хлопчыка Мацвея.

Хлопчыкі і дзяўчынкі, якія жывуць тут, маюць патрэбу ў нашай дапамозе. Не думайце, што вы нічым не можаце ім дапамагчы! Кожны з нас здатны нешта зрабіць. Хай гэта будзе нават не матэрыяльная падтрымка. Можна ж проста прыйсці пазнаёміцца з дзеткамі, пагаварыць з імі. Тым самым вы пакажаце, што яны не адны, што іх любяць і хочуць пра іх клапаціцца.

*Марыя СЯЦКО,*
*Смілавічы, 18 гадоў, фота аўтара*

# Малодшая сястра: вораг?.. Ды не, сяброўка!

***Лялькі заліты тваёй парфумай, а памадай — таксама тваёй! — намалявана цэлая «карціна». Мець малодшую сястрычку — гэта радасць? Не, скажаш ты, гэта выпрабаванне! Але ж сакрэт у тым, што з любой праблемай можна пасябраваць!***



## Хто ў хаце гаспадар?

У цябе ёсць свой пакой, асабістыя рэчы, камп'ютар. Ты ходзіш у школу, выконваеш хатнія заданні, сустракаешся з сябрамі. І раптам... У адзін дзень усё мяняецца, калі ты чуеш ад маці: «У цябе хутка будзе сястрычка». Вядома, для бацькоў гэта радасць. Але ж табе дзяліць сваю асабістую прастору ні з кім не хочацца! І чамусьці замест таго, каб пацешыцца за маці, ты закочваеш істэрыку: «А пра мяне вы падумалі? Як я буду рыхтаваць урокі?»

І вось ты прыходзіш дахаты з вучобы, уключаеш MP3-плэер, абы не чуць «гэты жахлівы крык» сваёй малодшай сястрычкі, і робіш выгляд, што табе ўсё роўна. А далей — яшчэ горш... Твая сястра становіцца старэйшай, а ты разумееш, што сутыкаешся з новымі праблемамі. Яна пачынае псаваць твае рэчы. Па тэлефоне ты не можаш паразмаўляць ні з кім: сястра патрабуе, каб ты дала ёй сказаць некалькі слоў гэтай «цётцы» або «дзядзьку». Вядома, ніякай размовы і быць не можа пра тое, каб кагосьці паклікаць у госці.

«Якія агульныя інтарэсы ў мяне могуць быць з сястрой? Ніякіх!» — так думаеш ты. І таму ўсяляк пазбягаеш просьбы пагуляць з ёй або дапамагчы з хатнім заданнем па матэматыцы. У цябе няма часу ўнікаць у асаблівасці матэматыкі для пачатковых класаў. І зусім не хочацца важдацца з яе лялькамі.

Але... Ты ніколі не думала, што сама ствараеш сабе праблему?! Бо, па сутнасці, праблемы не існуе! Так-так, не здзіўляйся. Проста ты ўпар-

цішся і не жадаеш пасябраваць са сваёй «праблемай»! Лічыш малодшую сястру ворагам? А паспрабуй стаць для яе сяброўкай! Думаеш, што гэта немагчыма?

## У маім сэрцы і для цябе месца знойдзецца!

Наталля ніколі не думала, што апынецца ў такой сітуацыі: калі пачуваешся чужой, кінутай і нікому не патрэбнай... Здарылася гэта тады, калі ў іх сям'і стала на аднаго чалавечка больш. Неяк маці заявіла: «У цябе будзе сястрычка». Наталля не паверыла. Здавалася, маці ўжо не ў тым узросце, каб нараджаць.

Яна рыхтавалася да ўрокаў, а за зачыненымі дзвярыма чуўся плач малодшай сястрычкі Волечкі. Калі малая крыху падрасла, то стала стукацца ў гэтыя зачыненыя дзверы. Наталля выглядала стомленай, не высыпалася. Але выказаць сваю незадаволенасць маці яна не магла.

Калі малодшай сятрычцы споўнілася шэсць гадоў, бацькі аддалі яе ў школу. Кожны дзень Натальля прыходзіла і забірала сваю сястру. Усе ўжо прызвычаіліся да таго, што Вольгу кожны дзень забірае маладая і прыгожая маці. Але аднойчы... «Наташка!» — крыкнула, падбягаючы да старэйшай сястры Волечка. Аднакласнікі і настаўнік дзяўчынкі сталі здзіўлена глядзець на «маці Наталлю», а потым спыталі: «А чаму ты завеш маці “Наташкаю”?» Дзяўчынка не ведала, што адказаць. Але на дапамогу прыйшла Наталля: «Мы сёстры. Не глядзіце, што яна мне ў дачушкі падыходзіць. Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце, адчуваю сябе маці для сваёй сястры. Таму што нясу за яе не меншую адказнасць, чым бацькі».

Той дзень нешта вырашыў для Наталлі. Яна зразумела, што паводзіла сябе з сястрой няправільна, ігнаруючы яе. І зразумела, што трэба перамяніць сваё стаўленне да той сітуацыі, якая склалася.

У Наталлі ўжо свая сям'я і дзеці. Вольга канчае сёлета адзінаццаты клас. Вельмі часта дарадцам і праўдзівым памагатым для яе становіцца менавіта Наталля, а не маці. «Галоўнае — знайсці агульную мову са сваёй сястрой. І не важна, якая розніца ва ўзросце. Яна можа стаць незаменнай сяброўкай...» А яшчэ Наталля прызнаецца, што менавіта дзякуючы сваёй малодшай сястры яна навучылася разумець дзіўны дзіцячы свет.

*Кацярына БЯДУЛІНА*



# Black & white як складнікі існасці

### *DeathSaint — «Шляхам Ваўкалака», С-Пб., 2010, Fono Ltd.*




Пакуль нашы радыёдзіджэі расказваюць байкі пра нефарматнасць беларускага маскульта і пра недастатковую ягоную якасць, зусім пра іншае сведчаць поспехі айчыннай папулярнай музыкі сярод адмыслоўцаў фанаграфіі блізкага і далёкага замежжа: альбомы «Уліса» ў Польшчы і Расіі, Kriwi ў Германіі і Чэхіі, Troitsa ў Галандыі і Польшчы, «Крамы» ў Вялікабрытаніі, «Неруша» ў Нарвегіі, Deviation у Францыі. Ды што казаць, калі расійскі метал-лэйбл Coyote records выдаў маштабны бокс-сэт (4CD) поўнай дыскаграфіі гурта Znich, караля нацыянальнага экстрыму, а піцерская фірма Sketis music дык і ўвогуле нашпігавала пад завязку свой каталог альбомамі нашай этнікі (мінская «Троіца», гомельскі «Бан Жвірба», магілёўская Osimira). Нехта скажа: «Ну гэта ж кіты, хто з імі паспрачаецца!» Але не адстае і маладняк, бо той жа Coyote records першым адкрыў меламанам талент гомельскіх «Дзядоў» і мінскага «Пярэваратня», а зусім нядаўна на сцэне сталічнага клуба «Рэактар» паспяхова выступіў нікому тут невядомы, але ў кампаніі грандыёзнай заманухі Znich і LitvinTroll, мінскі гурт DeathSaint. Невядомы, але альбомчык у Піцеры паспеў выдаць. І попыт на той альбом быў вялікі.

Зрэшты, песімісты знойдуць прычыны для папрокаў: маўляў, ведаць не ведаем ніякага Fono Ltd. Але мы прыгадаем знакамітага Жуля Верна («Калі вы чагосьці не ведаеце, дык тое не азначае, што гэтага няма»), бо альбом «Шляхам Ваўкалака» мінскіх меладычных дэз-блэкераў атрымаў на фірме каталогавы нумар FO823CD, што нашмат пераважае нават наш БМАgroup. Адкуль такі давер выдаўцоў да маладога калектыву, я зразумеў яшчэ на канцэрце, калі яны выплеснулі ў перапоўненую залу шквал адметных меладыйна-рытмічных фантазій, аздобленых ёмістымі сацыяльнымі алегорыямі нэа-фольку.

Калі мясцовыя метал-каментатары лёгка падсядаюць на закінутую звонку тэрміналагічную эквілібрыстыку (NSBM, OSBM, BRSM, ВДНГ), дык акурат тут варта было б распачаць гаворку пра БелСБМ (Belarusian School of Black Metal),

бо ідэалогія нашага блэку і дэзу, якая базуецца на спрадвечным паганскім пантэоне, не мае патрэбы сягаць у дрыгву антыхрысціянскага цемрашальства, сатанізму ці іканаборства.

Больш за тое, наш блэк-метал («Пярэварацень», Karaczun ці фрагментамі DeathSaint) калі і закранае цёмныя сілы, дык у аспекце фэнтазійнай філасофіі нэа-фолькy. Карацей, як продкі наканавалі, у якіх і Пярун, і Сотвар аднолькава шанаваныя, бо зло і дабро такія ж натуральныя процілегласці чалавечай натуры, як ноч і дзень, цяплынь і холад, гора ды радасць, нараджэнне і смерць. Усё гэта — непазбежныя складнікі чалавечых выпрабаванняў на шляху вечнай душы да лепшай долі (ці лепшай кармы новых выпрабаванняў), а лёс ваш вызначае толькі адэкватнае стаўленне да ўсяго гэтага. Прасцей кажучы: вы ж не станеце глядзець чорна-белае кіно ў нейкім адным ракурсе — толькі белым ці толькі чорным. Адэкватныя ўражанні можа пакінуць акурат еднасць процілегласцей. А такіх процілегласцей процьма. Вось і DeathSaint, які, зрэшты, ужо назвай сваёй хоць і зафіксаваў большую схільнасць да melodic death metal, а не black, у песні «Час расплаты» задумваецца, ці здольны мы, беларусы, слушна вырашыць банальнае пытанне сваіх і чужых сярод нас (а вось тут у тэме акурат black, а не death):

> Веру ў факт, што не будзе спакою,
> Пакуль не адрозніш: сваё ці чужое…

А гэта ж лёсавызначальная дылема ўладкавання свету пасля развалу Вавілонскай вежы, калі пэўны народ сваім ключом не можа сваю хату адчыніць. Толькі чужым. І потым дзівіцца, што няма спакою.

Песні «Ваўкалак-Чарадзей», «Волат Тур», «Прывід бяды», «Белая Русь» ды іншыя не забаўляльную місію выконваюць, а вырашаюць грунтоўныя сацыяльныя задачы.

«Шляхам Ваўкалака» з першых акордаў чапляе празрыстымі хітовымі рытмамі, якія і на канцэртах ствараюць пераканаўчы настрой патрэбы яднання. На гэтай глебе ў іх неўзабаве з'явяцца фан-клубы.

У іх? А хто ж яны такія? DeathSaint — гэта лідар-гітарыст Андрэй Аляксандраў, рытм-гітарыст Зміцер Рудамыла, бас-гітарыст Іван Броўка, бубнар Уладзімір Купрацэвіч ды вакаліст Ільля Шайкоўскі.

Нельга абысці ўвагай і адзін парадаксальны рэкорд гэтай кружэлкі — працягласць. Калі раней толькі гурт Indiga бянтэжыў сваіх прыхільнікаў кароткімі рэлізамі (альбом «Дні» ў іх няпоўныя 27 хвілін, а сінгл «Заенька» — няпоўныя 26), дык DeathSaint уціснуў свой міні-альбом «Шляхам Ваўкалака» ў 22 хвіліны. Але гэта не зашкодзіла ўвазе публікі на першых прэзентацыях, бо прага мацней за смагу. І ў кнігу «222 альбомы» гэтыя 22 хвіліны абавязкова трапілі б, каб час не ляцеў наперад. Бо могуць хлопцы стварыць прывабны цымус.

*Вітаўт* ***МАРТЫНЕНКА,***
***музычны крытык***

# Школа vs тэатр

***Сноўскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе нядаўна споўнілася 145 гадоў. Ці трэба адзначаць, якая гэта была падзея! Святкаванне юбілею адбывалася пры ўдзеле мясцовага школьнага тэатра, які быў намінаваны на званне народнага. «Бярозка» запрасіла сноўцаў у госці.***



*Рэжысёр і акцёры.*

## Іна ВІННІК, настаўніца літаратуры:

— Я прыйшла працаваць у Сноўскую школу, вядомую далёка за межамі раёна, у 1994 годзе. Цяперашні кіраўнік нашага школьнага тэатральнага гуртка Аляксей Дунчанка ў той час быў высокім худзенькім Лёшам з 8 «Б». Праўда, вельмі актыўным, артыстычным і ўвогуле нестандартным хлопцам. Мне пашанцавала: я яго не вучыла. Чаму пашанцавала? Таму што я пазбегла яго жартаў пра маладых настаўнікаў, у якіх не ўсё атрымліваецца. Працавала з 8 «А», і там у мяне сапраўды выходзіла не вельмі, хаця ў пятых класах праблем не было.

Аляксей пайшоў са школы пасля дзявятага. Некалькі разоў я сустракала яго ў электрычцы, і ён распавядаў мне пра сваю мару — стать артыстам. Я маўчала, каб яго не пакрыўдзіць, і думала: «Бедны хлопчык! Мала аднаго таленту і жадання, каб паступіць у такую ВНУ». Але прайшлі гады, і «бедны хлопчык» — таленавіты акцёр і рэжысёр з «чырвоным» дыпломам Акадэміі мастацтваў, пераможца многіх абласных і рэспубліканскіх конкурсаў. І сёння я, педагог-літаратар з 18-гадовым стажам, адчуваю сябе «беднай дзяўчынкай», стоячы на сцэне і выслухоўваючы яго заўвагі пра тое, як трэба стаяць, гаварыць і нават сачыняць, хоць я вучу гэтаму дзяцей каторы ўжо год.

Але я падпарадкоўваюся яго патрабаванням, бо на сцэне ён прафесіянал. Мы ўжо зрабілі з ім і настаўніцай хіміі Вольгай Даўшко, а таксама кіраўніком вакальнай студыі Ігарам Гарбачовым і кіраўніком танцавальнага гуртка Тамарай Сямёнавай мноства праектаў. Тэатралізаванае прадстаўленне да 145-годдзя школы, музычная пастаноўка «Фота далёкай вайны» (I месца ў раённым конкурсе), меладэкламацыя «Лісты» (дыплом пераможцаў абласнога конкурсу «Суквецце талентаў»), тэатралізаванае прадстаўленне на абласны і рэспубліканскі конкурсы «Ёлка-фэст-2011» і «Ёлка-фэст-2012» (дыпломы «За арыгінальнасць рэжысуры і артыстызм», «За адраджэнне нацыянальных традыцый і прафесіяналізм», «Лепшая сюжэтна-іграваая праграма» III ступені). У тэатральнай скарбонцы Аляксея Аляксандравіча нямала пастановак: школьныя інтэрмедыіі «Калі не мы, то хто? А калі...», «Карнавальная ноч у Місініі, або Шмат шуму з нічога» паводле Шэкспіра, «У пошуках “Лятучага галандца”», «Аднойчы зімовым вечарам» па матывах твораў беларускіх пісьменнікаў, «Канстанта кахання» па матывах твораў пісьменнікаў і драматургаў 1960-х, «Божыя кароўкі вяртаюцца на зямлю» паводле п'есы Сігарава, «Галгофа» паводле п'есы Азарава, мюзікл «Кошкін дом» паводле Маршака.

### Ганна ПАЎЛЮЧОК, 10 «А» клас:

— Больш як 20 мільёнаў людзей сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій, больш за 1 000 храмаў было знішчана. У пастаноўцы «Галгофа» паказана ўся гэта страшная праўда. Уся жорсткасць, бесчалавечнасць і разам з тым — рэальнасць: менавіта так ставіліся да людзей у турмах, на допытах. У «Галгофе» мы перамяшчаемся і на шмат стагоддзяў назад, у далёкае мінулае — каб стаць не толькі сведкамі, але і міжвольнымі ўдзельнікамі тых падзей.

У гэтай пастаноўцы я выконвала ролю жанчыны-верніцы, Надзеі, дух і вера якой не былі зломлены ў турме, а толькі ўзмацніліся. У гэтай гісторыі адлюстраваліся розныя лёсы. Напрыклад, лёс дзяўчыны, якая была арыштавана за ліставанне з жыхаром Германіі. А другую гераіню пакаралі за тое, што яна давала хворым крыжыкі. Гэтую ролю іграла мая настаўніца літаратуры Іна Рычардаўна. Яшчэ адна настаўніца малодшых класаў, Таццяна Жукоўская, вельмі пераканаўча сыграла ролю манахіні-ігуменні. Дзякуючы пастаноўкам мы ведаем сваіх настаўнікаў з іншага боку, збліжаемся з імі і нават робімся сябрамі. Праўду кажуць, што артыст — гэта не прызванне, а стан душы.



*Сцэна «Кірмаш».*

## Аляксандр ТЭН, 10 «А» клас:

Я вельмі люблю іграць на сцэне, а калі дакладней, жыць. Сцэна — гэта мой другі дом. Сцэна — гэта мой чароўны свет. У тэатральным гуртку ў Аляксея Дунчанкі я займаюся ўжо 5 гадоў. Ён навучыў мяне, што перш чым іграць, трэба адчуць. У сцэнічнай песні «Яна і ён» у маім выкананні ўсё пачыналася так...

Аднойчы Аляксей Аляксандравіч пачуў у маім выкананні песню «Яна і ён», якую мы рыхтавалі да канцэрта з Ігарам Гарбачовым, кіраўніком вакальнай студыі «Арт-полюс». І прапанаваў паставіць на гэту песню сюжэтны нумар. Мы разам абмяркоўвалі, прыдумлялі і прыйшлі да адной думкі. Для пастаноўкі спатрэбілася танцавальнае афармленне. Я звярнуўся па дапамогу да свайго харэографа Тамары Сямёнавай і дзяўчат з нашага танцавальнага калектыву. Але гэтай дапамогі было мала. Мне спатрэбілася дапамога маёй любай дзяўчыны.

Сюжэт такі. На сцэне стаіць мальберт. Калі пачынае гучаць музыка, з'яўляюся я — мастак з загадкавым паглядам, які шукае музу. Я пачынаю маляваць у паветры, а потым, заўважыўшы мальберт, спускаюся з нябёсаў на зямлю. І пачынаю маляваць, шукаць у зале рысы той, адзінай і непаўторнай. Нічога не атрымліваецца. Не яна. Я выходжу на авансцэну і раптам адчуваю яе спінай, абарочваюся — яна стаіць каля мальберта. Падымае вочы, я перахопліваю яе пагляд. Яна палохаецца і знікае. Застаўшыся на сцэне адзін, я хутка накіроўваюся да мальберта і пачынаю маляваць. Яе. На апошнім прыпеве я разварочваю мальберт да залы і пачынаю размаўляць з партрэтам, пасля бяру яго ў рукі і саджуся на падлогу, а танцоўшчыцы парасонікамі захінаюць мяне ад гледачоў. Дзіва... Калі танцоўшчыцы ўзнімуць парасонікі, глядач убачыць тую самую, што на партрэце, з партрэтам у руках. Яна ставіць партрэт на мальберт і падае мне руку.

Я выступаю шмат, і заўсёды гледачы рэагуюць бурнымі апладысментамі.

Адчувайце, і ў вас атрымаецца не горш.

## Андрэй СТАШЫНСКІ, 10 «А» клас:

— Я ніколі не думаў, што пачну захапляцца тэатрам. Аднойчы Аляксей Аляксандравіч прапанаваў мне адну з галоўных роляў у новай пастаноўцы «Божыя кароўкі вяртаюцца на неба». Папрасіў прыйсці на рэпетыцыю. Я нерваваўся. Проста не ведаў, што такое тэатр.

На першай рэпетыцыі Аляксей Аляксандравіч у агульных рысах распавёў, чаго ён ад мяне хоча, растлумачыў сэнс пастаноўкі. Мне гэтая задума спадабалася. Я пагадзіўся. І на той самай рэпетыцыі атрымаў сцэнарый. А калі прачытаў, нешта ўнутры быццам перавярнулася. У мяне ўзнікла шмат пытанняў. Гэта п'еса закранула мяне за жывое. Я загарэўся ад жадання сыграць майго героя. Яму 18 гадоў. Ён з неўладкаванай сям'і, жыве ў бедным раёне. Тата алкаголік, мама памерла. Цяжкае дзяцінства.

Рэпетыцыі цягнуліся доўга. Цяжка было сумяшчаць школу і тэатральны гурток. Але ў мяне ўсё атрымалася! На прэм'еру я павінен быў пастрыгчыся «нагала». Я не гарэў жаданнем, але прыйшлося. І вось яно — выступленне. Страшна было першы раз выходзіць на сцэну не з танцамі (я шмат гадоў наведваў танцавальны гурток), а са словамі, пачуццямі, характарам. Але ўсё прайшло бездакорна.

Тады мне было ўсяго толькі чатырнаццаць. Цяпер шаснаццаць. Я ўдзельнічаў ужо не ў адным спектаклі. І ўсе яны мне падабаюцца. Але ёсць спектакль, які пакінуў у маім жыцці самы глыбокі след. Гэта той, першы, — «Божыя кароўкі вяртаюцца на неба». Праўда, з першага складу засталіся толькі я і Аляксей Аляксандравіч, астатнія скончылі вучобу ў школе і раз'ехаліся. Але я спадзяюся, што сыграю ў ім яшчэ хаця б адзін раз.

### Кацярына ПУЧКО, 10 «А» клас:

Штогод Сноўскай сельскай бібліятэкай і Домам культуры праводзіцца тэатралізаванае прадстаўленне да Дня кнігі. Я дэбютавала ў такой пастаноўцы ў галоўнай ролі — Мухі-Цакатухі. Зала была запоўнена маленькімі гледачамі, і мы з сябрамі разумелі, што ўтрымаць увагу такой аўдыторыі няпроста. Таму прадумана было ўсё да дробязей: музыка, касцюмы, грым, дэкарацыі. Колькі працы ўкладаецца ва ўсё гэта на рэпетыцыях! Нездарма Канстанцін Станіслаўскі сказаў, што 75 працэнтаў таго, што робіцца на рэпетыцыі, у спектакль звычайна не ўваходзіць. А Аляксей Аляксандравіч лічыць, што спектакль — гэта айсберг усёй працы тэатральнай трупы.

### Таццяна ДЗІКУН, 10 «А» клас:

«Давайце пасмяёмся!» — любімы выраз Аляксея Дунчанкі, кіраўніка нашай тэатральнай студыі. З гэтага выразу мы пачынаем, можна сказаць, кожны наш спектакль. А пасмяяцца ёсць над чым. Над тым, як мы спрабуем увайсці ў ролю, як інтэрпрэтыруем аўтарскі тэкст... Іграць у тэатры асабліва цікава, калі ў пастаноўцы разам з намі ўдзельнічаюць настаўнікі. У мюзікле, які мы ставілі напярэдадні Новага года, «Кошкін дом», побач з намі на сцэне выступалі наш рэжысёр Аляксей Аляксандравіч і сацыяльны педагог Таццяна Шутко. Яны выконвалі ролі Ката і Коткі. Гледзячы на іх эмацыйнае выкананне роляў, і мы не маглі адставаць.

Мы з сябрамі доўга разбіралі ролі і спрачаліся, каму што падыходзіць. Я і падумаць не магла, што ў гэтай пастаноўцы буду Казой. Але слова рэжысёра — закон. Дзякуючы яго рэкамендацыям і прыкладам я хутка ўвайшла



*На рэпетыцыі.*

ў ролю. Мы маглі рэпетыраваць па тры гадзіны запар, але ніхто не адчуваў стомленасці і не заўважаў бег часу. Тры гады таму я не магла падумаць нават, што буду выступаць на сцэне, а цяпер не адмаўляюся ні ад якой ролі, калі выпадае шанец.

**Ганна ПАЎЛЮЧОК, 10 «А» клас:**

— У нашай Сноўскай зямлі слаўная гісторыя. Згодна з паданнямі, князь Рдултоўскі быў у гэтых мясцінах на паляванні і так быў захоплены іх прыгажосцю, што калі задрамаў на беразе паўнаводнай ракі, то ўбачыў мноства чароўных сноў. Па адной з версій і рэчку, і мястэчка таму так і назвалі — Сноў на беразе Сноўкі.

Сёння Сноў — цэнтр вялікай гаспадаркі, якая па многіх паказчыках параўноўваецца з лепшымі пазіцыямі Заходняй Еўропы. У агракамбіната ёсць тры школы — музычная, агульнаадукацыйная і школа мастацтваў, дзіцячы садок, Дом культуры, дзве бібліятэкі, два народныя калектывы. У Снове створаны ўсе ўмовы для жыцця, працы і вучобы, бо хоць памеры нашага аграгарадка і невялікія, але тут ёсць тое, чаго няма ў горадзе, — чыстае паветра, натуральныя прадукты харчавання, якія можна атрымаць на сваім падвор'і, і канечне ж, прадукцыя агракамбіната «Сноў».

## З сачынення Ганны Паўлючок «Лепшае — сваё!», падрыхтаванага да конкурсу «Мы за сваіх».

— Гучнае слова «патрыёт» кожны разумее па-свойму. Нехта ўспамінае герояў вайны, якія закрывалі сабою дзоты, нехта славіць герояў працоўных будняў, нехта... Чаму мы бачым слова «патрыёт» толькі як сінонім слова «герой»? Усё значна прасцей: у грэчаскай мове, з якой да нас гэта слова прыйшло, патрыёт азначае «суайчыннік, зямляк». Значыць, патрыёт — гэта кожны з нас; той, хто адчувае сябе часцінкай роднай зямлі, любіць яе. Любіць людзей, што жывуць побач, любіць тварэнні іх рук, любіць родныя прасторы і родную мову.

Мне пашчасціла нарадзіцца на цудоўнай зямлі. Нездарма, як кажа легенда, князь, што ехаў з палявання праз нашу зямлю, так і назваў яе — Сноў, зямля сноў. А Сноў сённяшні — гэта рэальнасць, а не сон. Тут жывуць цудоўныя людзі, якія ўкладаюць у сваю працу душу.

Самым смачным чалавеку здаецца тое, што ён еў у дзяцінстве, што клапатлівымі рукамі гатавалі яго мама і бабуля. Нашы землякі паклапаціліся пра

тое, каб смак дзяцінства можна было адчуваць заўсёды — і ў сямейнае свята, і ў кожны будны дзень. Для гэтага дастаткова купіць прадукцыю Сноўскага мясакамбіната. Вяндліна «Калядная», сноўскі зельц, крывянка. А калі хто з настальгіяй успамінае мачанку, якую еў у дзяцінстве — са свінымі парэбрынкамі, то і такія парэбрынкі, нават вэнджаныя, можна купіць у сноўскай краме з назвай, якая таксама гаворыць сама за сябе — «Кумпячок».

Мы любім наша. І гэта не нацыянальны эгаізм. Мы любім наша, таму што ў ім — цеплыня родных рук, дабрыня блізкіх сэрцаў. Мы любім наша і не скардзімся на жыццё, мы імкнёмся рабіць яго лепшым.

Мы — патрыёты!

* * *

Дзе князь Радзівіл жыў калісьці,
Ёсць лепшая ў свеце зямля.
Яна мне — дзяцінства калыска,
Малая радзіма мая.

Тут лепшыя ў свеце усходы,
Тут птушкі так звонка пяюць!
Я сэрцам тут буду заўсёды:
Тут мама і тата жывуць.

Тут добрыя, чулыя людзі
Працуюць, гадуюць дзяцей.
Мне лепшага месца не будзе,
Не будзе жаданей, мілей.

Сваім ганаруся я краем,
Стагоддзяў сівых даўнiной.
Пра край наш мы песні складаем,
Пра славу і гонар яго.

Прыгожая ўзімку і ўлетку
Радзімая вёска мая.
Ад пашаў яе і палеткаў
Мне цяжка адвесці пагляд.

Ўрачы, мастакі і міністры
Праславілі вёску здаўна.
Хацеў бы, як вырасту, чымсьці
Куток свой праславіць і я!

***Віталь ВІННІК,***
***10 «А» клас***

***Фота з архіваў Сноўскай сярэдняй школы***

● Слоўнік-алоўнік

# Адхланне



**Адхла́нне** — «кароткая палёгка ад цяжкой, працяглай працы».

І тады, у промнях барвовага захаду, паўстаюць палымяныя колеры, што прыносяць з сабою **адхланне** і спадзеў, мары і летуценні...

*Павел ГАСПАДЫНІЧ*

Маўкліва церпяць парабкі вякоў —
Ні продыху, ні **адхлання**.

*Рыгор БАРАДУЛІН*

Сэнсава блізкія словы — гэта **адпачынак, адпачын, спачын, супачынак, спачынак, спачыванне, спакой, супакой, перадышка, аддышка, аддыха, пярэдых, перадых, роздых, пастой, папас, папаска, перакур, вольная часіна**.
«Так працавалі ўвесь дзень — без супынку, без **роздыху**», — піша Мікола Ракітны.

Методыка «мульцік» для запамінання: дзелім **«адхланне»** на часткі, у кожнай частці — свая сэнсавая нагрузка. І ствараем у галаве мульцік. Нават калі мульцік фантастычны і абсурдны атрымаецца, няважна. Галоўнае выразна ўявіць і звязаць сюжэт з сэнсам слова. Можна занатаваць на паперы, падкрэсліць, вызначыць іншым колерам і вялікім памерам літар часткі каштоўнага для нас слова. Такім чынам, уяўляем! «Цяжкая праца разам з хлапчуком у полі. **АД ХЛА**пчука ўжо стамілася — адпачываю...»

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.*
*Малюнак Вольгі АЛЕЙНІКАВАЙ, 7 клас, гімназія № 25 г. Мінска*

● **Настрой**

# Прывітанне, майеўтыка!

***2 581 год таму нарадзіўся чалавек, які не напісаў ніводнай кнігі, ніводнага артыкула, ажаніўся са сварлівай жанчынай, не марыў пра багацці і нават, кажуць, хадзіў па горадзе босы, быў асуджаны, прыгавораны да смяротнага пакарання, катаваны і... застаўся ў гісторыі чалавецтва як вялікі філосаф, настаўнік, патрыёт, стваральнік цэлай філасофскай школы і сімвал маральнасці, высокага служэння сваім ідэям. Звалі яго Сакрат...***

## Паданне

Дзіўная рэч — гісторыя. Часта яна перапісваецца наноў, пераглядаецца і рэтушыруецца, але надыходзіць час — і ўсё пакрысе выбудоўваецца так, як таго заслугоўваюць падзеі і людзі. Паданне — гэта тое, што застаецца пасля таго, як адгучалі ўсе спрэчкі, і менавіта яно адлюстроўвае сапраўдную сутнасць асобы ці з'явы. Дык вось, згодна з паданнем, Сакрат нарадзіўся ў жанчыны, прафесія якой называлася так: бабка-павітуха. Яна дапамагала нараджацца на свет новым людзям, а ўжо тое, якімі яны вырасталі, залежала ад іх саміх. У аснову сваёй філасофіі Сакрат паклаў прафесію маці — дапамагаць інтэлекту людзей праяўляцца, а ўжо развіваць і выкарыстоўваць яго людзі могуць самі. Сёе-тое ўзяў вялікі філосаф і ад прафесіі бацькі, які быў каменяцёсам, — адсякаць непатрэбнае. Калі выдаляць залішняе ў працэсе навучання, можна прыйсці да высновы, што аснова ведаў — правільна сфармуляванае пытанне. Вось ён і ёсць пачатак **майеўтыкі** — метад пазнання праз пошукі асабістых адказаў на правільна пастаўленыя пытанні. Згодна з паданнем, гэты метад і лёг у аснову школы Сакрата, якая зрабіла яго імя бессмяротным, а вучняў, якія расказалі пра яго ў сваіх працах, — знакамітымі. Асабістых запісаў вялікі філосаф не рабіў, мяркуючы, што пісаніна аслабляе памяць.



## Чаго ты хочаш?

Да сябе можна на «ты». Вось і спытай: «Чаго ты хочаш?» Сакратаўскім метадам — вусна або сучасным — пісьмова пералічваем жаданні і адразу задаём наступнае пытанне: «Чаму



ты гэтага не маеш?» А я выступлю ў ролі чараўніка, таму што, не заглядаючы ў вашы спісы, адразу адкажу на другое пытанне: «Таму што ты нічога для гэтага не робіш!» Калі ты нечага хочаш, значыць, у глыбіні душы ў цябе ёсць упэўненасць, што ты гэта можаш, а калі можаш і не робіш, то не вельмі і хочаш. Падумай над гэтым і... складзі новы спіс жаданняў. Адмовіўшыся ад жаданняў, не забяспечаных дзеяннем, адразу задай наступнае пытанне: «Магу? А калі магу, то чаму не раблю?» Пасвятлела ў галаве?

Застаецца скласці парадак дзеянняў па дасягненні мэт (не жаданняў!), вызначыць тэрміны і прыдумаць прамежкавыя ўзнагароды за выкананне. Так проста? Ёсць яшчэ некалькі штрыхоў. Уяві, што ўсё пажаданае ў цябе ўжо ёсць. Як адчуванне? Прыхапі яго з сабой для выканання планаў, а на мэту — забудзься! Забудзь яе! Твая задача — атрымаць прамежкавы прыз за выкананне дадзенага канкрэтнага дзеяння.

## Сланы і жабкі

Твая вялікая мэта — слон. Уяві (няхай «зялёныя» выбачаюць), што табе трэба з'есці слана. Цалкам — задача непасільная. А калі адразаць па кавалачках, пускаючы на невялічкія біфштэксы або катлеты? Ежы на год у поўным асартыменце, і ад пераядання не памрэш. На слана-мэту забыліся, вырашаем маленькія біфштэксы-задачы і атрымліваем маленькія ўзнагароды ад пакрокавага прасоўвання да мэты. Цудоўна прыдумана! Але ёсць такія задачы, якія і вялікімі не назавеш, і пазбегнуць іх нельга, і рабіць — зусім не хочацца. Тады гэта — жабкі, нешта непрыемнае, але ядомае. Чым хутчэй з'ясі, тым смачней падасца астатняе. Невялікія непрыемныя справы выконвай адразу, ад астатніх — атрымлівай задавальненне. Зразумелая фішка? Па метадзе Сакрата мне застаецца задаць два апошнія пытанні: «Хочаш паспрабаваць выкарыстаць метад майеўтыкі ў асабістым жыцці? Тады што перашкаджае?» Працяг — у наступных нумарах.

*Нэлі КСЯНЕВІЧ*



# Тры казкі

## Рачулка

Недзе ў далёкіх гарах бярэ свой пачатак рачулка. А можа — у маленькай, чысцюткай, як сляза немаўляці, крынічцы. Ці ўтвараецца з танюсенькага ручая — шырэе, мацнее і, нарэшце, упадае ў мора.

Яна на сваім шляху то звужаецца, то пашыраецца. У адным месцы — падобна да срэбнай стужкі, якую згубіла дзяўчынка, у другім — да шырокага люстэрка, якое весела адбівае сонечныя промні.

А ёсць такая мясціна, што, як толькі трапіш туды, разумееш — ты ў казцы. У гэтай мясціне рэчка нібы запавольвае свой бег. А разам з ім і час, бо як толькі падыходзіш па пясчаным, прысыпаным markdown рознакаляровым (нібы хто пацеркі рассыпаў) каменнем беразе да вады — забываеш пра ўсё на свеце.

Ціха калышацца аер. Яго сакавіта-зялёныя, вострыя, як меч, стрэлы весела цягнуцца да сонца. На супрацьлеглым беразе раскінуліся густыя кусты, а сама рачулка так ярка зіхаціць. І плыве, плыве да мора.

Калі трохі прайсціся берагам, то можна ўбачыць, як рачулка забягае ў густы цень высокіх прыбярэжных дрэў. Як зачараваны глядзіш на гэта і бачыш, што рэдкія сонечныя промні прабіваюцца праз лісце і мігцяць на вадзе чамусьці срэбным святлом. Здаецца, зойдзеш туды і апынешся ў іншым свеце, трэба толькі ўмець убачыць.



## Воблакі

Белыя, лёгкія, як матылі, шэрыя і грузныя, ружовыя ад ранкавага і аранжавыя ад вечаровага сонца, напаўпразорыя ўначы воблакі... Яны такія розныя па сваіх памерах, па форме і колеры. Бывае, ляжыш на зялёнай аксамітавай траве і глядзіш

у неабсяжную блакітную далеч. Там, здаецца, далёка, і ў той жа час вельмі блізка, па бяскрайніх прасторах сіняга неба плывуць кудысьці чароўныя малюнкі... Вось старажытны замак з магутнымі вежамі... маладая жанчына, што ідзе па дарожцы басанож... і маленькі сабачка, які нахіліў галаву набок, і адно вуха ў яго смешна адвісла...

Воблакі... Яны падобны да караблёў, што смела плывуць насустрач цікавым прыгодам. А куды яны плывуць? Ці даведаемся мы калі-небудзь?

## Сінявочка



У ціхай лагчыне, пад старой разгалістай вярбой, жыла маленькая чыстая крынічка. Яе звалі Сінявочка. Крыштальная вадзіца ўдзень і ўночы, улетку і ўзімку бруілася з Сінявочкі і збягала ў Зялёную Сажалку, што жыла па суседстве. Зялёная Сажалка была падобна да старой паважанай жанчыны. Яна заўсёды казала Сінявочцы, што і як трэба рабіць. Ды каб яна проста казала! Яна заўсёды бурчала, нават сварылася на бедную крынічку нізавошта! Проста яна зайздросціла чысціні і прыгажосці Сінявочкі, а тая, не разумеючы гэтага, пакорна выслухвала дакоры і папрокі Зялёнай Сажалкі.

Аднойчы паблізу гэтых мясцін гуляў хлопчык. Ад спёкі яму вельмі захацелася піць, і ён пачаў шукаць якую-небудзь крынічку ці ручаіну, з якой можна было б напіцца. І знайшоў Сінявочку. Ён пачаў піць ваду, якая была вельмі халоднай і крыштальна чыстай. Хлопчык піў і пахвальваў:

— Якая ты, крынічка, цудоўная! Якая ў цябе смачная вада! Як добра, што ты ёсць!

Хлопчык напіўся і пабег кудысьці, а Сінявочка задумалася: «Ён казаў, што я цудоўная, а Зялёная Сажалка кажа, што вада ў мяне каламутная, таму што я дазваляю піць яе ўсім, хто гэтага хоча. Дык каму ж мне верыць?» Падумала так Сінявочка і здагадалася, што Зялёная Сажалка кажа няпраўду: «Яна ж ніколі не каштавала маёй вады! Скуль яна можа ведаць?»

Зразумела тут крынічка, што Сажалка дарэмна на яе сварылася, што сапраўды яна, Сінявочка — прыгожая і добрая, узрадавалася яна і стала яшчэ весялей усміхацца сонцу, а вада ў ёй стала яшчэ смачнейшай.

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ.*

*Малюнкі Алены БОСАВАЙ*